# ЗМЕСТ Крыніца

Я

# Вацлаў ЛАСТОЎСКІ







## Пра Мяне

**«ЛАСТОВСКИЙ Вацлав Устинович, 20 октября 1883 года рождения, уроженец хут. Колесники Дисненского уезда Виленской губернии, белорус, беспартийный, с высшим образованием, академик ...»**

*У прыведзеных трох скупых машынапісных радках даведкі з архіва КДБ — тры недакладнасці: 1) дата нараджэння; 2) месца нараджэння; 3) адукацыя.*

*Хросная метрыка Вацлава Ластоўскага называе іншую мясціну нараджэння (засценак Калеснікава Задарожскай парафіі Дзісенскага павета, цяпер у межах Пліскага сельсавета Глыбоцкага раёна) і іншую дату: 27 кастрычніка 1883 года. Па новым стылі — 8 лістапада.*

*Спрабуючы «выбудаваць» жыццяпіс В.Ластоўскага па магчымасці поўна і дакладна, апроч адшуканай хроснай метрыкі мы будзем карыстацца іншымі аўтэнтычнымі дакументамі і матэрыяламі: уласнаручнай «акадэмічнай» аўтабіяграфіяй В.Ластоўскага, ягонымі малавядомымі ўспамінамі, апублікаванымі на старонках «Крывіча» пад псеўданімам «Пагашчанін», перапіскай з Адамам Ягоравічам Багдановічам, следчымі дадзенымі з архіваў НКУС, успамінамі Вацлава Іваноўскага і інш.*

*У хроснай метрыцы Вацлава Ластоўскія Юстын і Ганна з Жбірбоўскіх названы* мяшчанамі, *у аналагічным дакуменце старэйшай сястры Вацлава —* сялянамі *("крестьян Устина и Анны урожденной Жвирбловской Ластовских"). Меркаванне пра радавод Ластоўских як спаконвечную шляхту бачыцца дужа няпэўным у святле выказвання апошняга з яе прадстаўнікоў: «Мой бацька земляроб, дзед —каваль, а прадзед — бортнік». Так акрэсліць сямейную генеалогію Вацлаў Ластоўскі, сам ужо будучы пяцідзесяцігадовым дзедам на выгнанні ў далёкім Саратаве. Бортнік і*

# ЛЯБІРЫНТЫ

I

Першы мой сон у полацкім гатэлі стрывожыў ціхі стук у вакно. Я ўскочыў з ложка і, падыйшоўшы, пабачыў у вакне вусатае аблічча «Падземнага Чалавека». Ён даваў мне знакі рукамі, каб адчыніць яму вакно, пры чым клаў палец на вусны, даючы гэтым знак, каб я не нарабіў гоману.

Калі вакно было адчыненае, ён улез на падваконьнік, зажыў зь сярэбранае табакеркі і пачаў гаварыць шэптам:

–Я даўно ўжо ведаю ход у схаваную бібліятэку, але сам ня рухаў яе і нікому не паказваў, маўчаў, баючыся, каб не зарабавалі ў нас і гэтае нашае апошняе багацьце. Адзявайцеся, пойдзем! Я ўзяў з сабой сьвечку, ліхтарню і ўсё патрэбнае...

Няма чаго казаць аб тым, як хутка я быў апрануты і гатовы ў дарогу.

Мы зыйшлі па драбіне ўніз, аднесьлі яе ўбок і паклалі на

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ ЯК АСНОВА ТРЫВАЛАСЦІ СВЕТУ

**Літаратурныя з'явы — знакі супольнай культуры. Такія з'явы зазвычай не нараджаюцца адразу, бо гістарычна-культурнае развіццё — гэта працягласць. Але ёсць працэсы і здарэнні, якія паўстаюць раптоўна, нібы з нічога. Кожная такая з'ява — перарыў паступовасці ў развіцці культуры, загадка, міф, духоўная прынада, крыніца шчасця і пакутаў для творцаў і пасвячоных.**

**У першай чвэрці XX стагоддзя мастацтва, літаратура быццам бы вырваліся з-пад клапатліва-спагадлівага дагляду грамадства, набылі свавольную самастойнасць. Усё хацела быць**

*шляхціц —рэчы для канца XVIII стагоддзя маласумяшчальныя.*

*Мяркуючы па «анкете арестованного и задержанного зачислением за ОГПУ», запоўненай В.Ластоўскім на другі дзень пасля арышту, 22 ліпеня 1930 г., Вацік у сям'і быў наймалодшым. У анкеце згаданыя, безыменнымі, старэйшыя брат 58 гадоў і сястра (50 гадоў). Цяпер іх імёны мне вядомыя: Юстын і Аліна-Гелена.*

*Ластоўскія жылі ў асноўным з раллі, але не толькі; непадалёку былі азёры Валец, Доўгае, Мнюта, Пліса, Шо. У азёрнай чашы іх, месцамі глыбінёй да 20 метраў, брохалі серабрыстыя з залацістым адлівам ляшчы і падлешчыкі, цяжкія шчупакі, гуляла порсткая плотка і акуні, у цёплых старыцах задуменна грэліся тоўстыя ліні і язі, у халоднай крынічнай вадзе ці пад карчамі драмалі аліўкава-зялёныя мянтузы...*

*1892—1894 гг. Скончыў пачатковую школку ў Старым Пагосце. «Школьны будынак стаяў у цэнтры вёскі, пры самай вуліцы, і спаверхнасцю сваёй адрозніваўся ад іншых гаспадарскіх хат хіба толькі большай старасцю і кляймом нейкай архаічнасці... Прозвішча майго першага ментара было Рубаха (імені не памятаю)».*

*1895—1902 гг. Юначыя гады праглядаюцца пункцірна і непаслядоўна. «Каля 1897 году я выехаў з тых мясцін...» Да выезду ён нібыта вучыўся ў Дзісенскай павятовай вучэльні. Ці скончыў — гэта пытанне. Быў хлопчыкам на паслугах у адной з віленскіх вінных крамак, дзе зранку да ночы вісеў у паветры цыгарэтны і спірытусавы чад, канцылярыст нейкай казённай установы ў Шаўлях... Але да ўсяго гэтага душа не гарнулася. Вабіў храм навукі, куды Вацлаў аніяк не мог прабіцца. Юнак дапяў у Пецярбург — найбуйнейшы культурны асяродак Расійскай імперыі, працаваў у гандлі ў Квіты-Сянькевіча, але кінуў «з прычыны разыходжаньняў з гаспадаром, выкліканых ягонай несумленнасьцяй што да цэнаў»; удала ўладкаваўся бібліятэкарам нейкай прыватнай студэнцкай бібліятэкі; адначасова «хадзіў на зайца» слухаць*

зямлю, а самі цішком вымкнуліся з брамы і ськіраваліся ў бок Верхняга Замку. Мінутаў за 20, мы былі на месцы. На гары, у бок Дзьвіны, тады стаялі яшчэ руіны замкавых будынкаў, у якіх да 1839 г. месьціўся Васільянскі манастыр.

Замак быў, як апавядаюць, зруйнаваны ўсяго толькі ў 40-х гадох. Перш, на загад цара Мікалая І, зь яго зьнялі мядзяны дах і адправілі ў Пецярбург на будову Ісакіеўскага сабору, а пазьней нехта ці запарушыў няўмысна, ці мо' ўмысна падпаліў будынак. Пасьля пажару ён больш паўстагодзьдзя пакінуты быў на руйнаваньне сіламі прыроды. Урэшце руіны, каля 1913 году, прадаў расейскі ўрад на цэглу нейкаму маскалю-падрадчыку, які, разабраўшы каштоўныя муры, сплавіў цэглу лайбамі ў Рыгу.

Але тады, калі мы сходзілі ў будынак, частка ягонная, якраз левы вугал у ніжнім паверсе, меў яшчэ цэлыя скляпеньні. Мы папацёмку дабраліся да вялікай вуглавое, у скляпох, залі, сьцены якое і столь былі пакрытыя старымі фрэскамі, якія месцамі былі асыпаўшыся, месцамі сьцёртыя і павыдзіраныя. Справа, між дзьвюх атворынаў ад дзьвярэй, была круглая ніша да самога памосту.

—Вось тут ход у падзямельле,— сказаў мой правадыр і пачаў рукамі адгартаць насыпаны на добрага паўаршына друз. Супольнымі высілкамі мы ачысьцілі дно нішы, якое было зробленае з аднае, у квадратны мэтр, каменнае пліты.

—Гэта дзьверы,— сказаў «Падземны Чалавек» і, засунуўшы ў шчалугу між каменьняў загнуты зялезны друк, з высілкам павярнуў яго. Нешта глуха храснула, і пліта адным бокам пачала апушчацца ўніз. Адкрыліся вітыя мураваныя сходы, якімі мы, пры слабым сьвятле «сьляпое» ліхтарні, пачалі зыходзіць уніз. Калі нашыя галовы зраўналіся з канцом навіслае пліты, дык пліта сама сабою паднялася ўверх і зашчоўкнулася, пры дапамозе прыладжанага да яе мэханізму.

—Апрача мяне, з жывых ніхто ня ведае аб гэтым ходзе. Ты другі будзеш ведаць аб ім і захаваеш патомным. Але перш, чым увайсьці ў тайныя ходы, у якіх нашыя празорлівыя прадзеды захавалі ня толькі свае культурныя, але і вялікія матар'яльныя багацьці, ты павінен даць абяцаньне, злажыць прысягу на вечную тайну,— казаў стары ўрачыстым голасам, з націскам на кажным слове.

**іншым, абвяшчаючы нараджэнне новай культурнай нормы, іншага чалавека і чалавецтва, іншага гуманізму. Свет пачаў змяняцца хутка і станоўча, але мастацтва прадчувала яшчэ больш глыбокія якасныя змены.**

**Адметнай рысаю новай эпохі робіцца неспакой, бо праблема надзейнасці, трываласці свету займае не паасобнага чалавека, але ўсё чалавецтва адразу. Пошукі і выкарыстанне новых крыніц энергіі нязменна даводзяць, што кожны від яе — вычарпальны. XX стагоддзе ўпершыню паказала чалавеку, што невычарпальная энергія ёсць. Гэта энергія масавых грамадскіх працэсаў. Паскарэнне тэмпаў гістарычнага развіцця, вялікія войны і рэвалюцыі, нацыянальна-вызваленчы рух дазволілі заўважыць гэта на працягу вельмі кароткага часу — жыцця асобнага чалавека. Гэта было аглушальным адкрыццём. Пісьменнікі, паэты, некаторыя лінгвісты, не зважаючы на марудліва-дакладных сацыёлагаў і гісторыкаў, кінуліся на пошукі канкрэтных праяўленняў гэтай энергіі, амаль цалкам прысвоіўшы права тлумачэння рэчаіснасці. Абурэнне з нагоды іх «нахабнай недобрасумленнасці», недакладнасці, дылетантызму — вынік непаразумення. Навука і мастацтва маюць аднолькавае права на адкрыццё і тлумачэнне свету. Тут няма ані манаполіі, ані саперніцтва. Мастацтва ў некаторых сферах можа нават зрабіць больш за навуку[1]. Велізарная сіла абагульнення ў мастацтве проста патрабуе ад творцы свядомай недакладнасці і домыслаў. Крытыкі ж часта — людзі, заняволеныя «суровай логікай» дакладных**





Я выказаў сваю згоду, і мы рушылі далей ходам, які меў шмат паваротак, але ўсьцяж пахіляўся ўніз. На аднэй з паваротак мой правадыр стрымаў мяне, кажучы:

—Памятай, пасьля сёмага вугла ёсьць запастка.

Перад намі ў поравень з цагляным памостам была на сажань даўжыні і на ўсю шырыню ходу ўпраўленая ў памост дубовая дошка.

—Гэта дошка на вяртугу ўстроеная, хто ня ведае, ступіць на яе, дык і зваліцца ў глыбокі калодзеж, а дошка сама сабой стане на месца.

Пры гэтым, хочучы паказаць, як гэта адбываецца, ён націснуў палкай на канец дошкі, і тая хінулася ўніз, адкрываючы чорную продань скрытага пад ёю калодзежа. Праваднік патрымаў гэты рухомы мост, а мне загадаў выцягнуць засунутую за зялезныя скобкі, збоку мураванае студні, дошку, паклаўшы якую на мост, мы перайшлі на другі бок яго і схавалі дошку зноў з другога боку.

Прайшоўшы колькі крокаў, мы знайшлі ў сьцяне нізкія чорныя дзьверцы, за якімі была рухомая сьценка, адсунуўшы якую, увайшлі ў даволі абшырны пакой, з мураванымі лавамі каля сьценаў і высокім падмуркам пасярэдзіне, на якім стаяла старасьвецкая труна, знаная яшчэ данядаўна месцамі на Беларусі пад назовам «корсту». Гэта — таўстая калода з высечаным у сярэдзіне дуплом, у якое клалі нябожчыка; верх закрывалі плашкай ад такой жа калоды. У васабліва важных здарэньнях, хаваючы багатых або заслужаных людзей, корст пакрывалі смалой і «берасьцілі», г. зн. густа спаясвалі даўгімі паяскамі бяросты ўсю труну, як бандажом, а наверх шчытна акручвалі яшчэ добра прасмоленымі вяроўкамі. Гэтак прыгатаваны корст мог сотні гадоў ляжаць у зямлі не паддаючыся буцьвежы. Гэткія корсты бачыў я раней, калі аднэй вясны Дзьвіна падмыла старое магілішча, і вада то зносіла ўніз, то прыбівала да берагу іх, а сяляне вылоўлівалі, каб нанова закапаць у зямлю.

—Гэта корст, у якім ляжыць той, хто дабудаваў гэты ход,— сказаў мне праваднік.— Тут ты і зложыш прысягу, а на знак датрыманьня слова пацалуеш у чало гэтыя шаноўныя астанкі.

Пры гэтым ён запаліў таўстую, як добрая бэлька, васковую сьвячу, што стаяла ў канцы труны. Кнот трашчэў і дыміў,

*лекцыі ў Петраградскі універсітэт. Апошняе сцверджанне Ластоўскага належыць тлумачыць хутчэй за ўсё не безграшоўем, каб плаціць за універсітэцкую адукацыю, а адсутнасцю агульнаадукацыйнага пасведчання. Нельга легальным шляхам трапіць ва універсітэцкія сцены, мінуўшы гімназію. Што гэта так, пацвярджае пазнейшая (1906-га года, у Рызе) яго спроба здаць экзамены на атэстат сталасці, аднак зноў, паводле ўласнага прызнання, ён «зрэзаўся» на расейскай мове. Прывідны храм афіцыйнае навукі застаўся непрыступным. Хлопец моўчкі і зацята працягвае паглыбляць уласны розум нястомнай самаадукацыяй. У будучым «Спісе штатнага асабовага складу інстытута Беларускай культуры» па стане на 20 студзеня 1928 года без пяці хвілін акадэмік Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі ў графе «Адукацыя» занатуе нязвыклае: «Хатняя». (З хатняй адукацыяй у ІБК лічыліся яшчэ хіба Змітрок Бядуля ды інстытуцкі фурман з-пад Стоўбцаў Прога Ёхіль Гэндэляў.) Такая яна, трэцяя недакладнасць цытаванай анкеты КДБ.*

*Пэўнымі застаюцца два факты: 1902 г. — Вацлаў стаў сябрам Польскай сацыялістычнай партыі ў Літве; 1903 г. —20-гадовы юнак ажаніўся з Марыяй Іваноўскай (Іванаўскайтэ, у будучым вядомай летувіскай пісьменніцай, што з сястрой Зосяй мела адзіны псеўданім — Лаздзіна Пяледа). У шлюбе яны пражывуць нейкіх гадоў адзінаццаць — роўна на гэтулькі была Марыя старэйшая за мужа.*

*У гэты ж час, дакладней, «ад 1902 году», Вацлаў пачынае занатоўваць «цікавыя» словы. Так нараджаўся Ластоўскі-філолаг.*

*Рост Ластоўскага-літаратара ды грамадскага дзеяча натуюць два факты: у 1906 г. здзейсніўся ягоны пераход з Польскай сацыялістычнай партыі Літвы і Беларусі ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду. А напрыканцы вясны 1908 г. Ластоўскі супольна з Эдвардам Будзькам дасылаюць «Ліст да рэдакцыі «Нашае Нівы», абвяшчаючы сябе выдаўцамі будучых зборнікаў*

**навук, палітычна-ідэалагічнымі стэрэатыпамі.**

**Энергію супольнасці нельга змераць, можна толькі давесці факт яе існавання. Такія доказы, праявы яе існавання ёсць. Гэта з'явы і працэсы ад вельмі старажытных, накшталт пачуццяў «мы — яны» (калектыўнага несвядомага), да такіх, як свядомыя мэты і ідэалы супольнасці, нацыянальны характар, нацыянальная ідэя.**

**Нацыянальная ідэя — гэта паняцце і ўяўленне народа аб яго адметным шляху ў Сусвеце, аб сэнсе, якасці, спосабе жыцця, аб духоўным абліччы — маім, тваім, нашым. Праз гэты, менавіта гэты — не іншы — народ мы таямніча, непазнавальна, назаўжды звязаныя з Сусветам, Вечнасцю...**

**Наяўнасць нацыянальнай ідэі — сведчанне існавання народа, нацыянальнай самабытнасці той ці іншай з'явы. Нацыянальная ідэя звязана з такімі паняццямі як духоўная культура народа, яго маральныя і эстэтычныя ідэалы. Цікавасць да нацыянальнай ідэі заўсёды абуджаецца тады, калі ёсць адчувальная надзея на самастойны ўдзел народа ў гістарычным працэсе.**

**Менавіта з гэтага пункту гледжання цікавым і паказальным з'яўляецца такі твор беларускай культуры як «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» Вацлава Ластоўскага. Вакол гэтай кнігі ўжо 70 гадоў не моўкнуць спрэчкі. Не будзем зважаць на меркаванні тых, хто выступае не толькі супраць Ластоўскага, але і супраць беларускай нацыянальнай ідэі. Але і прыхільнікі беларушчыны згодныя толькі ў адным: слоўнік гэты — з'ява цікавая, але нейкая**

але памалу ўгарэўся, і я пабачыў на труне зроблены ў вакружыне надпіс глаголіцкімі літарамі. Надпіс гаварыў:

«Я, Ярамір, ходы гэтыя працай многай утварыў і дэманаў пяці моцай слоў тайных на пілнаваньне давечнае ўвязаў тут. Хай уносячага сюды прапусьцяць, а на выносячым споўніцца слова».

Мы адчынілі корст, і маім вачом паказаўся забальзамаваны нябожчык з густой сівой барадой, адзеты ў залататканую павалоку. Ляжаў ён крыху на правы бок павернуты, адна рука ягоная была пад галавой, другая ляжала на пазалоцістым паясе; левая нага крыху паднятая ў сагнутым калене. Выглядала, што гэта не нябожчык, а заснулы старац з шэра-пяпялістым абліччам.

«Падземны Чалавек» сказаў мне стаць у нагах, а сам стаў каля галавы на прыступках падмурку. Ад руху, калі ён праходзіў, закалыхалася полымя свечкі і, мне здалося, нябожчык зьміргнуў вачыма.

Сярод неапісанае цішы прагучэлі ўрачыстыя словы формулы прысягі, якую чытаў мне праваднік з узятага з-пад галавы нябожчыка зьвітку пэргаміну.

Словы былі такія ўрачыстыя, закляцьці такія страшныя, акружэньне такое нязвычайнае і нечаканае, што ў мяне закружылася галава. Мой праваднік таксама стаўся бледны і ўвесь дрыжэў. Раптам ён, як быццам аступіўшыся, зваліўся ўніз, адначасна падсьвечнік з грукатам рынуў на памост, гасячы сьвячу. Запанавала непраглядная цемра і ціш. Я пачаў клікаць яго. Глухое маўчаньне ды нягулкае рэха былі адзіным адказам на мой кліч. <...>

Урэшце я надумаўся пайсьці шукаць майго праваднікa і пры ім сярнічкаў і ліхтарні. Хутка намацаў падмуроўку, на якой нядаўна стаяў, і папоўз навокал яе, бо ня мог зьмеркаваць, зь якога боку знаходжуся. За другой паваротках рука натрапіла на нешта мокрае і клейкае. Я падумаў, што гэта кроў, што недзе тут блізка ляжыць мой праваднік, і асьцярожна выцягнуў наперад руку, якая наткнулася сьпярша на масыўны мэталёвы падсьвечнік, а пасьля на людзкае цела. Я падаўся яшчэ бліжэй, шукаючы рукі. Пульс ня біўся, галава ягоная была мокрая і сьцюдзёная. У бочнай кішэні ягонае курткі я намацаў сернічкі і з радасьцяй хапіўся паліць іх, але рукі мае былі мокрыя і дрыжэлі, сернічкі ламаліся або толькі давалі іскры. Перапсаваўшы штук зь дзесяць, я схапіўся, што іх у скрынцы ня шмат, і сілай волі пачаў паўстрымваць сябе, каб не псаваць болей дарэмна. Высілак над самім сабой даў найлепшыя вынікі, з увагай выняты сернічак і пацерты аб скрыначку загарэўся, асьвятляючы страшэнны абраз: перада мной ляжаў наўзнак мой праваднік з разьбітай і скрываўленай галавой. Ад правага вока і да вуха зіяла страшэнная крывавая рана. Сернік дагарэў і згас. Цяпер я толькі заўважыў, што, апрача сернікаў, у мяне больш няма нічога. Куды паставіў праваднік ліхтарню, якую згасіў, пасьля таго, як запаліў сьвечку, я не заўважыў. Сернікаў было ўсяго колькі ў скрыначцы, і я пастанавіў ужыткаваць іх з мудрай асьцярожнасьцю. А дзеля гэтага ізноў папоўз па памосьце. Па доўгіх шуканьнях была знойдзеная ліхтарня. Пры сьвятле ліхтарні я сьцьвердзіў сумны факт сьмерці майго праваднікa. Ён такі сапраўды аступіўся зыходзячы і, падаючы, ударыўся скроняй аб востры выступ падстаўкі ліхтарні, якую цяжарам свайго цела абярнуў.

Падымаючы цяжкі ліхтар, я заўважыў на ім унізе надпіс: «Обятопрыімчэ, прымі другога, з чары тайн піўшага».

II

Прачытаўшы дзіўны надпіс, я стараўся ўцяміць ягонае значэньне, і, мне здалося, што ён напамінае на права, якое пануе ў гэтых падзямельлях. Ці-ж бы «Падземны Чалавек», згодна з гэтым правам, павінен быў за раскрыцьцё мне тайны заплаціць сваім жыцьцём? Аднак, факты гаварылі, што ён стаўся: «другім, піўшым з чары скрытае веды». Мяне агарнула забабонная багавейлівасьць да навакольных да мяне муроў і рэчаў. Я пачуўся агорнутым з усіх бакоў таёмнымі, сьведамымі сваіх чынаў сіламі. І гэтыя цёмныя пракаветныя сьцены і чорны дубовы корст з астанкамі няведамага мне, аднак, бязумоўна геніяльнага духа, і гэты таёмны надпіс, і, урэшце, труп малаведамага, аднак, чамусьці, мне блізкага і дарагога чалавека, апутвалі душу тысячамі кволых, але цягучых ніцяў, няведамых мне тайнаў. А, галоўна, я быў тут, у гэтых лябірынтах, адзінай жывой істотай. Я абярнуўся, каб яшчэ

*«письма краёвага, найбольш твораў нашых краёвых писароў», паколькі «уважаючы на нидастатак нашага краёвага письма и пракунаўшыся, што такое дужа патрэбна дзиля прасьветы Краю и Людцаў».*

*Тым не менш ягонае з'яўленне ў сакавіку 1909 года ў старажытнай Вільні на пасадзе сакратара «Нашай Нівы» выглядае авансам з боку Уласава ды братоў Луцкевічаў. Бо што ўяўляў сабою канторшчык таварнай чыгункі ў Рызе? Паводле ўласнага прызнання, «акром некалькіх, даволі няскладных, пісьменьніцкіх сваіх спроб і хаотычных імкненьняў, ня меў тады яшчэ за сабой нічога». Таму не дзівіць рэакцыя Купалы пры першым знаёмстве з Властам, не іначай, як з выпадковым вулічным мінаком (улічваючы і няпростыя адносіны між «вышэйшай» і «ніжняй» палатамі «Нашай Нівы»): «Сам чорт тутака не ўбудзе, калі так далей будзе».*

*Далей, у 1909—1915 гг., пад крылом «Нашай Нівы», у асяродку братоў Луцкевічаў, Купалы, Ядвігіна Ш., Сяргея Палуяна ды іншых волатаў беларускага духу ўзрастаў будучы прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі. Ствараючы першы ў беларускім літаратуразнаўстве XX стагоддзя аглядавы крытычны артыкул, С.Палуян прыгадае Ластоўскага. «З новых сіл нашай літаратуры трэба адзначыць Максіма Багдановіча і Власта... абодва яны паэты, бо абразкі Власта — гэта паэзія прозай». Навагоднім нумарам 1910 г. «Наша Ніва» распачала друкаваць «Кароткую гісторыю Беларусі», якая ў тым самым годзе выйшла асобным выданнем. Кніга стала першым выданнем айчыннай гісторыі, напісаная для беларусаў у іх роднай мове. Без яе шмат каму з сучаснікаў Власта давялося б доўга аднаўляць занядбаную гістарычную памяць.*

*5 ліпеня 1913 года, у разгар летняй касавіцы, Власт друкуе артыкул «Сплачывайце доўг» пад малавядомым пакуль што псеўданімам «Юрка Верашчака». Публікацыя стала каталізатарам для першай беларускай літаратурнай дыскусіі XX стагоддзя аб шляхах далейшага развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства: ці па-эпігонску сядзець на тэме «мужыка-беларуса», не жадаючы ўзняць вочы далей малаўгноенага загону з «беднымі хаткамі», «пахілымі бярозкамі» і гаротным бясхлебным людам, ці ўбачыць «красу жыцця». Бо аднаго жыта без васількоў не бывае. Ці не сам Вацлаў і стаў сааўтарам «Аднаго з парнаснікаў», падаючы водпаведзь «Чаму плача песня наша?», якую цяпер лічаць толькі Купалавым артыкулам?*

*Вайна 1914 года адразала Вільню ад астатняй Беларусі. Паязджанамі ды вольнапісанымі валанцёрамі зрабіліся Купала, Колас, Гарэцкі, Гмырак, Бядуля, Буйлянка, Чарнышэвіч... Ластоўскага звальняюць «па беламу білету». Застаўшыся ў Вільні, наладжвае пад кайзераўскай акупацыяй выданне школьных чытанак: «Родныя зярняты», «Незабудка», «Сейбіт». Разам з тым сам вучыцца палітычнай азбуцы, уваходзячы ў кіраўніцтва грамадскіх суполак ("Хрысціянская злучнасць") ці ствараючы іншыя структуры ("Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі").*

*Удзельнік гістарычнага пасяджэння Рады БНР 25 сакавіка 1918 года, Вацлаў Ластоўскі найбольш дакладна акрэсліў шматвяковую прагу мільённага люду: «Няхай жыве незалежная Беларусь у сваіх этнаграфічных межах!»*

*14 снежня 1919 г. Народнай Радай БНР выбраны прэм'ер-міністрам. Праз тры дні, 17 снежня, засаджаны белапалякамі ў менскую турму, адкуль выйшаў у лютым 1920-га. Эміграцыйны ўрад Ластоўскага прытуліла суседняя Летува ў тагачаснай сталіцы — Каўнасе.*

*1920—1923 гг. З дыпламатычнымі місіямі наведвае краіны Еўропы. На любым урачыстым прыёме, міжнароднай канферэнцыі выступае ад імя Беларусі. Дзеля яе будучыні Власт, як бачым, мог быць выдатным палітыкам. Быў тым, кім трэба было быць. Рэдкае пачуццё ў дзеяча, узгада-*

**незразумелая. Так, з'ява незразумелая, да канца не ацэненая, інакш бы не стала кніга лёсам Вацлава Ластоўскага.**

**Сапраўды, з'ява гэтая не паддаецца адназначнаму тлумачэнню. Кніга не адпавядае аніводнаму з тыпаў слоўнікаў. Бо што такое слоўнік? Гэта даведачная кніга, якая змяшчае ў сабе словы, размешчаныя ў пэўным парадку, і тлумачыць іх значэнні. Слоўнікі могуць быць аднамоўныя тлумачальныя; яны паказваюць значэнне, ужыванне, граматычныя і фанетычныя асаблівасці словаў. Гэта асноўны тып слоўнікаў. Ёсць таксама іншыя слоўнікі: паводле зместу — энцыклапедычныя; яны тлумачаць не словы, але прадметы і паняцці, якія азначаюцца гэтымі словамі; паводле спосабу апісання слова — спецыяльныя, якія раскрываюць аспекты словаў і адносін паміж імі (слоўнікі этымалагічныя, граматычныя, арфаграфічныя, рыфмаў і інш.); паводле эпохі функцыявання словаў — гістарычныя; паводле колькасці моваў (для перакладных слоўнікаў) — шматмоўныя і двухмоўныя. Перакладныя слоўнікі падраздзяляюцца на пасіўныя (родная мова ў правай частцы) і актыўныя (родная мова ў левай частцы).**

**Знешне, фармальна слоўнік В. Ластоўскага быццам бы запавядаецца як пасіўны-перакладны, але не можа быць азначаны ў гэты спосаб з тае простае прычыны, што не дакладна выконвае гэтую задачу. У слоўніках гэтага тыпу левая частка — адзінка апрацоўкі. Звычайна гэтая частка, вельмі разбудаваная, вызначае ўвесь змест правай, цалкам яе падпарадкоўваючы. У Ластоўскага ж рускае слова левай часткі — толькі падстава для багатых разважанняў, экскурсаў у гісторыю беларускай мовы, народа, культуры, для заўваг асабістага характару. Рускае слова толькі выклікае беларускі адпаведнік і моўкне, нібы прыслухоўваючыся і змушаючы нас, чытачоў, слухаць слова, мову, гісторыю. І — дзіўная рэч!— няма ў гэтым слоўніку некаторых найчасцей ужывальных словаў, але ёсць слоўцы-пестуны, улюбёнцы. Гэта зусім не тая нудная кампанія, што вандруе з аднаго слоўніка ў другі. Словы, насуперак суровай слоўнікавай логіцы, распіхваюць моўныя шарэнгі, крычаць, нібы дзеючыя асобы нейкай драмы, заяўляюць аб нейкім сваім праве...**

**Наяўна, наўмысна не вытрыманы ў слоўніку суадносіны лінгвістычнай (моўнай) і экстралінгвістычнай ("пазамоўнай", агульна-культурнай) частак. У Ластоўскага экстралінгвістычная частка — гэта не толькі гістарычны, краязнаўчы і т.п. матэрыял, яна ўключае і асобу аўтара, яго адносіны не толькі да мовы, але і да чытача, народа, усяго свету. Менавіта чытач вызначаецца ў слоўніку як галоўная постаць. З ім аўтар вядзе гарачую размову: пераконвае, змушае да ўспамінаў, запрашае да гутаркі, дзеліць радасць і гора...**

**Каму ж адрасуецца гэты твор? Адказ — толькі адзін: аўтар звяртаецца да беларуса, які ўжо гаворыць і часам думае па-руску, хоча яго зацікавіць, ашаломіць, спакусіць родным словам, родным духам[2]. Гэта вызначае змест, кампазіцыю кнігі і разам з тым стварае настрой драматычны, надае твору псіхалагічную напружанасць. Слоўнік — твор суцэльны, ды-**

*ванага гістарычнымі ведамі пра Бацькаўшчыну.*

*Сышоўшы з палітычнай арэны пераможаным (адстаўка з пасады прэм'ер-міністра адбылася 20 красавіка 1923 г. не без удзелу «паплечнікаў»), вярнуўся да навукова-літаратурнай дзейнасці. І на гэтай дзялянцы творыць тое, на што пакліканы Небам.*

*1923—1926 гг. У Каўнасе выдае часопіс «Крывіч» (разам з К.Душ-Душэўскім) — адметная, непаўторная з'ява ў беларускай культуры, пазначаная выразнай пячаткай Ластоўскага-творцы. Роўныя яму велічыні засталіся дзесь у Сярэднявеччы, у часы Скарыны ды Гусоўскага — гэткай жа аўтарскай індывідуальнасцю вылучаецца «Падручны расійска-крыўскі слоўнік».*

*1926 г. — вяршыня ковенскага перыяду і ўсяго жыцця: выходзіць з друку «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» на 776 «бачын» — выданне неперавўзыдзенае сучаснай кнігазнаўчай навукай Беларусі, грунт для далейшых пакаленняў даследчыкаў.*

*У тым самым годзе, увосень, удзельнічае ў моваязнаўчай канферэнцыі па праблемах рэформы беларускага правапісу ў Менску. У Купалы, Ігнатоўскага распытвае пра жыццё «пад Саветамі», ці варта пераязджаць? 26 лістапада 1926 г. удзельнічае ў «таварысцкім банкеце» з нагоды 20-годдзя літаратурнай творчасці Я.Коласа, наладжанай «у памяшканні сталоўкі N 6». За бяседным сталом сядзела большасць колішніх паплечнікаў.*

*У Летуве ў ноч з 16 на 17 снежня 1926 г. адбыўся сметанаўскі пераварот. Беларуская карта для летувісаў рабілася непатрэбнаю. Яшчэ раней Вацлаву даводзілася прыніжальна прасіць «пазваленне адкрыць дзверы ў суседні пакой», бо «ўначы проста душымся без паветра». Той часінаю, у такіх «турэмных варунках» памёр Юрась Ластоўскі, сын Станіславы Стахі, з якой Вацлаў аформіць законны шлюб ужо ў Менску.*

раз глянуць на мілае старэчае аблічча «Падземнага Чалавека». І якое-ж маё было зьдзіўленьне, калі я не пабачыў яго на зямлі, дзе мамэнт таму ён ляжаў. Гэта апошняе страшэнна стрывожыла і парушыла мяне да апошніх глыбінаў усяе мае істоты. Я яшчэ больш пачуўся бездапаможным і бязрадным у путах няведамага. Уражаны новай тайнай, я, шукаючы свайго праваднікa, узьняў у гару ліхтарню, аглядаючы склеп, але нідзе ня было цела, якога я шукаў. Затое я толькі цяпер заўважыў, што памешканьне, у якім я знаходжуся, мае трохкутную форму, трылук якой, звужаючыся, зыходзіўся ўверсе высокім скляпеньнем. Мне прыпомнілася чытанае некалісь апісаньне славянскае сьвятыні ў Рэтры, якая была збудаваная трыбочнай фігурай, як і сама сяліба пры ёй, якая мела з трох бакоў агароду і тры брамы на ўсход, паўдня і поўнач. Спомнілася мне адна дыскусія ў гуртку моладзі, і як паважны вучоны, які быў сярод нас, даводзіў тады, што таксама ў трыкутную фігуру была будаваная слаўная, апяная Гомэрам Троя, што ўсе бажніцы, ці то «багоды» старое славянскае веры, пасьвячаныя Найвельшаму, бацьку багоў, зваліся Троямі. Але хутка думка мая зьвярнулася зноў да майго незавіднага палажэньня ў гэтых скляпох. І я толькі быў прыняў у сабе пастанову вяртацца назад тэй самай дарогай, як раптам, нешта скрыганула за мной. Пахопліва абярнуўшыся назад, я пабачыў рассунутую сьцяну і паміж дзьвюх ейных палавінаў, на асноведзі аксаміту чорнае цемры праходу — чалавечую постаць у белай вопратцы і ў белым, мітрападобным, клабуку на галаве. Я стаяў, як амярцьвелы і пэвен быў, што гэта галюцынацыя. А тымчасам, белая постаць з павагай пачала да мяне набліжацца. Узіраючыся расшыранымі вачыма на яе, я, зь немалым зьдзіўленьнем, распазнаў аблічча Івана Іванавіча. Першым маім водрухам было выразіць сваю радасьць і падзяліцца перажытымі трывогамі, але ён, як быццам, згадаўшы маю думку, урачыстым падняцьцем рукі стрымаў маё парываньне, кажучы:

—Не парушай павагі месца гэтага мовай сваіх турботаў. Хадзі за мной!..

І мы моўчкі скіраваліся ў праход, зь якога выйшаў Іван Іванавіч. Ён ішоў наперадзе, а я за ім. Цяпер я толькі разгледзіў, што белая ягоная вопратка была ў форме доўгай, шырокай кашулі з пурпуровымі шлякамі на падоле і рукавох;

намічны, арганізаваны вакол адзінай ідэі — нацыянальнай. Гэта дазваляе выказаць думку, што перад намі — твор мастацкай літаратуры, своеасаблівы па форме. У слоўнікавым выглядзе — твор з рысамі традыцыйнай для еўрапейскай культуры філасофска-інтэлектуальнай прозы, якая часам набывае даверны, спавядальны характар.

Дарэчы, што такое ўвогуле мастацкі твор?— Цэласная карціна жыцця (эпічная, драматычная) альбо цэласнае перажыванне (калі маецца на ўвазе лірыка). Адметнай рысаю мастацкага твору, між іншым, з'яўляецца тая самая дыялагічнасць[3], якой прасякнуты слоўнік В.Ластоўскага. Гэта твор з рысамі эпічнага роду, з філасофска-гістарычна-культуралагічнымі заўвагамі, з праніклівымі эсэ, уключанымі ў тканку слоўніка. Гэта кніга, прасякнутая духам аўтарскага бачання свету. Тут усё ёсць: і тэма, і ідэя, і сюжэт, і кампазіцыя. Тэма — мова, слова. Ідэя — нацыянальная беларуская, як яна жыве ў моўнай стыхіі народа. Мова — галоўны культурны скарб беларусаў. Слоўнік увесь — непакой аб лёсах мовы і нацыянальнай ідэі. В.Ластоўскі быццам бы спяшаецца сабраць тое, што яшчэ жыве, ён цешыцца з гэтых кляйнотаў, надае ім новага бляску. Але ў радасці — непакой, туга аб загінуўшых словах, дзеючых асобах гэтага дзівоснага твору. Аўтар — не рэгістратар, нават не «мастак па слову», але пісьменнік, глыбока зацікаўлены лёсам герояў.

Сюжэт — прыгоды і пакуты беларускага слова, разгортванне яго жыцця ў гісторыі. Своеасаблівая кампазіцыя — двух-





клабук быў таксама падбіты зьнізу, на адваротах брыля, пурпуровай тканінай. Ішлі мы разьмернай, роўнай хадою, лукавыгібістым, шырокім праходам, на сьценах якога былі пасьвялыя ад часу малюнкі і нейкія надпісы, абкружаныя арнамэнтамі. Памост быў зложаны з чатырохкантовых каменных плітаў. Гэтак, у маўчаньні, прайшлі мы ня менш за 200 крокаў, калі ўрэшце, сталі перад глухой сьцяной, якой канчаўся праход.

Іван Іванавіч падняў руку ўверх і палкай, на якую апіраўся, моцна націснуў на разэтку над крукам, упраўленую ў скляпеньне. Глухая сьцяна, перад якой мы стаялі, сьпярша дрыгнула, а пасьля пачала вольна апушчацца наперад, і перад намі адкрылася круглая заля, сьцены і столь якое пакрытыя былі рысункамі, а памост — мазаікай. Заля была зусім пустой, толькі з правае стараны, пры сьцяне, стаялі тры каменныя седзішчы.

—Во, тут, на гэтых сьценах,— пачаў Іван Іванавіч,—забразаваная істота нашае старое веры, якая абапіралася на траістасьці ўсяго існага. Уверсе — выабражаныя сілы нябёсныя, у сярэдзіне — жыхары зямлі зь іхнымі турботамі, унізе — замагільны сьвет зь ягонымі валадарамі і жыхарамі. Кажны з гэтых сьветаў, паводля старое навукі, распадаўся, сваім парадкам, на тры істотныя характары. Усе рэлігійныя сыстэмы ад пачатку існаваньня ў чалавецтве сьведамае думкі прызнавалі гэтую траістасьць рэчаў. Хальдэя-бабілёнскія сьвятары, якія за шмат тысячагодзьдзяў да нас слылі лепшымі ў сьвеце астраномамі, лепшымі пры гэтым знаўцамі матэматыкі, безь якое немагчыма астраномія, і да гэтага — старэйшымі носьбітамі веды людзкой,— у лік свае Тройцы ставілі багоў Ану, Эа і Бэла. Ану — гэта валадар зорыстага неба, першародны, старэйшы бацька багоў. Эа — мудрэйшы, лепшы з багоў, прасьветнік і праводнік усяму сьмяротнаму. Бэла — сын Эа, які вывяў зямлю зь цемры і хаосу, аддзяліў адны ад адных усе постаці і адмены, зь якіх злажыўся сьмяротны сьвет, якім мы яго цяпер знаем. У Індыі Тройцу складаюць Брама, Вішну, Шыва; функцыі, прыпісаваныя асобам гэтае Тройцы, тыя-ж самыя, што і ў хальдэяў. Ня чужа была і грэцкай думкі паняцьце траістасьці сілы, што валадае сьветам, чым галоўна цікавілася школа плятонікаў, ад якіх догма Тройцы была перанятая хрысьціянствам.

*Выязджаючы з Коўна 22 сакавіка 1927 г., Вацлаў не ведаў, што пакідае сваю «друкарскую Прагу» назаўсёды. Ехаў насустрач «карающему мечу революции» без страху. Ехаў з напаўсвядомым пачуццём «так трэба».*

*Адносна вольнае жыццё пад Саветамі 1927—1930 гг. перапынілася арыштам падчас навуковай камандзіроўкі ў Сібіры на рацэ Обі, 21 ліпеня 1930 г. «Шылі» яму не проста антысавецкую дзейнасць, а ролю кіраўніка Саюза Вызвалення Беларусі.*

*10 красавіка 1931 г. пастановай калегіі ДПУ высылаецца на 5 гадоў у Саратаў, «считая срок с 21.07.30 г., с прикреплением».*

*У Саратаве пасада дасталася яму што ні ёсць навуковая —"заведующий отделом редких, ценных и рукописных книг" бібліятэкі Саратаўскага універсітэта. Знаходзіць там пушкінскія чарнавікі, снуе задуму напісаць нацыянальны эпас — беларускую «Калевалу» з Пакацігарошкам, Вялесам, Ярылам, Купалкаю...*

*20 жніўня 1937 г. усё задуманае абрываецца паўторным арыштам. Дапытваецца толькі аднойчы, праз паўтара месяца, 7 кастрычніка 1937 г.*

*Паводле кэдэбоўскіх звестак 23 студзеня 1938 г. «как агент польской разведки и участник национал-фашистской организации» прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. У той самы дзень у Саратаве — горадзе, дзе нарадзіўся і пахаваны Мікалай Чарнышэўскі,— прысуд прывялі да выканання. Расстралялі.*

*Расстралялі. Але ці дакладна так усё і адбылося? Можа, яны зноўку ўводзяць у зман, гэтыя «архіўныя дадзеныя з сакрэтных сховішчаў КДБ», як мы бачылі на пачатку біяграфіі В.Ластоўскага. Існуе іншая версія. Паводле сведчанняў Язэпа Дылы, В.Ластоўскі загінуў ад выбуху бомбы ў Магадане, дзе пракладаўся горны тунэль.*

*Жыццё Вацлава Ластоўскага падобна на легенду. І нават калі даследчыкам удасца ўзнавіць усе радкі яго біяграфіі, легендай яно застанецца і надалей.*

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

планавая. Агульны план, галоўны — драматычнае развіццё беларускай мовы. Асобную, падпарадкаваную кампазіцыю маюць цікавыя заўвагі з нагоды словаў і выразаў; часам гэта вытанчаныя мініяцюрныя навелы, культуралагічна-філасофскія эсэ, мікранарысы[4].

В. Ластоўскі на матэрыяле слоўніка паказвае, што беларуская культура — вельмі «вобмацная», прадметна-падрабязная[5]. Яна не імкнецца выключна да нацыянальнага існавання, ідзе ў глыбіню. Беларус перш за ўсё адданы зямлі, даробку, людзям, ладу жыцця. Менавіта таму беларусу цяжка захаваць сваю нацыянальную адметнасць на чужыне.

Беларусу не ўласціва адмаўленне ад зямнога на карысць ідэальнага. Беларус хутчэй «прыхіліць неба да зямлі», не адмаўляючыся ад жывога, матэрыяльнага свету. Не ідэю любіць беларус, але сябе самога — дасканалага — у дасканалым прадмеце, у працы, дзе ён — сааўтар Бога. І для культуры вельмі важна захаваць прадмет і яго непаўторнае імя, «аўру», увесь яго свет і святло, яго прастору. Таму ў слоўніку надзвычай багаты сінанімічны рад[6]. У слоўніку пераважаюць словы, лексічныя адзінкі, якія азначаюць назвы прадметаў побыту, якасцяў, уласцівасцяў, з'яваў прыроды, чалавечых адносін. Гэта тыя словы і выразы, якія перадаюць дух, традыцыі, мараль, гісторыю, міфалогію, філасофію народа, светаўспрыманне, светаадчуванне, светапогляд беларуса, яго непаўторны сакральны свет — праз стыль і лад жыцця.

Але нейкім смуткам прасякнутыя старонкі кнігі. В.Ластоўскі нібы папярэджвае беларусаў:

# Вершы

## НА РАДУНІЦУ

Над рэчкаю, паміж балот,
магільны груд зямлі;
валтоўкамі заве народ грудкі,
бо волатаў славуты род,
між бронзавых аздоб,
злажыў тут свой прысок.
Вясной,
спраўляючы дзядоў,
мы, жыхары дрыгвін,
сьпяшым яйко разьбітае
ўкапаць
на прашчурных касьцях.
А робім то на знак,
што ў нас плыве іх кроў,
што мы,—
даўлетных волатаў,
ў ярме змалеўшыя,—
нашчадкі...

## НА КАЛОЖЫ Ў ГОРАДНІ

У час прадаўны,
князігіні апраметнай
багіні Марвы,
быў тут сьвятарны гай.

Пасьля гэтага ўступу Іван Іванавіч падняў руку ўверх, паказваючы на малюнак, і сказаў:

—Пасярэдзіне скляпеньня бачым мы тут тры постаці славянскае, а лепей — Дака-Гецкай Тройцы. Першая зь іх — Найвельшы (Optimus), бацька багоў, які ня мае найменьня. Іменьні, даваныя яму рознымі народамі, Баг, Бог, Дэос, Дзевае, Гот, Элёгім, Аллах, Адонай — гэта ўсё ягоныя прыметнікі, як і нашае «Найвельшы», бо імя ягонага нельга вымавіць. Чэсьць яго ў нашым народзе сягае ў вельмі глыбокую мінуўшчыну. Можна сказаць, што большыня грэцкіх мітаў цесна зьвязаная з нашымі прашчурамі Гетамі, зь якімі на берагох Дунаю Грэкі вельмі рана сatкнуліся і ўзаемна дзяліліся тайнамі веды. Нават наш сяньняшні край быў ведамы Грэкам, у той час, калі тварыліся ў іх першыя міты. Відаць гэта з Гомэра і іншых паэтаў старое Грэцыі, асабліва-ж з аповесьцяў аб Апалёне і сыну ягоным Фаэтоне, якую перадаў нам прыгожым вершам рымлянін Віргілі, аб Промэтэю, Орфэю, Эскуляпе і інш. Вось-жа ў старагрэцкіх пісьменьнікаў знойдзем, што славяне верылі ў замагільнае жыцьцё і па сьмерці сваёй мелі надзею бытаваць разам з Зямельчыцам, рэлігійным рэфарматарам, які жыў з 600—650 гадоў да Н. Хр.

Другая асоба славянскае Тройцы, якая адпавядае Хальдэя-Бабілёнскаму Эа, Індускаму Вішну — гэта Правечны Кон, які даў усяму жывому законы жыцьця, назначыў кон, долю і акрэсьліў канец, скон. Як і ўсе багі, Пракавечны Кон меў шмат розных эпітэтаў, якія няведамі прымаліся часам за ягоныя собскія іменьні. Да гэткіх іменьняў ягоных належаць:— Прова, Права, Тур. У ваднэй старадаўнай саксонскай кроніцы ёсьць малюнкі старaславянскіх багоў з часоў хрышчэньня славянаў, між імі — рысунак стода з подпісам «Prono». Гэты рысунак сьветчыць, як хрысьціянскія апосталы таго часу былі прасякнутыя мазаізмам ды бабілёнскімі харубамі і шайтанамі, а як мала ведалі тое, што нішчылі. Бо Кон-Прова-Тур ня меў стодаў: яму прысьвячаліся сьвятыя дубы і гаі. У гэткія месцы, агароджаныя, з параю наўсупроцьных варотаў, зыходзіліся ў канодныя дні старшыні народу спраўляць суды. У здарэньні, калі каго перасьледавалі, ён мог схавацца ў загароду, хоць-бы ён быў ворагам, яго ніхто ня сьмеў крануць: бо права не на перавазе фізычнае сілы, ані на гвалце грунтуецца.



Трэйцяя асоба славянскае Тройцы, якая адпавядала бабілёнскаму Бэлу і Індускаму Шыву — Сіцїўрат, Сіва. Хальдэйцы ўважалі Бэла за бога апраметнай, царства вечнай цемры, дому, «у які ўсе ўваходзяць, але скуль ніхто ня выходзіць». Індусы Шыву называюць «помсьнікам». Цікава пры гэтым адцеміць адну асаблівасьць, гэта тое, што Індусы аддавалі чэсьць Шыву — Ішвару ў мясцовасьці Рудры, а славяне — у Рэтры. І каб мы ня ведалі аб тым, што Дака-Гецкія міты праз Грэкаў сягалі да Бабілёну і Эгіпту з аднаго боку, а да Індыі з другога — дык можна было-б дзівіцца нязвычайнай выпадковасьці ў сугуччы.

У санскрыце ёсьць эпітэт, даваны Шыву — «Гары», які вельмі сходны з нашым Яры, Ярыла, Яравід. Сымбалем Сіцїўрата (жыцьцявароту) — Ярылы быў нязгасны агонь Жывец, Жынч, Зьніч (зьнікомы), які меў свае вечныя аўтары паўсюдна, куды сягала вера славянская. Летапісы ўспамінаюць аб такіх вечных агнёх у Вільні, Вялікім Ноўгарадзе, а ў заходніх славянаў у Жніне, Гнезьне і Жуліне на Памор'і. Усюды, дзе існуюць або існавалі першыя хрысьціянскія сьвятыні, пасьвячоныя прароку Ільлі, яны былі пабудаваныя на месцах вечнага агню. Бо Ільля заступаў у пачатках хрысьціянства Ярылу. Цэрквы былі тыя ў Менску, Віцебску, Смаленску, Полацку і іншых гарадох. Сьвятары, што служылі «Яраму», называліся вядунамі, ведачамі, вятачамі, вяцьвягамі, бо яны прарочылі будучае. Няхай ня дзівіць, што мсьцівай сіле надаваўся эпітэт белага, яркага. Гэта дзеля ўласкаўленьня яго. Бо-ж дагэтуль, старой памяцьцю, народ называе агонь — багач, цяпло, сьвятло, каб ня ўкваліць грознай сілы. У мысьль гэтага страшны Лясун носіць эпітэты — Дабрахот, Зялун; а чорны балотны дух «Бялун», «той», «гэты» і, ужо пад уплывам навейшага сьветагляду,— «нячысьцік».

Сіле першапрычыннай, «Найвельшаму» належыць пашана ад усяго жывога. Ён асноваплаложнік, ён той, аб якім пяе брамін у сваіх гімнах:

Я носьбіт і дарога, сьветка і князь,
Айчына, прыяцель, прытулак;
Першапрычына і мэта і існасьць рэчаў,
Я і захоўнік і вечнае семя.

Калі Арфэй, які быў з народу Гетаў, што сяліліся пад той

На клажах з смольных дрэў,
у санях, ці чаўне,
наш прашчур тут гарэў.
Згодам,
падзеяў звыклым ходам,
ў багамільства ўпаўшы сецы,
якісь месцовы валадар,
зьбяёдзіў храм.
У сьцены, побач з цэннай
грэцкай плінтай,
паклаў старых багоў аўтар
і прадзедаў сваіх прысок.
Панура зецяць да цяпер,
з амшэлых сьцен,
пустыя жальнікі.
Калі-ж сьвятар у аўтары
запяе,—
у жальніках і вые, і грудзе...
Што значэ гэты разгамон?
Ці то — паган пакайны стогн,
ці мо палайка замагільная,
пакрыўдна-абурлівая?..

## ДУМА НА ПОЛАЦКІМ ЗАМЧЫШЧЫ

Цьмы-цьмоў і процьмы лет,
на гэтым копішчы канодным,
складалі Дзеве чэсьць.
«Дзевін» зваўся грод,
і «Дзевіна» рака у стоп яго
ручэла;
бажніца Дзеве ў чэсьць
на сонцы дахам сьнела,
здобячы сабой накоп.
У бажніцы-ж, перад Дзевы
стодам,
хадзілі дзевы карагодам
ў кудзебны тан.
Сьвятарны хор, пявежнай

ваш свет — вельмі далікатны, безабаронны, без мовы ён не можа існаваць. А мова можа загінуць пад націскам чужой прадметнасці, чужога ладу жыцця. І Ластоўскі шукае выйсця. Слова — і форматворчасць яго — здзіўляючыя. Так, гутарка — аб неалагізмах В.Ластоўскага. Аб тым, што неалагізмы яго — увогуле неўжывальныя, гаварылася і пісалася нямала[7]. Часам выказваецца думка, што ў гэты спосаб аўтар хацеў бы прасачыць далейшыя магчымыя шляхі развіцця мовы. Гэта слушна, але не дастаткова для характарыстыкі з'явы. Так, неалагізмы — нашчадкі існуючага слова; В.Ластоўскі прымушае іх нарадзіцца, каб даць мове будучыню. Але працэс — глыбей і датычыць не толькі мовы. Характарызуючы перыяд нараджэння слоўніка — першую чвэрць XX ст., В.І.Пічэта пісаў: «...Пробуждение к жизни еще не живших своей национально-культурно-политической жизнью народов было мощным толчком для развития лингвистического знания...»[8]. Гэты працэс немагчымы без пошукаў скрытай энергіі, якая прыводзіць у рух народныя масы. Мова — адзін з сродкаў выяўлення стыхійнай энергіі абуджанага народа. Гэтая энергія жыцця павінна ўмацаваць кожнага, хто хоча ўзняцца над будзённасцю, удзельнічаць у вялікай гісторыі. Адсюль — мадэрністычныя тэндэнцыі ў літаратуры. Чытач чакае новага слова, як «сігналу», як магчымасці ўчынку, нават як учынку. Тым самым літаратура намагаецца выразіць «праўду большасці» ў мове, узбуджаючы, прысляшаючы грамадскія з'явы. У неалагізме — выраз новай свабоды, новай сацыяльнай ролі чалавека, праектаванне, вызваленне новых грамадскіх сітуацый. Неалагізм — не слуга, не раб, але воін. Ён не заўсёды застаецца жыць.

У В.Ластоўскага мы бачым відавочнае жаданне вывесці культуру з пыльных музеяў, адрадзіць яе на вуліцы, у натоўпе, у народзе. Гэта духоўнасць, якая ўжо мае сваю дзяржаву, якая звяртаецца да крыніц энергіі ў стане натуральным. Крэда літаратурных наватараў: развіццё чалавека павінна ісці праз пашырэнне поля, прасторы духоўна-эстэтычнага вопыту. Таму такі напружаны дыялог аўтара і чытача ў кнізе В.Ластоўскага. Аўтар хоча абудзіць чалавека, ашаламіўшы яго новым «сігналам», новым словам. У слове — перакрыжаванне індывідуальнага і сусветнага, але абавязкова — праз нацыянальнае. «Літаратурнасць» — гэта сацыяльная, сацыялагічная арыентаванасць. У слове — мінулае і будучае, у ім — першасная свежасць абагульненага, універсальнага пазнання новага жыцця і чалавека. І гэта набывае ў слоўніку сэнс амаль сатэрыялагічны. У новым слове — бунт супраць абмежаванасці, недасканаласці чалавека і свету. У словах — новых і старых — матывы міфалагізаванага ўспаміну, якія дапаўняе, умацоўвае недастатковую суб'ектнасць сучаснасці. В.Ластоўскі, сапраўдны мадэрніст, хацеў бы ўздзейнічаць на прадмет, падзею, чалавека праз слова як своеасаблівую «аўру» прадмета, імкнучыся прымусіць прадмет да больш поўнага выяўлення сутнасці.

Свядомае кшталтаванне свету, удзел у яго нараджэнні — задача, між іншым, футурыстаў.

мовай
магутаў племені ўслаўляў.
Зьбіраліс старцы тут
на раду й суд.
І быў нябесны ход
людзкім законам,
змацованым Правечным
Конам...
Весь гэты лад пітомы
разбурыў крыжа знак...
Хай так,
а ўсё-ж — на попелі
старэтных стодаў,
пад засьцьцю ценяў іх,—
у почце грэчаскіх сьвятых,
засела Софас;
мейсцовую сабой
зьменяючы Палладу.

час у Фракіі, панёс у Грэцыю навуку аб адзіным Найвельшым, дык Грэкі пыталі аракула, што такое Бог, якога прапаведуець Арфэй? І аракул назваў Найвельшага: сьвятлом (rad), думкаю-словам (logos) і крыніцай жыцьця (pneuma), якія іменьні азначаюць адзіную першапрычыну, сьвятло духу, радасьць бяз мучэньня, першакрыніцу веды, увенчаную вышэйшай праўдай.

Правечны Кон даў права, закон людзям, зьверам, птахам, полазам, рыбам, расьцінам і наагул усяму, што жыве, родзіцца і памірае. Устаноўленыя ім законы вечныя і непарушныя. Галоўнае месца ў нашым краі, дзе складалі яму чэсьць, быў Тураў і мясцовасьць Скрыгалава, недалёка ад Турава, дзе дагэтуль захаваліся рэшткі так званых цыклёпічных будоўляў у форме вялізарных каменных блёкаў. За сымбаль справядлівасьці ў славянаў уважаўся белы бык — тур.

І хоць даўным-даўно забыліся нашыя людзі старых багоў, але Палеская (Горадзенская) зямля дагэтуль мае ў сваім гэрбе тура, сымбаль Правечнага Кону.

Пад гэтай Тройцай бачым мы ніжэй сем асобаў зь іхнымі сымбалямі, гэта — сем галоўных сілаў, што валодаюць сьветам. Першая — Кон, Князь і ягоны сымбаль сонца; другая — Княжыч або Месяц із сваім сымбалем — месяц у маладзіку, трэйцяя — Ярыла і сымбаль ягоны — зорка Марс; чацьвертая — Радзігост і ягоны сымбаль — зорка Мэркуры; пятая — Пярун-Грамавік; шостая — Грамавіца і ейныя сымбалі зорка Вэнэра і птушка зязюля; сёмая — Лада, Ладон і ягоны сымбаль — зорка Сатурн. Кажнай з гэтых сямёх асобаў прысьвечаны адзін дзень тыдня, аб чым сьветчаць рунічныя надпісы пад кажнай асобай: Нядзеля — соўнік, панядзелак — месіч, аўторак — ярэц, серада — радаўнік, чацьвер — пярунец, пятніца — грамніца, субота — ладзіч. Ніжэй за гэтых сямёх асобаў ёсьць дванаццаць сымбаляў, што азначаюць 12 знакаў Задыяку, а пад імі — чатыры вятры, што бытуюць на чатырох канцох зямлі: Усток, які сухасьцю тхне; Ірэй, што прыносіць цяпло; Сутон, які навявае хмары і дождж; Сівер — што прыносіць сьцюжу.

Сярэдні шлях малюнкаў зьмяшчаў у сабе сцэны з жыцьця людзей, зьвяроў, птушак, расьцінаў і іншых на зямлі, у паветры, у вадзе, зь іхнымі пераменамі і бытам.

## У АЛЬПАХ

Кругом
правечна бель сьнягоў
ня топтаных людзкой ступой.
Ў вышы сінеюць льды
дамаскай стальлю,
і небазвод ўражае дальлю
панадлівых нябёс паўдзённых.
Як надзен іх блакіт чароўны
з краіны вечных сьцюж!
А глянеш ўніз, з гары,—
пабачыш там муры
дамоў, сьвятынь,
малых ў нізіннай далі.
І горнага арла
на скале,
што з годнасьцю спакойнай,
паміж забаў ў стыхіі вольнай
аднехаця, цікуе зайчы троп.
За намі шэры строп
нябёс паўночных,
абшар, дзе лютуе зіма,
дзе белым саянам сьнягоў
засьцелена зямля.
Тут, на рубяжы двох сьветаў,
двох культур,
дзесь з вершадзі высокай,
глядзя на рымскіх замкаў
звалы,
тваей мінуўшай славы,
што ўжо ня дасьць
натхненьня,
я не завідую табе.
Італьская зямля!
Лепш наша бедная калыска
жыцьцём напоўнена у
шчэрць,
як ваш трупехлы гроб,
з якога зеціць сьмерць.



У самым нізе было выбражанае царства сьмерці, дом вечнай цемры зь ягонымі жыхарамі. На першым пляне былі дзьве галоўныя фігуры: Люцец, Люты (Pluto), або Кашча Бясьсьмертны і ягоная жонка — Марва. Першы выяўляў сабой худую, з войстрымі людзкімі рысамі і злымі вачыма пачвару, другая — мела старэчую жаночую галаву, на якой, заміж валасоў, зьвіваліся сыкучыя зьмеі. Ейнае мясістае тулава абапіралася на чатырох лапах і заканчвалася драконаўскім хвастом. Па-за гэтымі галоўнымі постацямі віднеліся пачварныя духі краіны сьмерці і бясконцыя лікі бледных людзкіх пастацяў.

Мазаіка памосту пакрытая была сымбалічнымі знакамі, значаньне якіх я ня знаў і не адважыўся спытаць аб іх.

—А цяпер,— сказаў Іван Іванавіч,— каб пасунуцца далей у лябірынты, нам трэба сесьці ў гэтыя крэслы.

### III

Зачараваны веліччу абразоў, разьвінутых Іванам Іванавічам, я спытаў у яго:

—Чаму-ж усё гэта заняпала, чаму забыта?

І Іван Іванавіч сказаў:

—Гэрадот апавядае, што паўночныя краіны Эўропы былі найлюднейшымі пасьля Індыі. Паўночныя народы, якіх звалі Гіпэрбарэйцамі, займаліся лавецтвам, скацежніцтвам і ратайствам. Зналі рамёствы і асабліва любаваліся ў пазнаньні прыроды, а дзеля гэтага былі носьбітамі высокае веды. Зь берагоў Гэрадотаўскага мора, цяперашняга Палескага краю, паходзіў вялікі індускі рэфарматар — Рама. Ален Гіпэрборэец вывеў з поўначы калёнію вучоных, якія сталіся ў Грэцыі кастай сьвятароў і асновапаложнікамі чэсьці Апалёна і Дыяны ў Дэлёсе. З поўначы, з славянска-гецкае зямлі прыбыў у Грэцыю Арфэй, заснавец гарадоў, вучыцель мастацтва і рамёстваў. З поўначы занёс Прамэтэй сьвятло, за што быў няміласэрна пакараны. <...>

Грэцкія пісьменьнікі самі сьветчаць, што паўночныя народы, якія жылі на поўнач ад іх, занесьлі ў Грэцыю ня толькі некаторыя мастацтвы, але і цэлую рэлігійную сыстэму, навукі

## БАЯНУ

Мудрыя прытчы складаў і зычна пяяў ты, Баяне!

Пяяў яшчэ ўчора на вольных, на крыўскіх абшарах, пад гукі вячоўнага звону...

Дагэтуль туляюцца рэхі тых песень,— далёка ад скрушань замковых: у полі, у ройстах, ў кустах у лазовых, што ніцма прыпалі да ролі...

Зычаць яны ў чашках струпехлых, што ў порубах храму Сафіі, у звоне вячорным, што зь вежы, над целам чужога

---

Гэта абнаўленне моўных матрыц, вызваленне свядомасці чалавека і народа. Мадэрніст імкнецца стварыць новае «поле напружання». Слова жраца, Слова-Логас дае права ўлады над быццём. Уладар слова, стваральнік слова — волат. Гэта ўжо было ў Рыгведзе, потым — у старажытнагрэцкай філасофіі Логаса і ў александрыйскім — перадхрысціянскім — вучэнні аб Логасе. Славуты футурыстычны маніфест Філіпа Тамаза Марынэці абвясціў 20 лютага 1909 г.: «Паэт павінен аддаць сябе памнажэнню энтузіязму і агню ў першасных элементах... Паэзію трэба разумець як раптоўны напад на невядомыя сілы, каб кінуць іх пад ногі чалавеку»[9].

Новае слова, неалагізм — гэта пратэст супраць нямоцы, маўчання свету, нязгоднасць з застанымі рэаліямі. У В.Ластоўскага новае слова — гуканне нацыянальнай будучыні. Перад усім, перш за ўсё — сучаснасць і будучыня. Мастак-авангардыст праектуе свет. Чалавек пераймае праз новае слова частку стыхійнай энергіі, успрымае ўздзеянне чалавечых адносін, роднай прыроды. Нацыянальная ідэя — ідэал, які абяцае пазнанне свету. Менавіта таму мае аўтар права да моўнай творчасці. Прастора нацыянальнай ідэі, культурнай дзеі роднага народа, абсяг іхняга існавання, спосабы пазнання самай моцнай з энергій — вось што турбуе Вацлава Ластоўскага.

Разам з тым неалагізмы — гэта і спосаб супраціўлення чужой лексіцы, якая прыходзіць з новымі рэаліямі жыцця. Новая з'ява, новы прадмет павінны жыць па-беларуску! Гэта залог трываласці нацыянальнай прасторы.

У слоўніку — пашана да чытача, давер да яго здольнасці разумення. Твор мае глыбока асабісты характар. Са старонак кнігі паўстае вобраз аўтара. Рэнесансная рыса: пакінуць сваю падабізну, свой партрэт у творы.

Прыстасоўваць гэты шэдэўр літаратуры да вузкіх практычных патрэбаў (напрыклад, перакладу) — гэта тое самае, што на шляхетным заводным кані вазіць ваду і дровы.

**Алена НІЯКОЎСКАЯ**

---

[1]В.І.Вернадскі пісаў, што будучы планетны аспект жыцця ўтвараецца навукай, але пачынаецца гэты працэс як навуковая творчасць у мастацкай форме.— Гл.: В.И.Вернадский. Начало и вечность жизни. М., 1989. С.83, 144—145.

[2]У прадмове да слоўніка В.Ластоўскі піша аб гэтым.—*А.Н.*

[3]Гл.: Бахтин М.М. Эстетика словесного творчества. М., 1979.

[4]Напр., слоўнікавыя артыкулы «По-русски» (В.Ластоўскі. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С.512—513); «Прадмет» (тамсама, с. 533—534); «Горад» (тамсама, с. 130); «Господин» (тамсама, с. 131—133); «Грезить» (тамсама, с. 136) і інш.

[5]Г.зн. «сансарычнага», заходняга тыпу, у адрозненне ад рысаў «нірванічнасці», адмаўлення ад сябе ва ўсходніх культурах.

[6]У слоўнікавым артыкуле «Жир» даецца 13 (!) сінонімаў (тук, клушч, сала, саланіна, лой, скром, шмаляц, тусьцень, масла, алей, аліва, ворвань, дзёгаць) разам з іх сям'ёю і сферамі ўжывання (таксама, с. 181).

[7]Напрыклад, Я.Станкевіч пісаў аб В.Ластоўскім: «Забраны матэр'ял ён выдаў ненавукова, друкуючы пры тым жа разам без жаднага выдзялення словы ім новастворагыя...» (Д-р Я.Станкевіч. Гісторыя беларускага языка. Вільня, 1939. С. 13).

[8]В.И.Пичета. Белорусский язык как фактор национально-культурный. Мн., 1991. С.8.

[9]Цыт. паводле: Wypisy z literatury polskiej i obcej. Od starożytności do współczesności. Warszawa, 1992. S. 318.

**тутка Баболі, кліча на Ave Maria...**

**У показках-казках, у сэрцах збалелых, у подумах-думках нявольнага люду, глыбока таёных у сэрцы...**

**Вольныя песьні складаў ты, Баяне, і зычна пяяў яшчэ ўчора пра гордасьць народу, пра чэсьць крывічанскага роду.**

## ЧЫРВОНЕЦ

**У меставай браме, дзе люд плыве ракой і варта моцная дзень ноч пілнуе, схіліўся я й падняў чырвонец паўнаважны з-пад ног людзкіх,— якога перш ня бачылі ранейшыя хадзьбіты.**

**Кругом мяне натоўп зрабіўся.**

**Казалі мне адны, што я падняў, от, сьвежую іх згубу... Другія,— што я ня першы звычыў, што дзель яны павінны ўзяць з маей знаходкі.**

**Старожы ж, каб сагнаць натоўп, усім крычалі, што я місьцюк, што я кастыг за пенязь выдаю: «бо хто на бітым шляху па золаце таптаў бы чакаючы «яго» прыходу з падарожы!?!»**

**І ўсе паверылі старожы...**

і ўмеласьці. Славянскія народы, як прыкладам,— Курэты, Квірыты або Крывіты,— ужывалі рунічнага пісьма задоўга да прыбыцьця ў Грэцыю фэніцыянскага Кадмуса. Іхныя будоўлі нагадвалі цыклёпічныя, адзначаючыся нязвычайнай трываласьцю. У першых іхных сялібах, на гарах Алімпійскіх, Гэліконскіх і Пандэйскіх насамперш зараджаецца рэлігія, музыка і філёзофія, якой пасьля славілася Грэцыя. Згэтуль выходзіў Апалён, які займаўся тут пастырствам. Арфэй (orfeos — цёмны), праўдападобна сьляпы, як Гомэр, сваёй вымоўнасьцю аблашчваў дзікіх зьвяроў і лагодзіў дзікасьць тыбульскіх барбараў. На чароўныя, адкудныя гуды ягонае ліры, палі зьмяняюцца ў гарады (грэцкі горад — paleis), Ален, Тамарыс і Лінэй, таксама як Арфэй, сваімі прамовамі схілялі тыбульцаў пакінуць людзкія ахвяры багом, а, здаецца, і вырачыся людаедзтва.

Але ёсьць народы, як і паасобныя людзі, прызначаныя быць ня толькі мэсіямі чалавецтва, але і ягонымі адкупіцелямі. Да гэткіх належыць народ гетаў з усімі ягонымі галінамі. І мы бачым: Прамэтэя за ягоныя дабрадзействы, выказаныя людзям, расьпялі на Каўкаскай скале. Арфэя разьдзерлі п'яныя жанкі, упаўшыя ў шал. Фастыйскія пэлязгі за недаверства паганізму былі пабітыя Грэкамі і патопленыя ў моры. Троя, сялянская сяліба між Грэкаў, збураная Грэкамі. Урэшце Грэкі, падбіўшы сваіх даўных вучыцялёў і цывілізатараў, нішчачы, стараліся зьняславіць іх перад гісторыяй, няслушна прыпісваючы ім нялюдзкія абычаі і чараўніцтва.

Перш, чымся стаўся носьбітам веды і задаўся мэтамі мэсіянізму, народ гетаў павінен быў прайсьці сам рад нутраных пераабражэньняў і рэформаў.

Першым рэфарматарам быў Зарада. Да яго існавала ў гетаў супольнасьць жанок і маемасьці. Народ займаўся толькі лавецтвам. Ён навучыў ратайства і завёў свабодны выбар жон і жонамі мужоў, раз кажнага году. Штогодна меў права муж зьмяніць жонку і жонка мужа. Дзень гэты быў названы Купальлем, дзеля таго, што ў гэты дзень павінны былі кандыдаты да жаніцьбы адбыць ачышчэньне праз агонь і купаньне ў вадзе. Кажная пара магла мець сваю собскасьць і адзяліцца ад грамады. Ніхто ня мог карыстацца чужой працай. Кажны пільнаваў ладу ў сваёй сям'і і дома быў поўным сувэрэнам. За крыўды, зробленыя суседу, караў сход суседзяў. Але сем'і пачалі множыцца і бацькі мала-па-малу ўстанавілі патрыярхат, неабмежаваную нічым уладу галавы сям'і над усімі сям'янамі. Прычым патрыярхі неахвотна выпушчалі каго-колечы зь сям'і, і сем'і разрасьліся да 100—200 душаў. Собскасьць у сем'ях сталася сямейнай собскасьцю, або іначай кажучы собскасьцю патрыярха, як і ўсе жанкі сям'і. Пайшло агульнае незадавальненьне.

У гэтым часе аб'явіўся другі рэфарматар Багавей, які высунуў на першы плян касту сьвятароў. Апавешчаная была сьвятарская дыктатура; зямля, як належная да Бога, была аддадзеная на ўласнасьць галоўнай сьвятыні. Усе жыхары, і бацькі і дзеці, павінны былі нароўна працаваць для багоў і сьвятыняў. Як найсьвяцейшая праца была палічана праца ратайская. Сымбалем яе ўстаноўлены быў белы бык, які атрымаў асаблівую пашану пры сьвятынях. Пры гэтым ладзе хутка ратай стаўся паніжаны да безгалосае скацежыны, за якую думае гаспадар. Каб патушыць нарастаньне рэвалюцыі, сьвятары пайшлі на ўступкі: прызналі роўнае права з сабой галовам родаў. Утвораны быў духоўна-арыстакратычны ўрад, які, прыкрываючыся воляю багоў, выдаваў ад іхнага імя свае загады, маючы, перш за ўсё, на мэце свае карысьці. Гэтая тройца — духавенства, старшыні і багі моцна і надоўга селі на карак рэшты народу. Але ў гэтым часе пачалі адбывацца напады суседніх вандроўных народаў, абарона ад якіх вытварыла, мала-па-малу, трэйці стан — вайсковы. У супалку — багі, сьвятары, старшыні — павіны быць прынятымі і вайскоўцы.

Калі мы прыгледзімся да зьместу нашых народных казак, дык гэтую гісторыю мы знойдзем там перададзеную ў сымбалях. У сялянскай сям'і, прыкладам, родзіцца які-небудзь Кацігарошак, найдужэйшы за ўсіх, якія ёсьць, асілкаў на сьвеце. Падросшы, ідзе нішчыць зло на зямлі і, памалу, дабірае сабе яшчэ двох, а часам трох асілкаў, якія ўрэшце робяць паміж сабой змову, каб загубіць яго, і закідаюць у прадонную, бязвыходную прорву. Але Кацігарошак раней-пазьней здабываецца з прорвы, пасароміўшы сваіх сяброў, бярэ ў свае рукі кіраўніцтва над сьветам, якому дае спакой і шчасьце.

Пад панаваньнем старшыняў і духавенства, замацава-



## У ЧАС АБЛОГІ

**На грудзе, акружаным глыбокаю вадой, я горад збудаваў. Змацаваў яго дубоваю сьцяной, байніцамі, на зводах мост узьдоймны палажыў.**

**У клеці зьвёз усякага дабра:— калі б на грод лягла аблога...**

**І вояў зрадных, лжывых, я разьлічыў, каб зь вернаю дружынай толькі дзяліць мой белы й чорны дзень...**

**І, от, нахлынуў вораг многі.**

**Ударыў я у звон трывожны. Дзынеў патужна цяжкі сьпіж... Аднак, на клік мой зоўны, ніхто ка мне не пасыпяшыў: У горадзе маім — такім мацоўным — адзін я быў!..**

## НА ХРЭЗЬБІНАХ

**Ў гасподзе сьветлай, на седзішчы высокім гасьціў у дзень урочысты яго я нарадзін. Ды плакала душа, што жоскі тропі жыцьця гатуе ўжо завалы на сьцежках бадавейных.**

**Тры ветніцы сягоньня, з намі тут, западкі жыцьцёвай нітачкі тваей спраўляюць. Праклюдныя старухі! Ім ведама усё: й не зжахнуцца ані! Спакойнаю рукой бяруць у**

# Моўная ўтопія В. Ластоўскага як славянская трансфармацыя футурызму

**Пра дзейсную сілу слова вядома кожнаму, нават таму, хто не чытаў Сьвятога пісання. Тым больш цікава прасачыць, як гэтае ўяўленне ўзнікае ў самых разнастайных светапоглядах, часамі трапіўшы туды, як той казаў, праз вакно.**

**Паводле Ралана Барта, ці не найбольш вядомага сёння прадстаўніка французскае новае крытыкі, структураліста і семіёлага-марксіста, рэвалюцыя ў сферы мовы прыроўніваецца да рэвалюцыі ў жыцці. Паўстанне, бунт супраць пануючага дыскурсу ёсць разбурэнне існуючае ідэалогіі.**

**Яшчэ нашмат раней, як Барт прыраўняў у тэорыі моўную практыку да непасрэднага аб'ектнага дзеяння, гэта паспрабавалі ажыццявіць у сваёй творчасці футурысты. Ужываючы слова «футурызм», мы не заўсёды задумваемся, што яно называе зусім розныя, а то й супрацьлеглыя рэчы ў мастацтве. Адзінае, што можа зблізіць розныя праявы футурызму,— гэта радыкальная перабудова мовы, і не проста — мастацкае, але й мовы як аб'екта лінгвістыкі. Пры гэтым можна назіраць найразнастайнейшыя варыяцыі: тэхнакратычнае разбурэнне Ф.Марынэці, галантарэйны канфармізм І.Северяніна, трансгістарызм В.Хлебнікава і г.д. Такім чынам, у пісьменстве футурызм можна характарызаваць як лінгвістычную, або моўную ўтопію.**

**Якія гэта мае адносіны да Вацлава Ластоўскага? А менавіта такія, што першае ж ураженне ад яго паэзіі выклікае асацыяцыі з футурызмам, як бы гэта ні здавалася некаму дзіўным. Паспрабую свае ўражанні падмацаваць мастацкімі фактамі ды аналізам розных бакоў дзейнасці пісьменніка. Дагэтуль, наколькі мне вядома, ніхто не спрабаваў асэнсаваць паэзію, а зрэшты, і прозу Ластоўскага ў якасці асобнае арыгінальнае з'явы. Больш таго, паэзія яшчэ сістэматычна не сабрана і не выдадзена, бо на фоне іншых заслуг вялікага адраджэнца лічыцца трэцяраднаю, не вартаю ўвагі. Вось што пішуць выдаўцы мюнхенскага выдання Власта: «Пачынаючы з 1923 года, Ластоўскі друкаваў у розных беларускіх часопісах, галоўна ў выдаваным ім жа ў Коўне «Крывічы», і творы вершаваныя. Але яны ані літаратурна-мастацкімі якасцямі, ані сваім месцам у беларускай літаратуры не могуць раўняцца з яго празаічнымі апавяданнямі»[1]. Гэта не зусім так, і першае таму сведчанне — словы аднаго з удзельнікаў «Узвышша», крытыка Антона Адамовіча: «...Вацлаў Ластоўскі, сваёй собскай паэзіяй папераджаў тую ідэалогію і стыль, што распрацавалі пасля ажыўленцы» (г.зн. узвышаўцы.— *ЮЛ.*)[2]. Аўтар жа «Вянка» ў крытычных аглядах высока ацаніў прозу пісьменніка[3].**

**Творчае крэда Ластоўскага**

пальцы смычку і цягнуць ніць жыцьця на верацяно.

Круціся, гэй круціся вераценца! да сонца раз, у цемру раз, усё кругом, кругом... і ўсё бліжэй да долу.

Музыка грае тост. У чарах пеніцца віно. І ўсё, у такт, сьвярліць у мозгу мысьль: ці сьлёз, якія будзе ліць ў жыцьці наш навародак, гасьцей хапіла б напаіць і хто іх будзе піць?..

Тры ветніцы прадуць і ніць усё струнчэй. Званіце чарамі, іграйце тост! Хутчэй!!

***

Формаў трупехлых я вораг
дасконны,
сьцежак стаптаных ня зношу
ў тварэньні;
новым імкненьням даць
новыя формы,
новыя словы і дум выражэньня
Стаўлю я мэтай.

ным вайскоўцамі, ратаі ў грэцкай сымболіцы прыбіраюць постаць аднавокага цыклёпа, а паэьней і сьляпога Паліфэма.

Але яшчэ не канец на гэтым. Чужаземцы, прыйманыя сьпярша як госьці, пачалі панявольваць славянскія народы і, памалу, абярнаць у сваіх нявольнікаў. Вышэйшыя клясы, арыстакратыя і духавенства, зьліліся з пануючымі прыходцамі.

Тут мы маем такую самую гісторыю, як і ў Італіі, дзе, за шмат гадоў да заснаваньня Рыму, жыў высокакультурны народ Этрускаў. Чужаземныя дружыны паняволілі іх, абярнулі ў сваіх нявольнікаў і, пераняўшы ад іх культуру, ачарнілі Этрускаў перад гісторыяй, як дзікіх і нічога ня вартых людзей. Аб дзівах мастацтва, промыслаў і навукаў, аб стане высокай асьветы ў Этрускаў, мы сяньня даведваемся толькі з раскопак іхных магілішчаў і гарадзішчаў. Этруская цывілізацыя загінула ў войнах прыходцаў зь мясцовым жыхарствам. А пасьля, за часоў Сцылія, бязьміласэрна, разам з выдатнейшымі мясцовымі людзьмі, былі нішчаныя ўсе помнікі этрускае культуры, іхныя кнігі і творы іхнага генія. І этруская культура заняпала навекі. Рым пакрыў яе маўчаньнем, абсыпаў лаянкай і зьнявагай.

Пад ударамі чужаземскіх наезьнікаў заняпала і нашая культура, а асабліва ў часе хрышчэньня чужынцамі славянаў. <...>

### IV

Калі скончыўшы гутарку, прымоўк Іван Іванавіч, а я аддаўся раздуме, нас абкружыла маўклівая ціша, скрозь якую зьнекуль пачаў даходзіць да вуха ціхі харальны сьпеў. Сьпярша гэты сьпеў быў такі ціхі, што зьліваўся з тутненьнем сэрца і крыві ў жылах. Але ў меру таго, як я, натужваючы свой слых, услухаўся, ён усё рос і, урэшце, набіраў штораз больш выразістасьці. Калі сьпеў гэтых лічных галасоў пачаў набліжацца, я пытальна глянуў на Івана Іванавіча.

—Гэта пяюць нашыя старцы,— сказаў ён спакойна.

—Як! Дык хіба-ж гэтыя падзямельні заселеныя людзьмі?—зьдзівіўся я.

—Але. Жыцьцё ў гэтых падзямельлях ідзе старое, даўнае. Вам-жа, хіба, даводзілася чуць ад народу дый чытаць у так званай этнаграфічнай літаратуры аб гарадох, царквах, манастырох, што праваліліся скрозь зямлю. Хіба-ж вы ня чулі аб нявідомым горадзе Багоцку, во тут, каля Полацку? Другі такі горад, што каля Гомеля, апісаў расейскі пісьменьнік пад найменьнем Кіцежа. На землях, якія апошнімі часамі ў дакрывіцкую эпоху засялялі Геты, гэткія гарады існуюць.

Я зьдзіўлена ўзіраўся на Івана Іванавіча і сам ня ведаў, што аб усім гэтым меркаваць. Гэтак усё чутае і бачанае было нязвычайным для майго разуменьня, што я паввў рукой сабе па абліччы, каб пераканацца, ці ўсё гэта не галюцынацыя, ня сон... Але чоў мой мяне не ашукваў...

Іван Іванавіч пры гэтым устаў, і, адчыніўшы дзьверы ў сьцяне, павёў мяне даўгім і шырокім праходам, аж урэшце мы апынуліся ў вялікай і сьветлай залі. Ня было там ні сьвечак, ні лямпаў, сьвятло як быццам само сабой стаяла ў залі. Сьцены былі запоўненыя ўсякімі кнігамі і зьвіткамі рукапісаў. Падыйшоўшы да аднае з паліцаў, Іван Іванавіч зьняў пэргамінны рукапіс, кажучы:

—Во гэта сьветчаньне падарожнага, які быў у нашым краі за колькісот год да арабскага пісьменьніка Масуды, які ягонае сьветчаньне асобным разьдзелам (Маруджа 62) із старых кнігаў упісаў у свае кнігі. Тут мова аб гарадох і сьвятынях славянскіх. Руінаў гэтых гарадоў і сьвятыняў цяперашняя археалёгія не знаходзіць на зямельнай паверхні, бо яны дзіўнай умеласьцю старабытных нашых інжынераў апушчаныя ў глыб зямлі, як вось і гэтая нашая сьвятыня, у частцы будынкаў якой мы цяпер з вамі знаходзімся. У гэтай кнізе вось што аб ёй напісана:

«З гэтых сьвятыняў адна пабудаваная на гары, гэта дзіва сьвету, а як кажуць знаўцы, прыклад архітэктуры і распарадкаваньня рознаякага каменьня, ужытага да гэтае будоўлі. Сабраныя там дарагія каменьні нявыказанай каштоўнасьці, а таксама знакі, што паказваюць будучыню».

—Усё, што тут напісана, — шчырая праўда!— сказаў Іван Іванавіч, складаючы кнігу.

—Цяпер-жа я пайду на мамэнт да нашых старцаў, а вы агледзьце найрадчэйшую ў сьвеце бібліятэку.

—Прашу вас, скажэце, хто гэта такія старцы і як яны жывуць тут?

—Гляньце на гэтую залю,— сказаў Іван Іванавіч,— вы тут не пабачыце нідзе ніякіх прыладаў да асьвятленьня, а ў залі сьветла і цёпла. Гэта таму, што сьцены гэтае залі ўкрытыя элемэнтам, падобным да радыя, зь якога пабудована сонца. Пад гэтым сьвятлом і расьціны і людзі могуць жыць бяз ушчэрбку для свайго здароўя. Гэты элемэнт, ужыты тут, як маса для тынкаваньня сьценаў, апрача сьвятла і цяпла, мае яшчэ іншыя дзеяньні: хто знаходзіцца заўсёды пад уплывам ягонага сьвятла, не падлягае старасьці, якая паходзіць ад звапненьня крывятўчных судзінаў у людзкім арганізьме. Пад уплывам гэтага сьвятла вапна ня можа зацьвердзяваць у варганізьме, а дзеля гэтага чалавек застаецца ў вадным веку назаўсёды, як вынік гэтага — не падлягае сьмерці. Мы з вамі цяпер знаходзімся на глыбіні каля тысячы мэтраў ад паверхні зямлі, і аднак-жа вы аддыхаеце лёгкім паветрам, гэта таму, што элемэнт гэты, які завецца «гетынам», мае ўласьцівасьць пахлынаць лішкі кіслых газаў. Вось-жа старыя ву-

было катэгарычнае і недвухсэнсоўнае:

Формаў трупехлых я вораг
дасконны,
Сцежак стаптаных не зношу
ў тварэнні,
Новым імкненням даць
новыя формы,
Новыя словы і дум выражэння
Стаўлю я мэтай[4].

Гэта ім распачата ў «Нашай Ніве» дыскусія пра шляхі развіцця беларускае паэзіі,— дыскусія, якая стала бадай найпрыкметнейшаю з'явай у эстэтычнай думцы пачатку стагоддзя. Артыкул Ю.Верашчакі «Сплачывайце доўг» можна лічыць першым авангардным актам у нашай літаратуры, першым маніфестам новае творчасці[5]. Тэндэнцыя Ластоўскага да абнаўлення традыцыі, да пошукаў новых формаў заўважана даўно. «... Ён іншы раз даволі моцна нагадуе польскіх мадэрністаў...»,— пісаў М.Багдановіч яшчэ ў 1911 годзе[6]. У той час польская і беларуская, руская і ўкраінская літаратуры развіваліся ў цеснай сувязі. Так, напрыклад, польскі футурыст Ежы Янкоўскі выступаў у якасці інтэрпрэтатара Янкі Купалы і Якуба Коласа[7]. Палякі-футурысты Тыжуль Чыжэўскі, Station Станіслаў Младажэнец, Бруна Ясеньскі, Анатоль Стэрн, Аляксандр Ват друкавалі свае творы ў той жа час, калі ў «Крывічы» з'явіліся вершы Власта. Але Ластоўскаму найбліжэйшы эксперымент Вяліміра Хлебнікава.

Футурызм, як і любы іншы напрамак,— рэч адносная і ў той жа час канкрэтная. Хлебнікаў пачаў эксперыменты яшчэ не належачы ні да якой літаратурнай школы[8]. Мінуўшчына яго цікавіла не менш, чым будучыня, паэт імкнуўся перавярнуць гісторыю ў сучаснасць і з гэтага пункту пачаць новы адлік. Эксперыменты Хлебнікава дастаткова вядомыя, таму прывяду толькі іх агульную характарыстыку: «Прадумоваю для ажыццяўлення ўтапічных пабудоў паэта становіцца не свет рэальнасці, а прастора мовы. ...Гэтая «моўная прастора», якая становіцца адзінствам «прасторы — часу»[9]. Параўнаем жа з ідэямі Ластоўскага.

«Слова, гэта не ўмоўны знак для выражэння мыслі, але мастацкі абраз, вызваны найжывейшымі пачуваннямі, якія прырода і жыццё выклікалі ў першабытным чалавеку»,— так пачынаецца прадмова да «Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка[10].

Сказанае можна зразумець наступным чынам: для Ластоўскага моўны знак цалкам матываваны. Ідэя вобразнае матывавансаці мовы ўзыходзіць да прац А.А.Патабні, паводле якога слова мае вонкавую форму (гукавую абалонку), унутраную форму (этымалагічнае першаснае значэнне) і сучаснае прамое значэнне[11]. Вучэнне Патабні, якое з'яўляецца працягам філасофіі мовы В.Гумбальта, атрымала самую разнастайную інтэрпрэтацыю, у тым ліку і ў паэзіі сімвалістаў, акмеістаў, футурыстаў[12]. Напрыклад, Андрэй Белы адрозніваў «словы-тэрміны» са сцёртым першасным значэннем і вобразныя «словы-сімвалы». У працах П.Фларэнскага, С.Булгакава, А.Лосева ідэі Патабні былі пераасэнсаваны ў філасофска-багаслоўскіх тэрмінах[13]. Ластоўскі ж шукае матывацыю слова не ва універсальнай духоўнай існасці, а ў нацыянальным быцці наро-

чоныя, зыйшоўшы з поля дзікага змаганьня на зямлі, жывуць тут працуючы над навукай і ўмеласьцямі, у сваіх абшырных і добра абстаўленых бібліятэках і лябараторыях. Працуюць, чакаючы часу, калі ім давядзецца зноў выйсьці да свайго народу. Адным з важнейшых адкрыцьцяў, якія імі тут зробленыя, зьяўляецца «крывін», пры дапамозе якога кажную рэч можна разлажыць на першапачатковыя высхады і зь першапачатковых высхадаў зложыць якуюхаця рэч. Прыкладам, з высхадаў паветра і вады можна вытварыць камень, золата, хлеб, тлушч, і, наадварот, кажную рэч можна перамяніць у іншую. Прыкладам, той-жа брукови камень можна зьмякчыць у хлеб ці золата, у паветра ці якога-хаця смаку сталовае масла. Бо першапачатковы высхад ува ўсім адзін і той-жа, залежыць толькі ад таго, які надаецца кірунак руху ягоным праатамам. Гэтае вялікай вагі адкрыцьцё зробленае нашымі старцамі, разьвяжа на зямлі сацыяльнае пытаньне... Пытаньне пракорму людзей...

У гэты мамэнт недзе здалёк пачуўся званок, і Іван Іванавіч, падаўшы мне на разьвітаньне руку, выйшаў у праход, які пачынаўся зь левага боку залі, сказаўшы:

—Вам, аматару кніг, думаю, маркотна тут ня будзе.

Я, ня трацячы часу, пачаў разглядаць кнігі. Аддзел бібліятэкі, у якім я знаходзіўся, складаўся з помнікаў старасьвецкіх арабскіх, грэцкіх, індускіх і эгіпецкіх пісьменьнікаў. Вялізарныя фаліянты, пісаныя на пэргаміне і шоўкавых тканінах, залягалі ўсе сьцены: унізе, каля сьценаў, у дубовых, абіваных сярэбранай бляхай скрынках, разложаныя былі зьвіткі, пісаныя ў розных мовах. З пляну бібліятэкі, які выбражаны на мармарнай дошцы сярод залі, відаць было, што аддзел славянскіх кніг знаходзіўся ў трэйцяй залі, ідучы налева. Я засьпяшаўся туды.

У гэты мамэнт нейкі лёгкі быццам звон у гары зьвярнуў маю ўвагу. Я ўзьняў галаву і пабачыў, што зь сьцяны выступае масыўны каменны блёк, у кшталце стала, з глыбокімі ўнізе выемкамі. На стале быў расстаўлены цэлы рад жоўтага мэталю стылёвых місаў, а на іх разложаныя сьвежыя фрукты і закускі, пасярод-жа красавалася бутэлька з старкай. Падыйшоўшы да стала, я пабачыў картку, пісаную рукою Івана Іванавіча, гэткага зьместу:

«Паважаны Дружа!

Усё, што знойдзеце на гэтым стале, толькі што прыгатаванае пры дапамозе высхаду «крывін». Спрабуйце, ці годнае да ўжытку.

Ваш Іван Іванавіч».

Я сеў пры стале і ў часе ежы пераканаўся, што пададзеная закуска вызначалася вялікім кулінарным мастацтвам. Пячэня была гарачая і сакоўная з прыемным водарам дымляніны; фрукты мелі дзіўную сьвежасьць; старка цягнулася з бутэлькі, як аліва, і разыходзілася па арганізьме хвалямі прыемнага цяпла.

Перакусіўшы, я ськіраваўся ў славянскі аддзел бібліятэкі. Багацьце, якое я тут пабачыў у зьвітках і фаліянтах, прост не паддаецца апісаньню. Тут я бачыў ня толькі фаліянты полацкіх летапісаў, між імі і адзін пісаны рукой княжны Еўфрасіньні, але і летапісы шмат ранейшых пэрыядаў існаваньня нашага народу. Пабачыў збор навукі Зямельчыца, які складаўся з чатырох кніг, разьбітых кажная на 72 разьдзелы. На зьмест кнігі злажыліся: маральнае права,

да. «Увесь светагляд і паэзія нашых прадзедаў замыкаліся ў мове,— працягвае ён сваю прадмову.—Кожнае слова было легендай-пагудкай, міфам; было поўнае зместу і паэзіі: бо міф асноўваўся на легендзе, а легенда замыкалася ў слове»[14]. Інакш кажучы, слова ў знятым выглядзе ўтрымлівае як гісторыю, так і нязменную існасць свайго народа. Таму нечакана і ў той жа час лагічна сцвярджаецца выснова: «Мова перапоўненая чужаземнымі словамі з'яўляецца ізалятарам культуры ад народных масаў»[15]. Праграма Ластоўскага, што складалася не без уплыву Даля, таксама, як і Хлебнікава[16], адначасова нагадвае праграму Р.Барта ў перавернутым выглядзе. Калі для апошняга разбурэнне, асіміляванае ўладаю мовы, прыроўніваецца да рэвалюцыі, то для Ластоўскага сцверджанне або рэканструкцыя нацыянальнага слова ёсць ажыццяўленне адраджэння ці, як цяпер модна гаварыць, рэалізацыя «беларускае ідэі».

У сувязі з апошнім напрошваецца думка: Хлебнікаў і Ластоўскі імкненнем да славянскага карнясloўя трансфармуюць футурыстычную ўтопію на іншай глебе. Гэта бунт, самасцверджанне славянскага Слова як думкі, бачання, гучання, рытму супраць засілля рамана-германскае наменклатуры. І ў тым, і ў другім выпадку — актуалізацыя ўнутраных магутнасцяў нацыянальнае мовы. Паміж двума паэтамі існуе не толькі адзінства, але й істотнае адрозненне: у першага пераважае аналіз, у другога — сінтэз. Ластоўскаму няма патрэбы расчляняць словы, беларуская мова толькі адраджаецца, і ён з задавальненнем





цывільнае і дзяржаўнае права, гісторыя народу і анталёгія лепшых тагачасных літаратурных твораў. Цэлы аддзел бібліятэкі складаўся з кнігаў, пісаных глаголіцай, якая, як я тут пераканаўся, была шмат старэйшай, бадай на добрую паўтысячу год, славянскай граматай, знакі якой разьвіліся з славянскіх гіерогліфаў. Старэнна апрацаваныя табліцы разьвіцьця пісьменных славянскіх знакаў паказвалі ня толькі перамены ў формах знакаў, але давалі адначасна і храналёгічныя дадзеныя, зь якіх відаць было, што пачаткі славянскае пісьменнасьці трэба аднесьці на канец чацьвертага тысячагодзьдзя перад нашай эрай. Цікава было сачыць на гэных табліцах, як із людзкое фігуры (рысаванай у гіерогліфах поўнасьцю), вытварыўся знак «аз» — я, нашая цяперашняе вялікае А, у якім ад людзкое постаці засталіся ўнізе толькі дзьве палкі, а ў папярэчцы памяць аб рысаваным калісь паясе. Як цьвёрда трымаўся цэлыя тысячагодзьдзі знак зямлі і дахаваўся да нашых часоў у славянскай літары «зело», а таксама знак жука ў літары — ж, які сяньня яшчэ нагадвае сабой кузурку. У ваддзеле архітэктуры бачыў я дзіўнае прыгожасьці стылёвыя будоўлі гэтак званага «гецкага» стылю. У ваддзеле пісьменнасьці хрысьціянскіх часаў з асаблівай пашанай перахоўваліся тут рукапісы першых хрысьціянскіх апосталаў Кірылы і Мяхвода, аб якіх трэба аднак, на аснове пачэрпнутых мною ў бібліятэцы дадзеных, сказаць, што хоць яны запраўды пераклалі сьвятое пісьмо ў славянскую мову, але ў пісьменнасьці славянскай, так званымі кірылаўскімі літарамі, на добрых чатыры сталецьці іх папярэдзілі розныя хрысьціянскія сэкты, а перадусім манахіійцы, паўлікіянцы і мэсальянцы. Усе гэтыя сэкты пісалі грэцкімі літарамі пасла-вянску, дапасоўваючы іх да славянскае мовы. І пераклад кананічных кнігаў у славянскую мову папярэдзілі розныя сказаньні, як, прыкладам, «Сказаньне аб Ламэху і Мэльхісэдэку», «Запаветы дванаццацёх патрыярхаў», «Пасланьне Абрама да Хрыста», «Евангельле Хамы», «Евангельле Нікадымава» і шмат іншых.

Урэшце, змучаны пераглядам кнігаў, я надумаў абыйсьці бібліятэку, і з гэтай мэтай выйшаў у другую залю, а з другой у трэйцюю і г. д. Прайшоўшы дзесяткі два заляў, напоўненых кнігамі, я апынуўся перад глыбокай нішай, у якой была зьмешчана фігура чалавечая з бліскучымі вачыма. У меру зьбліжэньня да яе, вочы фігуры штораз ярчэй сьвяцілі, прычым чуласяў іх нейкая прыцягальная сіла. Калі я быў на адлежнасьці мэтраў дзесяць ад фігуры, я ўжо ня меў сілы стрымаць сябе, нешта незразумелае, няпераможнае цягнула напярад, і высілкам усяе волі я ня мог спыніць сябе, каб ня ісьці далей. Фігура была з жоўтага мэталю, утрая большая за натуральны чалавечы рост. Ад сіняватага блеску сьвятла вачэй фігуры, які быў ськіваваны проста ў мае вочы, я чуў, як цела маё млела. У гэты мамэнт фігура правай рукой ударыла тры разы ў шчыт, які быў у яе на левай руцэ. Аглушальны патройны гук дарэшты спараліжаваў мяне, і я страціў прытомнасьць...

*Друкуецца паводле кнігі: Власт. (Вацлаў Ластоўскі). Творы. Мюнхэн, 1956.*

адшуквае кніжныя і дыялектныя скарбы, лепіць з іх мазаіку, старанна прыстасоўвае да сучаснага жыцця. Таму кожны тэкст прасякнуты смакаваннем «самаістага слова», сутыкненнем гэтых багаццяў, як, напрыклад, верш «На оды Гарацыя»:

Як старае віно, разлітае у чары,
залотнае дае ясво,
што йскрыцца ў крыштале,—
так меніцца святлом дасюль
ў яго тварэннях векапомных
умца нясмертны дух.
І як старэтны Вакха ў чарах дар
тхне ў сэрца нам цяплом,
так верш Гарацыя акудны
дарыць красотаў
чар нязбудны...[17]

За вершы не менш паэтычны і «Слоўнік» Ластоўскага. Напрыклад, возьмем найпершы артыкул: «*Абажур*. м. фр. заслона на сьвятло, на сьвечку, лямпу; *засьня*, *застка*, ад «засень» цень; *засьва* месца зацененае, *засыцісты* даючый цень; *назаўсьці* знаходзячыйся ў ценю, у зацемку; зацьма, зацьмежа, зацьменьне»[18]. Шляхам вобразнае матывацыі ўтворана новае, прытым надзвычай прыгожае слова «засьня». Такіх прыкладаў у слоўніку мноства. Прывядзем яшчэ адзін, надзвычай цікавы. Носьбіты беларускае мовы, магчыма, сутыкаліся з праблемаю адпаведніка слова «ствол», бо не ў кожнай мясцовасці яно ўжываецца, напрыклад, у Лідскім раёне яго няма, там кажуць: «бяроза», «хвойка», «палена», калі ўжо абсечаныя сукі, і г.д., але толькі не «ствол». У Ластоўскага ж даецца адназначна: галамень, галомісты. І прыкладаецца этымалогія: «Галамень», голае месца пня, ад каранёў да галля, гаворыцца аб дрэвах»[19]. Аказваецца, паводле

ЭСБМ, беларускае «галіна» з'яўляецца «самастойным утварэннем, пашыраным толькі на беларускай тэрыторыі»[20]. ГСБМ дае яшчэ «голь», тое, што і «галлё», і «галец» — «дубец»[21]. Такім чынам, «галамень» Ластоўскага арганічна ўплятаецца ў цэлае гняздо слоў, утваранае на аснове аднаго вобраза, з дапамогаю якога апісваецца ўсё дрэва: голь, галамень, галіна, галлё, галец, шыголле і г.д.

Асноўным жа вузлом, пунктам, дзе засяроджваецца нацыянальная касмагонія, аказваецца прапанаваная Ластоўскім назва беларусаў — «крывічы». «Мы Крывічы па крыві, па роду племені, але засяляем землі балотныя і лясістыя, дзеля гэтага, каторыя з нашага племя жылі на дрыгве-балоце, па гэтай азнацы, звалі іх Дрыгавічамі, а каторыя жылі ў лясах-дрэвах — зваліся Дрэўлянамі, каторыя жылі на горках — зваліся Гаранамі»[22]. Як бачым, біялагічнае ў якасці значэння «кроў», «род» і культурнае, моўнае як аформленасць гэтага значэння выступаюць у непарыўнай сувязі, у адным слове «крывічы»[23]. Далей, праз прыроду і гісторыю, пачынае разгортвацца астатняя намінацыя. У тым ліку і вонкавая, так, найменне неславянскага народу «чудзь» тлумачыцца як чужынцы[24].

Крывіцкая тэорыя аказалася надзвычай жыццяздольнаю. І хаця навуковыя, палітычныя і жыццёвыя аргументы на розныя лады сведчаць супраць яе, тэорыя працягвае існаванне, пераважна ў паэзіі. Паэтам яна спадабалася яшчэ ў 20-я гады. «Ад Крывіцкіх балотаў, да тундраў Сібіру...» — У.Дубоўка. «Усемагутны. Вось сэрца паэта — за народ твой крывіцкі ахвяра» — У.Жылка. М.Зарэцкі зрабіў першую спробу гістарычнага рамана «Крывічы». Попыт на гэтае слова сярод паэтаў не слабее дагэтуль, яго можна сустрэць і ў старэйшых, напрыклад, Р.Барадуліна, і ў тых, хто робіць першыя крокі ў паэзіі. Бо, вядома, ні звыклае «беларусы», ні рацыянальнае «ліцвіны» не могуць супрацьстаяць рамантычнаму «крывічы».

Тое ж датычыць і самога «Слоўніка» Ластоўскага. Калі сучасныя мовазнаўцы абыходзяцца без яго і фактычна замоўчваюць[25], то гэта зразумела і абумоўлена шматлікімі фактарамі. Дзіўней назіраць падобнае, скажам, у працах Янкі Станкевіча, які неяк мімаходзь называў «Слоўнік» ненавуковым, як быццам гэта адзіны магчымы крытэрый[26]. Затое ў практыкаў слова, у пісьменнікаў, «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» карыстаецца заслужанаю павагай. Магу падзяліцца ўласным досведам: час ад часу перакладаючы рэлігійныя тэксты, як ні дзіўна, я не знайшоў лепшай крыніцы высокага штылю. Нават калі патрэбнае слова адсутнічае, гэтая кніга нібы ўмее падказаць, у якім кірунку яго шукаць.

«Слоўнік» Ластоўскага далёка не першы ў нашай культуры, але гэта першы слоўнік з філасофскім абгрунтаваннем рамантычна-радыкальнае праграмы Адраджэння. Гэта нібы асобны літаратурна-мастацкі твор, які супрацьпастаўлены ўсім астатнім паэтычным і празаічным тэкстам і без якога немагчыма адэкватнае і поўнае прачытанне астатніх тэкстаў.

Вядома, аднясенне «Слоўніка» да мастацкіх фактаў ёсць экстрапаляцыя постмадэрнісцкага бачання на спадчыну, але гэта не супярэчыць ні рэальнасці, ні лінгвістычным вартасцям кнігі. Такая тыпова постмадэрнісцкая рэч як «слоўнік» вершаказаў Алеся Разанава сёння па-новаму высвечвае працу Ластоўскага і паказвае, як усякае слова можа быць згорнутаю структураю кожны раз па-новаму пераафармленае мовы[27]. Як Слова тоіць у сабе іншыя словы, так Слоўнік тоіць у сабе магчымыя літаратурныя творы.

У дадзеным выпадку «правільнасць» (навуковасць) або «няправільнасць» паэтычнае этымалогіі[28] Ластоўскага неістотная. Бо, як кажа той жа Разанаў, этымолагі ўсяго толькі «расчароўваюць» словы, бачаць мінуўшчыну, але не чуюць, куды слова кліча[29]. Ластоўскі наадварот, часамі і не хочучы таго, «зачароўвае» словы, нават у навуцы застаецца паэтам. У культуралагічным аспекце можна лічыць, што ён упершыню аформіў і заклаў падваліны міфа-паэтычнае стратэгіі мовы як пэўнае моўнае палітыкі, прадумовы якой складаліся ў нашаніўскі і ранейшы перыяды. Для параўнання вызначым у беларускай прасторы яшчэ дзве стратэгіі: нацыяналістычную і тэхнакратычную.

Міфа-паэтычная — мае на ўвазе «пазнанне законаў гармоніі крыўскага (беларускага) слова»[30]. Нацыяналістычная — гэта адбор паводле міжмоўнае дыферэнцыяцыі, «не так як у суседзяў». Дарэчы, нацыяналістычная стратэгія таксама распачата Ластоўскім і працягнута Я.Станкевічам. Гэта відно ў тым выпадку, калі аўтар «Слоўніка» скардзіцца на расейцаў ды палякаў, «якія аберуч чэрпалі і дагэтуль чэрпаюць з нашай мовы лексічны матэрыял», і прапануе «асіміляваныя» словы замяніць іншымі, яшчэ мала вядомымі, «самаістымі»[31]. Або: «...Трэба... асцярожна ўжываць сходныя з суседскімі словамі, хоць бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў...»[32]. Тут Власт адступаецца ад міфа-паэтычнае логікі, не заўважаючы, што такім чынам ядро мовы можна падмяніць экзатычна-дыялектнаю перыферыяй. Сёння на новых антысавецкіх падставах нацыяналістычная стратэгія працягнута праф. П.Сцяцко, а таксама ў «моўнай ідэалогіі» нефармальных адраджэнскіх груповак. Тэхнакратычны падыход на Беларусі рэалізоўваўся з 30-х гадоў толькі ў камуністычным варыянце, хаця ён вымагае і сучаснага дэідэалагізаванага працягу. Можна адзначыць, што ў 50—60-я гады з'явілася плеяда пісьменнікаў, якія развівалі міфа-паэтычную стратэгію ў яе дыялектным варыянце і гэтым выратавалі мову ад застою. Яскравы прыклад — Рыгор Барадулін, што сканцэнтраваў азначаны рух у назве зборніка «Неруш».

Але вернемся да Ластоўскага.





У аповесці «Лабірынты» ён прыводзіць і адмоўны, па сутнасці, парадыйны выпадак, калі антынацыянальная энергія канцэнтруецца ў слове: чыноўнік-русіфікатар даводзіць, што па-руску трэба пісаць не «Полоцк», а «Полотск», «быццам у гэтым пераменаванні прастарага назову крыўся сам цэнтр «абрусения краю»[33]. У сувязі з усім сказаным становяцца зразумелымі адносіны Ластоўскага да старажытнаславянскае мовы, прынесенай хрысціянствам, і да самога хрысціянства. Падмяніўшы звыклую тутэйшую мову прышлаю, хрысціяне з лёгкасцю расправіліся і са старой культураю[34]. А кожнае новае наслаенне чужаземных слоў усё больш і больш аддаляла культуру беларусаў ад першапачатковае асновы[35]. Дарэчы, цікава параўнаць адносіны Ластоўскага да старажытнаславяншчыны з ідэямі М.Багдановіча. Не ўглыбляючыся ў дэталі і ў істотныя адрозненні светапоглядаў пісьменнікаў, нельга не паказаць іх падабенства. «І доўга, як нікчэмны пясок,— піша Багдановіч пра царкоўнаславянскую мову,—наносным, асобным, маруда зліваючымся слоем ляжала гэтая пісьменнасць на сваім тлустым падглебі — народнай гаворцы,— але зусім не злівацца яны не маглі»[36].

Такім чынам, дзеля мэтаў Адраджэння Ластоўскім задумана і распачата шырокая праграма дзейнасці, якую можна назваць «археалогіяй культуры». Аналагічная праца па адшуканні нацыянальных каранёў, стварэнні неаязыцкай ідэалогіі характэрна на пачатку стагоддзя для многіх дзеячаў культуры і, у значнай ступені, для прадстаўнікоў авангарду. Нельга не прыгадаць захапленне археалогіяй М.Рэрыха і, зноў жа,— «археалогію мовы» В.Хлебнікава[37].

Археалогія становіцца лейтматывам аповесці «Лабірынты». Жанр гэтага твора Я.Лецка вызначае як фантастычны[38], А.Сідарэвіч — як прыгодніцка-гістарычны[39]. У цэлым, не адмаўляючы дадзеных вызначэнняў, лічу патрэбным іх удакладніць: «Лабірынты», у найбольш вузкім і канкрэтным сэнсе, ёсць *нацыянальная ўтопія*. Ужо сама назва адсылае нас да грэцкае, і ўвогуле сусветнае міфалогіі. Лабірынт — гэта палац, а таксама падземнае пахавальна-храмавае збудаванне[40], таму героямі аповесці з'яўляюцца як сучаснікі, так і цені старажытных беларусаў. Гэтую сустрэчу Ластоўскі рэалізуе з дапамогаю мастацкай інтэрпрэтацыі новых навуковых адкрыццяў у галіне радыяцыі і ядзернага распаду. Таксама, як і ў сваіх працах, тут пісьменнік імкнецца адшукаць і паказаць, адбудаваўшы цэласную сістэму, культурныя карані беларусаў. Аналіз сістэмы Ластоўскага, чалавека сапраўды энцыклапедычных ведаў і смелай фантазіі, вымагае спецыяльнае работы міфолага. Таму я адзначу толькі тое, што рэканструкцыя старажытнага светапогляду праводзіцца праз пошук аналогій у іншых сістэмах, а таксама этымалагічным шляхам, праз «археалогію мовы». У адрозненне ад Рэрыха і Хлебнікава, Ластоўскі шукае вытокі не столькі на Усходзе, хаця Індыі і Бліжняга Усходу ён не абмінае, а — на Захадзе, у Грэцыі, Рыме і ў стасунках з гэтымі дзяржавамі.

Адзначым яшчэ адно: не трэба ва ўспрыманні Ластоўскім хрысціянства бачыць толькі адмоўны бок. З тэксту аповесці яскрава відно, што, наадварот, Власт імкнецца прасачыць сутнаснае адзінства розных нацыянальных рэлігій і такім чынам адшукаць у хрысціянстве і спрадвечнай веры беларусаў падабенства. Спроба бесканфліктнага і разумнага запазычання новае веры назіраецца таксама ў вершах:

Вось гэты лад пітомы
разбурыў крыжа знак...
Хай так,
а ўсё ж на попелі
старэтных стодаў,
пад засцю ценяў іх,
у почце грэчаскіх святых
засела Софас,
мяйсцовую сабой
змяняючы Паладу[41].

Адмоўна ўспрымае пісьменнік толькі дэнацыяналізуючыя фактары. У апавяданні «Часы былі трывожныя» — паказвае, што прыход новых, няхай сама міралюбівых ідэалогій, калі ён суправаджаецца канфліктам з мясцовай культураю, так ці інакш прыводзіць да крывавых вынікаў[42].

У сувязі з апошнім нельга не звярнуцца да назвы цудоўных рэчываў з «Лабірынтаў»: гетына, які дае вечнае жыццё ды святло, і крывіна, які дае вечную крыніцу жыцця. «Гетын» і «крывін» утвораны ад старажытных, паводле Ластоўскага, назваў беларусаў: геты, крывічы. Ізноў, як бачым, ключавым словам становіцца «крывіч». Цудадзейныя рэчывы даюць падземным беларусам вечнае жыццё, але, калі іх распаўсюдзіць шырэй, то вечнае жыццё могуць атрымаць усе народы. Назвы рэчываў — аднačасова — назвы і сутнасць саміх беларусаў. Значыць, народы атрымаюць вечнае жыццё тады, калі, следуючы беларусам, звернуцца да ўласнае нацыянальнае сутнасці, зоймуцца самапазнаннем. «Але ёсць народы, як і паасобныя людзі,— чытаем у «Лабірынтах»,— прызначаныя быць не толькі месіямі чалавецтва, але і ягонымі адкупіцелямі. Да гэтакіх належыць народ гетаў з усімі ягонымі галінамі»[43]. Такім чынам, роля беларусаў у сусветнай культуры атрымлівае высокае трагічнае прызначэнне і прыпадабняецца да ролі Хрыста ў гісторыі чалавецтва. Міжволі прыгадваецца заўвага М.Багдановіча пра беларускую літаратуру, якая нясе іншым народам не толькі падрабязнасці невядомага ім жыцця, але і «нацыянальнае пачуццё»: «...Не звінелі, ды і не могуць звінець у расійцаў, напрыклад, яго струны так, як у нашай пісьменнасці»[44].

У выніку мы бачым, што дактрына Ластоўскага не прымітыўна-ізаляцыянісцкая, як некаму хацелася б бачыць, не эгаістычная, а адкрытая дыялогу культур і адзіна магчымая, бо супрацьстаіць нацыянальнай анігіляцыі. Супадзенне думак

Ластоўскага і Багдановіча невыпадковае — яно ўтрымлівае пачатак беларускае гістарасофіі. Народы, якія «спазніліся на свой цягнік», прыходзяць у як быццам гатовы і адбудаваны свет, каб удакладніць ісціну, паказаць, што яна разнастайная і множная.

Такім чынам, утопіі можна класіфікаваць на цэнтрабежныя і цэнтраімкнёныя. Першыя звязаны з імперскім існаваннем народаў і таму імкнуцца распаўсюдзіцца на ўвесь свет, другія — адмежавацца, самавызначыцца. І тыя, і другія выяўляюць супярэчнасці развіцця чалавечага інтэлекту. Прыкладам першых могуць быць М.Рэрых і В.Хлебнікаў, прыкладам другіх — В. Ластоўскі і Я.Драздовіч. Але гэты падзел не абсалютны, а адносны. Важней іншае: як Ластоўскі выносіць нацыянальнае ў Антычнасць, каб там рэалізавацца і спазнаць сябе, таксама Драздовіч выносіць беларускае ў космас. Светы пісьменніка і мастака настолькі духоўна падобныя, што творы аднаго маглі б стаць ілюстрацыямі да твораў другога.

Для рэалізацыі сваіх ідэй Ластоўскаму прыйшлося адмовіцца ад звыклых для тагачаснае беларускае літаратуры формаў. Ужо на папярэдніх прыкладах можна было пераканацца: яго паэзія і проза носяць эксперыментальны характар і генетычна, таксама як і ў Хлебнікава, звязаны з двума абсягамі: 1) старажытнаю кніжнасцю і 2) народнаю творчасцю. Амаль кожны твор Ластоўскага — асобны жанр: тут і традыцыйнае сумналірычнае апавяданне «Лебядзіная песня», і дыдактычна-фантастычнае апавяданне «Прывід», і гумарэска «Сябра з каўбасай», і найразнастайнейшыя перапрацоўкі ці стылізацыі народных легенд, паданняў, казак, баек і інш. У стылізацыі Власт паспяхова мог бы спаборнічаць з М.Багдановічам. Так, у апавяданні «Часы былі трывожныя» ўдала спалучаюцца апавядальнасць, стыль біблейскіх пракаванняў і летапісны стыль. «Прыгоды Панаса і Тараса» — вясёлая авантурная аповесць, зробленая як паслядоўная нізка народных анекдотаў[45].

Вершы Власта — гэта яшчэ адна, зусім не распачатая вершазнаўцамі цаліна. Менавіта ў паэтычных творах знайшло сабе завяршэнне агульнае імкненне пісьменніка да абнаўлення творчых сродкаў. Ужо сёння можна пэўна казаць пра верлібр Ластоўскага як дасюль яшчэ не пераўзыдзеную ў беларускай літаратуры з'яву. Верлібр я разумею не як пэўным чынам арганізаваную змястоўнасць[46] (бо ў такім выпадку гэта быў бы жанр) і нават не як асобную тэхніку верша, форму[47], а як тэндэнцыю формы да асіметрыі. Таму Властаў верлібр — гэта часцей за ўсё неўрэгуляваны метрычны верш з аказіянальнай рыфмоўкаю. Такая тэхніка найчасцей сустракаецца ў В.Хлебнікава. Аналагічнаю з'явай былі вершы французскіх паэтаў канца XIX — пачатку XX стагоддзя, ад якіх і пайшоў сам тэрмін «верлібр»[48]. М.Багдановіч у эсэ «Забыты шлях» гаварыў пра стварэнне нацыянальнае па духу паэзіі[49]. У эсэ не апошняе месца займала праблема вершаванае тэхнікі, адпаведнай беларускай прасодыі. Трэба адзначыць, што вершы Ластоўскага — гэта адзін з варыянтаў удалага вырашэння Багдановічавай задачы.

Новым у вершах Власта быў і лірычны герой. Ягонае «я» толькі зрэдку, у вершах-маніфестах, набліжалася да аўтарскага (напр. «Формаў трупехлых я вораг дасконны» або «Чала я не хіліў прад сілай»)[50]. Часцей за ўсё гэта абагульненае «я» народа, тое схаванае «мы», якое сустракаецца ў некаторых футурыстаў[51]. І ў той жа час абагульнены лірычны герой Ластоўскага, у параўнанні з Купалавым, менш прывязаны да канкрэтна-гістарычных абставінаў, больш свабодна перамяшчаецца ў гісторыі. Шмат у чым тут ужо можна разгледзець метафізічнае «я» А.Разанава. Некаторымі гістарычнымі прытчамі (напрыклад, «У час аблогі»)[52] Власт прадугадаў і разанаўскія версэты.

На заканчэнне, помнячы пра магутных духам герояў Ластоўскага, пра яго неаязыцкія матывы, нельга не ўспомніць яшчэ аднаго неаязычніка — Фрыдрыха Ніцшэ. Магчыма, звышчалавек Ніцшэ і крыўскія волаты-велеты з гістарычных і мастацкіх твораў Власта — гэта адзін і той жа герой: герой свайго часу, пачатку XX стагоддзя. Яшчэ ўсё толькі пачыналася, і ніхто не мог прадбачыць, чым яно скончыцца.

Юрась ПАЦЮПА

---

[1] Власт (Ластоўскі В.). Творы. Мюнхен, 1956. С.6.

[2] Адамовіч Ант. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша» // Шляхам гадоў: Гіст.-літ. зб. Мн., 1993. С.163.

[3] Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т.2. Мн., 1993. С.191.

[4] Дзень паэзіі—89. Мн., 1989. С.229.

[5] Верашчака Ю. (Ластоўскі В.) Сплачывайце доўг // Наша Ніва. 1913. 5 ліпеня.

[6] Багдановіч М. Поўны збор твораў. Т.2. Мн., 1993. С.199.

[7] Гл.: Александровіч С.Х., Александровіч В.С. Беларуская літаратура XIX—пачатку XX ст. Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мн., 1978. С.125—133.

[8] Поляков М.Я. Велимир Хлебников. Мировоззрение и поэтика // Хлебников В. Творения. М., 1986. С.6—8.

[9] Тамсама, с.9.

[10] Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С.1.

[11] Гл.: Потебня А.А. Теоретическая поэтика. М., 1990.

[12] Паперно И. О природе поэтического слова: Богословские источники спора Мандельштама с символизмом // Литературное обозрение. 1991. N 16. С.29.

[13] Тамсама, с.30; Флоренский П.А. О литературе // Вопросы литературы. 1988. N 1. С.146—176; Лосев А.Ф. Философия имени. М., 1990.

[14] Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С.1.

[15] Тамсама, с.IV.

[16] Гл.: Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С.831; Пар. з наступным: «Даль горача пратэставаў супраць адрыва кніжна-пісьмовае мовы ад народнае асновы, засмечання яе «чужасловамі». Уводзячы ў слоўнік абласное прастамоўе, Даль абгрунтоўваў словатворчасць. «Не толькі слоўнік Даля, але й яго тэорыя адна з найважнейшых крыніц моўнае рэформы Хлебнікава» (Поляков М.Я. Велимир Хлебников. С.20.).

[17] Чырвоная змена. 1992. 12—18 кастрычніка.

[18] Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С.1.





[19] Тамсама, с.684.

[20] Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т.3. Мн., 1985. С.30.

[21] Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 7. Мн., 1986. С.54; 32.

(22) Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С.Х.

[23] Верашчака Ю. (Ластоўскі В.). Аб найменнях — «гуды» —«крывічы» — «русь»: Гісторыка-крытычны нарыс // Спадчына. 1991. N 1. С.89—90.

[24] Тамсама, с.90.

[25] Факсімільнае перавыданне было адзначана, калі не памыляюся, адною вялікаю рэцэнзіяй, і то не прафесіянала. Гл.: Юрага Л. Скарбніца нашай мовы // Полымя. 1992. N 5. С.152—254.

[26] Станкевіч Я. Гісторыя беларускага языка. Вільня, 1939. С.13.

[27] Разанаў А. У горадзе валадарыць Рагвалод: Вершаказы і пункціры. Мн., 1992.

[28] Рагойша В.П. Паэтычны слоўнік. Мн., 1982. С.57—58.

[29] Разанаў А. Нататкі з нічыйнай зямлі // Культура. 1993. 17 мая.

[30] Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. с.VI.

[31] Тамсама, с.VI.

[32] Тамсама, с.V.

[33] Власт (Ластоўскі В.). Творы. С.76—77.

[34] Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С.I—II.

[35] Тамсама, с.III.

[36] Багдановіч М. Поўны збор твораў. Т.2. С.201.

[37] Гл.: Гунн Г. Очарованная Русь. М., 1990. С.227.

[38] Лецка Я. Валадар слова і духу // Маладосць. 1991. N 1. С.87.

[39] Сідарэвіч А. [Прадмова да вершаў В.Ластоўскага] // Дзень паэзіі—89. С.227.

[40] Гл.: Мифологический словарь. М., 1990. С.303; Немировский А.И. Мифы Древней Эллады. М., 1992. С.228.

[41] Дзень паэзіі—89. С.229.

[42] Власт (Ластоўскі В.). Творы. С.25—28.

[43] Тамсама, с.24.

[44] Багдановіч М. Поўны збор твораў. Т.2. С.229.

[45] Гл.: Власт (Ластоўскі В.). Творы.

[46] Кабаковіч А.К. Беларускі свабодны верш. Мн., 1984. С.41—42.

[47] Овчаренко О.А. Русский свободный стих. М., 1984. С.35—43.

[48] Гл.: Тамсама, с.8—11; Кабаковіч А.К. Беларускі свабодны верш. С.23—24; Квятковский А. Поэтический словарь. М., 1986. С.75.

[49] Багдановіч М. Поўны збор твораў. Т.2, С.286—293.

[50] Дзень паэзіі—89. С.227; 229.

[51] Поляков М.Я. Велимир Хлебников. С.24.

[52] Дзень паэзии—89. С.228.

# ВАЛХВЕЦ БЕЛАРУСКАГА ФУНДАМЕНТАЛІЗМУ

Летась на юбілейнай навуковай канферэнцыі «Вацлаў Ластоўскі — выдатны дзеяч беларускага Адраджэння» (Полацк, 26—29 кастрычніка 1993 г.) канцэпцыя самабытнага беларускага фундаменталізму, да якога, на мой погляд, схіляўся гэты лідэр радыкальна-нацыянальнай плыні «нашаніўскага» адраджэння, хоць і не выклікала палемікі (верагодна, таму, што не было магчымасці яе абмеркаваць), аднак і не была ўспрынята некаторымі даследчыкамі ў тым пазітыўным сэнсе, у якім яна мною прапаноўвалася.

Маючы на ўвазе, што ўсе аналогіі ўмоўныя, ёсць падставы казаць: у асобе Вацлава Ластоўскага маем пачынальніка, а можа, завяршальніка замешанага на крывіцкай ідэі беларускага фундаменталізму як пэўнай сістэмы ідэй і каштоўнасцяў. Гэты тып светапогляду выявіўся ў ідэалізацыі, нават апалагетыцы старадаўняга крывіцка-беларускага паганства, у крытыцы хрысціянскага універсалізму і касмапалітызму, у інтэнсіўнай нацыянальнай міфатворчасці, урэшце, у фундаменталісцкай канцэпцыі беларускай гісторыі і культуры, паводле якой Беларусь, альбо Крывія, пачалася ў дахрысціянскія вякі як вялікая дзяржава, што ахоплівала цэнтральны арэал усходнеславянскага рассялення і летапісную Літву. Прыкметы фундаменталізму ёсць у стылістыцы і лексіцы В.Ластоўскага — пісьменніка, даследчыка і публіцыста. Свой нарыс беларускай гісторыі ён пачынае з тэзы: «Гісторыя — гэта фундамент, на каторым будуецца жыццё народа. І нам, каб адбудаваць сваё жыццё, трэба пачынаць з фундаменту, каб будынак быў моцны»[1]. Стыль ягонай публіцыстыкі — не рацыяналістычны, не халодны, нават не проста цёплы, хутчэй — гарачы, сардэчна-ўзрушаны, прамоўніцкі, мітынговы. Паняцце духоўнага фундаменту — ключавое слова ў ягоных зваротах да народа. «Браты-беларусы!— звяртаўся ён да чытачоў «Нашай Нівы».— Будуйце сваю будучыню на крэпкім народным фундаменце! Няхай нашы сыны, каторыя здабываюць навуку па гарадох, не перакідваюцца на чужынцаў, а памагаюць нам развіваць нашу культуру, нашу мову...»[2].

Можна думаць, што спалучэнне рамантычнага традыцыяналізму і прыкметаў футурыстычнага мадэрнізму ў палітыцы, навуковай і літаратурнай творчасці В.Ластоўскага інспіравана ідэяй беларускага вызвольнага фундаменталізму. Але тут узнікае пытанне: ці быў гэта ўсяго толькі «фенамен Ластоўскага»? А можа, за ім была пэўная гістарычная экзістэнцыя і літаратурна-філасофская традыцыя, упершыню моцна акцэнтаваная гэтым «нашаніўскім» адраджэнцам у крытычны момант нацыянальнай гісторыі? Вядома, што геапалітычнай «воссю» фундаменталізму Ластоўскага, яго пафасам была ідэя Вялікай Крыўскай (Беларускай) Дзяржавы. Старадаўнім увасабленнем такой ідэі, яе жывым архетыпам быў полацкі князь Усяслаў Чарадзей (валадарыў у 1044—1101 гг.). Гэта ён збудаваў моцную полацка-крывіцкую дзяржаву, здольную пасправацца з Кіеўскай Руссю. Гэта ён хацеў аб'яднаць пратабеларускія славянскія землі, падпарадкаваць летапісную Літву, прабіцца па Заходняй Дзвіне да Балтыйскага мора, а па Дняпры і Прыпяці — да Чорнага мора і гэтакім чынам яшчэ ў XI стагоддзі вывесці Крывію-Беларусь на еўрапейскую і еўраазіяцкую геапалітычную і культурную прастору.

У міжнародных стасунках, часта казаў В.Ластоўскі, любяць і паважаюць моцных ды багатых, а бедных ды слабых не помняць і пазбягаюць — у лепшым выпадку. А ў горшым выпадку іх заваёўваюць ды ўключаюць у сваю палітычную ды культурную

прастору. Беларусь спасцігла горкую праўду геапалітыкі на сваім уласным лёсе. Яе старадаўні герой Усяслаў — правобраз гэтай драмы і адначасна — выклік багам, адвечнаму кону. Ён не хацеў уступаць пяршынства іншым народам і дзяржавам:

Всеславъ князь людемъ судяше,
князем грады рядяше,
а сам в ночь влькомъ рыскаше:
изъ Кыева дорыскаше
до куръ Тмутороканя,
великому Хрьсови влькомъ
путь прерыскаше.
Тому в Полотьске позвониша
заутренюю рано
у святыя Софеи въ колоколы,
а онъ въ Кыеве звонъ слыша.

Аўтар «Слова пра паход Ігаравы» распаведаў і пра апошні, трагічны акт полацка-крывіцкай гістарычнай драмы: у канцы XII ст. праўнук Усяслава князь полацкі Ізяслаў, сын Васількаў, пацярпеў няўдачу ў бітве на рацэ Суле, недзе на далінах сягодняшняй Стаўбцоўшчыны, сутыкнуўшыся з літоўскімі аўтахтонамі-язычнікамі. Старадаўні паэт яскрава намаляваў гэты пераломны момант у гісторыі Беларусі: «Уже бо Сула не течетъ сребреными струями <...> и Двина болотомъ течетъ онымъ грознымъ полочанамъ под кликомъ поганыхъ».

Полацкія крывічы мелі гістарычны шанец стварыць магутную дзяржаву. Але ў другой палове XII ст., аслабленая ўдзельным драбленнем і ваеннай канкурэнцыяй з Кіеўскім княствам, Полаччына страціла кантроль над Літвой, якая вялікім трохкутнікам у верхнім басейне Нёмана дзяліла Беларусь на паўночна-ўсходнюю і паўднёва-заходнюю часткі і намагалася стварыць сваю адметную дзяржаву. Завяршаўся полацкі перыяд нашай гісторыі. Апошні акт яе таксама вымаляваў аўтар «Слова». Але гэтая драма лепш перадаецца ў музыкальна-паэтычным творы М.Багдановіча на словы паэмы: яе эпічны эпізод набыў у аўтара «Вянка» самастойнае жыццё асабіста перажытай драмы. Эпічная малюнкавасць старадаўняга песняра перайшла ў элегічны марш адчайнай ваяцкай атакі з трагічным фіналам: «Ізяслаў-князь, сын Васількаў, Даўнымі часамі Аб літоўскія шаломы Пазваніў мячамі: Адняў славу ў свайго Дзеда, у Усяслава, І ўлёгся нерухома На траве крывавай... Ураніў самотна з цела Ён душу ўдалую Цераз пацерку на шыі, Цераз залатую. Засмуцілася вясёласць, Песні замаўкаюць, І жалобна, сумна трубы У Гародні граюць»[3].

Аб'яднаць старадаўнюю Беларусь, далучыць да яе верхнянёманскую летапісную Літву, вызваліць ад мангольскай навалы Украіну, далучыць Жамойць, іншыя землі Прыбалтыкі ўдалося пазней, у наваградска-віленскі перыяд беларускай гісторыі (XIII—XVI стст.). Цікава паглядзець на карту Усходняй Еўропы эпохі Альгерда і Вітаўта: паміж адносна невялікімі Каралеўствам Польскім і Княствам Маскоўскім шырока раскінула крыллі Вялікае Княства Літоўскае — паводле слоў Ф.Багушэвіча (яшчэ аднаго папярэдніка фундаменталіста Ластоўскага!), «ад Балтыцкага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днястра ракі да Нёмана; ад Каменьца места аж да Вязьмы ў сярэдзіне Вялікоросіі; ад Дынабурга і за Крамяньчуг; а ў сярэдзіне, як тое зярно ў гарэху, была наша зямліца — Беларусь!»[4]. Дарэчы, пра гэта добра ведаў гісторык В.Ластоўскі, хоць да канца не разабраўся з міфамі пра «літоўскае заваяванне» Беларусі. Інтуіцыя мастака-пісьменніка не ашукала яго: у Ластоўскага ёсць цікавыя здагадкі пра полацкае паходжанне літоўскіх князёў і ролю крывічоў у стварэнні Вялікага Княства з цэнтрамі ў Навагрудку і Вільні.

У геапалітыцы вытокі беларускага фундаменталізму можна ўгледзець у смелым праекце Льва Сапегі і Мікалая Радзівіла па прозвішчы Пярун. Дальнабачныя палітыкі, яны разумелі, што Люблінская унія 1569 года ў перспектыве перадасць дзяржаўную і нацыянальна-культурную ініцыятыву Польшчы. Вось чаму ў часы дынастычных крызісаў (смерць бяздзетнага караля і вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста ў 1572 г., нечаканая смерць Стэфана Баторыя ў 1586 г.) яны прапанавалі смелы геапалітычны план: выбраць намінальным каралём Рэчы Паспалітай сына Івана IV слабахарактарнага маскоўскага цара Фёдара. Калі б такі палітычны манеўр (ход канём супраць польскага караля!) удаўся, то не Масква і Варшава-Кракаў, а Вялікае Княства Літоўскае (Вільня-Навагрудак-Полацк) стала б палітычным і культурным цэнтрам самай вялікай у тагачаснай Еўропе славяна-балтыйскай канфедэрацыі.

Аднак на вальным сейме перамагла польская партыя Замойскіх: каралём і вялікім князем выбраны прадстаўнік шведскай лініі Ягелонаў Жыгімонт III Ваза. Пры ягоным сыне Яне Казіміры (1648—1668) адбыліся катастрафічныя для дзяржавы шведская і маскоўская інтэрвенцыі, вядомыя па апакаліптычнай назве «Патоп». Яе вынік — дэмаграфічны крызіс. Пазней Паўночная вайна і шляхецкая анархія прывялі да падзелу Рэчы Паспалітай у 1772—1795 гг. і знікнення з карты Еўропы беларуска-літоўскай дзяржавы.

Наш першы нацыянальны гісторык, не маючы афіцыйнай адукацыі, здолеў шмат чаго «адгадаць» у нашай гісторыі, дзякуючы інтуіцыі і прарочаму дару. Відаць, не выпадкова ён пахвальваў крывіцкіх вешчуноў у шматлікіх навукова-публіцыстычных нататках. І спадзяваўся, што беларусы дадуць свету сваіх прарокаў: «Выходзьце ж,— заклікаў ён,— сяўцы мыслі, уставайце прарокі! Хай наша старая слава народа-вешчуна ўтрымаецца за намі ў новай форме!»[5].

Свой ковенскі часопіс В.Ластоўскі назваў «Крывіч» (1923—1927), прысвяціўшы яго рэканструкцыі фундаментальных каштоўнасцяў народа — ягонай гісторыі, мовы, міфалогіі, фальклору, аўтэнтычных абрадаў і звычаяў, урэшце, ягонага старадаўняга наймення — крывічы. У «крывічанскіх» развагах і медытацыях Ластоўскага часам нялёгка аддзяліць пісьменніцкія вобразы-асацыяцыі ад навуковых знаходак. Крывічы, пісаў ён, прыйшлі на сваю зямлю абяцаную з-за Дунаю разам з дакамі, або гетамі, пасля заваявання Дакіі рымскім імператарам Траянам у 100 г. н.э. «І няма ніводнага народу,— казаў ён,— які б на працягу сваёй гісторыі заўсёды насіў адно і тое ж імя <...>. Цяперашнія «беларусы» займаюць тэрыторыю даўнейшых крывічоў і з'яўляюцца іх патомкамі і наследнікамі»[6].

Ёсць у яго свая філасофія гісторыі, і нават актуальная для нашай цяперашняй дзяржаўнай адбудовы. Гутарка ідзе пра адметнасць нацыянальнай ідэі народа і яго жывое адчуванне свайго месца ў свеце. Вось галоўныя думкі пісьменніка: «Дзяржавы ўтвараюць толькі народы з ярка выражанымі індывідуальнымі рысамі або ярка акрэсленымі імкненнямі. Для ўтварэння дзяржавы народу трэба мець пачуццё свайго гістарычнага пасланніцтва, будзь то ў постаці пашырэння якога веравызнання, якой агульналюдской нацыянальнай ідэі <...>. Выканаўшы сваю гістарычную місію, дзяржава, калі не стаўляе сабе іншай гістарычнай місіі, пачынае мала па малу занепадаць і зыходзіць з гістарычнай арэны».

Якая ж місія наканавана беларусам? У іх, на думку Ластоўскага, няма сваёй нацыянальнай рэлігіі і, што горш, «няма волі знайсці сабе рэлігійную індывідуальнасць». Не ўдалася ім ні нацыяналізацыя праваслаўя, ні унія, насаджаная чужымі рукамі. Мова наша валодае «сваімі асобнымі рысамі і характарам», але яе патрэбна яшчэ адрадзіць і ачысціць ад чужацкіх напластаванняў. Асновай нашай нацыянальнай індывідуальнасці і сведкай нашага гістарычнага прызвання з'яўляюцца гістарычныя традыцыі і традыцыйная народная культура. Не меншае значэнне, на думку Ластоўскага, мае імя народа, бо яно — вынік ягонага гістарычнага лёсу. Літва — толькі частка нашай гісторыі і культуры; беларусы — пераходная ступень, частка «рускага» кангламерата. «Адзінае імя крывічы абыймае ўсе галіны нашага племені, і яно даволі выразна аццяняе нашую індывідуальнасць у гістарычнай мінуўшчыне».

Што ж датычыцца нашай гістарычнай місіі, то яна, на думку Ластоўскага,— у дэцэнтралізацыі сацыяльна-палітычных структур і ў стварэнні новага тыпу дэмакратыі — народапраўства: яны «дадуць новыя цэннасці, нясучы вызваленне чалавецтву, якое задыхаецца ў путах стадна-цэнтралізаванага абсалютызму таксама ў дэмакратычных, як у манархічных і сацыялістычных сучасных дзяржавах».

І ў рэшце рэшт: «Мы павінны знайсці саміх сябе ў кожнай дзедзіне духоўнай і матэрыяльнай творчасці, у сацыяльным укладзе, у рэлігіі і мастацтве. І на гэтыя шуканні прабіў ужо вялікі час»[7].

Сваё творчае жніво В.Ластоўскі здабыў у 1923—1926 гг.: апрача унікальнага «Крывіча», ён падарыў роднай культуры фундаментальныя творы — «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (1924) і «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» (1926). Фундаменталісцкая Крывія і тут застаецца ключавым паняццем. Яна засталася запаветам беларускага вешчуна-прарока: «Крывія, Русь, Літва — патройны вузел, трохпаверхі лабірынт, у якім блудзіла і дагэтуль блудзіць нашае нацыянальнае «я», наша зборная душа. У меру таго, як пачынае гаснуць і заміраць прастары вечавы ўклад грамадзянскага жыцця, адыходзіць удаль, але не замірае імя Крывія, Крывічы. У сферы культурна-рэлігійнага нашага жыцця ўмацоўваецца імя Русь, а ў сферы дзяржаўнага — Літва, Русь-Літва. І недзе ў мінуўшчыне, а такжа глыбока ў народнай свядомасці жыве і пакутуе, чакаючы дня свайго ўваскрашэння, напаўмістычнае імя Крывія, якому прызвана ў жыцці народу замкнуць круг гісторыі, быць ачышчаючым агнём, магічным дарожным знакам, гаючай і жывучай вадой Адраджэння Народу»[8].

Крыху раней на гэтую тэму пісьменнік стварыў фантастычную аповесць «Лабірынты» — унікальную ў нашай літаратуры рэч, дзе спалучаецца навука з легендай і творацца міфалагічныя архетыпы нацыянальнай гісторыі і культуры.

Папулярны аспект філасофіі гісторыі і культуры яскрава выявіўся ў культурна-асветніцкай публіцыстыцы В.Ластоўскага. На старонках «Нашай Нівы» папулярызаваў рамантычныя міфы пра волатаў — пачынальнікаў беларускага радаводу. Кампазіцыйным узорам легенды пра паходжанне крывічоў маглі паслужыць вядомая гісторыя біблейскіх патрыярхаў і новазапаветны радавод Ісуса Хрыста. Міфалагічным архетыпам гэтай прыгожай «волатаўскай прагісторыі» Беларусі, відаць, быў вядомы сюжэт з Бібліі (Быццё, 6; 1—5), а крыніцай яе — запісаная Е.Раманавым народная гутарка «Бай»[9].

Трагічны аспект гэтага мастацкага міфа пра паходжанне беларусаў лёг у аснову легенды Власта «Сож і Дняпро». У ёй распавядаецца, як адзін з пачынальнікаў беларускага роду, стары валадар Рыдан, як той біблейскі Іоў, на ўвесь свет праславіў сваю пушчанскую краіну незлічоным багаццем. Суседнія валадары зайздросцілі Рыдану і ўкралі яго залатую карону, што ззяла, як сонца. У пагоню адправіліся яго сыны Дняпро і Сож. Але яны не маглі прабіцца праз пушчы і валуны. Стары чакаў-чакаў ды пачаў наракаць на сыноў: «Бадай нам, дзеткі, слязмі разліцца!» Так і сталася — усе трое разліліся рэкамі. «З таго часу, — кажа аўтар,— усе сілы ляснога краю плывуць у чужое мора і там прападаюць»[10].

Але пісьменнік верыў у адраджэнне роднага краю. Сімвалам гэтых адраджэнскіх спадзяванняў для яго, як для Янкі Купалы ды іншых пісьменнікаў-нашаніўцаў, былі нараджэнне, пакуты і ўваскрасенне Ісуса Хрыста. Боскі Выратавальнік, неаднойчы пісаў Ластоўскі, прыйшоў у свет, каб духоўна адрадзіць пакрыўджаныя народы, выратаваць людзей простых і бедных. Звяртаючыся да Бацькаўшчыны, ён узнёсла гаварыў: «І для цябе, мой родны краю, засвяціла зара адраджэння, як калісь над убогай будкай у Галілеі. І святло гэтай зоркі ўбачылі вочы прастацкія <...>. Няхай ворагі твае збіраюцца і радзяць, няхай пасылаюць слуг сваіх забіваць новародкаў: твая простая мова будзе несці вясёлую навіну пад убогія саламяныя стрэхі, класці надзею ў сэрцы людзей простых, але добрае волі»[11].

У аснове унікальнасці і духоўнай каштоўнасці быцця і культуры кожнага народу, яго творчай геніяльнасці, на думку Ластоўскага, ляжыць паняцце нацыянальнага стылю — універсальнай катэгорыі ў эстэтыцы гэтага пісьменніка. «Стыль,—пісаў ён,— гэта душа народа. Стыльнасць — адбіццё нашай душы на нашых творах <...>. Больш здольны чалавек умее арыгінальней, значыць, больш па-свойму выявіць свой духоўны твар і астаецца надоўга ў памяці тых, хто яго акружае»[12]. Адсюль В.Ластоўскі рабіў выснову пра неабходнасць захоўваць і развіваць усе праявы «беларускай асобнасці», арыгінальнасці, дзе б яна ні су-

стракалася — у арнаментах, народных кроях, песнях, у мове, паэзіі, мастацтве.

Паняцце нацыянальнага стылю ён не абмяжоўваў мастацтвам, бачыў у гэтай катэгорыі выяўленне ўсіх сфераў народнага жыцця, у тым ліку штодзённага побыту. В.Ластоўскі, мабыць, найбольш дакладна сфармуляваў беларускую адраджэнскую дыялектыку гарманічнага адзінства чалавечай асобы і народа, грамадзяніна і нацыі: «Найбольш сілы мае той народ,— пісаў ён,— каторы патрапіў усіх сваіх членаў злучыць у адно, дзе ўсе думаюць і пачуваюць як адзін чалавек, а кожны — так, як усе; аднак — такую гарманічную цэласць, што аддзельныя асобы могуць найшырэй выявіць усе свае асобеннасці, усю арыгінальнасць сваёй творчасці». Вядомыя ў гісторыі захопніцкія войны, іншыя метады экспансіі ёсць, па сутнасці, агрэсіўнае пашырэнне стылю жыцця адной нацыі на быццё і культуру іншых плямёнаў, народаў і нацыяў. У даўнія часіны мацнейшыя дзяржавы з гэтаю мэтай вынішчалі слабейшых. Цяпер жа яны імкнуцца дэнацыяналізаваць іх, уніфіцыраваць паводле свайго стылю і ладу жыцця, свае мовы і культуры. Нацыянальна-адраджэнскі рух ёсць барацьба за духоўнае выжыванне народаў, якія сталі ахвярай гэтай імперскай палітыкі[13].

Фундаментам самабытнага нацыянальнага стылю ў быцці і культуры ёсць, на думку Ластоўскага, аўтэнтычная народная творчасць — мова, фальклор, традыцыйныя абрады і святы. У «Нашай Ніве», пазней у газеце «Гоман» і часопісе «Крывіч» ён шмат папрацаваў для прапаганды этнічнай культуры і сам часта пісаў на гэтую тэму. У купальскіх абрадах і песнях убачыў сімвал беларускай самабытнасці і нябесны знак, які падае надзею на здзяйсненне адраджэнскіх ідэалаў. Купалле — гэта як апафеоз творчай стыхіі народа, містэрыя яго паэзіі і эстэтыкі. «Дзеля гэтага,— пісаў Ластоўскі,— святкаванне Купалы нам, беларусам, трэба берагчы і, святкуючы, трымацца ўсіх устаноўленых вякамі абычаяў <...>. Свята Купалы павінна быць у нас святам паэзіі, звязкам нашым з прадзедамі і прашчурамі нашымі <...>. Няхай Купалле станецца нацыянальным беларускім святам: яно служыць вечнай памяткай, што свет-сонейка заўсёды перасільвае цемру ночы, і ў гэтым мы будзем чэрпаць веру, што ўсё светлае, добрае, справядлівае зваюе адвечнае зло і нядолю, якія пануюць на зямлі, і дасць змогу жыць і развівацца ўсяму жывому...»[14].

В.Ластоўскі разгледзеў у купальскіх абрадах беларускі аналаг алімпійскім гульням старадаўняй Грэцыі. «Беларусь,—казаў ён,— па прыродзе сваёй пясьняр-паэт. Просты народ наш расказвае тысячы дзіўных казак, каторымі адрывае думкі свае ад цяжкага жыцця і пераносіцца ў хмары, будуе сабе дзіўныя залатыя і сярэбраныя палацы <...>. Любіць ён усё чароўнае, светлае, сільнае, і гэты яго характар, як нельга лепей, выяўляецца ў святкаванні Купалля»[15]. У купальскіх і калядных абрадах пісьменніку бачыўся глыбінны пачатак нацыянальнага тэатра і беларускай оперы, у пэўным сэнсе адэкватных дыянісійскім і арфічным святам Старажытнай Грэцыі. Раскрыўшы міфалагічныя архетыпы беларускіх калядных гульняў (нарыс «Каляды»), ён зазначыў: «Шчаслівы той чалавек, каторы вясёлы,— сказаў адзін мудрэц. А нашы дзяды-прадзеды ўмелі быць вясёлымі, умелі цешыцца з жыцця! І вось, як падумаеш, колькі на гэтыя святкі было даўней гоману, смеху, вясёласці, шкада робіцца, што ўбыло ў нас цяпер шчасця»[16].

Відавочна, што В.Ластоўскі прадстаўляў аптымістычны, дыянісійскі, «вясёлы» аспект сялянскага традыцыяналізму ў культуры і добра ўпісваўся ў кантэкст нашаніўскага адраджанізму, дзе мірна ўжываліся нацыянальны фундаменталізм, сялянскі сацыялізм і прагрэсіцкі ліберальны дэмакратызм. Ёсць нешта ад сялянскага фундаменталізму нават у «Першым чытанні для дзетак беларусаў» (1906) Элаізы Пашкевіч (Цёткі): маю на ўвазе эстэтызацыю вясковага побыту. У Ф.Багушэвіча гэты эстэтычны фундаменталізм яшчэ дапоўніўся гратэскавымі малюнкамі гандлёва-спекуляцыйнага капіталізму, падобнага на наш цяперашні. Успомнім яго верш «Немец»: «Не люблю я места (па расейску — горад), Надта там цяснота і вялікі сморад...» Даследчыкі звярнулі ўвагу на «славяна-крывіцкую» намінацыю нашай мовы ў Яна Чачота[17].

Аднак жа гэтыя аналогіі амаль не закранаюць субстанцыянальнага зместу творчасці В.Ластоўскага, асабліва ў выпадку з Янам Чачотам: Ян Чачот — паэт-этнограф,ягоная ўвага да крывіцкай мовы — пераважна рэтраспектыўная. В.Ластоўскі — не толькі даследчык гісторыі, мовы і культуры беларусаў: ён яшчэ — валхвец і прарок іх будучага нацыянальнага адраджэння. У пэўным сэнсе ён сапраўды — «футурыст», які ўглядаецца ў мінуўшчыну, каб прадбачыць і праектаваць будучыню сваёй нацыі. Яго лексікаграфічныя адкрыцці, што семдзесят гадоў замоўчваліся «акадэмічнай» навукай на бацькаўшчыне і не зразуметы замежнымі рэцэнзентамі-беларусістамі,— гэта шчодры дар даследчыка і паэта, не толькі адкрывальніка мовы, але і яе стваральніка (бо мову ствараюць народы і паэты). Дар, разлічаны на «духоўны вырост» нацыі.

**Уладзімір КОНАН**

---

[1]Власт. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910. С.5.
[2]В.Л. У латышоў // Наша Ніва. 1912. 13 (28) верасня.
[3]Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т.1. Мн., 1992. С. 236.
[4]Багушэвіч Ф. Творы: Вершы, паэмы, апавяданні, артыкулы, лісты. Мн., 1991. С. 17.
[5]Наша Ніва. 1913. 19 ліпеня.
[6]Верашчака Юры. Аб найменнях «гуды», «крывічы», «Русь» // Крывіч. 1923. N 1. С. 17; 22.
[7]Верашчака Юры. Што спрыяе разросту і ўпадку народаў і дзяржаў // Крывіч. 1926. N 1. С. 84—87.
[8]Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. С. 138.
[9]Верашчака Ю. Беларускі радавод // Наша Ніва. 1913. 20 красавіка.
[10]Власт. Сож і Дняпро // Наша Ніва. 1911. 13 студзеня.
[11]Власт. Хрыстос нарадзіўся // Наша Ніва. 1911. 22 снежня.
[12]Власт. Аб патрэбе стылю ў жыцці народа // Наша Ніва. 1911. 10 кастрычніка.
[13]Тамсама.
[14]Власт. Купалле // Наша Ніва. 1911. 1 ліпеня.
[15]Власт. Купалле // Наша Ніва. 1912. 31 мая.
[16]Власт. Каляды // Наша Ніва. 1914. 25 снежня.
[17]Чачот Ян. Навагрудскі замак: Творы. Мн., 1989. С. 178—189.



# Барыс ПЯТРОВІЧ

МЫ



# НЕБА ПАД НАГАМІ І ВАКОЛ

*Апавед*

# ПЛАНІДАМАНАДА

*Накід апаведу*

# НЕБА ПАД НАГАМІ І ВАКОЛ

*Аповед*

Калі я расчыніў вакно і выйшаў, было далёка за поўнач. Глыбока ўнізе ліхтары гарэлі праз адзін. Плямы святла на зямлі вакол іх не зліваліся між сабою як звычайна. І вуліца падалася мне падобнаю не да ракі, высокім берагам якое я іду, а да чародкі круглатварых сажалак. Жоўтым ланцужком цягнуліся яны да недалёкае ўскраіны горада, і чым далей, тым драбней і ясней вылучаліся ў цемры. Нібы купкі залатое лотаці сярод цёмнае балотнае вады... Я спыніўся. Апошняе параўнанне мне спадабалася. І я захацеў яго аспрэчыць. Але пры ўсёй умоўнасці і штучнасці была ў ім нейкая шчымлівая дакладнасць. Я бачыў гэта. І душу агортвала салодкае пачуццё прыгажосці, якое так рэдка даводзіцца перажываць удзень, у тлумным, мітуслівым горадзе.

Звечара неба зацягнулі шэрыя нізкія хмары, і цяпер накрапваў лёгкі дожджык. Зрэшты, гэтак — накрапваў — сказаў бы нехта на зямлі. Ветру не было. І тут, на вышыні, здавалася, што дробненькія кропелькі вады не падаюць, а проста вісяць у паветры. Быццам ішоў я ў воблаку, у якім нараджаецца дождж... Маё любімае надвор'е: цемра, ціша, вільгаць. Хочацца скурчыцца, каб канчаткова аднавіць адчуванні, перажытыя яшчэ да нараджэння...

Звычайна ў такія ночы я дазваляю сабе маленькую слабасць: выходжу гуляць голы. Зусім голы. І калі вяртаюся дамоў, да вакна сваёй кватэры на сёмым паверсе дзевяціпавярхоўкі, сухімі застаюцца толькі ступні ног. Але сёння надзеў я старэнькі спартыўны касцюм. Была дзеля таго нагода: вось ужо другі тыдзень запар у доме насупраць амаль да раніцы свяцілася адно вакно на восьмым паверсе. І штовечар мне карцела падысці да яго і, насуперак сваёй звычцы, альбо ўсталяванаму правілу, зазірнуць у пакой і даведацца — што там, хто там? Дзіўная часам находзіць цікаўнасць, змагацца з якою, урэшце, нестае сілы. Учора і заўчора я праходзіў зусім блізка ад вакна, але стрымаў сябе. Уяўленне намалявала дзесятак розных версій і здагадак пра мажлівае заваконнае жыццё. Ад банальных: там маці схілілася над ложкам з хворым дзіцем, да звышэратычных: маладыя ніяк не нацешацца адно адным...

І вось сёння я наважыўся зрабіць тое, чаго ніколі не дазваляў сабе падчас вандровак: зазірнуць у чужое вакно, у чужое жыццё. Чаму я так доўга вагаўся? Я не хацеў пераступаць мяжу паміж, хай і ўмоўна, «забароненым» і «дазволеным». Мне здавалася, гэта будзе раўназначным страце нявіннасці, цнатлівасці. Я разумеў: варта аднойчы здрадзіць свайму прынцыпу — і потым увойдзе гэта ў звычку. Цяжка толькі ў першы раз украсці, альбо змяніць, альбо легчы ў ложак з чужой жанчынаю... У другі раз ужо не страшна, а пасля трэцяга — смешнымі пададуцца ранейшыя сумлівы. Да таго ж, я не хацеў, каб з часам мае прагулкі ператварыліся ў сядзенне ля чыйгосьці вакна і глядзенне бясконцай «мыльнай оперы». Безумоўна, цікавай, з жывымі акторамі, але... Я запаволіў крокі. Я падумаў: а ці не лепш мне вярнуцца дамоў, покуль не позна? Але адзінокае вакно вабіла мяне, цягнула да сябе з непераадольнай сілаю. І розум вырашыў саступіць інтуіцыі. Саступае слабейшы? Можа, і так...

Да вакна заставаўся дзесятак крокаў. Я ішоў на вышыні сёмага паверху. Вакно было на восьмым. І я пачаў паціху падымацца да яго. Касцюм прамок ужо наскрозь і брыдка-халодна ліпнуў да цела. Я нават пашкадаваў, што надзеў яго. Тут мне не было чаго і каго саромецца, ён быў непатрэбны і толькі ствараў дадатковыя нязручнасці.





Падымаўся я асцярожна. Я баяўся не за сябе, а за таго чалавека, што быў там, у пакоі. Уявіце сабе: у тры гадзіны ночы вы сядзіце ў сваёй кватэры на восьмым паверсе, чытаеце кнігу, і раптам у вакне з'яўляецца нечы твар... Жах! Але я не прыхільнік гэткіх «жартаў», і таму не падыходзіў да вакна, а, хутчэй, падкрадаўся да яго.

Як звычайна бывае перад сустрэчай з невядомым, з кожным крокам маё хваляванне нарастала. Сэрца тахкала ў грудзях, як не вырывалася. Адным вокам зазірнуў я між рассунутых штораў у пакой. У глыбіні яго, за сталом, сядзела дзяўчына. Яна адкінулася да спінкі крэсла і застыла з заплюшчанымі вачыма. Дагэтуль яна, пэўна, пісала — рука яе ляжала на аркушыку паперы. Раптам дзяўчына схамянулася, падсунулася да стала і пачала крэсліць напісанае. Злосць да ліста, да таго, што напісана на ім, была настолькі натуральнаю, што я нават заўсміхаўся: ніводзін актор гэтую сцэнку так шчыра не сыграў бы.

Па ўсім відаць, дзяўчына дома была адна і, упэўненая, што яе ніхто не бачыць, магла дазволіць сабе сякія-такія вольнасці. Найперш у адзенні. Я ўявіў сабе, што гэтаксама таемна нехта іншы можа назіраць за мною, і мне стала агідна і брыдка за сябе... Але я не мог адарвацца ад вакна — дзяўчына была вабная, хай і бачыў яе я ў профіль. Кароткая начная сукенка спаўзла з пляча, адкрыла ярка асветленыя настольнай лямпай востранькія грудзі, высока заголеныя ногі зніклі недзе пад сталом і здаваліся бясконца доўгімі... Не, яна не была прыгожай. У тым разуменні, якое ўкладваецца ў гэтае слова сёння: яна не здавалася сучаснай. Але, тым не менш, была яна пекная, было ў ёй нешта паганска-заваражальнае, і ўва мне ці не прачнуўся мой далёкі продак, які гэтаксама некалі сачыў з-за дрэваў за жанчынамі ў рэчцы...

Дзяўчына кінула асадку, падхапілася і выйшла з-за стала. Каб не быць заўважаным, я схаваўся ў цень шторы, а потым паціху-паціху выпаўз з асветленае вакном прасторы і пакрочыў да свайго дома. На паўдарозе я азірнуўся. Шырока адхінуўшы фіранку, дзяўчына стаяла ля вакна і паглядала ў цямрэчу. Мажліва, адпачывала.

Я прыгадаў твар дзяўчыны, вабныя... І тут мне падалося, што я ведаю яе, што часта бачу раніцай на нашым прыпынку. Бывае нават, мы едзем у адным аўтобусе да цэнтра горада. «Што ж, варта было б гэта праверыць... Заўтра ж. Дачакацца яе на прыпынку і знайсці нагоду, каб пазнаёміцца»,— вырашыў я, падыходзячы да свайго вакна. Яго, як і заўсёды, я пакінуў расчыненым — хай пакой праветрыцца. Вось і парог падваконня. Я дома.

«Як я хаджу па паветры, на што пры гэтым абапіраюся?» —кожны раз думаю я, стаўшы на падлогу. І не знаходжу адказу. Бо не ведаю — як і на што. Бо ні на што! Гэта ні асфальт і ні трава, ні нейкае рэчыва, матэрыял ці раслліннасць наогул. Яно ні цвёрдае, ні мяккае, ні слізкае, ні шурпатае, яно — ніякое, але нагам прыемнае... Роўнае і моцнае, як нягнуткі сталёвы ліст, і празрыстае, як шкло... як паветра...

Самае цяжкае — зрабіць першы крок. Кожны раз мне даводзіцца перасільваць страх. Кожны раз здаецца, што сёння я ступлю — і не знайду апоры нагам, упаду, разаб'юся. Але ёсць у гэтым своеасаблівая асалода. Асалода страху. Страху перад смерцю, якая за паўкроку. Я ведаю, што стаю на краі неба, якое пачынаецца адразу за падвaконнем. Адзін крок — і я ў небе. Як птушка! Альбо як камень... Неба ж пад нагамі. Неба — пустэча... Няўпэўненасць у тым, што я магу хадзіць па пустэчы, расце, нагнятаецца, урэшце, калі боязь перарасла ў страх, страх — у жах, а жах — у жудасць перад першым крокам, я ступаю з падваконня ў цемру і — іду. Лёгка, вольна, быццам у сне. Па целе разліваецца цеплыня, млявасць, як ад наркотыка... Мусіць, усё ж так створаны чалавек, што ў яго застанецца заўсёдным страх перад небам, перад вышынёю. І для мяне хаджэнне па паветры ніколі не стане справаю прывычнай, звычайнай: першы крок падсвядома будзе апярэджваць хваля жаху. Салодкая хваля... Я разумею цяпер альпіністаў, аўтагоншчыкаў, іншых спартсменаў, у якіх кожны старт — рызыка, гульня са смерцю. Бо смерць — самы моцны наркотык...

Па паветры я менавіта іду, а не лячу. Звычайнымі крокамі, як па зямлі. Варта мне захацець падняцца крыху, альбо апусціцца, як пад нагамі з'яўляюцца «прыступкі» і я крочу па іх уверх, альбо ўніз. Наколькі высока я магу падняцца, альбо апусціцца, я не ведаю. Ніколі не спрабаваў праверыць гэта, рызыкнуць, паэксперыментаваць. Баюся. Таму і хаджу толькі цёмнымі вясновымі, летнімі і восеньскімі начамі, калі на небе няма ні месяца, ні зорак, калі горад угамоніцца і задрэмле.

Ніколі не хадзіў я зімою, бо снег робіць зямлю бачнай і страшнай. Ногі праціnае тады сутаргаватая дрыготка, і паўзуць па іх мурашы страху. Ніколі не спрабаваў я прагуляцца па паветры і ўдзень. Бо, як ні дзіўна гэта, баюся вышыні: галава кругам ідзе ад аднаго погляду

ўніз, і ногі падкошваюцца. Таму ні разу не хадзіў я да цэнтра горада — асветленага яркімі ліхтарамі і жывога нават ноччу. Я блукаю толькі па сваім ускраінным — спальным — мікрараёне. Бывае, пераходжу кальцавую дарогу і прагульваюся над лесам. Мяне не палохае адзінота, бо менавіта яе я шукаю.

Дакладней, шукаў. Яшчэ дакладней — меў. Але, «меў», бо сёння я знайшоў нешта іншае. Сябе не падманеш. Мне хочацца пазнаёміцца з тою дзяўчынай. А значыць, захочацца і зрабіць яе сваёю сяброўкай, спадарожніцай у часе прагулак. Што ж, чаму быць — таго не мінаваць. Я не фаталіст, але часам саступаю гэтай прымаўцы. Не дзеля апраўдання: так лёс наканаваў, а... сам не разумею чаму. Мажліва, і сапраўды: лёс... А яму — ці варта супраціўляцца? Не таму, што ўсё ўжо недзе прадвырашана і адбылося. А таму, што «жыццё» і «лёс» — па сутнасці, сінонімы...

«Ну і на банальшчыну ж мяне пацягнула»,— схамянуўся я і заўважыў, што ўсё яшчэ стаю ў сваім пакоі, ля расчыненага вакна, не распрануты, у амаль сухім касцюме. У доме насупраць не гарэла ніводнае вакно, і я пайшоў прымаць душ перад сном.

***

Падыходзілі і адыходзілі аўтобусы, поўніўся людзьмі і пусцеў прыпынак, а дзяўчына ўсё не з'яўлялася. Я прыйшоў сюды раней, чым звычайна, і размінуцца з ёю не мог. Мажліва, я памыліўся: ніколі, нідзе мы з ёю не бачыліся. Зрэшты, мажліва і тое, што сёння на працу яна не пойдзе. А я на сваю ўжо спазняюся... На наступным аўтобусе трэба ехаць — вырашыў я. І тут убачыў яе. Яна ішла да прыпынку няспешна. На паўсагнутай правай руцэ яе вісела сумачка на доўгім, ледзь не да зямлі, пасе. Лёгка пагойдваючыся, сумачка яшчэ падкрэслівала гэтую яе прыпаволенасць. Дзяўчына выглядала не стомленай, а хутчэй — задаволенай сабою. І ранак, бачна было, ёй падабаўся, і не заўважала яна мітусні людское... «Свой чалавек!..» — падумаў я. І калі падышоў аўтобус, прыладзіўся за ейным чырвоным дажджавічком.

У аўтобус мы ўбіліся сярод апошніх. Мне давялося нават трохі падпіхнуць дзяўчыну. Ціхенька. Але яна адчула і азірнулася.

—Выбачайце,— сказаў я.

—Нічога...— адказала дзяўчына. І вочы нашыя сустрэліся. То быў першы кантакт. Пра такія моманты кажуць, што нібы маланка праскочыла між намі. Я амаль фізічна адчуў гэта. Мне, зразумела, вельмі хацелася, каб не стаў гэты «кантакт» апошнім. Пэўна, адчула нешта падобнае і дзяўчына, бо прыпыніла на мне свой позірк і раптам прамовіла:

—Мы з вамі раней не сустракаліся? — гэта было пытанне, якое я таксама падрыхтаваў дзеля знаёмства і ўжо раскрыў рот, каб казаць... Я не вытрымаў, усміхнуўся, а потым патлумачыў ёй:

—Вы не здзіўляйцеся: тое самае хацеў спытаць зараз у вас і я. Але ж вы мяне апярэдзілі.

Яна ўсміхнулася ў адказ. І тады я спытаў:

—Дзе вы выходзіце?

—На Нямізе.

—Давайце выйдзем на прыпынак раней, да метро, і пройдзем пешкам. Вы не спазняецеся?

—Не... Я не супраць.

Словам, мы пазнаёміліся. І ўвечары я ўжо сядзеў у пакоі Арыны — так звалі дзяўчыну — і пазіраў на сваё вакно ў доме насупраць. Яно адное жаўцела на сёмым паверсе, бо я наўмысна пакінуў святло ўключаным. Прыйшоў я да Арыны звычайным шляхам — праз дзверы, а дамоў пайсці надумаў напрасткі — праз вакно. У першы ж вечар. Лепш «раскрыцца» адразу, бо потым зрабіць гэта будзе з кожным днём усё цяжэй і цяжэй — думаў я.

У Арыны была такая ж аднапакаёўка, як і ў мяне. І жыла яна таксама адна. Стол, канапа, кніжная шафа, тэлевізар, на сцяне — зноў жа як у мяне — каляндар «Беларускія магнаты», раскрыты на першым месяцы. Ля яго — партрэт Скарыны ў багетавай раме...

—Муж маляваў,— сказала Арына, перахапіўшы мой доўгі позірк.

—Ты замужам? — здзівіўся я. Навіна гэтая была для мяне не самай жаданай і прыемнай.— А чаму раней не сказала?

—Была... Мы колькі месяцаў таму разышліся. Раз'ехаліся. Ён вярнуўся дамоў, у родную вёску, у Чарнобыльскую зону... Малявацъ.

Прамовіла яна гэта ціха, самотна, нібы пра нябожчыка гаварыла. І мне стала не па сабе. «Лепш бы яна ў першы вечар прамаўчала пра тое,— падумаў я,— а то цяперака ўвесь час будзе здавацца, што ён прысутнічае тут, у гэтым пакоі, і пазірае на нас вачыма Скарыны».





—А партрэт нічога,— сказаў я,— па-майстэрску зроблены. Я Скарыну якраз такім і ўяўляў: у берэце, з кнігаю ў руках...

—Гэта не Скарына, гэта — Будны.

Я змоўк. Я гатовы быў скрозь падлогу праваліцца ад сораму. Хто мяне за язык цягнуў казаць тое? Раскрыўся дык раскрыўся... Трэба зматваць вудачкі і чыкіляць дамоў.

Але я перабольшваў. Бо менавіта пасля маіх апошніх словаў Арына ажыла, заўважна разняволілася і ветла ўсміхнулася. І я адважыўся сказаць:

—Даруй, я далёка не спец у мастацтве.

—Не ты першы памыліўся. Каго толькі ў ім ні пазнавалі! І Фёдарава, і Мсціслаўца, і Цяпінскага, і нават Зізанія. Шаблонна, трафарэтна зроблена. Я казала яму. Пейзажы ў яго файныя выходзяць. А партрэты ўсе на адзін твар. Ці то я, ці Ефрасіння Полацкая, ці Цётка...

—Не прымі за чарговае глупства ці няўдалы камплімент, але да Цёткі ты нечым падобная.

—Ага, як Будны да Скарыны — берэтам ды кнігай у руках...— сказала яна і засмяялася. Весела і нязмушана.

Але, адарваўшыся на гэтую размову, я не паспеў назваць яшчэ адну адметнасць ейнага пакою: паўсюль у ім ляжалі кнігі — на стале, на канапе, на тэлевізары, на крэслах і нават на падлозе. Разгорнутыя і складзеныя, з даўгімі, бы заечыя вушы, закладкамі. Арына жыла сярод кніг, як бабулька-знахарка сярод траў і красак. З іх гатавала яна лекі для душы... Яна была пачынаючым крытыкам, аспіранткай акадэмічнага інстытута і пісала кандыдацкую па творах Разанава. Учора якраз закончыла чарнавік. Мы пілі каву і, натуральна, гаманілі пра літаратуру. З ёю было цікава гаварыць, яе цікава было слухаць, ёй трэба было выказацца. Я толькі зрэдчас падтрымліваў размову, устаўляючы колькі словаў. І, дзякуй Богу, не зламаў яе, не збіваў з думкі, патрапляў у сэнс. Падобна на тое, што і Арыне са мною было не сумна. Мы заседзеліся. Горад за вакном сцішыўся. Перасталі грукатаць і ляскаць дзвярыма тралейбусы на прыпынку. Надышла пара развітвацца. Арына не прапаноўвала мне застацца. Не думаў набівацца на гэта і я. Будзе яшчэ час. У мяне з'явілася нават шалёная думка: калі-небудзь выйсці разам на шпацыр голымі і пагуляць у каханне там, на вуліцы, на вышыні восьмага паверху, над дрэвамі... «Будзе яшчэ час...» — думаў я і не ведаў пакуль, як падрыхтаваць Арыну да свайго адыходу праз вакно. Найпрасцей у падобных выпадках рабіць гэта не сур'ёзна, а паўжартам. Я падышоў да вакна, адкінуў фіранку і спытаў у Арыны:

—Ты ведаеш, дзе я жыву?

—Не.

—Вунь гарыць маё вакно.

—Дзе?

—Зірні. У доме насупраць. На сёмым паверсе.

—Дык ты маніў, што жывеш адзін?

—Я казаў праўду: я жыву адзін. Паглядзі, якое вакно самотнае...

—А чаму ж святло гарыць, калі там нікога няма? Склероз?

—Я спецыяльна святло пакінуў, каб быў мне арыенцір. Я пайду зараз дамоў напрасткі, з твайго вакна...

Арына засмяялася:

—Дзіўны вы народ, мужчыны, чаго толькі ні прыдумаеце, абы здавацца ў вачах жанчыны героямі, ці хоць бы не звычайнымі, не з-пад плоту...

—А давай пойдзем у заклад, што вярнуся дамоў проста з твайго вакна...

—Не здзекуйся. І не злуй мяне дарэмна. Я не люблю гэткіх жартаў.

—Давай! Што, баішся?

—Кінь глупствы. Прыдумаў бы што-небудзь больш высокае...

—Куды ўжо вышэй: восьмы паверх... Баішся.

—Ідуць у заклад толькі дурныя і хітрыя: адзін упэўнены, што выйграе, а другі — ведае дакладна, што не прайграе... Але, давай. Заклад дык заклад... На што?

—На тое, што заўтра пойдзем да мяне напрасткі разам.

—Шызець дык шызець... Давай.

Арына перабіла рукі сама. Я адхінуў шторы, расчыніў вакно. Яна пазірала на мае прыгатаванні са скептычнай усмешкаю, застылай у левым куточку вуснаў. Я, між тым, узлез на падваконне. Яна зразумела, што жарты зайшлі занадта далёка. Пачала прасіць мяне, каб не рабіў глупстваў, потым крычаць, што верыць мне... Але я не рабіў глупстваў, я зрабіў крок у цемру...

Цямрэча гусцела ў падворку,
А з вокнаў імжэла святло —
Адтуль, дзе мяне не было,
Дзе кінуў я смех і гаворку.

І доўга на блізкіх і родных,
З якімі ў застоллі сядзеў,
Глядзеў я, глядзеў і глядзеў,
Прыпаўшы да шыбін халодных.

І плакаў амаль да відна.
На свяце жыццё сатанела:
Піло. Цалавалася. Ела.

І толькі жанчына адна
Адчула мой позірк сірочы,
Заўважыла цень у акне
І глянула так на мяне,
Так вочы ўтаропіла ў вочы,
Нібыта яна распазнала
Ці вылюдка, ці ведзьмака —
І ў жаху застыла рука,
Якой на мяне паказала.

## АДЗІН

З нянавісці — пасля ўжо з усяго
Астатняга...
А ён пачаў з любові.
І ўжо калі ўзнялі на крыж яго,
Нянавісць выйсце ведала — любое.
Не ведала любоў ні аднаго.

Натоўп глядзеў натоўпам, як звычайна,
А ён канаў, спрабуючы адчайна
Знайсці хоць апраўданне: «Для чаго?» —
І не знайшоў...
Хацеў быў крыкнуць груба:
«З нянавісці! Пасля ўжо з усяго...»
І не разняў скрываўленыя губы.

## ЗВЕР

Помні ўсіх — і нікога не помні.
Ідучы ў нікуды,
Толькі ты, што праходзіш па полі,
Засяваеш сляды.

Знай пра ўсё — і нічога не ведай.
Ідучы наўздагад,
Толькі ты, што праходзіш без следу,
Не павернеш назад.

Пасярод мітусні і зняверу,





Між бязладдзя ўсяго
Ты адзін усміхаешся зверу
За самога яго.

## МУТАЦЫЯ

Збудуйма п'едэстал!
Каб помнік скінуць
было адкуль!
На друз яго — і ўбок...

Калі пракаўпрацьма — хто Прарок?

Ад медных кулакоў,
каменных сківіц,
Як павучок — па скроні халадок.

Прарокі не здараюцца знарок.

Калі народ, што страціў слых і зрок,
У глухату ўпіраецца і змрок —
Каму ягоным слыхам стаць і зрокам?..

Прарокі страявым шыбуюць крокам,
І ў кожнага на шыі нумарок
Матляецца...
А ў існага Прарока
Без нумарка зацягнуты шнурок.

У шэсцях і нашэсцях не ходок,
Спазнаўшы слоў пагібельную спёку,
Прыняў ён лёс, прызначаны Прароку,
І не прарочыць, а маўчыць здалёк:

«Няма на свеце роду без выроду,
Але Прарок народу не ў папрок.

Вярні свайму народу слых і зрок,
Займей народ, каб паслужыць народу».

Народы не здараюцца знарок.

## БАРАК

Хто паспеў звар'яцець — звар'яцеў,
Хто прадацца хацеў — той прадаўся...

Свідаровіч Цімох дажывае жыццё ў Варкуце,
У бараку па вуліцы Праўды.
Я ў застольнай блазноце пытаюся:
—Слухай, Цімох,
Ты не мог звар'яцець ці прадацца?..

Свідаровіч Цімох сам сябе перапытвае: «Мог

ці не мог?..» —
што той Гамлет, прынц Дацкі.

Ён глядзіць скрозь мяне, скрозь барака глухую сцяну,
Да крайкоў налівае гарэлку ў зрудзелую шклянку.
Над баракам завея ляціць з даўніны ў даўніну —
І крычыць, і рагоча, шалёна спраўляючы п‘янку.

Засынаем мы ўпокат ля печы, пагаслай даўно,
Прачынаемся мы — непатрэбныя людзям і Богу.
І Цімох Свідаровіч мне кажа: «Усё ўсё адно.
Можаш думаць, як хочаш. А можаш не думаць наогул».

Пахмяліўшыся дымам, ён кыхкае хрыпла ў кулак,
З асівелай яго галавы сіва цэдзіцца шэрань.
Векавая завея навальваецца на барак —
То цвікамі прыб‘е, то рассцежыць рыпучыя дзверы...

***

Точыць стачонае моль —
Хопіць трухі назапас.
Перагрываць — гэты боль.
Перамаўчаць — гэты час.

Вырваўшы пальцы з вузлоў —
Локці не даць бы звязаць.

Некалі ж выпадзе зноў
Голасу голасам стаць.

Ну, а не выпадзе — што ж:
Зменаю знакаў і вех
Хай сабе цупае дождж,
Хай сабе шорхае снег.

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

Тая даўняя песня... Яе ўжо няма каму помніць.
Да і што ўспамінаць! — там нішчымна адчай ды нуда,
Там галеча з галеч, шэры хлеб ды рудая вада,
Там не паліцца печ, і снягамі завальвае комін.

Праз гады і вякі колкі вецер штурхаецца ў спіну
На няўцямных шляхах, па якіх тая песня брыла.
Я адрыну яе!..
Ды як толькі збіраю сябрыну —
Звар‘яцелай жабрачкай кульгае яна да стала.

З-пад яе лахманоў струпяннё праступае на скуры,
Таямнічыя знакі і клеймы распустаў і здрад.
Чорнай ямінай роту яна выдыхае панура:
—Можна ведаць наперад
толькі тое,
што помніш назад.





Ускрычу захмялела: «Бадзяжніца! Ведзьма старая!
До па мне галасіць — і не сват я табе, і не брат!
Паўтары, што сказаў!..»
І панура яна паўтарае:
—Можна ведаць наперад толькі тое, што помніш назад.

«Можна ведаць наперад...»
Каб я тую песню не ведаў,
Каб не біўся я з ёй за жалобным сталом галавой,
Каб яна не шумела на родных магілах травой —
Я спусціў бы сабак па яе скульгавеламу следу!

Я расставіў бы пасткі на ўсіх яе тлумных шляхах
І ваўчыныя ямы капаў бы ад кроку да кроку,
Я б ёй вырваў язык і пазбавіў і слыху, і зроку,
На чатыры бакі адпусціў бы на здзекі і жах.

Хай падзівіцца свет на струпы яе, клеймы і знакі,
Хай жахнецца яе, як жахаюцца мору, чумы...
Ну дык енчы цяпер, галасі!
Ужо брэшуць сабакі!
Ужо ямы чарнеюць!
Ужо я сляпы і нямы!

І ўжо з боку таго, што за цемрай,
нічый і ніякі,
Атуляючы прах, я брыду ў вінаватых слязах,
На каленях паўзу па яе басаногіх слядах
Цалаваць яе клеймы, струпы, таямнічыя знакі.

І за рэхам жыцця, што гукаецца брэхам сабачым,
Зноў я ўчую яе — і прымрою ў абдымках Хрыста...
За мяне яна моліцца, просіць, па мне яна плача —
Палюбоўніца... жонка... жабрачка... вар‘ятка... сястра.

## ГАЛУБЯТНЯ

Над хатай галубіны дах.
І ўсе нябёсы ў галубах,
І брат на галубятні.
Са свістам кружаць галубы
І ніжуць круг на круг,
любы —
Апошні і астатні.

І ніжуць
круг на круг
гады.
Адбіўшыся ад чарады,
Што свіст у небе сее,
Апошні братавы галуб,
Астатні —
п‘е з ягоных губ
І на вачах сівее.

# ВАР'ЯТ

«Што робіш, брат?»
«Грудок капаю брату.
Прасіўся пахаваць каля царквы».

Не замінайце вар'яцець вар'яту.
Тым больш, што ён капае, а не вы.

Тым больш — нікога: ні сястры, ні брата
Няма ў яго, ніколі не было.
Не набягайце шкадаваць вар'ята —
Яму няўцям, што розум адняло.

Не з вамі ён,
ягоны брат не з вамі.
Вялікаму ў дзіцячым паліто
Яму баліць над зрослымі брывамі,—
Бог ведае, з чаго баліць і што.

Бог ведае, каго якія страты
Пільнуюць — і да страты не дапяць:
Хто ў немачы, хто ў розуме
вар'яты,
Хто брату брат — адно грудок капаць.

## ***

Не з тымі пайшоў і дарогай не той.
Дарэмна дарога прасіла:
«Чакай.
 Азірніся.
 Падумай.
 Пастой».
 Вяла невядомая сіла.

Дарозе казаў: «Ты не тая. Маўчы».
Ні д'яблу не верыў, ні Богу —
І крочыў, і крочыў
 удзень і ўначы,
Пакуль не адолеў дарогу.

І рушыў далей — на цалік, і сляды
Пакінуў, што сцежкаю сталі.
А тыя, што з ім не пайшлі,
хто куды
Пазбочвалі і заблукалі.

Глядзелі яны — хто з дупла, хто з нары,
Аброслыя мохам з карою —
Як ён пад гарою,
як ён на гары,
як знік
 і прапаў за гарою.





# ЯК ТЫ АДЗІН

Чужы чужым — яны знайшлі свайго,
Не свой сваім — яны пайшлі з чужымі,
Не тузайся ні з тымі, ні з другімі.
Як ты адзін — ты больш за аднаго.

У высі птушка,
Рыба ў глыбіні,
Вандроўнік на фантомным небакраі,
Як ты адзін — ты не змарнуеш дні
На тое, каб спазнаць законы зграі.

Як ты адзін — аднойчы ўночы ты,
Угледзеўшы імгненны след каметы,
Уцяміш таямніцу пустаты,
З якой Гасподзь саткаў усе Сусветы.

Як ты адзін — ты Боскай тканкі ніць
У вушка голкі зловіш і, быць можа,
Пустое станеш ткаць, пустое шыць,—
Як ты адзін,
Як Бог у тым паможа.

# ІДАЛ

«На,— ён сказаў.— Павер — і не памрэш.
Мяне і род мой ты перажывеш».

І я яму паверыў. Напавер
Злізаў атруту з далані, як звер.

«Не бойся,— ён шаптаў,— не бойся, не...»
Памерці даў — і ўваскрасіў мяне.

І з той пары дапытваць стаў: чаму
Паверыў не сабе я, а яму?

Штодня, штоночы, дзе б мы ні былі,
Вымучваў ён мяне: а што б, калі...

«Не! — я крычаў.— Ты Богам быў маім!»
І ўсё страшней было мне побач з ім.

І ўстаў адчай між намі, як сцяна.
Тады ён зноў сказаў аднойчы: «На...»

# МАТЫЛЁК

Замкнуў яму я горла, да таго ж
Другой рукой над ім занёс я нож.

Як ён баяўся, гледзячы ў нябыт!
І плыў, і плыў з вачэй яго блакіт.

Ніхто ўжо быў ён і нішто, мярцвяк,
Мой вораг, ненавіснік мой. Аднак

З дзяцінства, з лугавіны ля ракі
Блакітныя ўзляцелі матылькі.

І сеў яму на вейка матылёк.
Я кінуў нож і адпусціў замок.

## ГУЛЬНЯ

Ранкам неба пацямнела, а днём
На дарогу ўпала чорным агнём.

Нахіліўся і падняў я агонь,
Перакінуў з далані на далонь.

І на правай — прапаліў скуру ён,
І на левай, як кляймо, стаў відзён.

І спытала даланя ў далані:
—Для чаго нам перакідваць агні?

І сказала далані даланя:
—Гэта забаўка такая. Гульня.

## ***

Хто па чым маркоціцца ў журбе,
Да жніва дапесціўшы сяўбу.
Я сумую па самім сабе,
Па сваім жыцці спялю журбу.

І па ўсім, чым я не даражыў,
Што касіў, як ля дарог траву,
Я смуткую так, нібы не жыў,
Толькі бачыў сон, нібы жыву.

Гэты сон мне нанава не сніць.
Незабудкай ён засне са мной.
Я спакойны ўжо, калі шуміць
Несаснёны вецер за спіной.

Мне журбу дакошваць і сушыць,
Мне маркоту спелую збіраць.
Божа мой, якая стома — жыць
І да самай смерці паміраць.



# Анатоль ВЯРЦІНСКІ

**ТЫ**



*Вершы*

**З Анатолем ВЯРЦІНСКІМ гутарыць Святлана БАРТОХАВА**

# Вершы

## ВЫСОКАЕ НЕБА ІДЭАЛА

*Высокае неба ідэала!*
*Мая душа чалавечая спала,*
*вякамі спала да той пары,*
*пакуль не ўбачыў цябе ўгары,*
*пакуль нада мною ты*
*не зазззяла,—*
*высокае неба ідэала!*

*Калі адкрыў я цябе аднойчы,*
*убачыў сябе з тваёй вышыні,—*
*сталі іншымі мае вочы,*
*сталі іншымі мае дні.*
*Ты новым сэнсам іх*
*асвятляла,*
*высокае неба ідэала!*

*Ты мне дало другое дыханне,*
*дало мне дарогу і сяброў.*
*І толькі так, як хвалюе*
*каханне,*
*ты хвалявала маю кроў.*
*Ты мяне вабіла і звала,*
*высокае неба ідэала!*

*Хмурэў —*
*ты ўсмешку мне вяртала.*
*Звярэў —*
*ты мудрасць мне вяртала.*
*Хварэў —*
*ты сілы мне вяртала.*
*Старэў —*
*ты свежасць мне вяртала,—*
*высокае неба ідэала!*

*Ты мяне вабіла і звала.*
*Парой здавалася явай такой,*
*да якой падаць рукой,—*
*высокае неба ідэала.*
*Цягнуў руку я да цябе,*
*як цягнуць рукі у мальбе,*
*але рукі той было мала,*
*высокае неба ідэала!*

*Відаць, кароткаю рукой*
*быў ад прыроды я надзелены,*
*і траціў часам я надзеі,*
*і траціў часам я спакой.*
*Ды ты мяне зноў уздымала,*
*высокае неба ідэала!*

*Зноў уздымала і вяло,*
*зноў хвалявала, бунтавала,*
*давала сілы і святло,*
*усяму нізкаму назло,—*
*высокае неба ідэала!*

*Ты шмат ахвяр патрабавала.*
*Калі я падаў у барацьбе,*
*я ў зрэнках адбіваў цябе.*
*І ты ў халодных зрэнках ззяла,*
*высокае неба ідэала!*

***

*Домік маленькі,*
*бачу я, знеслі.*
*А ў доміку гэтым*
*спявалі песні.*
*А ў доміку гэтым*
*дзяцей нараджалі.*
*А ў доміку гэтым*
*гасцей страчалі.*
*А ў доміку гэтым,*
*у доміку гэтым*
*утульна было*
*зімою і летам.*
*Шкада мне да болю,*
*шкада да слёз*
*доміка, што пайшоў*
*на знос.*
*Не тое лепшае,*
*што навейшае,*
*а тое лепшае,*
*што раднейшае.*
*Не тое лепшае,*
*што вышэйшае,*
*а тое лепшае,*
*што бліжэйшае,*
*не тое лепшае,*
*што прыгажэйшае,*
*а тое лепшае,*
*што даражэйшае...*
*Той домік*
*блізкі некаму быў.*
*Той домік нізкі*
*нехта любіў.*
*З тым домікам*
*звязаны нечы лёс...*
*Той домік пайшоў —*
*сягоння на знос.*

***З Табой:***

# З Анатолем ВЯРЦІНСКІМ гутарыць Святлана БАРТОХАВА

Паэты прыходзілі ў маё жыццё па-рознаму.

Паэт Анатоль Вярцінскі не прыйшоў. Ён, хутчэй, уварваўся, як нечаканая падзея. Гэта быў апёк, які зваўся «Рэквіем па кожным чацвёртым»: «Вы бачылі лес, дзе прагал скразны? Скажыце, вы бачылі бор той, дзе кожнай другой няма сасны ці сама меней — чацвёртай? Тое ж было з народам маім...»

У тыя гады мы так многа гаварылі і слухалі пра мінулую вайну, што яна зрабілася неабходным фонам для нашага гарманічнага існавання ў часе. Тэма гэтая была абавязковая і галоўная ў так званым ваенна-патрыятычным выхаванні, без яе грамадзянская загартоўка асобы лічылася немагчымаю. Амаль штотыднёвыя сустрэчы з ветэранамі на «ўроках мужнасці», творы «пра вайну» ў школьнай праграме, шматлікія кінафільмы, песні, публікацыі ў перыёдыцы, прысвечаныя «подзвігу савецкага народа»,— усё гэта павінна было належным чынам уздзейнічаць — і ўздзейнічала!— на нашае светаўспрыманне. Здавалася, што ў кожнага з нас была свая вайна, хоць мы яе і не бачылі. Можа, таму ў паэтаў майго пакалення так многа «ваенных» твораў...

Тое скіраванае ваенна-патрыятычнае выхаванне адбілася і на маім тагачасным успрыняцці паэзіі Анатоля Вярцінскага. Вядома, я чытала і іншыя ягоныя вершы, але ж узрушыў менавіта «Рэквіем», і ўзрушанне маё было шчырае. З тае даўняе пары паэт атаясамліваецца для мяне перш за ўсё з гэтым творам. Пачую імя: Вярцінскі — і наплывае колішняе, жалобнае: «Я іду, ты ідзеш, а ён не ідзе, ён мёртвы. Я пяю, ты пяеш, маўчыць кожны чацвёрты...»

Калі мне сказалі, што Анатоль Вярцінскі ўсур'ёз заняўся палітыкаю, я здзівілася. Гэта было нават не здзіўленне, а, хутчэй, недаўменне. Якая сіла, якія прычыны, якія пераканані здолелі перавесці ягоны гадзіннік на іншае вымярэнне? Як яму адчуваецца, як яму існуецца па-за межамі творчасці? Што яна цяпер такое — яго рэчаіснасць?

Рыхтуючыся да сустрэчы, я ведала загадзя, што не змагу пазбегнуць гэтых пытанняў, як не змагу пазбавіцца свайго недаўмення, і наша гутарка будзе зусім не пра паэзію. Так яно і адбылося...

**—Анатоль Ільіч, хто каго знайшоў: вы — палітыку, ці вас — палітыка?**

—Так выбраў час, так рашылі абставіны. Пасля таго, як я пакінуў Саюз пісьменнікаў, я пайшоў на вольны хлеб, пісаў вершы, пісаў прозу. І чарговай задумаю было напісаць кнігу паэм. Аднак пачалася перабудова, пачаліся адчувальныя змены ў нашым жыцці, і якраз у той час рашалася пытанне, хто будзе галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Выбар паў на мяне, і я пасля пэўнага роздуму даў згоду. Можа, я не пайшоў бы на такі крок, тым больш, што настроіўся ўжо на сур'ёзную творчую працу, але пачалася дэмакратызацыя, стала магчымым гаварыць уголас пра становішча з нацыянальнай моваю і культураю, пра самасвядомасць беларусаў, і я, узрушаны і абнадзеены гэтымі пераменамі, палічыў, што змагу зрабіць нешта карыснае для нацыянальнага адраджэння, калі стану рэдактарам «ЛіМа». Чаму я загаварыў пра гэта? Таму, што потым менавіта як рэдактар «ЛіМа» быў вылучаны Саюзам пісьменнікаў кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Я балаціраваўся па адной з Мінскіх акруг, было чатыры чалавекі на месца, у тым ліку і старшыня выканкама таго раёна, на тэрыторыі якога знаходзілася мая акруга. Выбары я выйграў і такім чынам прыйшоў у палітыку.

**—Ці азначае гэтае ўжыванне ў новую ролю, што паэзія ў вашым жыцці перамясцілася на другі план? І ці не нагадвае ваша Муза цяпер пакінутую жанчыну?**

—У літаральным сэнсе — так. Вершаў я амаль не пішу, толькі зрэдку раблю спехам запісы: ці то асобныя радкі, строфы, ці то дзённікавыя фрагменты. Вельмі няпроста спалучаць палітыку і паэзію, тым больш, што я ў свой час даў згоду працаваць у Вярхоўным Савеце на пастаяннай аснове. Разумею, што ахвярую сабой як літаратарам, але...

P.S.—1

Мабыць, наўрад ці знойдзецца сёння творчы чалавек, у жыцці якога не з'явілася гэтае сумнае «але». Яно нібыта падзяляе асобу на дзве часткі: адна — на жаль, меншая — тое, што засталося ад былога творчага самаадчування; і другая — большая — тое, што падпарадкоўваецца вонкавай рэчаіснасці і запаўняецца клопатамі і праблемамі, такімі аддаленымі ад узнёслага...

Ёсць паэты, якія... Не, не так. Ёсць вершатворцы, а дакладней, вершаскладальнікі, якія могуць пісаць вершы і могуць не пісаць, і тое і другое ім аднолькава неабавязкова. З гэткім жа поспехам можна было б займацца альбо не займацца чым-небудзь іншым, напрыклад, вырошчваннем памідораў ці мыццём посуду, і нічога б не змянілася ані ў іх саміх, ані ў літаратуры, ані ў навакольным жыцці... Калі такія версіфікатары з якойсьці прычыны знікаюць са старонак выданняў, нікому не бывае ніякавата, нікому не робіцца пустэльна, іхняе маўчанне часам нават і не заўважана чытачом.

Іншая справа, калі знікае паэт. Гэта заўсёды страта, незалежна ад прычыны маўчання. Асабліва крыўдна, калі нейкія знешнія абставіны не пускаюць яго да паперы, і паэт

## *ДЗВЕ ПАРАЛЕЛЬНЫЯ ПРАМЫЯ*

*За школьнымі вокнамі*
*вецер вые...*
*Пра дзве паралельныя прамыя*
*гаворыць настаўнік,*
*ад холаду сіні.*
*На чорнай дошцы —*
*дзве белыя лініі,*
*якія ніколі не перасякаюцца,*
*якія нідзе не сустракаюцца...*
*«Няўжо гэта праўда?*
*Чаму — ніколі?» —*
*думаю я, ідучы са школы.*
*«Няўжо гэта праўда?*
*Чаму — нідзе?» —*
*думка з маёй галавы не ідзе...*
*Даўно адшумелі*
*школьныя ветры,*
*ды помню чамусьці*
*урок геаметрыі.*
*Перада мною*
*зноў, як жывыя, —*
*дзве паралельныя прамыя.*
*Бачу: ідуць у прасторы лініі,*
*нічога агульнага паміж імі.*
*Ідуць і маўчаць яны, нямыя,*
*дзве паралельныя прамыя.*
*Ідуць яны побач,*
*ідуць яны поплеч —*
*адна другую*
*не клічуць на помач.*
*Нібы праклящце вісіць над імі,*
*над паралельнымі прамымі.*
*Будуць заўсёды яны чужыя,*
*яны — паралельныя прамыя.*
*Не суджаны ім сустрэчы*
*праменныя, —*
*яны — прамыя,*
*яны — паралельныя.*
*Ад крыўды за вас*
*маё сэрца ные,*
*дзве паралельныя прамыя.*

***

*Я фільм глядзеў.*
*Там — Спартака распялі.*
*Распялі ноччу,*
*калі ў Рыме спалі.*
*Вісіць Спартак,*
*канае на крыжы.*
*А ўнізе, каля ног яго, жанчына*
*ўзіраецца ўтрапёнымі вачыма:*

усыпляе сябе ўгаворкамі, што вось, маўляў, скончацца справы і тады...

Міжволі ўзнікае вобраз птушкі з падрэзанымі крыламі. Яна нібыта тая ж самая, яна яшчэ памятае пругкую радасць узлёту, і неба ёй бачыцца блізкім і дасягальным, але...

**—Але што, Анатоль Ільіч?**

—Але так вырашыла жыццё... У мяне, дарэчы, былі не толькі паэтычныя задумы, але і драматургічныя: я планаваў напісаць п'есу–казку для Тэатра юнага гледача, хацеў напісаць п'есу для Купалаўскага тэатра... Спадзяюся, што яшчэ вярнуся да гэтага... Праца на пастаяннай аснове ў Вярхоўным Савеце ў якасці намесніка старшыні камісіі па пытаннях галоснасці і правоў чалавека — своеасаблівая, няпростая, яна забірае шмат сіл і часу. Праца цяжкая, але і цікавая, яна новая не толькі для мяне, як для асобы, але новая і для Беларусі, бо ўпершыню закладваюцца асновы беларускага парламентарызму, сапраўднай законатворчай дзейнасці. Ёсць тут захапляючыя, інтрыгуючыя моманты, бо я адчуваю, што знаходжуся ля вытокаў, раблю штосьці значнае. Можа, не менш важкае, чым ненапісаныя вершы або п'есы. Прыйшлося выбіраць...

P.S.—2

Мы размаўляем з паэтам у яго службовым кабінеце, тыповым кабінеце дзяржаўнага дзеяча: са шматлікімі папкамі і стосамі папер на стале, з некалькімі тэлефоннымі апаратамі, з высокай шафаю на ўсю сцяну. Я слухаю і не магу пазбавіцца пачуцця, што словы наконт значнасці і важкасці для яго дзяржаўнае працы — хутчэй за ўсё словы рытуальныя, нешта накшталт калыханкі для паэта, каб прыглушыць, залюляць у сабе глыбіннае, патаемнае, тое, што зможа адбыцца толькі тады, калі паэт здолее стаць сугучным і паслухмяным яму і без чаго ён сам не зможа адбыцца як паэт...

**—Цікава, як усё–ткі адчувае сябе паэт у ролі палітычнага дзеяча?**

—Не скажу, што вельмі добра... Я не маю на ўвазе працу ў сваім кабінеце, куды я магу прыйсці ў суботу ці нядзелю, сесці за машынку і падумаць над законапраектам,— тут я адчуваю сябе ніштавата, хоць праца гэтая не літаратурная, спецыфічная. Горш бывае на сесіях Вярхоўнага Савета. Асабліва тады, калі ўзнікаюць вострыя, напружаныя моманты, калі ты не можаш не рэагаваць, але каля ўсіх мікрафонаў чэргі, да іх не прабіцца, і няма ніякай магчымасці выказацца, выкласці сваю пазіцыю. Гэта па–першае. Па–другое — мне, як літаратару, лягчэй мець справу са словам рукапісным, калі ёсць я, аловак і папера. Ля мікрафона не заўсёды ўдаецца выказацца да канца — адсюль гэтая незадаволенасць. Не выключана, што калі я буду свабодны і вярнуся да літаратурнае працы, я напішу кнігу сваіх нявыказаных прамоў...

**—Вы сказалі: «Калі я буду свабодны...» Шчыра кажучы, я была перакананая, што гэтая фраза абавязкова ўзнікне ў нашай размове, бо паэт не можа не адчуваць сябе вязнем у скуры палітыка, надта ж розныя псіхалагічныя станы...**

—Вы ведаеце, я ўсё–ткі чалавек грамадскага плану. Мне ўжо даводзілася быць так званай службовай асобай: праца літкансультантам і сакратаром у Саюзе пісьменнікаў, потым галоўным рэдактарам «ЛіМа». Я прымаў удзел у міжнародных форумах, у рабоце ААН, узначальваў пісьменніцкія дэлегацыі ў замежных паездках. Гэта дапамагло мне адаптавацца да новых умоў працы ў Вярхоўным Савеце. Але адчуванне несумяшчальнасці было і на самым пачатку, і засталося дагэтуль.

**—У вас не ўзнікае жадання махнуць на ўсё рукой і заняцца толькі літаратурай?**

—Узнікае. Асабліва калі я не ўпэўнены, што раблю тое, што трэба і што павінен рабіць; калі няма перакананння, што маё слова патрэбнае, што мая праца прыносіць карысць. Аднак я лічу раскошаю — махнуць на ўсё рукой і сысці з цягніка недзе ў стэпе. Гэта было б прыгожа, нават рамантычна, але я па–мужчынску суровы да сябе і не дазваляю такога «свавольства».

P.S.—3

***Адчуваю: ідзе абрастанне.***
***Ды спыніць яго я не ў стане.***
***А быць можа,***
***спыніць я ў стане?***
***Можа, ўзяць***
***ды узняць паўстанне?***
***Можа, ўсёю першаасноваю***
***абудзіцца па–вясноваму?***
***Жыць пачаць са старонкі новай —***
***яшчэ чыстай,***
***яшчэ вясновай?***
***Толькі як жа мы паўстанем,***
***калі кожны міг абрастаем,***
***расстаёмся з самімі сабою —***
***нехта з боем,***
***а нехта без бою...***

**А.Вярцінскі, «Абрастаем...»**

**—Ці не здаецца вам, што сёння, калі адбываецца ўсеагульная дэвальвацыя духоўных каштоўнасцяў, беларускія паэты вымушаныя пісаць для абмежаванага кола? Большай часткі народа, на жаль, не да паэзіі...**

—Вы маеце рацыю, у нас сапраўды ідзе пераацэнка каштоўнасцяў і, магчыма, як вы сказалі, дэвальвацыя некаторых з іх, таму што адбываецца змена эпох, мяняецца сацыяльна–эканамічная фармацыя. У выніку літаратура і мастацтва адышлі на другі план. Калі гарматы грымяць, музы маўчаць. Відаць, мяняюцца і роля паэтаў, іхняя грамадская місія, іхняе месца ў жыцці. Ведаю па сваім вопыце і па вопыце калег, што ўсе цяпер разгубленыя перад рэчаіснасцю.

**—Многія мае знаёмыя, і літаратары, і людзі мастацтва, скардзяцца на тое, што ўвесь час адчуваюць сваю непатрэбнасць, неабавязковасць, незапатрабаванасць...**

—Зразумела. Міжволі мы параўноўваем сённяшні дзень з учарашнім, калі нам здавалася, што грамадства — і застойнае, і перадзастойнае — мае патрэбу ў творцах. Мы лічыліся самай чытаючай краінаю. Дзяржава патраніравала літаратуру і мастацтва, фінансавала іх. Несаўмерная, канешне, была вартасць ганарару з сённяшнім — тут ужо падключаецца такая з'ява як інфляцыя. Так што, натуральна, у маральным плане многія адчуваюць сябе так, нібыта ўсім сапраўды не да паэзіі,— не толькі чытачам, але й самім паэтам. Тое ж назіраецца і ў іншых галінах мастацтва.

**—Калі б можна было перавесці час назад, ці рызыкнулі б вы зноў стаць палітыкам, ужо маючы вопыт такога існавання і самаадчування?**

*«Спартак, Спартак...*
*Хоць слова мне скажы!..»*
*У роспачы хапаецца за ногі.*
*«Спартак, Спартак...»*
*У зале плачуць многія.*
*Ды і ў мяне самога ў горле ком,*
*і сам слязіну я змахнуў*
*тайком...*
*Спартак, Спартак!*
*Героі ўсіх эпох*
*Ці не такі ваш лёс быў у*
*фінале?*
*Як нехта моцна спаў, вас*
*распіналі,*
*вы ціха на крыжы сваім каналі,*
*і білася жанчына каля ног.*

## *РАНА ЦІ ПОЗНА*

*Рана ці позна,*
*позна ці рана*
*высахнуць слёзы,*
*загоіцца рана.*
*Рана ці позна...*
*Рана ці позна,*
*позна ці рана*
*суровая помста*
*спасцігне тырана.*
*Рана ці позна...*
*Як светла,*
*як росна!*
*Гляджу ўсхвалявана.*
*А рана ці позна,*
*позна ці рана.*
*Рана ці позна...*
*Рана ці позна,*
*позна ці рана,*
*хай будзе, што лёсам*
*наканавана.*
*Рана ці позна!..*

## *СКАЖЫ МНЕ, МАМА...*

**Памяці І. Хадановіча**

*Ён нарадзіўся вельмі рана.*
*Ён нарадзіўся на зары.*
*А на зары — яшчэ туманна*
*і яшчэ золка на двары.*
*Ён нарадзіўся вельмі рана,*
*калі яшчэ зашмат тумана —*
*тумана фальшы і падмана,*
*зашмат імглы і слепаты,*
*зашмат усякай свалаты.*

*Ён нарадзіўся вельмі рана.*
*З душою — чуйнай,*
*як мембрана,*
*з душой — адкрытаю, як рана,*
*ён успрымаў удары зла,*
*як рана — вастрыё ляза.*
*Так, ён з яго жывым*
*сумленнем,*
*з яго высокім уяўленнем,*
*на многае глядзеў*
*з здзіўленнем.*
*Ён, як дзіця, пытаўся ў нас:*
*—Навошта гэта —*
*асцярожнасць,*
*няшчырасць,*
*жорсткасць*
*і варожасць?*
*Навошта? Дайце мне адказ!*
*Навошта?*
*Ну, скажыце прама.*
*Навошта?*
*Ну, скажы мне, мама.*
*Мне, мама, многае няўцям.*
*Навошта?*
*Ну, скажы мне, Рыта...*
*Скажыце шчыра і адкрыта,—*
*навошта гэта ўсё людзям?!*
*Навошта столькі*
*ім туману —*
*туману фальшы і падману?*
*Халоднай чэрствасці імгла?*
*Ці, можа, я радзіўся рана*
*і ўжо зашмат хачу святла?..*
*...Яго ударылі з тумана,*
*з імглы ударылі, з імжы...*
*«Навошта, мама, адкажы?»*

***

*«Чалавек маленькага росту,*
*чаму не рос, па чыёй віне?»*
*Чалавек адказвае проста:*
*«Гэта залежыць не ад мяне».*
*«Чалавек маленькага розуму,*
*мог ты быць разумнейшым*
*ці не?»*
*Чалавек гаворыць цвяроза:*
*«Гэта залежыць не ад мяне».*
*«Чалавек душы маленькай,*
*Мог ты лепшым быць ці не?»*
*Чалавек маўклівы нейкі,*
*не адказвае ён мне.*
*Мабыць, цяжкае пытанне.*
*Чалавек маўчыць нездарма.*

—Толькі ў крайнім выпадку. Я б хацеў удзельнічаць у палітыцы сродкамі літаратуры, як літаратар. Рыхтаваць выступленні ў «розным» або працаваць над законапраектам ці прадстаўляць яго — гэта зусім іншы стан. Не–не ды й хочацца пажыць у тым, былым вымярэнні, зведаць адчуванні, якія суправаджаюць творчы працэс. Калі я пісаў вершы, калі прыходзіла натхненне, я не разважаў, патрэбна гэта каму–небудзь ці не, я проста пісаў. Гэта быў шчаслівы стан, і ён заўсёды быў галоўны для мяне, а астатняе — слава, ганарары — было другаснае, нязначнае. Вядома ж, душа ірвецца туды, назад, да нармальнае працы, да нармальнага чалавечага жыцця...

P.S.—4
Дзесь у далёкім мінулым засталіся радкі паэта:

***Знайсці б які пакойчык кутні,***
***і там, забіўшыся ў куток,***
***аддацца радасці пакутнай —***
***пісаць: радок!***
***Яшчэ радок!***

Няпраўда, нібыта можна неяк перачакаць імгненне творчасці, адкласці яго на пасля. Тое, што не напішацца сёння, не напішацца ніколі, бо ніколі не паўторыцца першароднасць пачуцця, якому не далі выйсця. Можа застацца сумная памяць пра ненапісанае — і толькі, а адпрэчаны першы подых радка ўжо не адродзіцца, нават калі моцна пажадаць... Мяркую, калі б адбыўся цуд, і ўсе не народжаныя за гісторыю сусветнай літаратуры вершы па Боскім загадзе леглі на паперу, дык утварылася б бясконцая паэтычная анталогія, і, мабыць, не горшая за тую, якую мы маем з напісаных твораў. Бясконцыя магілкі загубленага натхнення... Шкада, што на іхнім бязмежжы беларуская паэзія займае не самае меншае месца...

Наша літаратура наогул здаецца мне прастораю нерэалізаваных магчымасцяў. Я не ведаю ніводнага беларускага літаратара, які б змог, які б здолеў, які б паспеў зрабіць усё, што яму наканавана. Гісторыя нібыта асудзіла ўсіх існаваць ва ўмоўным ладзе; што ні лёс — то спрадвечнае пытанне: што было б, калі б...? Калі б не заўчасная смерць... Калі б не рэпрэсіі ўлады... Калі б не выпрабаванні часу... Калі б не акалічнасці...

**—У палітыцы свае правілы гульні, і не заўсёды чыстыя. Ці можна ў наш час займацца палітыкаю і заставацца чалавекам сумленным, які ні пры якіх абставінах не здраджвае сваім прынцыпам?**

—Зусім ігнараваць палітыку — гэта раскоша, якую могуць дазволіць сабе літаратары ў цывілізаваных краінах са стабільным палітычным рэжымам, з усталяванымі дэмакратычнымі каштоўнасцямі. Давайце прыгадаем перадваенны антыфашысцкі кангрэс у Парыжы, у якім прымаў удзел і наш Якуб Колас. Інтэлігенцыя біла ў набат, і яе нельга асуджаць за тое, што яна займалася і займаецца цяпер «бруднаю справай» — палітыкай. Ці не так? Іншае, калі літаратар робіцца палітыканам, асвойвае палітыканскія прыёмы. Для таго, каб палітыка была ўсё–ткі чыстаю справай, каб яна ішла поруч з мараллю, яна павінна кантралявацца, правярацца правам, законам, як і належыць у прававой дзяржаве. Яшчэ Мантэск'е думаў пра гэта, калі распрацоўваў сваю тэорыю ўладаў — заканадаўчай, выканаўчай і судовай.





**—Вам удаецца заставацца самім сабою ў атмасферы палітычных гульняў?**

—Я не думаю, што іду супраць свайго сумлення, паступаюся сваімі прынцыпамі. Аднак, вядома, часам даводзіцца выбіраць, лавіраваць, праяўляць лаяльнасць. Напрыклад, ёсць людзі, якім бы я не падаў рукі ў звычайным жыцці, але тут, у Вярхоўным Савеце, вымушаны падаваць. Палітыка — гэта майстэрства магчымага...

P.S.—5
Назіраючы аднойчы за парламенцкімі баталіямі, я падумала: цікава, чым так прываблівае палітыка такіх розных людзей?.. Калі адкінуць падазронасць, калі ўявіць, што кожны з іх ірвецца на палітычны алімп выключна дзеля таго, каб служыць народу, дык куды дзяюцца з часам іхнія высакародныя памкненні?.. Чаму большасць парламентарыяў (а можа, усе яны?), дабраўшыся да дэпутацкага седзішча, забываюцца на свае палымяныя абяцанкі, якімі так шчодра аздабляліся перадвыбарчыя прамовы?.. Што кіруе імі, калі яны аб'ядноўваюцца ў групоўкі, калі ідуць сценка на сценку, калі на ўвесь свет зневажаюць адзін аднаго?..

Пытанні, пытанні, пытанні... Усе яны рытарычныя, бо адказы на іх я ведаю, мне здаецца.

**—Анатоль Ільіч, ці паспяваеце вы сачыць за навінкамі беларускай літаратуры?**

— На жаль, за ўсімі навінкамі я не паспяваю. Праца ў парламенце займае ўвесь час, асабліва ў дні сесіі. Мяне хапае толькі на тое, каб праглядзець газеты і часопісы. Магу адзначыць аповесць Васіля Быкава «Сцюжа», апавяданні Янкі Брыля, вершы Максіма Лужаніна, Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча, Васіля Зуёнка, Ніны Мацяш; выступленні на тэму дня Сяргея Законнікава, Уладзіміра Някляева, Валянціна Тараса, Галіны Каржанеўскай, Барыса Сачанкі. Радуе, што, нягледзячы на цяжкасці, пісьменнікі ўсё ж захоўваюць творчую форму, выступаюць, друкуюцца...

**—Якія пачуцці выклікае ў вас сучасны стан беларускай літаратуры?**

—Наша літаратура па шэрагу прычын аказалася ў нялёгкім стане, мы з вамі ўжо закранулі гэтую тэму. Я б хацеў, каб беларуская літаратура была больш мужная, больш эмацыянальна сабраная, больш інтэлектуальная. Зразумела, што змянілася сітуацыя, і наш традыцыйны, учарашні чытач абцяжараны жыццёвымі выпрабаваннямі, але, тым не менш, ён усё ж прыслухоўваецца да голасу беларускай літаратуры. Хацелася б, каб яна займала больш пэўныя пазіцыі ў змаганні за дзяржаўнае станаўленне, за прэстыж роднай мовы і культуры. Час ад часу з'яўляюцца публічныя выступленні, заявы, артыкулы па праблемах нацыянальнага адраджэння, і гэта радуе. Трэба аддаць належнае нашым літаратурным выданням, якія аб'ядноўваюць літаратурныя сілы і скіроўваюць іх менавіта ў тым напрамку, пра які я гаварыў. Тут ёсць станоўчыя здабыткі і станоўчы вопыт...

Шкада, што не ўсе мы паслядоўныя ў сваіх словах і ўчынках. Возьмем нашых колішніх «тутэйшых». Гэта было літаратурна–творчае аб'яднанне, яно мела дачыненне да нацыянальна–культурнага і дзяржаўнага адраджэння, да смелых грамадскіх акцый — усе помняць першыя, яшчэ не санкцыянаваныя мітынгі, у якіх прымалі ўдзел многія маладыя літаратары, маладыя журналісты, мастакі. Яны былі аўтарамі «ЛіМа», я тады часта сустракаўся з імі, падтрымліваў іхнія намаганні. Але было ў іхніх паводзінах і такое, што бянтэжыла. Яны

*Хібам нашым ёсць апраўданне,*
*подласці апраўдання няма.*

## *ЖАДАННІ*

1
*Знайсці б які пакойчык кутні,*
*і там, забіўшыся ў куток,*
*аддацца радасці пакутнай —*
*пісаць: радок! Яшчэ радок!*

2
*Забрацца б*
*на пустынны востраў,*
*за трыдзевяць зямель*
*і вёрстаў,*
*узяўшы толькі стопку кніг.*
*І — начытацца ўволю іх!*

3
*Разуцца б і пайсці сцяжынай —*
*то травяністай, лугавой,*
*то гладка ўбітай, палявой —*
*нагамі ўбітай, не машынай.*

4
*Вярнуцца б зноў у маладосць,*
*цябе сустрэць, яшчэ чужую,*
*і жыць пачаць без гэтых вось...*
*Ты ведаеш, пра што кажу я.*

5
*Вось твой лясок.*
*Вось твой пясок.*
*Вось твае сосны. Твая яма.*
*Пачуць бы яшчэ раз: «Сынок».*
*Паклікаць бы яшчэ раз:*
*«Мама».*

***

*Я жыў высока на гары.*
*Было высокім неба поўдня.*
*Была высокай ноччу поўня.*
*Высокім быў —*
*як свет, стары —*
*спеў петушыны на зары.*
*І быў высокім горны вецер...*
*І снілася мне на дасвецці,*
*што я ўзлятаю, нібы пух.*
*Вучыўся зноў лятаць мой дух.*
*Зноў чуў я покліч вышыні,*
*прасторы кліч...*

*І, як над дахамі,*
*лятаў над крыўдамі*
*і страхамі,*
*над дробязямі мітусні.*
*Было высокім сонца поўдня.*
*Было ў пакоі ззянне промня.*
*І бачыў у яго святле*
*я Вашы пісьмы на стале...*
*Лятаў мой дух,*
*як птах вясенні,*
*быў вольны,*
*радасны,*
*жывы.*
*І ў гэтым светлым узнясенні*
*былі са мною побач Вы.*

***

*Была узрушанасць парыва,*
*была даверлівасць цяпла...*
*Любві магчымасць апаліла,*
*магчымасць шчасця апякла.*
*Гарэў, як пацалунак лёсу,*
*на нашых вуснах той апёк,*
*калі мы засыналі позна*
*і гас лясны наш аганёк.*
*Сны наплывалі, нібы хвалі,*
*за хваляй хваля —*
*сон за сном.*
*Мы ў сне, шчаслівыя, лятаді...*
*Ды дзень стаіўся за акном.*
*І потым стукаў асцярожна,*
*сінеў цяўроза у акне.*
*Мы абуджаліся трывожна:*
*«Наяве ўсё было ці ў сне?»*
*Глядзелі сумнымі вачыма*
*у неасветлены куток,*
*і ўспамінаўся нам радок:*
*«А шчасце*
*так было магчыма».*

***

*Сёння было мне горка.*
*Сёння ўбачыў я,*
*як згарала зорка.*
*Я падумаў: «Чыя?»*

*Ворага ці пабраціма?*
*Чыя б ні была, а была.*
*Чыя б ні была, а свяціла,*
*была крыніцай святла.*

вельмі ўжо актыўна кляймілі старэйшых пісьменнікаў, навешвалі на іх ярлыкі, напрыклад, такі як «прыкарытныя»... Пасля таго, як асобныя з «тутэйшых» занялі пасады, як сталі членамі Саюза пісьменнікаў, з якім так горача змагаліся, яны адразу ж адчулі сябе вельмі ўтульна каля пісьменніцкага карыта, і ў нейкім сэнсе нават пераўзышлі тых «прыкарытных» старэйшых, супраць каго выступалі. Аказалася, што яны змагаліся не столькі «за», колькі «супраць», і самі неўзабаве зрабіліся канкурэнтамі адзін аднаму...

P.S.—6

*Вы зразумейце правільна.*
*Я не за тое, не,*
*каб падстаўлялася правая,*
*калі хто па левай б'е.*
*Я не супраць гнева.*
*Ды я за тое, каб нас*
*не білі ні справа, ні злева,*
*ні ў профіль, ні ў анфас.*
*Каб гордасці нашай і годнасці*
*ніхто не наносіў абраз,*
*каб не было неабходнасці*
*рашаць: ці біць у адказ?*

А.Вярцінскі, «Вы зразумейце...»

...Памятаеце, калі спрабавалі зрабіць Саюз пісьменнікаў Беларусі ледзь не прыдаткам маскоўскай групы СП былога СССР, утварыць так званую канфедэрацыю, то маладзейшыя не ўдзельнічалі ў змаганні за наш пісьменніцкі суверэнітэт, а змагаліся старэйшыя, «кансерватары»: Янка Брыль, Пімен Панчанка, Васіль Быкаў... І сёння, калі кожны пісьменніцкі голас так многа значыць у справе нацыянальнага адраджэння, а тым больш голас малады і таленавіты,— іх, колішніх «тутэйшых», колішніх актыўных барацьбітоў, нешта не чуваць амаль.

**—Ва ўсе часы гісторыкі літаратуры абмяркоўваюць вечныя тэмы: паэт і цар, паэт і час. Здаецца, і ніводны паэт прама ці ўскосна не мінуў выказацца наконт гэтага. А як ставіцеся вы да праблем суадносінаў паэта і ўлады, паэта і ягонага часу?**

—Тут два вымярэнні, два планы: паэт — ён і творца, і ён жа — адзінка пэўнага грамадства. Сёння, калі ідзе змена эпох, ідзе пераход ад таталітарнай сістэмы да дэмакратычнай, літаратары не могуць стаяць у баку, не маюць на тое маральнага права. Яшчэ Гётэ пісаў, што які б ні быў таленавіты пісьменнік, ён не можа выскачыць за рамкі свайго часу.

Зноў спашлюся на аўтарытэт: Герцэн у дачыненні да рускай літаратуры гаварыў, што так ужо наканавана рускаму літаратару, што ён павінен быў несці яшчэ і функцыю грамадскага дзеяча,— у адрозненне ад літаратара французскага ці нямецкага, якія займаліся творчасцю, а палітыкай займаліся палітыкі. У Англіі, краіне класічнага парламентарызму, аднак, былі выключэнні: успомніце Байрана, успомніце Мільтана, які адзін з першых у гісторыі чалавецтва змагаўся за свабоду слова, за права пісьменніка быць свабодным. Бываюць часы, калі нельга заставацца ўбаку, па-за падзеямі, над схваткаю...

P.S.—7

Знаёмыя словы, знаёмыя думкі, знаёмыя адчуванні...





Мы ўсе родам адтуль, з савецкага патрыятызму, з краіны, дзе на першым плане заўсёды было грамадскае, агульнае, а неабавязкова-асабістае гублялася дзесь на самай аддаленай перыферыі нашага існавання. Мы ўсе родам адтуль...

Гэтая хранічная гатоўнасць кідацца на амбразуру зрабілася нашай сутнасцю.

**—У нядаўнія, так званыя «камуністычныя» часы самай адметнай рысаю нашага існавання быў усеагульны сацыяльны аптымізм. Усё здавалася стабільным і надзейным, ніхто не баяўся будучыні — ні малыя, ні старыя. Мы з дзяцінства прывучаліся да думкі, што пра нас ёсць каму паклапаціцца: партыя і ўрад ніколі нас не пакінуць. Было нешта ўтульнае і бясклапотнае ў нашай тагачаснай лёгкавернасці... Цяпер жа мала хто адчувае сябе ўтульна... Што сёння перш за ўсё непакоіць дэпутата Вярцінскага?**

—Многае непакоіць... Баліць душа не толькі за сваіх блізкіх і сяброў, якім сёння нялёгка жыць, а пераважае, дамінуе — прызнаюся шчыра — неспакой за грамадскую справу. Не так даўно мы перажылі эйфарыю, звязаную з нашым адраджэннем, з Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце, з прыняццем новай Канстытуцыі, з уздымам нацыянальнай самасвядомасці. Але эйфарыя развейваецца, і на цвярозы розум не ўсё падаецца такім простым і радасным, як здавалася напачатку.

**—Мне здаецца, што мы проста не ўмеем быць свабоднымі. Мы нагадваем прыгоннага селяніна, які нарэшце атрымаў свабоду і нават захмялеў ад шчасця, але ніяк не ўцяміць, што яму рабіць з гэтай свабодаю, як з ёю абыходзіцца. У нас няма вопыту самаадчування вольнага грамадзяніна.**

—Правільна, мы маральна не гатовыя да такога стану. І непакоіць тое, што не ўсё атрымліваецца так, як хацелася б. Наша адраджэнне даецца цяжкай цаною, ідзе з выпрабаваннямі, з пакутамі...

**—Звычайна, калі пытаюцца, што ўратуе свет, успамінаюць словы Дастаеўскага: прыгажосць уратуе свет. Апошнім часам гэтая цытата найчасцей гучыць на конкурсах прыгажунь, хоць класік меў на ўвазе нешта большае за жаноцкую прывабнасць. Што, аднак, сёння можа ўратаваць свет? І што ўратуе Беларусь?**

—Я думаю, што свет уратуюць мудрасць, здаровы сэнс, рэалізм. У кожнага чалавека ёсць інстынкт самазахавання, ён мае і калектыўнае вымярэнне. Калі чалавецтва адчуе, што дайшлі да краю, калі яно спалохаецца за сябе, паслухаецца свайго інстынкту самазахавання, то выжыве. Мы часцінка свету, мы засвойваем вопыт, што напрацавалі іншыя нацыі, і калі мы навучымся быць цывілізаванымі, то ўратуемся.

**—Вы аптыміст?**

—Увогуле — аптыміст, але схільны да дэпрэсіі. Адчуванне драматызму жыцця — гэта ў рэшце рэшт і ёсць жыццё...

P.S.—8

Я разумею, такі час, такое жыццё, такія абставіны — гісторыя патрабуе ахвяраў. І ўсё ж...

Заўсёды знойдзецца замена Вярцінскаму-палітыку, незалежна ад яго значнасці і аўтарытэту. Заўсёды будзе каму выступаць у «розным», галасаваць «за» альбо «супраць», працаваць над законапраектамі. Але ніхто і ніколі не зможа замяніць паэта, ніхто і ніколі не напіша яго вершаў.

*«...Я пяю, ты пяеш, маўчыць кожны чацвёрты...»*

*Ззяла на зорным небе*
*яна шмат лет і зім.*
*І ўсім было з ёй лепей,*
*святлей было усім.*

*І сёння было мне горка,*
*калі ўбачыў я,*
*што згарэла зорка.*
*І я не думаў: «Чыя?»*

***

*Жыццё даецца,*
*каб жыццё тварыць.*
*Каб светла-залатую яго ніць*
*віць і далей —*
*любоўю, справай дзейнай*
*ды словам,*
*што ад справы неаддзелена.*
*Тварыць!*

*Жыццё даецца,*
*каб жыццё тварыць.*
*Надзеяй, праўдай,*
*мужным парываннем,*
*высакародным,*
*дружным намаганнем,*
*што потым зоркай*
*у вяках гарыць.*
*Тварыць!*

*Жыццё даецца,*
*каб жыццё тварыць.*
*Маральны самы,*
*самы натуральны*
*пачатак гэты вось*
*жыццестваральны.*
*Інакш —*
*якая ад жыцця карысць?*
*Тварыць!*

*Жыццё даецца,*
*каб жыццё тварыць.*
*Не марнаваць,*
*не нішчыць, не бурыць,—*
*Тварыць!*

# «ВЕРШЫ МАЕ - ГЭТА ПІСЬМЫ...»

Напрыканцы шасцідзесятых гадоў Анатоль Вярцінскі працаваў літаратурным кансультантам у «ЛіМе». Там, з блаславення паэта — упершыню ў рэспубліканскім друку, — былі апублікаваны і мае вершы. І вось ужо звыш чвэрці стагоддзя доўжыцца нашае светлае пасябраванне, на сутнасць якога —духоўную патрэбу аднаго ў адным — не ўплываюць ні час, ні прастора. Не шмат лістоў напісалі мы адзін аднаму, яшчэ меней было сустрэч. Але ніколі надоўга не перапыняліся «мысленныя гаворкі», тэлефонныя перазовы, абмен настроямі, думкамі, кнігамі.

«Дарагая Ніна, сапраўды, «колькі вятроў намі зведана» ўжо разам! Будзем спадзявацца, што наступныя будуць міласэрна спрыяць нам — як і мы адзін аднаму! Добра?»

Гэтаму аўтографу на зборніку паэзіі «Ветрана» —пятнаццаць гадоў. Але шчырасць ягоная дагэтуль і несумненная, і першародна свежая, і мы ўжо ведаем: яна не дэвальвуецца, не вычарпаецца.

Перагортваючы паэтычныя дарункі Анатоля Вярцінскага, міжволі прыгадваю, як, турбуючыся і за мой творчы лёс, Анатоль Ільіч, ужо вопытны ў літаратурным рамястве майстар, рабіў мне тактоўныя заўвагі, даваў слушныя парады. Гэты клопат ніколі не пераходзіў у дробязнае апякунства, навязванне ўласнага меркавання: была толькі спроба падзяліцца ўласнай творчай спрактыкаванасцю. «Калі пішаш верш,— раіў ён,— старайся мысленна мець перад сабою субяседніка, таго чалавека, ці іншую якую істоту, каму ты адрасуеш свае думкі і пачуцці. Гэта вельмі спрыяе ў вершаванні, памагае твору гучаць шчыра і непасрэдна».

«Вершы мае — гэта пісьмы. Гэта толькі пісьма»,—акрэсліць потым А.Вярцінскі і сваю ўласную творчасць. «Эпісталярны лад» яе выразна прасочваецца ва ўсіх кнігах паэта. Аўтара даверлівых, выспелых у душы лістоў зазвычай не надта абыходзяць пагляднасць почырку, вонкавы гладкапіс, пафаснае красамоўства. Рупіць нешта істотнейшае: увасобіць у радках душэўны ўзрух, жывіну перажывання. «Я б'юся, я шукаю шлях, каб перадаць само гарэнне». Праз тое — як збоі ў дыханні, і перапады ў рытміцы верша, акцэнтацыя на пэўным слове ці радку, шматразовы паўтор яго, настойванне на важлівейшай думцы, якую неабходна давесці да свядомасці адрасата. Паэт почасту, як канатаходзец, балансуе над стромым ярам звычайнай прозы, але ад небяспечнага абрынання туды яго ў рашальны момант, як канатаходца — процівага-шост, ратуе нечаканы троп, алегорыя, асацыяцыя, бліскучая рыфма. Творы Вярцінскага маюць такое самавітае аблічча, што іх папраўдзе не зблытаеш з творамі іншых, і не толькі беларускіх, паэтаў. Мне ж, хоць, магчыма, гэта занадта суб'ектыўнае меркаванне, у іх угадваюцца адгалоскі ўітменаўскіх інтанацый.

«Вершы мае — мае пісьмы. Пісьмы людзям. Тым, якіх я люблю і якім я не магу не сказаць, як я іх люблю. І тым, якіх я не люблю і якім я павінен сказаць, што я іх не люблю».

Што ж вабіць паэта ў людзях? Усё, што з'яўляецца праявай «чалавечага знаку»: сціпласць і працавітасць, спагадлівасць і цярплівасць, сумленнасць і бескарыснасць. А што паэта цурае? Усё, што зневажае і абражае чалавечую годнасць: фальш, падман, несправядлівасць, хцівасць, падступнасць, самахвальства ды самаздаволенасць. Бо ісціная веліч чалавека — тое, што «не прыніжае, не гняце, розум страхам не затуманьвае. Яна — у мудрасці і дабраце».

«Вершы мае — гэта пісьмы... Пісьмы ў мінулае, пісьмы майму папярэдніку. Я хачу ведаць, ці не мае ён да мяне якіх прэтэнзій, я хачу спытацца, ці няма ў яго, мёртвага, якой-небудзь крыўды на мяне, жывога».

Сёння мы ведаем трохі болей «пра час і пра сябе», чым трыццаць, дваццаць, нават дзесяць гадоў таму назад. Усё выспявае ў часе. Не нашая ў тым заслуга, што жывём мы ўжо ў постсавецкі перыяд і маем трохі шырэй расплюшчаныя вочы ды болей растуленыя вушы. Пагатоў, не падстава гэта, і найперш, для маладзі, папракнуць і А.Вярцінскага ў пашанаванні не вартых гэтага, як нам цяпер бачыцца, людзей, падзеяў, ідэяў,— у прыватнасці, Леніна, рэвалюцыі, савецкага месіянства. Так, сапраўды, дзесяткі тры-чатыры такіх паэтычных радкоў — на дзесяткі тысячаў творчага набытку!— маюцца ў зборніках А.Вярцінскага. Так, і гэтым паэтам была аддадзена пэўная даніна часу. Бо кожнаму, народжанаму ў свеце хлусні і падмены паняццяў, той адзіна даступны фальшывы свет надоўга, а то й назаўжды застаецца найрэальнейшай рэальнасцю і праўдаю. Добра, што «час ставіць кропкі над «і». Усё на месца ставіць ён. І называе рэчы — не любіць Час ілжэімён — іх назваю адвечнай. Хлуснёю назаве хлусню, а мітуснёю — мітусню, нядоўгае — нядоўгім, нядобрае — нядобрым, нячыстае — нячыстым, злачыннае — злачынствам». А.Вярцінскі відушчым сэрцам паэта і ў атрутнай ідэалагічнай імглоце валодаў здольнасцю адрозніваць сапраўдныя колеры жыцця ад зіхоткага штучнага лоску. Бачыў і сваімі вершамі адплюшчваў вочы і тым, хто не хацеў і не хоча саслепнуць дарэшты. «Яны такія ўжо — фасады. Заўсёды яркія, як фазаны». Ды — «вуліца знае што да чаго. Вуліца — баба бітая. І ёй скрозь парадны убор бачыцца звычайны быт яе, яе будзённы задворак і двор». Беларускі паэт-шасцідзесятнік гэтак адкрыта і настойліва зрываў хлуслівыя маскі, што чытач падчас дзіву даваўся, як такія творы ўвогуле ўтрымліваліся на старонках кніг. Асабліва адметны аўтарскім непрыманнем свету пошласці і подласці зборнік «Чалавечы знак», выдадзены ў 1968 годзе. Прыгадайма хоць бы радкі з верша памяці Ігара Хадановіча: «Ён нарадзіўся вельмі рана, калі яшчэ зашмат тумана, зашмат імглы і слепаты, зашмат усякай свалаты...»

«Вершы мае — пісьмы ў будучае, пісьмы да маіх патомкаў... Я хачу ведаць, ці памагае ім мой вопыт, і хачу пакінуць ім свой запавет...»

І сапраўднымі пярлінкамі там свецяцца россыпы мудрых выслоўяў — духоўных запаветаў паэта. «Добрыя нашы ўсе парыванні, як кветкі, хочуць, каб іх палівалі». «Не тое лепшае, што навейшае, а тое лепшае, што раднейшае». «Хібам нашым ёсць апраўданне, подласці апраўдання няма». «Сумленне — заўсёды на лаўцы падсудных. Само сябе садзіць, само сябе судзіць. Тым самым ратуе яно сваю сутнасць». «Напоўненасць жыцця — лепшае бессмяроцце»... І яшчэ, і яшчэ, і яшчэ... Ды найдаражэйшае, найкаштоўнейшае й для самога аўтара ў сваіх запаветах — думкі пра самую магутную стваральную сілу свету — сілу Любові. Нічога, што «любоў апрача дзяцей і надзей прыносіць сумненні і падзенні». Не страшнае тое, што «аддаўшы сябе сваёй сяўбе, свету явіўшы плады залатыя, самазнішчае яна сябе, і разам з ёю знішчаюцца тыя, хто яе носіць...» Гэта нічога. Бо самазгаранне — у аснове жыцця. Значна страшней — выпаданне з ланцуга Любові, з «яе ўсепланетнай сістэмы» стварання Дабра і Святла. Бо — «Любоў адкрывае скарбы, абсягі новых зямель. Варожасць кідае на скалы, нянавісць садзіць на мель. Любоў і лад узвышаюць, вядуць за даляглядд. Варожасць і злосць прыніжаюць, адкідваюць назад». «Жыццё, наталі, напаі, навучы!..» «Мала сонца, мала зорак, мала месяца. Падары святло, якім жанчына свеціцца! Перад ім любая знікне беспрасветнасць. Мая яснасць, мая светласць, мая ветласць!» Паэт, якому давялося скаштаваць на вяку і мёду, і чэмеру, які выдатна знае цану і чалавечай лучнасці, і самоты, мудра перасцярагае: «Адбываюцца ўсе здрады па закону цепластраты». Не грэбуйце гэтым законам, не абяртайце свет у ледзяную пустку, а ўласнае жыццё — у жорсткую пакуту! «Крэпасць твая — твой дом, дом сховішча дасць, вядома. Але як там, дома, з цяплом? Ці хопіць цяпла там, дома?»

Туга па «ацяпляльным сезоне» ў асабістым жыцці і ўва ўсім грамадстве — адзін з найшчымлівейшых матываў паэзіі Анатоля Вярцінскага. Але пераважае ў ёй усё-ткі іншае: вера ў дабро на свеце, у тое, «што будзе дабро і што пераможа дабро», як бы ні складваліся прыватна-жыццёвыя і сацыяльна-грамадскія варункі.

*Яшчэ што ад нас залежыць,*
*дык гэта — быць сабой,*
*дык гэта — захоўваць свежасць*
*надзеі сваёй людской...*

Як сказаў паэт, «гэтай і скончым нотай».

**Ніна МАЦЯШ**

# ДУША ДРУГОГА ЧАЛАВЕКА

«Апошні аўтарскі вечар Еўдакіі Лось» — адзін з самых любімых мною вершаў Анатоля Вярцінскага. Ён кранае сваёй чалавечнасцю, уменнем паэта тонка зразумець душу другога чалавека і сказаць пра гэта шчымліва, шчыра, усхвалявана. Паэмы пра маці («Заазер'е»), пра сялянку Аксінню («Дажынкі»), вершы пра сваю радню, пра Міхася Лынькова, Міколу Аўрамчыка, Андрэя Макаёнка, Васіля Быкава, Яўгенію Янішчыц, Ігара Хадановіча, Эдзіт Піаф сведчаць пра тое ж самае. Чалавечнасць і сумленнасць — бадай што самыя адметныя рысы Вярцінскага-Паэта і Вярцінскага-Чалавека. Прычым, Вярцінскі-Паэт цалкам адпавядае Вярцінскаму-Чалавеку. Ён адзін з тых, з кім хочацца расплаціцца дабром і любоўю за ўсё тое

добрае, што яны зрабілі для цябе. Расплаціцца, пакуль не позна.

Напрыканцы шасцідзесятых (а, можа, на пачатку сямідзесятых) гадоў, калі першыя кнігі паэтаў ( у тым ліку і мая «Буслы над аэрадромам») імгненна знікалі з прылаўкаў кнігарань, адбылося наша знаёмства. Сустрэліся мы ў былым, на жаль, даўно зруйнаваным, будынку Саюза пісьменнікаў Беларусі. Як добры знак з'явіўся перада мной Анатоль. «Ты, напэўна, Уладзімір Скарынкін?»— спытаў ён і дадаў: «Мы вырашылі прымаць цябе ў Саюз». Потым завёў у кабінет, уручыў неабходныя бланкі. Да канца сваіх дзён не забуду, як ён, малады і прыгожы літкансультант Саюза пісьменнікаў, уголас паўтараючы кожнае надрукаванае слова, ад імя Івана Шамякіна адным пальцам друкаваў начальніку Беларускага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі хадайніцтва аб паляпшэнні маіх жыллёвых умоў.

Анатоль Вярцінскі заўсёды зацікаўлена і добразычліва сачыў за творчым ростам літаратурнай змены, рабіў усё магчымае, каб маладым паэтам было не ветрана на скразняках часу. Колькі цёплых і, упэўнены, шчырых слоў сказаў ён у іх адрас на VIII пісьменніцкім з'ездзе ў красавіку 1981 года!

На добрых, як сам, людзей спадзяецца паэт, бо «зямному жыццю патрэбны вось так да зарэзу святло іх душ, цяпло іх рук і вачэй». Ён дагэтуль, як хлопчык, глядзіць на свет і радуецца ўсяму, што радуе вока,— кветкам, мору, жанчыне, унуку... Ён дагэтуль —

*Дзівак чалавек...*
*І гэта яго дзівацтва —*
*ратунак яго,*
*яго чалавечы знак.*

**Уладзімір СКАРЫНКІН**

# ЭСТЭТЫЧНАЯ ДРАПІНА

Я чуў (і, мусіць, не толькі я), што паэтычны стыль Анатоля Вярцінскага вельмі падобны на гучанне сапсаванай пласцінкі. Параўнанне злое, але даволі дакладнае, бо, чытаючы Вярцінскага, немагчыма не заўважыць, як літаральна ў кожным вершы і паэме іголка сінтаксісу «западае», трапляе ў своеасаблівую шчылінку, і мелодыя пачынае паўтарацца. Праўда, у паэта ёсць творы (напрыклад, цудоўны верш «Паўднёвае ўражанне»), у якіх вершаваная мелодыя ўнікае відавочных паўтораў, але ўсё адно адчуваецца, што асноўныя словы і гэтых твораў нібыта азіраюцца назад, нібыта хочуць вярнуцца на вусны аўтару.

Паэт свядома ўводзіць у тэксты таўталагічныя канструкцыі. Гэтым ён прыкметна збядняе сваю лексіку, аднак жа дасягае значнага эфекту — яго вершы робяцца адразу ж пазнавальнымі. Адзін з асноўных творчых клопатаў паэта — не выкасоўваць аднасэнсавыя словы і выразы, а натхнёна з радка ў радок паўтараць іх — да сказанага дадаваць сказанае, да ўбачанага ўбачанае. Напрыклад, шырока выкарыстоўваць дзеяслоўныя паўторы («Ноччу заплакала дзіця. Заплакала, загаманіла нема...», «Бачу ў мінуту азарэння: падаюць вашы тры вымярэнні. Падаюць вашы сцены і сталі...», «Я фільм глядзеў. Там — Спартака распялі. Распялі ноччу, калі ў Рыме спалі...» і г.д.); анафары ( у якасці прыклада цалкам можа паслужыць верш «Дзівак чалавек», і не толькі ён); прыслоўныя паўторы («Рана ці позна, позна ці рана высахнуць слёзы, загоіцца рана. Рана ці позна... Рана ці позна, позна ці рана суровая помста спасцігне тырана. Рана ці позна...», «Доўга не трацілі ўдовы надзей, доўга чакалі маці дзяцей...», «...і сталі цягнуць, гнуць сталі вяршыню. Цягнулі сілком, цягнулі сілом» і г.д.); паўторы назоўнікаў у звязку з дзеясловамі («Бурбоны вяртаюцца ў Парыж, на трон вяртаюцца Бурбоны...», «Цётка плакала па мужу, цётка плакала па дзецях, цётка плакала па людзях...» і г.д.).

Шчыра кажучы, усіх паўтораў у Вярцінскага не злічыць. Мусіць, ён адзіны ў свеце (на Беларусі дык дакладна што адзіны) паэт паўтораў. Але што цікава, Вярцінскага нельга папракнуць у аднастайнасці — з яго збедненай лексікі ўвесь час вырастаюць новыя сэнсы. У лепшай сваёй паэме «Дажынкі» — творы, невялікім па аб'ёме — паэт шмат разоў (часам, здаецца, аж занадта) называе імя галоўнай гераіні. Але як яно, гэтае імя, кожны раз па-новаму гучыць! Колькі ў ім прачытваецца вобразаў: Аксіння — жняя, Аксіння — руплівіца,





Аксіння — калгасная парабчанка, Аксіння — цярплівіца, Аксіння — гаспадыня, Аксіння — маці, Аксіння — жонка, Аксіння — пакутніца, Аксіння — святая...

Варта нагадаць літаратурным пачаткоўцам, што паўторы, не асветленыя такімі сэнсамі-вобразамі, змястоўнымі сімваламі, стамляюць, знішчаюць мастацтва.

Часам мне здаецца, што Вярцінскі дзейнічае, як рэжысёр, які не выкідвае ніводнага кадра, манціруе ўсе адзнятыя дублі. Не ведаю, ці карысная такая ашчаднасць для кіно. Для паэзіі ж Вярцінскага — карысная.

Ашчаднасць Вярцінскага выяўляецца і ў тым, што ён адносіцца да паэтаў, калі так можна сказаць, аграфічных — тых паэтаў, якія мала пішуць. Ва ўсякім разе, не кожны дзень. Упэўнены, пісанне вершаў кожны дзень разбурае паэзію. Паэт павінен умець маўчаць. Стомлены рыфмаванымі кіламетрамі сучасных беларускіх вершапісцаў, я ўдзячны Вярцінскаму за яго маўчанне. Яно — творча-спрыяльнае, і цень ад яго ляжыць на стылі паэта. І калі сапраўды стыль Вярцінскага — сапсаваная пласцінка, то на гэтай пласцінцы кожная драпіна мае эстэтычную вартасць.

Пісаць пад Вярцінскага немагчыма, бо яго пісьмо надта бачнае, надта няўклюднае ў сваёй індывідуальнасці і надта нязручнае для вучнёўскага пераймання. З гэтай прычыны ў Вярцінскага няма і не будзе эпігонаў, імітатараў. Можна імітаваць змест яго твораў (змест, дарэчы, не такі ўжо й складаны), але немагчыма (каб ніхто не заўважыў!) імітаваць ягонае пісьмо.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

# МУДРЭЦ

Як чалавека мы здалёку пазнаём па яго паходцы і паставе, так і паэта — з першых радкоў — па рытмічна-інтанацыйным малюнку, па асаблівасцях стылю, па эмацыянальнай афарбоўцы. Пазнаём, вядома, не кожнага, а толькі надзеленага адметным голасам і ў найбольш характэрных для яго творах...

Каб палюбіць яго паэзію, у яе трэба доўга і цярпліва ўчытвацца. Ён прамаўляе разважліва, няспешна, з паўторамі, з варыяцыямі. Можа скласціся ўражанне, што ён не столькі хоча быць пачутым, колькі засяроджана слухае самога сябе. Гэта паэзія інтэлекту, перавагі разумовага пачатку над пачуццёвым і публіцыстычным.

Уважлівы да свайго духоўнага росту, патрабавальны да іншых.

*Абрастаем болямі, охамі*
*Як валун абрастае мохам,*
*абрастаем мохам абставін.*
*Абрастаем даўгамі, хвастамі...*

Жыццёвая канкрэтыка для яго — толькі ўзлётная пляцоўка. Мэта і звышзадача — падняцца ў «неба ідэалу». Абвострана ўспрымае ўсё, што звязана з маральнасцю, з грамадзянскім абавязкам. Яго герой няўступчывы, у пэўных выпадках — непрымірымы, але голасу ніколі не павышае. Нават тады, калі абураецца. Жартаўлівы ў жыцці, у творчасці паэт ці не занадта сур'ёзны, толькі калі-нікалі сустрэнешся з усмешкай ці лёгкай іроніяй. Часамі задужа павучальны,— робіць высновы там, дзе чытач ужо ўсё даўно зразумеў:

*Хібам нашым ёсць апраўданне,*
*подласці апраўдання няма.*

Схільны падключацца да «ўсепланетнай сістэмы» агульначалавечых каштоўнасцяў, ён, тым не менш, заўжды абапіраецца на глебу перажытага, дакладны ў дэталях, тонкі ў псіхалагічным малюнку. Рэфлексуе. У плане самарэфлексіі цікавы, на мой погляд, верш пра анёла. Херувім сабраў анёлаў і пачаў іх хваліць, дзякаваць за добрую службу. Анёлы расчуліліся, і толькі адзін з іх паводзіў сябе дзіўна: маўчаў, унурыўшыся, а потым узбунтаваўся. Анёл усумніўся ў сваім праве быць бездакорным, калі вакол — суцэльны грэх.

*На небе быў страшны перапалох.*
*Анёлы рыкалі, як зверы.*

І характэрная, іранічна-няпэўная канцоўка:

*Не ведаю я, як вырашыў Бог,*
*якія прыняў ён меры.*

Сярод ідэй, ідэалаў і таму падобных абстрактных паняццяў у яго паэзіі знаходзіцца месца і чалавеку. Прычым не нейкаму там герою ці супермену, а чалавеку звычайнаму, радавому, так званаму простаму. У ім паэт умее разгледзець лепшае, шчыра спачувае яму ў ягоных бедах і нават, як сапраўдны інтэлігент, у нечым перад ім вінаваціцца. «Даруйце, даруйце!»— па-хрысціянску просіць ён прабачэння, звяртаючыся да маці і да сына, да жанчыны і да сябра — да ўсяго свету, і прагне скупіць віну: «Я з пошласці, з броду няўмольна, няўхільна цягнуць сябе буду».

Прага чалавечнасці спараджае філасофію чалавечнасці — філасофію найвышэйшага кшталту.

*Сумленне —*
*заўсёды*
*на лаўцы падсудных.*
*Само сябе судзіць,*
*само сябе судзіць*
*Тым самым ратуе яно*
*сваю сутнасць.*

Адносіцца да катэгорыі «малапісучых». Паэтычны імпульс выспявае ў ім марудна, цяжка, таму, магчыма, і стыль цяжкаваты. Вусным красамоўствам таксама не вызначаецца. Справядліва будзе сказаць: піша як гаворыць.

Мае добры густ, і калі перабірае, то адно ў паўторах. З жанчынамі джэнтльмен, што на сёння з'ява амаль рэліктавая. Тыповы інтраверт і прыроджаны дыпламат. Апошняе спатрэбілася яму ў сферы палітыкі, якой усур'ёз, на мой погляд, заняўся.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

Ён не вышукваў спосаб пісьма, не блукаў па цаліку. Проста крочыў сцяжынай, па якой час ад часу каціліся колы. Сцяжына шырылася — і стала дарогай. Адсюль натуральнасць ягонага радка — на ўзроўні зямлі.

*«Дзень добры, Мама!»—*
*кажу крыжу.*

Гэта можа раздражняць, калі думаць, што вершы — выпрабавальныя палёты.

Самалёт таямніча здзіўляе, бо жалеза не павінна лятаць. І ўсё ж гэта штучнае здзіўленне, а сапраўдная таямніца — палёт авадня.

Ці позірк хлопчыка — услед авадню і самалёту.

Словы не высільваюцца, каб стацца паэзіяй. Яны найлепш пачуваюць сябе ў прамых значэннях. Пераноснае, метафарычнае ўзнікае незалежна — між іх і за імі.

«Хлопчык глядзіць...»

Тут наіўны прымітывізм і банальнасць, што, як двойчы два, давядзе вам любы праведзейны член любога літаратурнага аб'яднання. Гэтыя дзеясловы з назоўнікам пакінуць бы ў прыцемках, у сховах верша, каб пракінуліся незаўважна. А паэт нанізвае іх рэфрэнам і называе імі верш. Ды выносіць іх на вокладку, даючы назоў кнізе — ключ яе паэтычнага коду. Ён што: не цяміць, што ў паэты ўбіўся?

Пра воўка памоўка, а ён тут.





Анатоль Вярцінскі не цяміць, што такое бытавізм, прымітыў, банальнасць, вызначэнняў гэткіх у стасунках быцця і паэзіі для яго не існуе — і ён вынікае як паэт з іх неіснавання.

Праз тое ў беларускай паэзіі ён адзінкавы. З горшых ці з лепшых — гэта ўжо іншае, па ўяўленнях і схільнасцях.

Але бясспрэчная ягоная прысутнасць.

*А людзі вялікія тое ядуць,*
*што людзі простыя ім даюць.*

Напісаць бы не *простыя*, а «маленькія». Была б, як прыкмета верша, хоць нейкая гульня. Толькі яна без патрэбы, а ў патрэбу — няхай праз дзеяслоўную рыфму і правалы інтанацыі — сказаць істотнае.

Наіўна?

Хлопчык глядзіць — і нічога не ўбачыш, калі не зірнеш сустрэчна.

*Паміраюць ад кулі шалёнай,*
*ад вады, ад жуды, ад бяды.*
*А яшчэ — ад зялёнай-зялёнай,*
*ад зялёнай, як раска, нуды.*

Тут усяго адзін дзеяслоў.

Дарэчы, пра розніцу ў адценнях між тым, што глагол, і тым, што дзеяслоў, мне ўпершыню падумалася пры чытанцы вершаў Вярцінскага ў перакладах па-руску. Я здагадаўся для сябе пра матэрыяльнае ў слове. Пра прынцып рэха, пра сутнасць зваротнай сувязі слоў. Пра тое, што закон захавання энергіі — адвечны і універсальны.

*Што яшчэ магу*
*сказаць у гэты час?*
*Жывіце без мяне,*
*я буду жыць без вас.*

*Былы парыў заціх,*
*былы запал пагас...*
*Жывіце без мяне,*
*я буду жыць без вас.*

Вярцінскі не гуляе ў вечнае. Ён супадаў і супадае з часам — і, здараецца, надае часу прыкметы. Адна з іх — эпіграф да «Рэквіема па кожным чацвёртым».

*У часе мінулай вайны загінуў*
*кожны чацвёрты беларус.*
З дакумента
*Ой, хацела мяне маці*
*За чацвёртага аддаці...*
З народнай песні

У паўзе паміж эпіграфам і самім рэквіемам — чатыры дзесяцігоддзі намаганняў беларускіх паэтаў пакалення ваеннага, апаленага вайной, філалагічнага... Пасля гэтага — альбо пісаць варыяцыі на тэму, альбо памаўчаць.

Так ствараецца прастора прысутнасці. Яна здабываецца не кожным, яна — творчае дзеянне. Яе нельга заняць, як чужую нару.

Геній — бязмежная прастора прысутнасці, талент — прысутнасць у рухомых межах. Калі ж сыходзяцца межы там, дзе ты сам, то гэта і ёсць ты, і больш нічога. Зрэшты, прыродай кожны абраны аднолькава з усімі. Хай сабе нехта думае, што абраны больш.

Прысутнасць па Вярцінскаму — гэта яшчэ і адсутнасць прэтэнзій на выключнасць. Ён не супраць таго, што абраны менш. Бо з'явіўся ў свеце з чалавечым знакам, напісаўшы тое, што напісаў:

«Хлопчык глядзіць...»

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

# Маятнік Анатоля ВЯРЦІНСКАГА

Калі ў маёй галаве ўжо склалася трывалая фрывольна-дылетанцкая думка пра вядомага беларускага паэта Анатоля Вярцінскага, я даўмеўся зазірнуць у нашы афіцыйныя святцы — літаратурныя энцыклапедыі. Нягледзячы на іх савецкую сутнасць, яны мне ўсё ж у тым-сім дапамаглі ў стварэнні майго, суб'ектыўнага, вобраза паэта.

Вось што, напрыклад, пішуць у бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» пра грамадзянскую дзейнасць Анатоля Ільіча Вярцінскага.

**«Працаваў** літработнікам, потым загадчыкам аддзела газеты «Літаратура і Мастацтва». Быў рэдактарам мастацкай літаратуры ў выдавецтве «Беларусь», з 1967 — літаратурным кансультантам па паэзіі ў Саюзе пісьменнікаў БССР. У 1975—1982 сакратар праўлення СП БССР. У 1986—1990 галоўны рэдактар газеты «Літаратура і Мастацтва». А.Вярцінскі актыўна **ўдзельнічае** ў літаратурна-грамадскім жыцці: з'яўляецца членам рады СП Беларусі, членам калегіі Міністэрства культуры Беларусі, прэзідыума Беларускага фонда культуры, рэдактарам зборніка «Далягляды». Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь з 1990. **Узнагароджаны** дзвюма Граматамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, медалём...»

Застаецца толькі перавесці дух для такога самотніка, як я... Але, як піша сам Вярцінскі:

*Справа не ў нашых імёнах, не ў тым,*
*хто, дзе і калі,— не ў славе.*
*Слава, як вядома, дым.*
*Справа — у добрай справе.*

...Вось ён ідзе насустрач, і нешта ёсць у яго хадзе ад маятніка. Ён суворы, засяроджаны, але... пільны. І заўважыўшы цябе, адразу, здаля, запальвае на нерушным твары святлафор-усмешку... «Рад, рад, падыходзь, браток, давай пагамонім...» Тады — таптанне на месцы, пераміранне з нагі на нагу... «Давай твары, звані, жыві!..» І — той жа маятнікавы ход аддалення...

Вось ад гэтага мядзведзя-бадзягі, які, як вядома, не ўпадае ў доўгую зімовую спячку, хацелася б і пачаць. Ды перашкаджае сама паходка, пэўней, той маятнікавы ход, як адлік часу. У «маятнікавасці» Вярцінскага, ва ўсім тут згаданым, а магчыма, і надуманым мною, я адчуваю як бы барацьбу дзвюх супрацьлеглых сілаў, двух супрацьлеглых пачаткаў: святла (аптымізма) і прыцемку (песімізму, кансерватызму). А паколькі ні адзін з іх не стаўся пераможаным, то Вярцінскаму-чалавеку застаецца адзінае — далейшае змаганне, барацьба, якая і дае права на паўнацэннае чалавечае жыццё. Так яны і дужаюцца: смяротны зямны чалавек, які прымае ўсё і ўся, і Паэт, які адвявае палову ад зерня...

У самыя застойныя часы нашага грамадства Вярцінскі-маятнік тварыў свой зрух. Не кожны адразу пасля хрушчоўскай адлігі (1966 г.) мог надрукаваць, напрыклад, такое, што, заўважу, і сёння не страціла сваёй актуальнасці, няхай яго нават — для тугадумаў — завуаліравана пад «гістарычны эцюд»:

*Што, рэвалюцыя,— гарыш!*
*Дагарае твой сцяг чырвоны!..*
*Бурбоны вяртаюцца ў Парыж,*
*на трон вяртаюцца бурбоны.*
*Ззяй, раяліст, тваё ўзяло!*
*Радуйся, люд забабонны!*
*Бурбоны жывучыя, як зло,*
*надзіва жывучыя бурбоны.*
*Радуйся, дзікая Вандэя,—*
*перамагла контрідэя.*
*А ты чаго невясёлы, плебс?*
*Ці табе хмурыцца лепш?*
*У цябе такое ўражанне,*
*што не было дня ўчарашняга?*

А яшчэ кажуць, што пра Вандэю першым нагадаў нам Алесь Адамовіч. Не чытаем ці памяць слабая? Мабыць, і так і гэтак. Ды, урэшце, я не пра Вандэю. Я — пра Вярцінскага, як асобу і як паэта. Часта цяпер успамінаюць, як на пачатку гарбачоўскага часу ўзяўся ён за перабудову «ЛіМа». Але гэты момант я ўжо і сам добра помню. І як тое не помніць чалавеку, які, знаходзячыся на лячэнні ў Крывошынскай псіхбальніцы, атрымлівае ліст ад галоўнага рэдактара газеты з прапановай аб нештатным супрацоўніцтве?! Аглядальнікам літаратурнай перыёдыкі! Такое любога літаратара, заблытанага ў цянётах быцця, з магілы падыме! І я — устаў. Не без дапамогі Вярцінскага. Праўда, супрацоўніцтва, хоць і было плённым, але, на жаль, нядоўгім. Канечне, дылетанцкія разважанні вясковага электрыка, які без боязі памыліцца ставіў дыягназ любой паэтычнай асобе, не зважаючы на ўзрост, вопыт і ранг, не маглі доўга працягвацца. Гэтую «недыпламаваную прывінцыйна-філасофскую» (Ул.Конан, газета «Звязда») практыку хутка патушылі агульнымі сіламі СП (ў дадзеным выпадку — саюза пажарнікаў). На Вярцінскага ціснулі як маглі, бо я тут быў ні пры чым, я мог пісаць, што мне ўздумаецца, але друкаваць... І Вярцінскі, відаць, з палёгкай уздыхнуў, калі я, прадчуваючы канец «дэмакратычнай афёры», адмовіўся ад супрацоўніцтва сам. Але ўсё ж быў кароткі літарацкі «бум»! Быў свежы ўсплёск! Быў першы званок на перагляд ці, лепш сказаць, літаратурную неагляднасць...

І вось я думаю, чаму Вярцінскі мог і можа рабіць сабе гэтую кар'еру, пры гэтым не губляючы свайго ліберальнага іміджу? Загадка з тых, што лёгка разгадваюцца: супадаць з часам, але не выпадаць з часу, быць маятнікам...

Паэтычны талент Вярцінскага па вялікім рахунку (гамбургскім, як пісаў В.Шклоўскі) не ўспрымаўся ў вышэйшым літаратурным «сінодзе». Але скасаваць яго дарэшты было немагчыма, бо паэт і сам засядаў у тым «сінодзе» (глядзі біяграфічную вытрымку на пачатку артыкула). І ўсё ж, на мой погляд, «сінод» як найлепш выйшаў з гэтай неардынарнай сітуацыі. Бяскроўна і памяркоўна. Вярцінскі атрымаў сваю Дзяржаўную прэмію. Але не за паэзію, а за публіцыстыку. Маўляў, атрымлівай прэмію, будзь сваім, аднак не крыўдуй, браток,— на жаль, твая паэзія да такой пашаноты не дацягвае... Ну, не ўлазіць яна ў наш рытмічна-традыцыйны рад!

Не ведаю, як успрымаў і ўспрымае такія гульні Вярцінскі. Думаю, з разуменнем. З разуменнем будучага. Нездарма ж у яго такі тонкі ўнутраны зрок і слых, вострае адчуванне чалавечай непаўнацэннасці. І сваёй і нашай. Таму так балюча ў яго вершах прадзіраюцца скрозь краты будзённых (рабочых) слоў СУМЛЕННЕ і шчымлівая ШЧЫРАСЦЬ. Таму, выходзячы на людзі са сваёй унутранай адзіноты, ён натыкаецца на калючыя скруткі зла, хцівасці, нянавісці, двурушша... Мабыць, адсюль — і нервовасць, і няроўнасць, і агрэсіўнасць яго слова.

Рэдка друкуючыся, ён грашыць мнагаслоўем (загаворваннем) у сваіх вершах і паэмах. Але гэтая слоўная нястрыманасць лібералізуе яго думку, а заадно вымагае СВАБОДНАЙ, не дзяржаўнай, не кананічнай формы паэтычнага выражэння.

І тым даўжэй пасля цягнецца яго чарговае маўчанне — выдах, паўза, перадых... Змена часовай квадры альбо пэўнага грамадскага перыяда... Мяркую, гэтыя свядомыя паўзы акумулявалі, зараджалі, падсілкоўвалі яго слова ў полі высокага жыццёвага напружання. Маўчаць таксама трэба ўмець.

«Адзінота — вельмі карысная якасць у выхаванні. У манастырах жылі так, каб не надта ўжо гаварыць, а больш думаць. І яшчэ цудоўная рэч для чалавека, калі ён сапраўды Паэт,—доўгая няўвага да яго. Карысна самавыхоўвацца ў маўчанні і непрызнанні, таму што тады чалавек пакутуе разам з часам і прыродаю, становіцца (робіцца) больш уважлівым да жыцця». Гэтая цытата з інтэрв'ю Генадзя Айгі, здаецца мне, як найлепш вызначае Вярцінскага-Паэта. Бо, вось жа, перад вачыма афіцыйная даведка з кніжкі «Тры цішыні»:

*Я вяртаюся ў вершы,*
*зусім не па славу паэта.*
*Я вяртаюся ў вершы,*
*і ёсць запаветная мэта.*
*Я хачу расказаць ім,*
*паведаць ім многа-многа*
*з падарожжа майго,*
*майго шляху зямнога.*

Расказаць СЯБЕ вершам? Ці расказаць ВЕРШАМ сябе? Вярцінскі можа спалучаць адно з другім, бо ведае, што:

*Нам памагае ўбачыць Час*
*тут — толькі попел,*
*там — алмаз,*
*тут — зерне,*
*там — палова,*
*тут — пустазвонства гучных фраз,*
*там — ісціннае слова.*

І што гаварыць, калі б Вярцінскі не змог расказаць пра сябе вершам ці расказаць сябе вершу, то хіба ведаў бы я пра яго ўсё тое, што зараз пішу...

Наглядаючы за ім падчас трансляцый з Вярхоўнага Савета, бачу: сядзіць у шумнай зале, поўнай гульцамі ў вялікую палітыку, адзінокі — сам у сабе — чалавек, без асаблівых узрушэнняў, без рэактыўнай рэакцыі «на паўзучыя падзеі»... Паўза ў яго, пярэдых, маўчанне?.. Ці проста ПАЭТ трапіў сюды выпадкова? Што сядзіш, чаго чакаеш, ПАЭТ?! Міласці, медаля ці... свайго Часу на Слова?

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# ЖЫВАТВОРЧЫ ПАЧАТАК

Быў я тады маладым супрацоўнікам Камітэта па друку. Далі заданне: выступіць на пасяджэнні Камітэта з крытычнай рэцэнзіяй на паэму Анатоля Вярцінскага «Дажынкі» як на паклёп калгаснага ладу. Вынікі пасяджэння былі прадвырашаны, паколькі яно праводзілася паводле тэлефоннага званка, як тады гаварылі, з дырэктыўных органаў. Паэма кранула мяне сваёй праўдзівасцю, арганічным спалучэннем душэўнага і сацыяльнага: так і здавалася, што галоўны вобраз пісаўся з самага дарагога для аўтара чалавека — роднай маці. Старшыні камітэта я сказаў, што не змагу крытычна выступіць, і растлумачыў чаму. Хутчэй за ўсё, ён пашкадаваў мяне, тады маладога літаратара, бо даручыў рыхтавацца іншаму супрацоўніку.

З таго часу паэзія Вярцінскага са мной і ўва мне.

І тады, і пазней ён пісаў пра сугучнае, вельмі блізкае яму. Пісаў без хітраспляценняў і красвордаў. Настрой прыходзіў і выяўляўся праз словы, іх спалучэнні, праз моцную рытмічную аснову, якая надавала зграбнасць і рух вершу, жывое дыханне.

Вельмі абаяльны ў яго паэзіі воблік жанчыны. Анатоль Вярцінскі ніколі не гаварыў пра яе зняважліва ці звысоку. Жанчына для яго — выратавальніца, натхняльніца; жыватворчы пачатак і ўнутраная гарманічнасць, што ўласціва яго паэзіі, прыходзяць ад яе.

І хоць цяпер для Вярцінскага самы актуальны жанр — публіцыстыка, мне здаецца, ён зноў вернецца да паэзіі, яна — тая стыхія, якая душою паэта спасцігаецца і душою вартуецца.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ**

# ЗАГАДКА ДЗВЮХ ПАРАЛЕЛЬНЫХ ПРАМЫХ

Верш Анатоля Вярцінскага дзейсніцца, як рытуал — са сваім паступовым і паслядоўным развіццём тэмы, са сваімі паўторамі, у якіх тое, што ўжо назвалася, засвойвае сваё гучанне, а тое, што праявілася, распазнае магчымасці і хоча праявіцца новымі рысамі, са сваім інтанацыйна-рытмічным малюнкам...

Лексіка ў Вярцінскага — жменя слоў, эпітэты — простыя прыметнікі, метафары — амаль ніякіх, але рытм пераконвае нас, што так і павінна быць; рытм вядзе верш і паказвае, куды яму ісці, ён знаходзіць і адбірае патрэбныя словы, ён ператварае апазіцыю двух пачаткаў у гармонію, у іхні дыялог. І тады «Купала ідзе да Коласа», тады зямлі адкрываецца «высокае неба ідэала», тады рэкі выходзяць з берагоў, тады ў жыццё мужчыны ўваходзіць жанчына, а ў паэтава жыццё — муза, тады ў сваім бясконцым імкненні да нейкай неспасціжнай мэты аб'яўляюцца дзве паралельныя прамыя...

Анатоль Вярцінскі з'явіўся ў беларускай паэзіі як выключэнне з правіла, як альтэрнатыва самой тагачаснай беларускай паэзіі. Парадыгма яго творчасці настолькі не супадала з агульнапрынятай, што ствараласа ўражанне: усе пішуць *удоўжкі*, а ён *упоперак*, усе ўмеюць пісаць ці, прынамсі, стараюцца ўмець, а ён не ўмее і не хавае свайго няўмення. Аднак у гэтага няўмення быў почырк з'явы.

Ён уваходзіў у беларускую паэзію, адначасова выходзячы з яе, і сваёй творчасцю як бы фармуляваў некаторыя вельмі істотныя, але забытыя ці адпрэчаныя ў айчыннай паэзіі прынцыпы, у прыватнасці: паэзія не зводзіцца да красамоўства ці сумы метафар, гэта ўсяго толькі прыёмы, а яны могуць быць і наўмыснымі, і сляпымі; творчасць — гэта сутворчасць, супрацоўніцтва паэта і музы, асобы і часу, дрэва і надвор'я, і калі паэт піша вершы **сам**, ён імітуе творчасць; паэтычным становіцца тое грамадскае, якое для паэта сталася асабістым...

Анатоль Вярцінскі з'явіўся, але не выявіўся, назваўся, але не ўвесь, часткова, і стаў для нашай паэзіі магчымасцю, якая недзе размінулася са сваім прызначэннем, якая паверыла агульнапрынятаму больш, чым сваёй «няправільнасці», чалавечаму больш, чым боскаму...

У адным смешнаватым, але якраз праз гэта амаль страшным вершы «Анекдоты, ці Малітва ў гасцях» паэт просіць у Бога, каб той выбавіў яго з прыкрага стану няўмення і развязаў яму здольнасць расказваць анекдоты, бо «Проста маўчаць ужо няёмка, калі вакол такая гамонка, калі такое застолле ідзе», і калі побач суседка...

Услухаемся, аб чым просіць паэт; ён просіць, па сутнасці, аб тым, каб Бог «выраўняў» яго, зрабіў яго такім, як усе, сцёр з яго чала боскі знак, які не дазваляе супасці з анекдатычнай рэальнасцю.

Здаецца, усё-такі ўпрасіў Бога, і ці не ёсць яго публіцыстычныя выступленні, яго парламенцкія прамовы, тое, што ён называе «майстэрствам магчымага», вынікам «малітвы ў гасцях»?!.

Тая барацьба, якая адбывалася ў Вярцінскім «супраць сябе», была непрыкметнай і ціхай, але ад таго не менш, а можа, і больш драматычнай. У гэтай барацьбе, магчыма, вырашалася нешта большае, чым творчы лёс аднаго паэта.

Паралельныя прамыя, нібы падпарадкоўваючыся закону «мінус адно вымярэнне», супадалі ў адной простай лініі — і станавілася лішнім імкненне за далягляды асвойтанай рэчаіснасці; «высокае неба ідэала» адхілялася ад твару зямлі — і палітыка ўсім, у тым ліку і паэту, навязвала ўмовы гульні, рэкі ўваходзілі ў берагі і, увайшоўшы, схопліваліся суцэльным панцырам лёду, ператвараліся ў плоскасць: па ёй можна было хадзіць, як па сушы, але ці не на гэтай плоскасці забіўся на смерць паэт — сабрат па творчым цэху і цёзка Анатоля Вярцінскага, і Анатоль Вярцінскі, адчуўшы ў гэтым, такім «неўразумелым» выпадку, яе містычную глыбіню, адгукнуўся «па-колішняму». «Нешта часта на Фрунзе 5 пахавальныя маршы гучаць. Род пісьменніцкі нешта зводзіцца, нетрывушчы пісьменніцкі род... Галалёдзіца, галалёдзіца, галалёдзіца, голы лёд...»

Ці не на гэтай плоскасці, ці не на гэтым «голым лёдзе» разбілася і сама паэзія Анатоля Вярцінскага, яна разбілася, а ён застаўся жывы, жывы, але **сам** — вінаваўца, ахвяра, сведка?!.

І што, дарэчы, азначаюць яго цяперашнія развагі аб палітыцы — ці не тое, што «неба» паэту ўжо не належыць, ці не тое, што паэт выпаў са сферы прычыны ў сферу выніку, дзе чыняцца палітычныя разборкі і творацца законапраекты, і ці не тое, што сама рэчаіснасць апынаецца постпаэтычнай?!.

Сваім з'яўленнем і зняменнем сваім Анатоль Вярцінскі дыягнаставаў — і дыягнастуе — нейкія паэтапныя працэсы, што адбываюцца з чалавекам і ў чалавеку, з грамадствам і ў грамадстве, з паэзіяй і ў паэзіі.

Ён у вялікай меры загадка. І таму, што ў плане звычайных чалавечых узаемадачыненняў ён «разгаданы», ён «свой», яна дзейсніцца і разгортваецца ў «падлёдавай» прасторы айчыннага прыгожага пісьменства.

**Алесь РАЗАНАЎ**

P.P.S.

—Анатоль Ільіч, адно і самае апошняе пытанне — аб паэзіі. Што яна такое, паэзія: стыхія, якая парушае ўсе законы, ці само ўвасабленне закону? Вясна, якая прыходзіць і адыходзіць, ці ўсе поры года? «Мне сніўся сон» ці рэальнасць?

—Кожны паэт творыць свой свет па сваім падабенстве, як бы нанова, і ў гэтым сэнсе парушае ўсе законы. З другога боку — паэзія імкнецца неяк гарманізаваць жыццё, і такім чынам яна — і ўвасабленне закону... Яна і вясна, і ўсе поры года. Што такое салаўіны спеў вясной? Гэта салавей самасцвярджаецца, шле сігнал свету: я ёсць! Так і паэзія: яна не толькі спеў, яна яшчэ і форма самасцвярджэння чалавека — як фізічнай істоты, як духоўнай асобы, як грамадзяніна... Яна і сон, і рэальнасць. Спачатку адбываецца ўнутраны штуршок, прыходзіць натхненне, нараджаецца ідэя. Потым ідэя пачынае абрастаць словамі, пераўтвараецца ў верш, у адбітак рэальнасці... Калі абагульніць: паэзія — гэта адметны сродак пазнання і асэнсавання жыцця.

НАШ | Леў ГАРОШКА



# ДАХРЫСЬЦІЯНСКАЯ ВЕРА НАШЫХ ПРОДКАЎ

*(Прычынкі да беларускае міталёгіі)*

Да гэтага часу пытаньне дахрысьціянскага вераваньня беларускіх пляменьняў распрацавана вельмі мала. Гэта тымбольш дзіўна, што адносна дахрысьціянскіх вераваньняў славянаў наагул ёсьць аграмадная літаратура[1]. Нажаль, большая частка тых твораў нават і не ўспамінае аб беларусах. Сьледам за тымі аўтарамі некаторыя дасьледнікі беларускае прагісторыі, якія займаліся беларускай міталёгіяй, рабілі нямала памылак і тым самым яны забавязваюць пазьнейшых дасьледнікаў зьвярнуць належную ўвагу на той старадаўны пэрыяд нашае гісторыі і выявіць аб ім прынамся тое, што магчыма ў сучасных абставінах. Дахрысьціянская вера нашых продкаў мае аграмаднае значэньне для зразуменьня духовага аблічча беларускага народу калісь і для зразуменьня шматлікіх абрадавых асаблівасьцяў у





пазьнейшых часох, бо-ж агульна ведама, што шматлікія дахрысьціянскія абрады, якія не пярэчылі хрысьціянскім праўдам веры, перайшлі ў хрысьціянскую Царкву, быццам схрысьціянізаваліся.

Крыніцаў для гэтых досьледаў ёсьць шмат і прытым яны даволі багатыя: этнаграфічныя беларускія зборнікі, зборнікі народнае творчасьці і паасобныя досьледы на гэтую тэму. Але, нажаль, ёсьць так-жа шмат цяжкасьцяў, з якіх найважнейшымі зьяўляюцца:

1) Адсутнасьць пісаных дакумантаў адносна веры нашых продкаў з дахрысьціянскіх часоў.

2) Пазьнейшыя весткі з тых часоў, калі і сустракаюцца, напрыклад, у летапісах, дык яны маюць вельмі агульны характар.

3) У часе тварэньня цэнтральных княстваў, як Полацкае, Кіеўскае, былі спробы зьляпленьня вераваньняў паасобных пляменьняў у нейкую адну сынкрэтычную рэлігійную сыстэму. Напрыклад, у Кіеве Уладзімер Сьвяты з гэтаю мэтаю быў пабудаваў пантэон і туды пазьбіраў усіх важнейшых багоў ад усіх заваёваных пляменьняў. Экспэрымэнт няўдаўся, але ў летапісах зьявілася замяшаньне, якое перашкаджае дакладна адзначыць боствы паасобных пляменьняў.

4) Ведама, што адносна некаторых багоў нашы продкі, як зрэштаю і іншыя плямёны, трымаліся звычаю табу, гэта значыць не называлі іх іменаў у пэўных абставінах. Беларусы і да сёньня рэдка калі ў гутарках успамінаюць чорта ці нячысьціка перад сном, а калі ўспамінаюць, дык адразу дадаюць: «Ня пры вас кажучы». На Палесьсі і да сёньня рэдка можна пачуць, каб хто голасна вымаўляў імя Трасцы-Шухны, бо стары пераказ цьвердзіць, што яна вельмі чуткая і злуецца на таго, хто называе яе імя, дзеля гэтага яе часам называюць Цёткаю, але так-жа няголасна.

5) Дзякуючы табу паасобныя бостывы мелі падвойныя, а нават і патройныя імёны. У выніку чаго аб некаторых імёнах вельмі мала што ведама, а міты аб іх і зусім затраціліся.

6) Некаторыя дасьледнікі славянскае міталёгіі, сьведама, ці нясьведама, шукалі падабенства між славянскімі старымі бостамі і бостамі іншых народаў: індыйскімі[2], нямецкімі[3], пэрскімі, рымскімі і інш. багамі і міталёгіямі. Сапраўды чагосьці новага гэткія студыі ня прынесьлі, а блытаніны дадалі.

7) Нястача пісаных дакумантаў з дахрысьціянскіх часоў давала і дае шырокае поле для творчае фантазіі пісьменьнікаў. У выніку зьявіліся творы, якія ня маюць ніякае навуковае вартасьці і адкідаюцца... як фантастычныя. Так было ня толькі ў нас, але і ў іншых народаў. Напрыклад, Бруркнэр з абурэньнем адзываецца аб польскіх пісьменьніках і летапісцах, якія «выдумалі цэлы польскі і прускі Алімп (якога ў XV ст. ня было і сьледу), а іншыя сьлепа ім паверылі»[4]. Адносна беларускай міталёгіі так сказаць нельга, але здараюцца выпадкі, калі немагчыма разрозьніць, дзе канчаецца народная творчасьць і дзе пачынаецца фантазія пісьменьніка[5].

8) Зборнікаў беларускае народнае творчасьці, у якіх знаходзіцца багаты матэрыял адносна беларускай міталёгіі, ёсьць параўнаўча шмат[6], але толькі невялікую частку з іх можна знайсьці у заходне-эўрапэйскіх бібліятэках.

Зразумела, што маючы гэткія цяжкасьці, нельга апрацаваць тэму як сьлед і да таго яшчэ ў рамках часапіснага арты-

[1] Вось больш ведамыя творы ў галіне славянскае міталёгіі:

Berhardi W. Bausteine zur slawiche Mythologie. «Jordans Jahrbuch f. Lit.» T. I. 1844.

Brückner Al. Mitologia slowianska. Krakow, 1918.

Gorgowicz E. S. Mitologia slowianska w zarysie. Lwow, 1872.

Jagic V. Zur slawischen Mythologie. «Archiw für slawischen Philologie». Band XXXVII, Berlin, 1920.

Léger L. La Mythologie slave. Paris, 1901.

Machek Vaclav. Essai comparatif sur la mythologie slave. «Revue des études slaves». Tome XXIII. Paris, 1947.

Mansikka V. J. Die Religion der Ostslaven. I. Quellen. Helsinki, 1922.

Sadnik L. Die Religion der Slaven im Altertum im Lichte der heutigen Forschung. «Blick nach Osten». I. 1. 1948.

Schwenck K. Mythologie des Slawen. Frankfurt, 1853.

Thomas H. Die slawische und baltische Religion vergleichend dargestellt. Breslau, 1934.

Unbegaun B. O. La religion des anciens Slaves. «Les religions des Celtes, des Germains et des anciens Slaves». Paris, 1948.

Urbanczyk S. Religia poganska Slowian. «Biblioteka Studium Slowianskiego Universytetu Jagiellonskiego». Krakow, 1947.

Болсуновскій К. Б. Памятники словянской мифологіи. Вып. II. Кіевъ, 1914.

Афанасьевъ А. Поэтическія воззренія славянъ на природу. 3 томы. Москва, 1856—1869.

Касторскій М. Начертаніе словянской мифологіи. С.-Петербургъ, 1841.

Костомаровъ. Словянская мифологія. Кіевъ, 1847.

Срезневскій И. Святилища и обряды языческого богослуженія древнихъ славянъ по сведетельствам современнымъ и преданіямъ. Харковъ, 1846.

Сырцовъ. Мировоззреніе нашихъ предковъ. Ч. I. Мифологія. Кострома, 1897.

Фамицынъ А. С. Божества древнихъ славянъ. С.-Петербургъ, 1884.

Шеппигъ А. Мифы славянского язычества. Москва, 1849.

Вялікую бібліяграфію на гэтую тэму падае Unbegaum, op. cit. S. 392—397.

[2] Вельмі тэндэнцыйныя з гэтага гледзішча чэскія дасьледнікі:

Hanus Ig. I. Die Wissenschaft des slawischen Mythus. Wien-Leipzig, 1842.

Machek Vaclav, op. cit.

[3] Аб суадносінах славянскіх і нямецкіх міталёгіяў вялікаю тэндэнцыйнасьцю азначаюцца манаграфіі:

Franz Leonhard. Falche Slawengöter. Brno-München-Wien, 1945.

Wienecke Erwin dr. Untersuchungen zur Religion der Westslawem. Leipzig, 1940.

[4] Brückner AL. Mitologia slowianska. Krakow, 1918. S. 1.

[5] Такою ёсьць невялікая кніжка: С. Хмара. Аб багох крывіцкіх сказы. Нямеччына, 1948.

[6] Важнейшымі працамі, дзе ёсьць весткі адносна дахрысьціянскае веры беларусаў, ёсьць:

Czarnowska Marja. Zabytki mitologiji slowianskiej w zwyczaiach wiejskiego ludu na Bialej Rusi dochowane. «Dziennik Wilenski». T. VI. 1817 r.

Fedorowski M. Lud Bialoruski na Rusi Litewskiej. T. I i II. Krakow, 1897, 1902.

Suryn F. Slow kilka o tworach fantazyi ludu na Bialorusi. «Tygodnik ilustrowany» I. 1873.

Witort Jan. Przezytki starozytnego swiatopogladu u Bialorusinow. «Lud», 1896. II. S. 210—217.

Богдановичъ А. Е. Пережитки міросозерцанія белоруссовъ. «Научное Обозреніе». СПб., 1894; «Минскій Листокъ». Нр. 76, 1894.

Богдановичъ А. Е. Пережитки древнего міросозерцанія у белоруссовъ. Гродно, 1895.

Демидовичъ П. Изъ области верованій и сказаній белоруссовъ. «Этнографическое обозреніе». XXVIII—XXX. 1896.

Ляцкій Е. А. Представленіе Белорусса о нечистой силе. «Этнографическое обозреніе». VII. 1890.

Никифоровскій Н. Нечистики. Сводъ простонародныхъ въ Витебской Белоруссіи сказаній о нечистой сіле. «Виленскій Временник». Кн. II. Вильно, 1907.

Никифоровскій Н. Я. Простонародныя прыметы и поверья. Суеверные обряды и обычаи, легендарныя сказанія о лицахъ и местахъ въ Витебской Белоруссіи. Витебскъ, 1897.

Нікольскі Н. М. Міталёгія і абрадавасьць валачобных песень. Менск, 1931.

Романовъ Е. Р. Белорусскій сборникъ. Вып. IV. Сказки космогоническіе и культовые. Витебскъ, 1891.

Семёновъ В. П. «Живописная Россія». Томъ III. Литовское Полесье и Белорусское Полесье. СПб., 1882.

Трусевичъ И. Космогоническія преданія жителей Полесья. «Кіевлянинъ». Нр. 44, 1866.

кулу, але дзеля важнасьці самое тэмы варта падаць прынамся ў галоўных рысах тое, што можна сабраць з апублікаваных да гэтага часу і даступных матэрыялаў.

У падручніках гісторыі Беларусі і ў агульных нарысах аб беларускім народзе, дзе закранаюцца справы найстарэйшае веры нашых продкаў, звычайна кажацца, што ў іх была паганская вера, якая азначалася абагульненьнем сілаў прыроды і мнагабоствам. Пры тым пералічаюцца больш ведамыя багі. Вось-жа такі пагляд ня зусім згодны з праўдаю, бо паганства з яго многабоствам ёсьць пазьнейшаю стадыяю рэлігійнага жыцьця народу, а найстарэйшая вера ўсіх славянскіх пляменьняў, у тым ліку і беларускіх, быў монотэізм — адзінабоства. Весткі аб гэтым былі ведамы з даўных-давён, толькі некаторыя дасьледнікі, будучы ў палоне фальшывых гіпотэзаў аб паходжаньні рэлігіі, не хацелі прымаць тых вестак.

Усім дасьледнікам славянскай міталёгіі і прагісторыі добра ведамае сьведчаньне грэцкага гісторыка Пракопія з Цэзарэі (VI ст.), які, гаворачы аб старой веры славянаў і антаў, кажа: «Яны ўважаюць, што толькі адзін Бог, сатварыцель маланкі, ёсьць валадаром над усімі»[7]. І ня менш ведамае сьведчаньне Гэльмольда з XII ст., аб тым, што славяне: «паміж шматлікіх багоў вырозьніваюць аднаго, найбольш магутнага, які займаецца толькі небам і камандуе іншымі»[8].

Ад даўна былі ведамыя нават назовы вярхоўнага боства ў некаторых славянскіх пляменьняў, напрыклад, у сэрбаў і лужычан — Прабог, у палабян — Трыглаў.

Але ўсе гэтыя і іншыя сьведчаньні даўжэйшы час некаторыя гісторыкі і дасьледнікі намагаліся запярэчыць як «выдумку пазьнейшых часоў». Аднак больш уважныя досьледы дагістарычнага мінулага славянаў прынесьлі шмат фактаў, якія без сумліву сьведчаць аб тым, што найстарэйшаю вераю нашых продкаў быў монотэізм. І, як ні дзіўна, але апошнім часам нават і савецкія гісторыкі мусілі прызнаць, што: «бог громаў і маланкі... Пярун, ёсьць прадуктам пазьнейшае дыфэрэнцыяцыі, дакладней кажучы —дызасоцыяцыі больш старых тэаганічных уяўленьняў чалавека, зьвязаных з нябесным агнём наагул і з самым небам. Вышэй Пяруна і старэйшым за яго павінен быў быць нейкі бог Неба, як вярхоўнае

[7]Procopius. De bello gotico. III. 14; Прокопий из Кесарии. Война с Готами. Москва, 1956. С. 297.

[8]Helmold. Cronica Slavorum. I. 84. «Inter multiforma vero deorum numina... unum deum in coelis imperitantem illum praepotentem celestia tantum curare has vero distributis officiis obsequentes de sanquine eius processisse et unumquemque eo praestatiorem, quo proximiorem illi deo deorum».



боства, як адзін вялікі бог»[9]. Гэты-ж гісторык, Дзяржавін, прызнае існаваньне ідэі адзінага Бога ў балтыйскіх славянаў, апіраючыся на сьведчаньне ўспомненага вышэй Гэльмольда[10].

Не пералічаючы вынікаў навейшых досьледаў іншых гісторыкаў, успомнім толькі выснаўкі Мачка, які абагульнівае найнавейшыя досьледы ад найстарэйшай веры славян у гэткіх словах: «У найстарэйшым пэрыядзе супольнага жыцьця славянаў прызнаецца існаваньне найвышэйшага нябеснага боства, якое называлася Небам, Ясным, Сьветам... гэтае боства было нябеснае, а не зямное, ці падземнае, яно было патрыярхальнае, не матрыярхальнае»[11].

Праўда, яшчэ ў некаторых папулярных кніжках бязбожнага напрамку можна стрэнуць цьверджаньні адносна дахрысьціянскае веры славян ў духу аджыўшых гіпотэзаў, але ўжо той факт, што нават паважнейшыя гісторыкі ў бязбожнай дзяржаве выказваюць беспадстаўнасьць гэных гіпотэзаў, звальнае нас ад лішняе палемікі, якая да таго не належыць да тэмы гэтага артыкулу. Пяройдзем адразу да разгляду вестак аб найстарэйшай веры нашых продкаў.

Багатаю і найбольш вартаснаю крыніцаю адносна найстарэйшае і перадхрысьціянскае веры нашых продкаў зьяўляецца беларуская вусная народная творчасьць і фальклёр. Ёсьць шмат беларускіх казак, якія сваім пачаткам бяз сумніву сягаюць дагістарычных часоў. Між імі ёсьць казкі аб стварэньні сьвету і нашае зямлі. У адной такой казцы гаворыцца, што перад сатварэньнем зямлі аднойчы бог хадзіў па небе: «аж бачыць, вісіць нейкі пузыр, а ў пузыры нешта пішчыць. — Хто там?— пытае бог. З пузыра адказвае: Бог.— А хто-ж я?— пытае бог.— Ты над багамі бог — быў адказ з пузыра». І далей апавядаецца, як яны тварылі зямлю. Характэрна, што ў казцы не называецца імені таго «над багамі бога». Відаць, што нашы продкі ад найдаўнейшых часоў іменем Бога і называлі найвышэйшую істоту. У казках, дзе Бог зьяўляецца людзям у выглядзе старэнькага чалавека (а такіх казкаў ёсьць шмат)[12], так-жа ён называецца проста — Бог. Тут маюцца на ўвеце толькі тыя казкі, у якіх няма ніякіх сьлядоў многабоства, так-жа ніякіх сьлядоў хрысьціянства. Калі-ж у далейшым пачала разьвівацца паганская рэлігія з

[9]Державин Н. С. Славяне в древности. Москва, 1946. С. 136.

[10]Ibid. S. 134.

[11]Vaclav Machek. Essai comparafit sur la mythologie slave. «Revue des études slaves». Tome XXIII. Paris, 1947. S. 50.

[12]Такіх казак сабраў нямала: Романовъ Е. Р. Белорусскій сборникъ. Вып. IV. Сказки космогоническіе и культовые. Витебскъ, 1891.

# *Пра Льва ГАРОШКУ*

**Той, каму давялося хоць колькі дзён пражыць пад дахам Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі, пагодзіцца, што прысутнасць колішняга яе рэктара архімандрыта Льва Гарошкі адчуваецца тут на кожным кроку. І ў Беларускай царкве святых Пятра і Паўла на Holden Road, і ў залах лонданскага кнігазбору імя Скарыны, і на лугавіне пры Доме Марыянаў, дзе айцец Леў любіў памахаць касой і дзе дагэтуль стаіць зладжаная ягонымі рукамі пчаліная хатка, што ўспрымаецца сімвалам сціплай штодзённай ахвярнасці.**

**Сын сялянаў са Стаўпеччыны вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі і Львоўскай духоўнай акадэміі, студыяваў тэалогію ў Інсбруку, выдаваў беларускі малітоўнік у Рыме і рэлігійны часопіс у Парыжы, кіраваў Беларускай секцыяй Ватыканскага радыё... Толькі чалавек абыякавы або зласлівы назаве яго шлях пакручастым. Гэта было плаванне карабля, што ведае, у якую гавань кіруецца, а таму спадарожныя ветры начуюць у ягоных ветразях.**

**Высокая адукаванасць і валоданне дзесяццю мовамі ўводзілі а. Льва ў асяроддзе еўрапейскай духоўнай эліты, дзе ён ніколі не пакутаваў ні на якія застарэлыя беларускія комплексы. Найлепшым сведчаннем гэтаму ёсць часопіс «Божым шляхам», шматгадовым рэдактарам якога ён быў.**

**Зямная сцежка айца Льва Гарошкі абарвалася ў 1977 годзе падчас аперацыі ў парыжскім шпіталі. «Жывой стаіць перад намі постаць высокая, танклявая, з кустом сівой барады, з носам шырокім арліным, з вачамі чорнымі, гарачымі, упартымі. Помнім ягоныя энэргічныя рухі, тарапліваю паходку, францускі бэрэт на галаве... Жыў, як леў, а памёр, як ягнё. Божых шляхоў нельга сцяміць нам, маленькім»,— пісаў у развітальным слове беларускі грэка-каталіцкі біскуп Чэслаў Сіповіч.**

**Востры дасціпны розум айца Льва дожыўсь сваё жыццё ў яго кнігах «Сьвятая Еўфрасіньня-Прадслава Полацкая, Патронка Беларусі», «Навука і рэлігія», «Беларусь у датах, ліках і фактах», у шматлікіх публікацыях з беларускай гісторыі і культуры, адну з якіх (захаваўшы аўтарскі правапіс) мы выбралі для нашага часопіса.**

**Уладзімір АРЛОЎ**

яе многабоствам, зьявілася патрэба імёнаў для тых бостваў і для найвышэйшага бога.

Прычыны зьяўленьня многабоства — палітэізму вельмі глыбокія і рознаякія. Іх дасьледавалі штатлікія вучоныя, але да агульнапрынятага высноўку не дайшлі. Праўда, большасьць з тых вучоных абасноўвала свае досьледы на міталёгіях больш ведамых народаў, а славянскіх металёгіяў ведала або замала, або і зусім ня ведала.

Найбольш істотнаю прычынаю зьяўленьня многабоства і стварэньня міталёгіі ў славянскіх народаў трэба лічыць вобразнасьць народнае творчасьці і, зразумела, гэткага-ж спосабу думаньня. Нашы продкі ўсе свае спасьцярогі, важнейшыя думкі і асабліва вышэйшыя разумовыя паняцьці, а таксама і духовыя перажываньні выказвалі вобразна і пэрсаніфікована. Часта ў народнай творчасьці кожны сказ мае глыбейшы сэнс, як аб гэтым выразна сьведчыць пераказаная Старым Уласам палеская лягэнда «Не спанатрыў», дзе прыгожа апісваецца, як сын дрэнна разумеў рады бацькі, ня думаючы аб іхным глыбейшым сэнсе і праз гэта беднеў. Калі для сучасных пісьменьнікаў пэрзаніфікацыі і розныя алегорыі зьяўляюцца важным творчым сродкам для ажыўленьня нейкае апісванае сцэны ці для аблягчэньня ўспрыйняцьця думкі, дык у тых даўных часох, калі думкі пераказваліся толькі вусна, для аблягчэньня ўспрыйманьня і запамятваньня вобразнасьць была неабходнаю ўва ўсіх відах народнае творчасьці і для выказваньня сьветагляду. Адгэтуль зьявілася пэрзаніфікацыя сілаў прыроды, а з часам залічэньне іх да вышэйшых істотаў.

Раз запачаткаваны працэс узьняцьця пэрзаніфікаваных сілаў прыроды ў далейшым мог хутка давесьці да абагаўленьня. Тварэньне Богам прыродных стыхіяў выказвалася ў форме роджаньня — гэткім чынам паасобныя багі і багіні лучыліся ў сем'і, зьяўляліся божычы і багавіцы. Гэнэалягічнае дрэва багоў разрасталася. Але вельмі характэрна, як убачым далей, што ня ўсе багі з беларускага Алімпу маюць азначаныя мейсцы ў тэаганічным дрэве, ці дзеля таго, што іхныя спародненьні забыліся, ці іх зусім ня было, як для звычайных усобленых сілаў прыроды. Але калі прасочым радаводы тых багоў, аб якіх захаваліся весткі ў беларускай міталёгіі, дык дойдзем зноў да пачаткавага монатэізму, з якога пачало разрастацца тое радаводнае дрэва багоў.

Усе беларускія плямёны і, магчыма, яшчэ некаторыя суседнія плямёны прабогам, або «богам багоў» лічылі БЕЛБОГА, якога часта так-жа называлі БЯЛУНОМ. Таму, што паводля міталёгіі ён быў родзічам усіх багоў, дык часам яго называлі ДЗЕДАМ. Займаўся ён толькі нябеснымі справамі, і дзеля гэтага яго няраз называлі проста НЕБА. З мітаў аб ім ведама толькі, што ён свайму сыну Пяруну даў нябесны малаток, каб зваяваў Чарнабога.

Назваўшы Белбога, трэба адразу зазначыць, што ёсьць некалькі паважных дасьледнікаў, якія катэгарычна запярэчваюць яго існаваньне ў старой славянскай міталёгіі наагул. Напрыклад, нямецкі дасьледнік Нэрынг цьвердзіць, што Белбог першы раз успамінаецца толькі ў XVII ст. у адной нямецкай хроніцы[13]. Сьледам за Нэрынгам, але яшчэ больш катэгарычна выступае супраць Белбога польскі вучоны Ал. Брукнэр: «Белбога з пальцаў сабе толькі потым немцы

[13]Nehring W. Der Nahme Belbog in der slavischen Mythologie. «Archiv für slavischen Philologie». Band 25. Berlin, 1903. S. 69.





выссалі»[14]. Ня менш рашуча адкідае Белбога і некалькі іншых багоў пазьнейшы нямецкі дасьледнік Вінэкэ, уважаючы яго выдумкаю, зьвязанаю з назовамі мяйсцовасьцяў[15]. Названыя дасьледнікі маюць немалы аўтарытэт у навуковым сьвеце, восьжа з іхняю думкаю нельга ня лічыцца, аднак у сваіх творах датычна беларускае міталёгіі яны не спасылаюцца на ніякія беларускія крыніцы і беларускае міталёгіі зусім ня ведаюць. Дзеля гэтага іхняе нэгатыўнае становішча адносна Белбога ў іншых славянскіх міталёгіях можна лічыць абаснаваным, але адначасна іхны-ж аўтарытэт, як навукоўцаў, можа быць доказам, што Белбог быў творам выключна беларускае міталёгіі, якое яны ня ведалі.

Найбольш вестак адносна Белбога сабраў Кіркор, апіраючыся на багаты беларускі фальклёр і старыя пераказы. Вось што ён піша: «Беларусы захавалі памяць аб галоўным добрым богу, бацьку — неба Белбогу, прабогу, айцу Пяруна, каторага яны называюць БЯЛУНОМ. Аб велічы і высокім значэньні Белбога ў іх складанае паняцьце. Але паэтычны настрой Беларуса і ягоная схільнасьць усабляць абстрактныя прадметы дазволіла яму прыдаць нават рэчавы вобраз Бялуну. Беларус запэўнівае, што Бялун часам сходзіць на зямлю, што ён паказваецца як стары з доўгаю белаю барадою, у белай вопратцы і з кіем у руках. Ён літасьцівы, робіць толькі дабро. Бялун паказваецца толькі днём, калі сьвеціць сонца. Калі-ж ён стрэне ў лесе падарожнага, што заблудзіў, дык выведзе на дарогу... Падчас жніва ён любіць зьяўляцца на нівах і нават памагаць жанцом. Часам Бялун любіць і пажартаваць, але заўсёды як той, што робіць дабро, дае багацьце. Часам ён зьяўляецца ў жыце з вялікім мяшком на носе. Нагледзеўшы добрага работніка ці работніцу, ён заклікае яго да сябе рукою і просіць уцерці яму нос. Калі той дакранецца да носа, раптам з мяшка пасыплецца золата і Бялун зьнікае. Аб такім шчасьлівым беларусы кажуць: «Мусіць, пасябраваўся з Бялуном»[16]. Падобнае апісаньне, толькі менш падрабязнае, падае Афанасьеў і між іншым цытуе старую беларускую прыказку: «Цёмна ў лесе без Бялуна»[17].

А цяпер само напрошваецца пытаньне: Як-жа магло стацца, што ў нашых продкаў яшчэ ў дахрысьціянскіх часох памяць аб вярхоўным богу пайшла ў забыцьцё? Сталася вельмі проста. Калі разросься Алімп беларускіх багоў, дык народ пры розных нагодах пачаў зьвяртацца да другарадных багоў, якіх лічылі бліжэйшымі, а да таго бога, які займаўся толькі небам, адпала патрэба зьвяртацца. Гэткая рыса пабожнасьці назіраецца ня толькі ў нашых продкаў, але даслоўна ўва ўсіх народаў сьвету і ня толькі калісь, але нават і цяпер. Бо-ж і сёньня вернікі рэдка зьвяртаюцца да Бога-Айца, але затое вельмі часта зьвяртаюцца да розных сьвятых у залежнасьці ад характару свае просьбы. Не дарма зьявілася жартоўная прыказка: «І Бог ня ўкрые, як сьвятыя дапусьцяць».

Вельмі неспакойныя калісь часы і частыя міжсобныя войны нашых продкаў былі зрабілі вельмі папулярным бога вайны і грому — ПЯРУНА, сына Белбога. Пярун — гэта адзін з нешматлікіх багоў, якія былі ведамы ўсім славянскім пляменьням. Паводля ўяўленьня беларусаў, ён меў у руках два вялікія жарновыя камяні і біў адным аб другі. Мог забіваць людзей. Між беларускіх пляменьняў культ Пяруна быў распаўсюджаны даволі шырока.

[14]Brückner Al. Mitologia słowianska. Krakow, 1918. S. 133.

[15]Wienecke Al. Czorneboh und Bielboh, eine quellenkritische Studie aus dem Gebiet der slawischen Religionsgeschichte. B.G.H. 1927. Bd. IV. H. 6. S. 278—280.

[16]Киркоръ А. Белорусское Полесье. «Живописная Россія». Изд. Семенов. Том III. СПб., 1882. С. 273. Гл. так-жа: Державин, op. cit. С. 139, 152. Hanus Jg. J. Die Wissenschaft der slawischen Mythus. Wien–Lemberg, 1842. S. 151.

[17]Афанасьевъ А. Поэтическія воззренія славянъ на природу. Томъ I. Москва, 1865. С. 93.

Братам Пяруна лічыўся ЗЮЗЯ — страшны бог зімы. У мітах яго апісваюць, як сівага дзеда з доўгаю барадою, боса-га, у белым кажусе, бяз шапкі, з жалезнаю булавою ў руках. Калі ён злуецца, б'е булавою ў пень і мароз трашчыць[18].

Жонкаю Пяруна была ЖЫВА, або інакш СІВА. Дзеля таго, што яе лічылі вельмі спагадліваю да людзей, дык называлі так-жа ЦЁЦЯЮ, а па мужу проста ГРАМАВІЦАЮ. З яе імем зьвязаны цікавы міт. Калі Зюзя ў часе свайго панаваньня зімою вельмі дакучаў людзям маразамі, дык Грамавіца сходзіла на зямлю, каб радзіць сына Дажбога-Хорса — бога сонца, які меў перамагчы Зюзю. Але Зюзя даведваўся аб намерах Грамавіцы, пераменяўся ў мядзьведзя і разам са злымі духамі — Завеямі, пераменёнымі ў ваўкоў, ганяўся за ёю, каб зьнішчыць нованароджанага Дажбога. Грамавіца, уцякаючы ад іх, перамянілася ў белую казу і схавалася ў кустох, дзе і нарадзіла Дажбога. У зьвязку з гэтым мітам на Беларусі быў звычай вадзіць казу падчас калядных сьвятаў, які астаўся і ў хрысьціянскіх часох, прыняўшы толькі іншае прызначэньне. Аб часе паўстаньня міту Кіркор заўважае: «Беларускі міт паходзіць з часоў, якія папераджалі дуалізм, так што прасьледавацелем зьяўляецца не Чорнабог, але блізкі да яго падземны цар Сіціўрат, Карачун... Зюзя, брат Пяруна»[19]. Жыва-Цёця лічылася багіняю лета. Яе прадстаўлялі прыгожаю жанчынаю са сьпелымі каласамі на галаве і з пладамі ў руках. Яна навучыла людзей абрабляць зямлю, жаць і апрацоўваць лён. Пасьля перамогі над цёмнымі сіламі, Цёця-Леля сходзіла на зямлю, каб яе ўпрыгожыць зеленьню і кветкамі. На яе чэсьць праўлялі сьвята Кустоў. Частка абрадаў таго сьвята асталася ў хрысьціянскай Сёмусе.

Сын Пяруна і Жывы-Цёці ДАЖБОГ-ХОРС — бог сонца, даўца ўсякага багацьця і спору. У зьвязку з вышэйупомненым мітам ён быў вельмі папулярны. Літаратура аб ім даволі багатая, бо ён, як і Пярун, быў ведамы амаль ува ўсіх славянскіх пляменьнях.

Жонкаю Дажбога была ЛАДА-ЛЁЛЯ. Міт аб іхным сужэнстве апісаны ў адной старой беларускай песьні. Лада была дочкаю марскога цара. З твару яна была вельмі прыгожаю, мела залатую касу, езьдзіла па моры ў залатой лодцы, веслуючы сярэбранымі вёсламі і плюхала вадою на Дажбога, які цікаваў на яе з неба. Дажбог улюбіўся ў Ладу і пайшоў да марскога цара, каб той дазволіў жаніцца з ягонаю дочкаю. Але марскі цар моцна пабіў Дажбога, так што яго завязьлі назад ледзь жывым. Праз некаторы час Дажбог ачуняў і не пакінуў думкі аб жаніцтве з Ладаю. Гэтым разам яму дапамог верны слуга. Пры гэтай нагодзе народная творчасьць востра высьмейвае жаночы гон да модных убораў, на які хварэюць нават і багіні. Слуга, ведаючы добра жаночую натуру, разлажыў на беразе мора розныя дарагія строі і ўборы, у тым ліку і прыгожыя зялёныя чаравічкі. Лада залюбавалася чаравічкамі, выйшла на бераг, каб іх сабе ўзяць, але тут яе схапілі і завязьлі Дажбогу[20]. Лада-Лёля дзеля свае прыгажосьці называлася часам Ляля, яна лічылася багіняю вясны. Да сёньня захавалася пагаворка адносна прыгожых і стройных дзяўчат: «Прыгожая, як Лёля».

Важнае мейсца ў беларускай міталёгіі займаў ЧОРНАБОГ — злы бог. Аб ім успамінае ўжо ў XII ст. Гэльмольд. Але

[18]Киркоръ А., op. cit. С. 236, 253.

[19]Киркоръ А., op. cit. С. 262.

[20]Киркоръ А., op. cit. С. 262.





яго, падобна як Белбога, шмат якія дасьледнікі дагістарычнага мінулага Беларусі катэгарычна адкідаюць. Між імі ў першую чаргу, успомненыя перш у зьвязку з Белбогам, Гануш, Брукнэр і Вінэкэ. З беларускіх дасьледнікаў адкідаў Чарнабога Н.А.Янчук, пры нагодзе літаратурнае крытыкі песьні «Быў на Русі чорны бог»[21]. На ўсе іхныя закіды вельмі слушна заўважыў ведамы чэскі вучоны Нідэрле, што існаваньне шматлікіх мяйсцовасьцяў, якія маюць нейкі зьвязок з імем Чорнабога, ставяць па-за ўсякі сумніў сьведчаньне Гэльмольда, што гэтага бога славяне калісь прызнавалі[22]. Аднак міты аб Чорнабогу, калі і былі, дык даўно забыліся.

Жонкаю Чорнабога лічылася МАРАНА — багіня сьмерці, аб ёй так-жа ня ведама ніякіх мітаў.

Бадай што найбольш папулярным між беларускіх паганскіх багоў быў сын Дажбога і Лады ЯРЫЛА — бог прарастаньня палёў, любові, сілы і адвагі. Яго прадстаўлялі маладым, прыгожым юнаком у белай пелярыне і з вянком кветак на галаве. Ён едзе на белым кані, трымаючы ў правай руцэ людзкі чэрап, а ў левай — жменю аржаных каласоў. Па загаду маці Лады Ярыла адчыняў вароты неба і прыязджаў на зямлю. З яго прыездам пачыналася сапраўдная вясна. У зьвязку з Ярылам існаваў міт аб пахаваньні бога[23]. У чэсьць Ярылы ў канцы красавіка дзяўчаты ладзілі вясёлую ўрачыстасьць: адну дзяўчыну ўбіралі за Ярылу, апрануўшы яе белаю прасцінаю, быццам мантыяю, на галаву клалі вянок з палявых кветак, саджалі на белага каня і навокал вадзілі карагод, пяючы:

«А дзе ён нагою,
Там жыта капою,
А дзе ён зірне,
Там колас зацьвіце...»

Праўдападобна, беларускі гэрб Пагоня выводзіць свой пачатак ад Ярылы. Досьледы на гэтую тэму праводзіў др. Т.Грыб[24].

Жонкаю Ярылы лічылася ВЯСНА — багіня вясны, цяпла і ласкі[25].

Адносна іншых паганскіх багоў, з дахрысьціянскага беларускага Алімпу, мала што ведама. Міты аб іх загінулі, але ёсьць падставы дагадвацца, што калісь аб іх нашы продкі мелі багатую міталёгію, з якое бралі пачатак, або проста зьвязваліся шматлікія абрады і звычаі, сьляды якіх можна было яшчэ бачыць у навейшых часох: на Каляды, Новы Год, Вялікдзень, Радаўніцу, Сёмуху, сьв. Юр'я, Дзяды і інш. Аб некаторых з тых багоў нічога акрамя прынагадных назоваў іхных імёнаў не захавалася, аб іншых дайшлі частковыя апісаньні. Таму што іхныя гэнэалягічныя сувязі няведамыя, пералічым іх у альфабэтычным парадку.

АЎСЕНЬ — якісьці бог сонца. У далейшым пабачым, што багоў сонца было некалькі, у залежнасьці ад пораў году.

ВОЛАС, або ВЕЛЕС — скоцкі бог, бог багацьця і дастатку, ён-жа меў апеку над пастухамі і сьпевакамі ды і сам меў дуду. Ведамы быў так-жа ў іншых славянскіх пляменьнях, успамінаецца ў летапісу.

ДАМАСЯ — багіня хатняга вогнішча. Мела жыць за печчу і была ў нейкім спародненьні з Палясяю.

ДЗЕВА — праўдападобна, гэта чацьвёртае імя Лады.

ДЗЕДЗЯ — ДЗЕДКО — бог агню. Гэта маленькі дзядок з

[21]Янчукъ Н. О мнимонародныхъ белорусскихъ песняхъ. «Сборникъ Харьк. Истор. Фил. О–ва». VIII. С. 293–294.

[22]Lubor Niederle. Manuel de l'antiquité slave. Tome II. La civilisation. Paris, 1926. S. 150.

[23]Киркоръ А., op. cit. С. 252, 259; Афанасьевъ А., op. cit. С. 441.

[24]Hryb T. dr. Bielaruski herb Pahonia. «Iskry Skaryny». Praha, 1933.

[25]Киркоръ А., op. cit. С. 236.

ногцік і барадою з ласкуток, аб ім была загадка: «Чырвоны дзедзя па жэрдачцы едзе».

ДЗІВАННА — якаясьці няведамая бліжэй багіня.

ДЗЯНЬНІЦА — жонка месяца.

ЖЫЖАЛЬ — падземны бог агню.

ЖЫЦЕНЬ — бог жыта, гаспадар поля, ён-жа бог восені ў выглядзе маленькага дзеда, строгага, з трыма вачыма, скудлачанымі валасамі. Лічылі, што ён жыве ў кустох каля поля, адгэтуль і прыказка: «Пакланіся кусту, дасьць табе хлеба лусту».

КАЛЯДА — багіня, аб якой ёсьць шмат розных дагадкаў у зьвязку з сьвятамі Калядаў, але нічога больш-менш пэўнага ня ведама. Некаторыя дасьледнікі яе атоесамліваюць з Грамавіцаю, іншыя лічаць асобнаю багіняю, напрыклад, П.Безсонаў[26].

КАРАЧУН — СІЦІЎРАТ — сьмертаносны бог, яго часам атоесамліваюць з богам зімы Зюзяю.

КОН — гэта якісьці магутны дух, які вызначаў долю для ўсіх, нават для багоў.

КУПАЛА — адзін з багоў сонца, праўдападобна, летняга сонцастаяньня. Ён быў цесна злучаны з іншым богам — ЯНАМ, мала ведамым, хоць аб ім часта ўспамінаецца ў т.зв. купальскіх песьнях. Адна з іх зачынаецца словамі: «Сёньня Купала, а заўтра Ян». Кіркор атоесамлівае Купалу з ЛАДАМ[27].

ЛАД — веснавы бог жанімства, ласкі, любові і дабрабыту, быў у нейкім спародненьні з Ярылам.

ЛЕЛЬ — мала ведамае боства.

МАКОША, або МАКОШ — дагадваюцца, што гэта была багіня пражы і стрыжэньня авец.

ПАГОДА — багіня надвор'я.

ПАЛЯНДРА — багіня псуцьця, гніцьця і гнілое гарачкі.

ПАЛЯСЯ — багіня поля. У адной казцы апавядаецца, што яна памерла і давала аб гэтым знаць Дамасі.

ПАСЬВІСТ — бог непагоды і хмараў.

РАДА — багіня розуму.

РОЙ, СПАРЫШ, БАГАЧ — праўдападобна, гэта розныя імёны бога ўраджаю.

СВАРОГ — бог неба і агню. Часта яго атоесамліваюць з Дажбогам. Аб ім існуе багатая бібліяграфія[28] і аб ім успамінаюць летапісы.

СВАРОЖЫЧ — сын Сварога, якісьці бог сонца.

СІМ — аб ім захаваўся толькі няясны ўспамін.

СТРЫБОГ — бог ветру. Аб ім успамінаецца ў «Слове аб палку Ігараве».

ТУР — спароднены з Ярылаю бог сонца, ураджаю і сілы.

ЯШЧАР — злы бог хваробаў.

Акрамя вышэйпералічаных багоў у беларускай міталёгіі ўспамінаецца шматлікія духі:

ВАДЗЯНІК — дух водных нетраў, жыў у вірах.

ДАМАВІК, або ДАМАВЫ — у некаторых ваколіцах Беларусі гэта хатні дух, які атоесамліваюць з Хатнікам, але ўва Усходняй Беларусі гэта асобная істота, якая мела жыць ня ў хаце, а ў хляве, як гэта відаць з абраду ахвяраў, якія яму прыносіліся падчас поўні месяца. Тады пяклі хлеб і з першае баханкі, якую даставалі з печы, гаспадар адразаў акраец, саліў яго і ноччу йшоў з ім у хлеў. Увайходзячы ў хлеў казаў: «Дамавік дамавы! Прымі ад мяне хлеб-соль, любі маіх лашадзей і жалуй. І я буду цябе любіць і жалаваць»[29].

[26]Безсоновъ П. Белорусскія песни. Москва, 1871. С. 87.

[27]Киркоръ А., op. cit. С. 263—264.

[28]Unbegaun B. O. La religion des anciens Slaves. «Les religions des Celtes, des Germains et des anciens Slaves». Paris, 1948. S. 406—408.

[29]Kazimierz Moszynski. Kultura ludowa słowian. Cz. II. Kultura duchowa. Krakow, 1934. S. 254.





ЗЛЫДНІ — злыя хатнія духі. Прыказка аб іх кажа: «Упрасіліся злыдні на тры дні, а і за тыдзень ня выжывеш». Цяпер гэтую прыказку ўжываюць у пераносным значэньні.

ЗМОРА — дух, што мучыць сонных людзей.

КАДУК — злы дух, які спрычыняў няшчасныя выпадкі.

КОПША — магільны дух, грабар. Прыказка кажа: «З грашыма і Копшы дагодзіш». Дзеля гэтага калісь пакойнікам укладалі ў рукі грошы.

ЛЯСУН — лясны дух.

НАЧНІЦЫ — маленькія злыя духі ночы. Цяпер гэтае імя замацавана за адным відам кажаноў.

МАРА — злы дух, які зводзіў людзей, адгэтуль выраз — марочыць галаву.

ПАДВЕЙ — гэта дух, які круціўся ў віхрох і мог насылаць людзям хваробы-падвеі.

ПЕРАПАЛОХ — дух, які страшыў людзей. Яго можна было адагнаць загаворамі.

ТРАСЦА-ЧУХНА — дух, які насылааў трасцу.

ХАТНІК — хатні дух у выглядзе старэнькага дзядка з сіваю барадою і доўгімі сівымі валасамі, апрануты ў каптан, падпяразаны дзягаю. Устае рана і пужае пеўня, будзіць гаспадара да працы. Жыве на печы або пад печчу. Наагул печ у беларускай хаце лічылася мейсцам жыхарства ўсіх хатніх і сямейных духаў, дзеля гэтага ў старым вясельным абрадзе быў звычай, што маладая, перад выездам з роднае хаты ў хату маладога, абымала печ, разьвітваючыся гэткім чынам з хатнімі духамі. Яшчэ да нядаўна ў хаце строга забаранялася гаварыць дрэнныя словы і наагул тое, што магло-б абразіць хатніх духаў. Нават існавала пагаворка: «Сказаў-бы, але печ у хаце».

ХЛЕЎНІК — шкодны дух, які псуе статак, заежджвае коней ці кароў. Чамусьці ён баіцца сарокі.

ЧУР, або ШЧУР — сямейны і наагул родавы дух, які ахараняў граніцы родавых земляў[30].

Паміж беларускіх міталягічных істотаў ёсьць яшчэ шмат духаў продкаў: адны прыхільныя — дзяды; другія шкодныя — вупары, вадзяніцы, купалкі, вісельнікі, пакутнікі і інш.

Некаторыя з вышэйпералічаных багоў былі ведамыя ў іншых славянскіх народаў, як: Пярун, Дажбог, Велес, Каляда, Сварог, але большасьць з іх былі ведамыя толькі ў беларускай міталёгіі.

Што да ідалаў — статуяў вышэйпералічаных міталягічных істотаў, дык іх на Беларусі знойдзена ня шмат. У 1684 г. знойдзена статуя з чыстага золата. Археалёгі дагадваюцца, што гэта быў ідал Пяруна[31]. Аднак няма сумніву, што калісь іх было шмат і так-жа няма сумніву, што яны пераважна былі дзераўляныя, таму і загінулі бясьсьледна, толькі пасьля некаторых больш ведамых статуяў і, магчыма, каменных асталіся ўспаміны ў назовах мяйсцовасьцяў. У калішнім Круглевіцкім павеце над ракою Сойм ёсьць вёска Бажок, а недалёка ад Клецка ёсьць цэлая група вёсак, якія атрымалі назовы ад паасобных частак каменнае статуі нейкае багіні. З прыняцьцем хрысьціянства статую разьбілі, але ваколічныя сяляне пазабіралі сабе яе часткі і ад гэтага іхныя вёскі атрымалі такія назовы: Вялікая Балвань, Галавачы, Зубкі, Цыцкавічы, Пузава.

Прыглянуўшыся да сьпісу беларускіх міталягічных

[30]Большая частка вестак аб духах узята з кнігі: А. Ф. Богдановичъ. Пережитки древнего міросозерцанія у Белоруссовъ. Этнографическій обзоръ. Гродно, 1985. С. 64—72. А весткі аб багох, дзе не падана спасылак, пераважна ўзяты з Кіркора.

[31]Киркоръ А., op. cit. С. 243.

істотаў, відаць, што беларускі Алімп быў залюднены даволі багата, але паміж іх толькі адзін Пярун меў ваяўнічы характар. Злых багоў было так-жа мала; крыху больш было злых духаў, але наагул у беларускай міталёгіі пераважалі істоты спакойныя — гэта вымоўна адлюстроўвала характар беларускага народу.

У параўнаньні да іншых славянскіх народаў беларуская міталёгія азначаецца сваім багацьцем, але міма гэтага яна ня мае нейкае суцэльнасьці, як гэта было, напрыклад, у грэкаў і рымлян. А з цягам часу, у залежнасьці ад таго, як колькасьць бостваў і духаў пабольшвалася, сувязь паміж бостваміі ўсё больш разрывалася. Зьявіліся так-жа родавыя і пляменныя боствы, якія паглыблялі пляменны падзел. Гэты падзел аблягчаўся яшчэ тым, што ў паганскіх часох нашы продкі ня мелі зарганізаванага стану сьвятароў і, праўдападобна, наагул паганскіх сьвятаў-казьляроў, як іх тады называлі, было мала. Яны абавязкава былі толькі ў большых населеных пунктах — гарадох і тых мясцох, дзе былі больш ведамыя ідалы, перад якімі ў пэўныя азначаныя сьвяты прыносіліся ўрачыстыя ахвяры. Звычайна-ж ролю сьвятара ў кожнай сям'і выконваў найстарэйшы ў родзе. Гэты звычай даў рэлігійную аснову патрыярхальнаму ладу ў беларускіх сем'ях. Яшчэ да нядаўна бацька сям'і выконваў традыцыйныя абрады на Каляды, на Вадохрышча, на Дзяды і інш. Да таго тыя нешматлікія казьляры, якія калісь існавалі, ня мелі ніякае ерархіі. Некаторыя гісторыкі былі схільныя думаць, што прынамся беларускае племя Крывічы мела ў паганскіх часох ерархічны лад сьвятароў: крывэ і крывэйто, але больш праўдападобна, што гэта была ерархія летувіскіх пляменьняў і, магчыма, так-жа Люцічоў-Волатаў.

З усяго вышэйсказанага бачна, што разьвіцьцё паганскае веры нашых продкаў ад мамэнту зьяўленьня многабоства ішло ў кірунку ўпадку. Але грамадзкае жыцьцё нашых продкаў ужо на зары гісторыі вымагала нямала арганізованасьці, каб перамагчы ўсе ўнутраныя і вонкавыя наступы варожых сілаў. Можна дагадвацца, што гэты разлад абумовіў той факт, што нашы продкі прынялі хрысьціянства без ніякага націску зьверху, а прыняўшы яго, ні разу ня мелі паганскае рэакцыі.

Ня будзе лішнім дадаць, што прыняцьце хрысьціянства ў мамэнт выразна зазначанага ўпадку паганства сталася для беларускага народу ня толькі жыватворчаю крыніцаю надпрыродных ласкаў у духовым жыцьці, але было наагул магутным дзейнікам уздыму ў жыцьці народу. Пры тым хрысьціянства, адхіліўшы асноўныя памылкі паганства, якія вялі народ да ўпадку, ня зьнішчыла дагістарычнага мінулага нашага народу; нават і ў рэлігійных практыках яно захавала шматлікія старыя абрады, прыстасаваўшы іх да асноўнае мэты людзкога жыцьця: зблізіць чалавека да Бога.

«Божым шляхам». 1956. NN 70–75.



# Фрыдрых НІЦШЭ

ЁН



*Пра Яго*

# ТАК СКАЗАЎ ЗАРАТУСТРА

*Асноўныя творы Фрыдрыха НІЦШЭ*

## АПОШНІ ЧАЛАВЕК

## ВЯСЁЛЕНЬКАЯ НАВУКА

## *Пра Яго*

*«Я адно, мае творы другое»*
Фрыдрых Ніцшэ

### ЧАЛАВЕК, ЗАЛІШНЕ ЧАЛАВЕК

**Бацька Фрыдрыха Ніцшэ — Карл Людовік Ніцшэ — быў лютэранскім пастарам і, пэўна, не абыякім, бо да яго з вялікай прыязнасцю ставіўся сам кароль Прусіі Фрыдрых Вільгельм IV.**

**Дарэчы, Фрыдрых Ніцшэ з'явіўся на свет у дзень нараджэння караля. Шчаслівы бацька запісаў у царкоўнай кнізе: «Сын мой, тваім імем на зямлі будзе Фрыдрых Вільгельм, у памяць караля, майго дабрадзея, у дзень нараджэння якога ты атрымаў жыццё».**

**Хлопчык рос ціхім, маўклівым, загаварыў толькі ў два з паловай гады (хто тады мог падумаць, што гэтага маўчуна некалі будзе слухаць увесь свет!..).**

**Але дамо слова самому Ніцшэ, які ў лісце Брандэсу (датаваным 10 сакавіка 1888 г.) выкладае сваю біяграфію наступным чынам: «Vita. Я**

# ТАК СКАЗАЎ ЗАРАТУСТРА
# кніга ўсім і нікому

*Першая частка*

## ЗАРАТУСТРАВА ПРАДМОВА

1

Калі Заратустру споўнілася трыццаць гадоў, пакінуў ён радзіму і роднае возера і падаўся ў горы. Там ён шчасціўся з духу свайго і адлюдненасці і не стамляўся ад гэтага цэлых дзесяць гадоў. Але нарэшце перамянілася ягонае сэрца,— і аднаго разу раніцай, прачнуўшыся на золку, ён устаў перад сонцам і так сказаў да яго:

«О вялікае свяціла! У чым было б тваё шчасце, калі б не было ў цябе тых, каму ты свеціш?

Дзесяць гадоў ты ўзыходзіла над маёй пячорай: ты стамілася б ад свайго святла і руху, каб не я, каб не мой арол і не мая змяя.

Але кожнае раніцы мы чакалі цябе, прымалі шчодрасць тваю і мілаславілі цябе за гэта.

Глянь! Я ўжо стомлены сваёю мудрасцю, як пчала занадта вялікім узяткам; і вось — мне патрэбныя рукі, каб разамкнуліся да мяне.

Я хачу дарыць і надзяляць, пакуль самыя разумныя людзі зноў не нацешацца са сваёй дурасці, а бедныя — з багацця.

Каб так сталася, я мушу сысці ўніз, як ты, калі кожнага вечара апускаешся ў бездань марскую, несучы сваё святло свету ніжняму, ты, самае багатае свяціла!

Як ты, павінен і я *зайсці* — так гэта называюць людзі, да якіх я хачу спусціцца.

Дык жа ўмілаславі мяне, о спакойнае вока, якое непажадна ўмее глядзець на самае вялікае шчасце!

# *Асноўныя творы Фрыдрыха НІЦШЭ*

*Папярэдне заўважым, што творчасць Ніцшэ, пачынаючы недзе з «Несучасных», была залішне «несучаснай», каб быць у адпаведнай меры ацэненай сучаснікамі. Да прыкладу, кнігу «Па той бок дабра і зла» яму давялося выдаць на ўласны кошт пасля таго, як некалькі выдаўцоў адмовіліся ад яе. (Зрэшты, выдаўцы мелі рацыю. За дзесяць месяцаў пасля выхаду кнігі было распрададзена ўсяго 14 экземпляраў.)*

*Нельга казаць, што Ніцшэ зусім абыходзіла няўвага чытача, але ён і не надта ад гэтага пакутаваў. Ён ведаў, хто ён і што яго чакае ў будучым. За гэта сведчаць і ягоныя ацэнкі ўласных твораў, якімі мы суправаджаем нашу кароткую «бібліяграфію».*

### НАРАДЖЭННЕ ТРАГЕДЫІ, альбо ЭЛІНСТВА І ПЕСІМІЗМ

*(У першым выданні 1872 г. кніга мела назву «Нараджэнне трагедыі з духу музыкі».)*

**«З гэтага твора праменіць тытанічная надзея. У рэшце рэшт у мяне няма ніякіх падстаў адмаўляцца ад надзеі на ды-**





Умілаславі келіх, які хоча праліцца, каб каштоўная вільгаць струменілася з яго, разносячы паўсюль водбліск тваёй асалоды!

Глянь! Гэты келіх хоча зноў апаражніцца, а Заратустра хоча зноў учалавечыцца».

Так пачаўся Заратустраў захад.

2

Заратустра спусціўся з гары, не сустрэўшы нікога на дарозе. А калі ён заглыбіўся ў лес, перад ім нечакана паўстаў старац, які пакінуў свяшчэнны будан, каб пашукаць у лесе карэння. І сказаў старац да Заратустры такія словы:

«Не чужы мне гэты вандроўнік: некалькі гадоў таму назад ён праходзіў тут. Яго імя — Заратустра; але ён перамяніўся.

Тады ты нёс свой попел у горы: няўжо сёння ты хочаш несці агонь у даліны? Няўжо не баішся кары, якая бывае падпальшчыку?

Так, Заратустра, я пазнаю. Чыстыя вочы ў яго, і на вуснах ніякай агіды. Ці не таму ён ідзе, як танцуе?

Заратустра перамяніўся, Заратустра здзяцінеў, Заратустра — той, хто прачнуўся: чаго ж ты хочаш ад тых, якія спяць?

Як у моры, жыў ты ў самотнасці, і мора насіла цябе. Шкада! Табе зноў хочацца выйсці на бераг? Шкада, табе хочацца зноў самому цягаць сваё цела?»

Адказаў Заратустра:

«Я люблю людзей».

«А чаму,— сказаў святы,— пайшоў я ў лес і ў пустэльню? Ці не таму, што занадта любіў людзей?

Цяпер я люблю Бога: людзей я не люблю. Чалавек, я лічу, дужа недасканалая штука. Любоў да людзей забіла б мяне».

Заратустра адказаў: «Што я казаў пра любоў! Я нясу людзям дарунак!»

«Не давай ім нічога,— сказаў святы,— лепей вазьмі ў іх частку і нясі разам з імі — гэтым найлепш ім спасобіш, калі толькі дагодзіш сабе!

І калі хочаш даць ім, дай хіба што міласціну, ды яшчэ зрабі так, каб папрасілі яе!»

**нарадзіўся 15 кастрычніка 1844 года на месцы бітвы каля Лютцэне. Першае імя, якое я пачуў, было імя Густава Адольфа. Мае продкі былі польскай шляхтай (Ніцкі)[1], пэўна, тып добра захаваўся, нягледзячы на тры нямецкія «маці». За мяжой мяне звычайна таясамяць з палякам; яшчэ гэтай зімой я быў занесены ў спіс замежнікаў, якія наведалі Ніццу, comme Polonais. Мне кажуць, што мая галава сустракаецца на карцінах Матэйкі. Мая бабуля належала да шылераўска-гётэўскага кола ў Веймары. Я меў радасць быць выхаванцам паважнай Шульпфорты, адкуль выйшла столькі вялікіх людзей (Клапшток, Фіхтэ, Шлегель, Ранке і да т.п. і г.д.), добра вядомых у нямецкай літаратуры. У нас былі настаўнікі, якія зрабілі б (ці зрабілі) гонар якому заўгодна універсітэту. Я вучыўся ў Боне, пазней у Лейпцыгу: стары Рыгль, тады першы філолаг Германіі, амаль з самага пачатку адзначыў мяне сваёй увагай. У 22 гады я быў супрацоўнікам «Цэнтральнай літаратурнай газеты» (Царнке). Я непасрэдна прычыніўся да стварэння філалагічнай суполкі ў Лейпцыгу, якая існуе і пасёння. Зімой 1868/69 гг. Базельскі універсітэт запрапанаваў мне прафесуру, я тады не быў яшчэ доктарам. Хутка пасля**

[1] Чытач віленскай «Нашай Нівы» пэўна звярнуў увагу на вершы Хведара Ніцке. Відавочна, што гэта псеўданім, у падтэксце якога славянскае паходжанне Ніцшэ звязваецца з прасторай Беларусі.

**янісійскае будучае музыкі. Кінем позірк на стагоддзі ўперад, выкажам гіпотэзу, што мая атака на два тысячагоддзі антынатуральнасці будзе мець поспех. Тая новая партыя жыцця, якая возьме ў свае рукі найвялікшую з усіх задач, больш высокае выхаванне чалавецтва, і ў тым ліку бязлітаснае зніштажэнне ўсяго таго, што выроджваецца і паразытуе, зробіць магчымым на зямлі лішак жыцця, з якога павінен зноў узнікнуць дыянісійскі стан. Я абяцаю *трагічны* век; вышэйшае мастацтва ў сцвярджэнні жыцця, трагедыя адродзіцца, калі чалавецтва, без пакутаў, пакіне па-за сабой памяць пра самыя жорсткія, але і самыя неабходныя войны...»**

### НЕСУЧАСНЫЯ

*(1873-1874 гг.)*

**«Чатыры *Несучасных* прадстаюць выключна ваяўнічымі. Яны даводзяць, што я не быў «Гансам-летуценнікам», што я з задавальненнем валодаю шпагай,— магчыма, таксама і тое, што ў мяне моцнае левае запясце. Першы напад (1873 г.) быў на нямецкую культуру, на якую я ўжо тады глядзеў зверху ўніз з ганарлівай агідай. Без сэнсу, без зместу, без мэты: суцэльна «грамадская» думка. Няма большай згубы, чым думаць, што вялікі поспех нямецкай зброі сведчыць на карысць гэтай культуры ці нават на карысць *яе* перамогі над Францыяй».**

### ЧАЛАВЕЧАЕ, ЗАЛІШНЕ ЧАЛАВЕЧАЕ

*(1878 г.)*

**«Чалавечае, залішне чалавечае» ёсць помнікам крызісу. Яна называецца кнігай для *вольнага***

**гэтага Лейпцыгскі універсітэт надаў мне ступень доктара досыць ганаровым чынам: без якой-небудзь абароны, нават без дысертацыі. З вялікадня 1869 па 1879 г. я жыў у Базелі; мне давялося адмовіцца ад майго нямецкага грамадзянства, бо, паколькі я быў афіцэрам (конны артылерыст), я не змог бы ўхіляцца ад надта частых позваў на службу, не парушаючы сваіх акадэмічных абавязкаў. Тым не менш я дасведчаны ў двух відах зброі: у шаблі і гарматах і, магчыма, яшчэ ў трэцім... У Базелі, нягледзячы на маю маладосць, усё адбывалася як нельга лепей: здаралася, асабліва пры абароне доктарскіх дысертацый, што той, каго экзаменавалі, быў старэйшы за экзаменатара. Дарункам лёсу, выпаўшым на маю долю, сталася сардэчная прыязнь паміж Якабам Буркхардтам і мною — досыць нязвыклы факт для гэтага вялікага непрыяцеля ўсялякага таварыства мысляра-адзінотніка. Яшчэ большым дарункам было тое, што ў мяне з самага пачатку майго базельскага існавання завязалася вялікае сяброўства з Рыхардам і Казімай Вагнерамі, якія жылі тады ў сваім маёнтку Трыбшэн, каля Люцэрна, быццам на нейкім востраве, без усялякіх ранейшых стасункаў. Некалькі гадоў дзялілі мы паміж сабой усё вялікае і малое; давер не ведаў межаў. (Вы знойдзеце ў сёмым томе Збору твораў Вагнера «ліст», надрукаваны ім для мяне з нагоды «Нара-**

«Не,— адказаў Заратустра,— я не падаю. Не такі я бедны, каб даваць».

Святы пасмяяўся з Заратустры і сказаў: «Дык парупся, каб яны прынялі твае скарбы! Не давяраюць яны адлюднікам і не вераць, што мы прыходзім да іх дарыць.

Нашыя крокі гучаць ім на вуліцах надта самотна. І калі ўначы, лежачы ў ложках, задоўга да золку пачуюць яны, што ідзе чалавек, дык, мусіць, пытаюцца самыя ў сябе: «Куды гэтаму злодзею зарупела?»

Дык не ідзі да людзей, заставайся ў лесе! Лепш ідзі да звяроў! Чаму ты, як я, не хочаш быць мядзведзем сярод мядзведзяў, птушкай сярод птушак?»

«А што рабіць святому ў лесе?» — спытаўся Заратустра.

Святы адказаў: «Я складаю песні і спяваю іх; калі складаю,— смяюся, плачу і спяваю: так я слаўлю Бога.

Спевамі, плачам і смехам я слаўлю Бога, майго Бога. А які ты нясеш дарунак?»

Пачуўшы гэтыя словы, Заратустра пакланіўся святому і сказаў: «Што я мог бы вам даць! Лепей дазвольце мне хутчэй сысці адгэтуль, каб я нічога не ўзяў у вас!» І так яны развіталіся, старац і мужчына, уподсмех, як дзеці малыя.

А калі Заратустра застаўся адзін, ён сказаў свайму сэрцу: «Ці магчыма такое? Гэты святы старац у лесе яшчэ не чуў, што *Бог памёр*!»

**3**

Калі Заратустра прыйшоў у бліжэйшы горад за лесам, ён убачыў натоўп, людовішча на рынкавым пляцы, бо было абяцанне — пабачыце танцора на вяроўцы. І Заратустра сказаў люду такія словы:

«*Я дам вам навуку пра Звышчалавека.* Чалавек — гэта нешта, што трэба адолець. Што зрабілі вы, каб адолець яго?

Да сённяга ўсе істоты стваралі нешта вышэйшае за саміх сябе; а вы хочаце зрабіцца адлівам гэтай вялікай хвалі і лепш вярнуцца да звяроў, чым адолець чалавека?

Што такое ўчалавеку малпа? Пасмешышча альбо пакутлівы сорам. І тое самае павінен быць чалавек у Звышчалавеку —пасмешышча альбо пакутлівы сорам.

розуму; амаль кожны сказ у ёй прамаўляе перамогу — з гэтай кнігай я вызваліўся ад усяго *не характэрнага* маёй натуры. Не характэрны мне ідэалізм — назва гаворыць: «дзе вы бачыце ідэальныя рэчы, там бачу я — чалавечае, ах, толькі залішне чалавечае!..»

## ЗОЛКАВЫ РАНАК

*(1881 г.)*

*Думкі пра мараль як забабоны*

«Гэтай кнігай пачынаецца мой паход супраць *маралі*... Які сэнс маюць падманныя, *складовыя* паняцці маралі — «душа», «дух», «вольная воля», «Бог» — як не той, каб фізіялагічна вынішчыць чалавецтва?..»

## ВЯСЁЛЕНЬКАЯ НАВУКА

*(1882 г.)*

«Золкавы ранак» — аптымістычная кніга, глыбокая, але ясная і добразычлівая. Тое самае, але яшчэ ў большай меры, характэрна і для gaya sciensa: амаль у кожным радку яе пяшчотна трымаюцца за рукі праніклівы роздум і гарэза. Вершы, якія выказваюць удзячнасць самаму цудоўнаму месяцу, студзеню, які я пражыў,— уся кніга ёсць ягоны дарунак,— у дастатковай ступені тлумачаць, з якой глыбіні «навука» тут стала *вясёленькай*».

## ТАК СКАЗАЎ ЗАРАТУСТРА

*Кніга ўсім і нікому*

*(1883-1885 гг.)*

«Асноўная канцэпцыя гэтага твора, думка пра вечнае вяртан-





Вы прайшлі шлях ад чарвяка да чалавека, але шмат чаго ў вас яшчэ — ад чарвяка. Калісьці вы былі малпы, і нават цяпер у чалавеку больш малпы, больш, чым нават у каторай малпы.

Нават самы мудры з-паміж вас — гэта нейкая двухсэнсіца і двухполасць, нешта паміж раслінаю і прывідам. Але ж хіба я загадваю вам стаць прывідам альбо раслінаю?

Бачыце, я вучу вас пра Звышчалавека!

Звышчалавек — гэта сэнс зямлі. Няхай жа і воля вашая скажа: хай Звышчалавек *будзе* сэнсам зямлі!

Заклінаю вас, братове мае, *заставайцеся вернымі зямлі* і не верце таму, хто скажа вам пра надзямныя надзеі! Яны — атрутнікі; няважна, ці ведаюць яны самі пра гэта.

Яны пагарджаюць жыццём; гэта тыя, што мруць і трацяць самыя сябе, ад якіх стамілася зямля: хай яны прападуць!

Раней самае вялікае блюзнерства было — зневажанне Бога, але Бог памёр, і блюзнерствы памерлі з ім разам. А сённяшня самае жудаснае злачынства — зневажаць зямлю і ўшаноўваць неспасцігальнае вышэй за сэнс зямлі!

Калісьці душа з пагардай глядзела на цела; і тады чымсьці найвышэйшым лічылася гэтая пагарда. Душа прагнула бачыць зблажэлае цела, агіднае і галоднае,— так спадзявалася яна выбавіцца ад яго і ад зямлі.

О, тая душа сама была худая, агідная і галодная: жорсткасць была ў самай высокай асалодзе гэтай душы.

Але скажыце мне, братове мае, што кажа ваша цела пра вашу душу? Ці не ёсць душа ваша ўбоства, і бруд, і жалю вартая задаволенасць?

Сапраўды, чалавек — гэта брудны паток. Трэба быць морам, каб увабраць брудны паток у сябе і не занячысціцца.

Бычыце — я вучу вас пра Звышчалавека: ён — гэта мора, дзе можа захлынуцца ўся ваша вялікая пагардзь.

Што ёсць самае высокае, якое вы можаце перажыць? Гэта — часіна вялікай пагарды: часіна, калі вашае шчасце робіцца вам такой самай гідотай, як ваш розум і цнота.

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць маё шчасце? Яно — убоства, і бруд, і жалю вартая самазадаволенасць. А маё шчасце павінна быць такое, каб апраўдвала і самое жыццё!»

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць мой розум? Ці дамага-

**джэння трагедыі».) З гэтага моманта і надалей я пазнаёміўся з вялікім колам цікавых людзей (і «людцаў» — Menschinnen), па сутнасці амаль з усім, што расце паміж Парыжам і Пецярбургам. Перад 1876 годам здароўе маё пагоршылася. Я прабыў тады зіму ў Сарэнта з маёй даўняй сяброўкай баранэсай Мейзенбуг ("Успаміны ідэалісткі") і сімпатычным доктарам Рэ. Стан мой не палепшыўся. Неверагодна пакутлівы і ўчэпісты галаўны боль адбіраў усе мае сілы. З гадамі ён нарастаў да піка хранічнай хваравітасці, так што год налічваў тады для мяне да 200 пякельных дзён. Нядуг мусіў быў мець выключна лакальную прычыну; пра якую-небудзь неўрапаталагічную падставу не можа быць і гаворкі. Я ніколі не заўважаў за сабою сімптомаў душэўнага бязладдзя, нават ніякай тэмпературы, ніякага памутнення розуму. Мой пульс быў тады такім жа павольным, як пульс першага Напалеона (=60). Маёй спецыяльнасцю было на працягу двух-трох дзён запар з абсалютнай яснасцю цярпець нясцерпны боль cru, vert, які суправаджаўся ванітамі. Распаўсюдзілі чуткі, быццам я ў шпіталі для вар'ятаў (і нават памёр там). Няма большай памылкі. Сталасць майго духу выпадае якраз на гэтую страшную пару; сведчанне — «Золкавы ранак», які я пісаў у 1881 годзе, калі перажыў зіму ў неверагодным змар-**

не, гэта вышэйшая форма сцвярджэння, якая ўвогуле можа быць дасягнутай,— датуецца жніўнем 1881 года: яна занатаваная на аркушы паперы з надпісам: «6000 футаў па той бок чалавека і часу». <...>

Твор гэты стаіць зусім асобна. Пакінем па-за ўвагай паэтаў; магчыма, увогуле ніколі і нішто не было створана ад падобнага лішку сілы. Маё паняцце «дыянісійскае» ператварылася тут у *найвышэйшае дзеянне*; адносна яго ўся астатняя чалавечая дзейнасць выглядае нямоглай і ўмоўнай. Які-небудзь Гётэ, які-небудзь Шэкспір ні хвіліны не маглі б дыхаць у гэтай атмасферы жахлівай страсці і вышыні. Дантэ ў параўнанні з Заратустрай ёсць толькі вернік, а не той, хто *стварае* ўпершыню ісціну, *кіруючы светам* дух, фатум,— паэты Веды ўсяго толькі святары, і не заслугоўваюць нават развязаць рамяні абутку Заратустры; але ўсё гэта ёсць яшчэ мінімум і не дае яшчэ ніякага ўяўлення пра тую дыстанцыю, пра тую блакітную адзіноту, у якой жыве гэты твор».

## ПА ТОЙ БОК ДАБРА І ЗЛА

*Прадмова да філасофіі будучыні*

*(1886 г.)*

«Гэтая кніга ва ўсім істотным ёсць крытыка сучаснасці, не выключаючы і сучасных навук, сучасных мастацтваў, сучаснай палітыкі... <...>

Ва ўсіх адносінах, і перш за ўсё ў форме, лёгка знайсці як бы добраахвотны разрыў з тымі інстынктамі, з якіх стаў магчымы Заратустра. Рафінаванасць у форме, у задуме, у мастацтве *маўчаць* стаіць тут на першым плане, псіхалогія тлумачыцца з

**ненні, адлучаны ад дактароў, сяброў і радзімы. Кніга паслугуе мне ў пэўным сэнсе «дынамометрам»: я напісаў яе з мінімумам сіл і здароўя. З 1882 года мае справы, натуральна, досыць марудна, пачалі рухацца да лепшага: крызіс быў пераадолены (мой бацька памёр вельмі маладым, якраз у тым узросце, у якім я сам быў бліжэй за ўсё да смерці). Мне і сёння яшчэ трэба аберагацца: шэраг умоў кліматычнага і метэаралагічнага парадку для мяне абавязковы. Зусім не выбарам, а непазбежнасцю з'яўляецца тое, што я праводжу лета ў Верхнім Энгадзіне, а зіму — на Рыўеры... У рэшце рэшт хвароба прынесла мне найвялікшую карысць: яна выдзеліла мяне з іншых, яна вярнула мне мужнасць да сябе самога... Да таго ж я, адпаведна сваім інстынктам, адважная жывёліна, нават мілітарыстычная. Доўгае супраціўленне трошкі раззлавала мой гонар.— Ці ж я не філосаф?..»**

**Як ужо згадвалася, ліст да Брандэса датаваны 1888 годам. Калі лічыць «фармальна», то Ніцшэ заставалася пражыць яшчэ амаль дванаццаць год, але ці можна залічваць да жыцця тыя дзесяць з іх, што ён правёў у шпіталі для псіхічна хворых? Таму вернемся да *жывога* Ніцшэ і паспрабуем дадаць колькі рысаў у распачаты ім самім жыццяпіс.**

**У побыце гэты агрэсіўны рызыкант духу быў надзвычай ветлівы, па-жаноцку мяккі, гаварыў ціха, асцярожна. Рысы ягонага твару былі спакойнымі, вочы задуменныя. Яго лёгка было не заўважыць, можа, таму, што манеры меў вытанчаныя. Рыхард Вагнер неяк сказаў: «Я даў бы цяпер сто тысяч марак, каб умець паводзіць сябе, як гэты Ніцшэ». А сам Ніцшэ, не тоячы задавальнення, напіша напрыканцы *свядомага* жыцця: «... і я мушу прызнацца, што мяне больш цешаць тыя, хто мяне не чытае, хто ніколі не чуў ні майго імя, ні слова «філасофія»; але куды б я ні прыйшоў, напрыклад, тут, у Турыне, твар кожнага пазіраючага на мяне асвятляецца і робіцца дабрэйшым. Чым я да гэтай пары асабліва ганаруся, дык гэта тым, што старыя гандляркі не супакойваюцца, пакуль не выбяруць для мяне самы салодкі з іхняга вінаграду».**

**Гэты чалавек, які паўстаў супраць мыслення ўсёй эпохі, які не прамінаючы зняважыў усіх вялікіх ад Сакрата да Вагнера, ніколі не меў ворагаў у сваім асабістым жыцці. І можа, найперш таму, што ўсё тое, з чаго людзі варагуюць паміж сабой (улада, грошы, маёмасць, пасады), абыходзіла яго.**

**У 1879 годзе Ніцшэ атрымаў па стане здароўя адстаўку ў Базельскім Педагогіуме (дзе сем год выкладаў грэцкую мову) і штогадовы пансіён у 3000 франкаў. Болей Ніцшэ нідзе стала не працаваў, «бадзяўся» з месца**

ецца ён ведаў, як леў сваёй ежы? Мой розум — убоства, і бруд, і жалю вартая самазадаволенасць!»

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць мая цнота? Яна яшчэ не змусіла мяне шалець. Як я стаміўся ад свайго зла і дабра! Усё гэта — убоства, і бруд, і жалю вартая самазадаволенасць!»

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць справядлівасць мая? Не бачу, каб я быў жар і вуголле. А справядлівы — жар і вуголле!

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць мілажальнасць мая? Хіба мілажальнасць не крыж, да якога прыбіваюць таго, хто любіць людзей? Але мая мілажальнасць — не ўкрыжаванні!»

Ці ж не вы казалі так? Ці ж не вы крычалі так? О, калі б я чуў, як крычалі вы так!

Не вашы грахі — ваша задаволенасць енчыць да неба, ваша скнарнасць у грэху вашым енчыць да неба!

Дзе ж тая маланка, каб лізнула вас сваім языком? Дзе той шал, якім вы прышчэплены мусіце быць?

Бачыце, я вучу вас пра Звышчалавека: ён — тая маланка, ён — гэты шал!»

Калі Заратустра сказаў сваю казань, нехта крыкнуў з натоўпу: «Досыць мы ўжо наслухаліся пра танцора на вяроўцы; дай нам пабачыць яго!». І вось людства смяялася з Заратустры. А скакун на вяроўцы, думаючы, што запрашаюць яго, пачаў свае штукі.

**4**

Заратустра глядзеў на людзей і дзіву даваўся. Пасля ён сказаў так:

«Чалавек — гэта вяроўка, напятая паміж жывёламі і Звышчалавекам, вяроўка над прорваю.

Небяспечна ісці, небяспечна станавіцца на пераходзе, небяспечна азірацца, небяспечна баяцца і спыняцца.

Велічнае ў чалавеку тое, што ён мост, а не мэта: што вартае ў чалавеку любові, дык гэта тое, што ён — ***пераход і захад***.

Я люблю таго, хто не ўмее жыць інакш, як у імя свайго захаду, бо ён на пераходзе.

Я люблю таго, хто мае ў сабе вялікую пагарду, бо ён — вялікі шанавальнік і страла палымянасці, што тужыць па тым беразе.

Я люблю не таго, хто шукае за зоркамі прычыны загінуць і стаць ахвярай, а таго, хто ахвяруе сабою зямлі, каб калі-небудзь яна зноў зрабілася зямлёй Звышчалавека.

Я люблю таго, хто спазнае і спазнаваць хоча, каб калі-небудзь жыў Звышчалавек. Бо такога ён хоча захаду сабе.

Я люблю таго, хто працуе і вынаходзіць, каб пабудаваць жытло Звышчалавеку і падрыхтаваць яму зямлю, жывёл і расліны: бо такога ён хоча захаду сабе.

Я люблю таго, хто любіць цноту сваю: бо цнота — гэта воля да захаду і страла палымянасці.

Я люблю таго, хто не пакідае сабе аніводнай кроплі духу, а прагне быць цалкам духам сваёй цноты: так, нібы дух, праходзіць ён па мосце.

Я люблю таго, хто з цноты сваёй робіць вабу і лёс: толькі дзеля сваёй цноты ён яшчэ хоча жыць і болей не жыць.

Я люблю таго, хто не хоча мець лішне шмат цнотаў. Адна цнота — больш за дзве, бо яна той вузел, на якім трымаецца лёс.

Я люблю таго, чыя душа раскідае сябе, хто не хоча падзякі і сам не дзякуе: бо ён заўсёды дорыць і не хоча ацаліць сябе.

Я люблю таго, хто саромеецца, калі шчасціць яму ў гульні, і хто пытаецца ў сябе: няўжо я няшчасны гулец? — бо ён прагне страціць усё.

Я люблю таго, хто кідае залатыя словы наперадзе ўчынкаў сваіх і заўсёды робіць больш, чым абяцае: бо ён хоча захаду сабе.

Я люблю таго, хто апраўдвае будучыя пакаленні, а мінулым дае збавенне, бо ён хоча пагібелі ад сённяшніх.

Я люблю таго, хто карае Бога свайго, бо ён свайго Бога любіць: бо ён мае загінуць ад гневу Бога свайго.

Я люблю таго, чыя душа глыбокая нават у сваіх пошасцях; хто можа загінуць ад малога выпрабавання: самохаць ідзе ён па мосце.

Я люблю таго, чыя душа перапоўнена так, што ён забывае сябе і ўбірае ў сябе ўсе рэчы: так усе рэчы нясуць яму захад.

Я люблю таго, хто свабодны духам і свабодны сэрцам; таго, чыя галава — толькі часцінка ягонага сэрца,— а сэрца вядзе яго да захаду.

**усвядомленай цвёрдасцю і жорсткасцю — кніга адхіляе ўсякае лагоднае слова... На ўсім гэтым можна адпачыць, хаця, хто ведае, *які* адпачынак патрэбен пасля такой страты дабрыні як Заратустра?.. Кажучы тэалагічна,— хай прыслухоўваюцца, бо я рэдка кажу як тэолог,— сам Бог улёгся ў канцы працоўнага дня, падобна змею, пад дрэва ведання: так адпачываў ён ад абавязку быць Богам... Ён стварыў усё занадта цудоўным... Д'ябал ёсць толькі адпачынак Бога ў кожны сёмы дзень...»**

## ГЕНЕАЛОГІЯ МАРАЛІ

*Палемічны твор*

*(1887 г.)*

**«Тры аналітыкі, з якіх складваецца гэтая генеалогія, магчыма, з гледзішча выяўлення, мэты і мастацтва здзіўляць ёсць самае жахлівае, што да гэтай пары было напісанае. <...>**

**Ісціна *першай* аналітыкі ёсць псіхалогія хрысціянства: нараджэнне хрысціянства з духа ressentiment, а не з «духу», як звычайна думаюць,— па сутнасці, рух назад, вялікае паўстанне супраць *шляхетных* каштоўнасцяў. Другая аналітыка дае псіхалогію *сумлення*; яно не ёсць «голас Бога ў чалавеку», як пераважна думаюць,— яно ёсць інстынкт жорсткасці, звернуты назад, унутр, пасля таго як ён ужо не можа выплюхнуцца вонкі. Жорсткасць упершыню высвятляецца тут як адно з самых старых і самых неадменных апірышчаў культуры. Трэцяя аналітыка дае адказ на пытанне, адкуль паходзіць жахлівая ўлада аскетычнага ідэала, ідэала святара, нягледзячы на тое, што ён ёсць ідэал *шкодны*...»**

## СЫХОД ІДАЛА

*Як філасофствуюць молатам*

*(1888 г.)*

**«Калі хочуць хутка ўразумець, як да мяне ўсё стаяла дагары нагамі, хай пачынаюць з гэтага твора. Тое, што называецца ідалам на тытуле, ёсць усяго тое, што да гэтай пары называлі ісцінамі».**

## АНТЫХРЫСТ

*(1895 г.)*

**«Гэтая кніга належыць нешматлікім. Магчыма, ніхто з гэтых нешматлікіх яшчэ і не існуе... Толькі паслязаўтра належыць мне. Некаторыя людзі народжваюцца postnum».**

## ECCE HOMO

*Як становяцца самі сабою*

*(1908 г.)*

**У прадбачанні, што не за гарамі той дзень, калі я павінен буду змусіць чалавецтва на выпрабаванні больш цяжкія, чым усе тыя, што яно зведала раней, я лічу неабходным сказаць, *хто я*. <...>**

**...*Паслухайце мяне!* бо я *такі вось* і *такі вось*. Але найперш не блытайце мяне з іншымі!»**

на месца (Нямеччына, Швейцарыя, Італія), здымаў кватэры, жыў у пансіянатах,— але гэтае «бадзянне» зусім не было хаатычным. Да праблемы месца і клімату Ніцшэ ставіўся амаль гэтаксама сур'ёзна, як і да праблемы харчавання. «Ніхто не вольны жыць дзе заўгодна, а каму наканавана здзейсніць велічнае, што патрабуе ўсёй ягонай моцы, той нават зусім абмежаваны ў выбары».

Ніцшэ лічыў, што памылка ў выбары месца і клімата можа размінуць чалавека з яго наканаваннем, развесці так далёка, што чалавек і не здагадаецца, дзеля чаго ён быў прызначаны жыць. Гэты арыстакрат духу, геній рэфлексіі адчуваў прыроду, як селянін (а можа, і глыбей — як звер), і не толькі адчуваў, а не мог жыць інакш, як толькі ў суладдзі з яе рытмам, з кругаваротам яе бегу. Магчыма, адсюль *першая* (у абодвух сэнсах) канцэптуальная ідэя ягонай філасофіі — ідэя «вечнага вяртання».

Але яшчэ большае, чым праблеме месца і клімату, значэнне Ніцшэ надаваў праблеме харчавання. Адкуль можа ўзяцца «воля да жыцця» пры дрэнных харчах? — слушна заўважаў ён.

Цяжкую для страўніка нямецкую кухню Ніцшэ, далікатна кажучы, не любіў. «...Паходжанне *нямецкага* духу — з сапсаванага страўніка...» Дарэчы, як і англійскую: «яна дае духу *цяжкія* ногі — ногі англічанак». Лепшай кухняй ён лічыў кухню П'ямонта... Каб болей поўна ўявіць стаўленне Ніцшэ да «праблемы страўніка» — трохі ягоных парад: «Ніякай вячэры, ніякай кавы: кава тлуміць. *Чай* толькі ранкам карысны. Не многа, але моцны; чай вельмі шкодзіць і робіць хворым на ўвесь дзень, калі ён на адзін градус халаднейшы за патрэбны».

Што да «тэхналогіі» творчага працэсу, то ў большасці выпадкаў яна была падобнай да той, пра якую Ніцшэ распавёў у звязку са стварэннем сваёй «кнігі кніг» — «Так сказаў Заратустра»: «Маё здароўе было не з лепшых; зіма трымалася халодная і залішне дажджлівая; маленькі гатэль, які туліўся да берага мора, так што ноччу прыліў амаль пазбаўляў сну, уяўляў сабой ува ўсім супрацьлегласць пажаданаму. Нягледзячы на гэта і ці не ў доказ майго цверджання, што ўсё вялікае ўзнікае «нягледзячы», у гэтую зіму і ў гэтых неспрыяльных умовінах паўстаў мой Заратустра.— Да палудня я падымаўся ў паўднёвым напрамку па цудоўнай вуліцы ўверх да Зоальі, паўз сосны і гледзячы далёка ў мора; па палудні, так часта, як толькі дазваляла маё здароўе, я абыходзіў усю бухту ад Санта-Маргерыты да мясцовасці, што ляжыць за Партафіна...— На *абедзвюх* гэтых дарогах прыйшоў мне да галавы ўвесь першы Заратустра, і, наперадзе ўсяго, сам Зарату-

Я люблю ўсіх, падобных да цяжкіх кропляў, што падаюць адна за адной з чорнай хмары, якая навісла над чалавецтвам: яны запабягаюць блізкасць бліску маланкі і гінуць, як вешчуны.

Бачыце, я — вяшчун маланкі, я — цяжкая кропля з хмары; а завуць тую маланку — Звышчалавек...»

5

Сказаўшы гэтыя словы, Заратустра зноў паглядзеў на натоўп і змоўк. «Вось стаяць яны і смяюцца,— казаў ён свайму сэрцу,— не разумеюць мяне: не на іхнія вушы казань мая.

Няўжо спачатку трэба ім аглушыць вушы, каб яны навучыліся слухаць вачыма? Няўжо трэба грымець, як літаўры, і трашчаць, як прапаведнікі каяння? Ці, можа, яны вераць толькі заікам?

У іх ёсць нешта, чым яны ганарацца. Як жа яны называюць тое, чым ганарацца? Называюць «адукацыяй», яна нібыта адрознівае іх ад пастухоў.

Таму яны і не любяць прымаць на сябе слова «пагарда». Што ж, я звярнуся да іх гонару.

Я хачу сказаць ім пра самае пагарднае, а яно — гэта *апошні чалавек*».

І гаварыў Заратустра да людзей такімі словамі:

«Наспела чалавеку паставіць перад сабою мэту. Трэба пасадзіць расадзіну сваёй найвышэйшай надзеі.

Пакуль яшчэ шчодра родзіць ягоная глеба. Але прыйдзе час, і зубожыцца яна і знясіліцца, і выноснае дрэва больш не вырасце на ёй.

Гора! Бліжыцца час, калі чалавек ужо не пусціць над людзьмі стралы сваёй палкасці, і цеціва ягонага лука адвыкне трымцець!

Я кажу вам: трэба мець у сабе хаос, каб змагчы нарадзіць зорку, якая б танцавала. Я кажу вам: у вас пакуль што ёсць хаос.

Гора! Бліжыцца час, калі чалавек не здолее больш нарадзіць ніводнае зоркі. Гора! Бліжыцца час самага пагарджанага чалавека, які не здолее пагарджаць самім сабою.

Дзівіцеся! Я пакажу вам *апошняга чалавека*.

«Што такое любоў? Што такое стварэнне? Што такое палкасць? Што такое зорка?» — так пытаецца апошні чалавек, міргаючы.

Зямля змалела, і на ёй корпаецца апошні чалавек, які нікчэмніць усё на сваё падабенства. Ягоны род нязводны, як земляныя блохі: апошні чалавек жыве даўжэй за ўсіх.

«Мы прыдумалі шчасце»,— кажуць апошнія людзі, міргаючы.

Яны пакінулі мясціны, дзе было сцюдзёна, бо ім патрэбна цяпло. Яны яшчэ любяць блізкага і горнуцца да яго; бо ім патрэбна цяпло.

Хваробы і недаверства лічацца ў іх за грэх, бо яны ходзяць абачліва. Толькі дурань можа спатыкацца аб камяні і людзей!

Час ад часу — крыху яду: ён накалыхвае прыемныя сны. І паболей яду напаследак, каб прыемней было сканаць.

Яны яшчэ працуюць, бо праца ў іх — забава. Але клапоцяцца, каб тая забава не лішне стамляла.

Не будзе ўжо ні бедных, ні багатых: і тое, і другое надта дакучае. І хто захоча загадваць? Хто — упакорвацца? І тое, і другое надта дакучае.

Няма пастуха, ёсць толькі статак! Ва ўсіх аднолькавыя жаданні, усе роўныя; той, хто думае інакш, самохаць ідзе ў дом вар'ятаў.

«Раней увесь свет быў вар'яцкі»,— кажуць самыя празорлівыя, міргаючы.

Усе яны разумныя, усе яны ведаюць, што было: так што іх кпінам няма супыну. Яны яшчэ сварацца, але хутка заміраюцца — каб не навярэдзіць жывата.

Ёсць у іх і свае маленькія радасці на кожны дзень і маленькая радасць на кожную ноч; але найбольшы клопат — здароўе.

«Мы прыдумалі шчасце»,— кажуць апошнія людзі, міргаючы...

Тут скончылася першая Заратустрава казань, якую называюць таксама «Прадмоваю», бо на гэтым месцы яго перапынілі радасныя крыкі людскога збою: «Дай нам гэтага апошняга чалавека, о Заратустра,— крычаў люд,— зрабі нас апошнімі людзьмі! На ліха нам твой Звышчалавек!». І ўсе ра-

# АПОШНІ ЧАЛАВЕК

*Ён быў падобны да чалавека, які выйшаў з краіны, дзе ніхто не жыве.*
Эрвін Родэ

Калі над хвалямі быцця некалі і лунаў больш магутны дух адпрэчвы, то гэта — дух Сатаны.

Хаця, каб гаворка тут была пра Сатану, то я, напэўна б, сказаў наадварот: калі над хвалямі быцця некалі і лунаў больш магутны дух адпрэчвы, то гэта — дух Ніцшэ.

Дарэчы, у другой канструкцыі мы апынаемся значна бліжэй да сапраўднасці. Сатана (натуральна, я маю перад вачыма не абы-якога *сатану*, а гожага высакароднага волата са «Страчанага раю» Джона Мільтана) не ўтрываў Бога над сабою, паўстаў і ў жорсткай бойцы быў пераможаны ды скінуты з вяршыні эмпірэяў у бездань смуроднага пекла.

Так і Ніцшэ не вытрываў... толькі вынік на гэты раз быў зусім іншы..

Народжаны не з жаночага чрэва, а з духу трагедыі, Ніцшэ імклівa і нязмушана ўзыходзіў па стромкаму схілу нігілізму, пакуль на вышыні 6000 футаў над узроўнем чалавека не патрапіў па той бок дабра і зла. Тут, у блакітных нябёсах нявымеранай адзіноты, ён і распачаў вайну з Другім як з лішнім і дамогся таго, на што не хапіла моцы ў Сатаны.

Калі Ніцшэ вярнуўся з вайны і зазначыў перад людзьмі, што Бог памёр (заўважым, ён не сказаў: «Я адолеў яго!»), то людзі палічылі Ніцшэ за вар'ята. (Не станем папікаць недаверкаў, яны яшчэ не жылі ў XX стагоддзі.)

Ніцшэ і сапраўды звар'яцеў, але не тады, як вярнуўся, а значна пазней — потым, і зусім не таму, што быў выкляты пераможаным Богам (ёсць такое, і досыць устойлівае, меркаванне)... Цяпер ён не ведаў, каго яму больш перамагаць, і таму амаль на дзесяць год схаваўся ў вар'яцтва, каб ніхто не здагадаўся, што магутны вой — нікудышны дойлід.

Перамагае не той, хто перамагае, а хто творыць іншае (як Бог калісьці з нічога нешта). А Ніцшэ мог ствараць толькі праз абвяржэнне, разбурэнне, адпрэчванне. Дакладней, вось гэтае бурэнне ("Я паўночны вецер для спелых пладоў") і ставала ягоным творывам.

Ніцшэ любіў называць сябе львом, але, можа, таму, што на Беларусі львоў не было, мне ён уяўляецца раз'юшаным быком, які выпрабоўвае на моц крамянёвага ілба ўсё, што трапляе на вочы. У гэтай сляпой непераборлівасці ён мог грукацца ў моцныя, тоўстыя сцены, якія перастояць не адну эпоху, не адзін землятрус, а мог кінуцца і на спалахнелую штыкеціну, якая сама паваліцца ад першага подыху кволага ветрыку.

Але ўсё ж такі навідавоку іншае: гэты Давід у ворагі сабе выбіраў пераважна Галіяфаў. Ён шукаў змагання з нікім не пераможанымі (Бог, хрысціянства, мараль...) і, на сваю бяду, перамагаў.

Калі Сатана — імя Ніцшэ, то Дыяніс — ягоны першы псеўданім (былі і другія: Заратустра, Антыхрыст)...

**стра, як тып: дакладней, ён** *аб'явіў сябе сам...*»

**Магчыма, якраз таму, што большая частка дня Ніцшэ прамінала ў праходках па вулках, узбярэжжу мора ці горных сцяжынах, ён не надта шмат чытаў і, увогуле, ставіўся да чытання хутчэй як да адпачынку інтэлектуала, а не як да інтэлектуальнай працы. «Мне, верагодна, не натуральна чытаць многае і многа: чытальня робіць мяне хворым... Я заўсёды вяртаюся да невялікай колькасці ранейшых французскіх пісьменнікаў: я веру толькі ў французскую культуру і лічу непамыснасцю ўсё, што акрамя яе называецца ў Еўропе «культурай», не кажучы ўжо пра нямецкую культуру...»**

**У тэме «Ніцшэ і жанчыны» звычайна акцэнтуецца ягоны раман з Лу Саломэ, «персаніфікаванай філасофіяй Ніцшэ» (па трапнай характарыстыцы ягонай сястры, якая вымаглася, каб раман не завяршыўся шлюбам).**

**Лу Саломэ была расейкай, ёй тады (1882 г.) яшчэ не споўнілася дваццаці год, яна мела выключны розум, надзвычайную інтэлектуальную чуйнасць і паэтычны талент. Яе паэму, прысвечаную Ніцшэ, спачатку палічылі за твор самога Ніцшэ. «Гэта самая разумная жанчына ў свеце»,— так пісаў Ніцшэ пра Лу Саломэ ў лісце да аднаго з сяброў. Пэўна, у гэтай ацэнцы болей ад звычайнай закаханасці, чым ад сапраўднасці, але калі такі ма-**

даваліся, цмокалі языкамі. Але засмуціўся Заратустра і сказаў свайму сэрцу:

«Не разумеюць мяне: не на іхнія вушы казань мая.

Задоўжыўся жыць я ў гарах, зачаста ўслухоўваўся ў шум ручаёў і дрэў: і вось прамаўляю да іх, быццам да пастухоў.

Як раніцай горы, няўзрушная і светлая душа мая. А яны думаюць, што я халодны пакепнік і цешуся злоснымі жартамі.

І вось яны дзівяцца на мяне і смяюцца, а смеючыся, яшчэ і ненавідзяць мяне. Лёд у іх смеху».

6

Але тут сталася нешта такое, што знямовіла ўсе вусны і знерухоміла вочы, бо якраз гэтым часам узяўся за штукі скакун на вяроўцы; ён з'явіўся з-за маленькіх дзвярэй і пайшоў па вяроўцы, нацягнутай паміж дзвюма вежамі над рынкавым пляцам, поўным людзей. Ужо ён адолеў свае паўдарогі, калі маленькія дзверы адчыніліся зноў і нейкі стракаты малец, убраны за блазна, выхапіўся з іх і борздзенька пашыбаваў па вяроўцы следам. «Наперад, кульгач,— закрычаў ён страшным голасам,— наперад, гультаёвіны кавалак, махляр, храпа намазаная! А то каб не паказытаў я табе пяты! Што ты тут робіш паміж вежамі? Твае месца ў вежы, туды цябе трэба запраторыць, каб не заступаў дарогі лепшаму за цябе!» — і штослова набліжаўся да танцора, а як падышоў за крок, сталася нешта жудаснае, што сцяло ўсім вусны і завалакло ўсім вочы: ён крыкнуў, як чорт, і пераскочыў цераз таго, які стаяў у яго на дарозе. А танцор, убачыўшы, што супернік перамагае, страціў раўнавагу, кінуў сваю жардзіну і паляцеў у бездань — віхура мігатлівых рук і ног. Натоўп на пляцы хваляваўся, як мора, калі налятае бура: усіх размяло каго куды; але найбольш аказалася там, куды падала цела.

А Заратустра застаўся, і скакун упаў проста перад ім, увесь знявечаны і разбіты, але яшчэ жывы. Праз нейкі час памяць вярнулася да яго, і ён убачыў Заратустру, які кленчыў побач. «Што ты тут робіш? — спытаўся няшчасны.— Я даўно ведаў, што мне сам чорт падставіць нагу. Цяпер ён пацягне мяне ў пекла: няўжо ты хочаш не даць яму?»

**Хрысціянству, каб зацвердзіць сябе ў якасці адзіна легітымнай парадыгмы існага, на пачатку трэба было дыскрыдытаваць ідэю быцця, як голай татальнасці быцця, як толькі** *тут* **і** *так* **магчымую прысутнасць усяго, што хоць неяк можа быць. Для гэтай мэты наўрад ці падыходзіў хто-кольвек з узніклага пазней пантэона алімпійскіх багоў, які ўжо ў пэўнай ступені сам уяўляў утаймаванне раўнавобразнага стыхіі быцця Дыяніса. А вось сам казланогі сатыр Дыяніс, асабліва ў «начных праявах», у праявах** *лішку* **жыцця, дзе жыццё балявала, шалела, прагнула быць, не зважаючы ні на што,— быў як ніхто яшчэ прыдатны для дыскрыдытацыі імаральнага, грэбавання ім дзеля маральнага.**

**«Начны» Дыяніс вельмі падобны да Сатаны (ці ўжо хутчэй да Д'ябла), але калі гэта нават і не так, і ў наяўнасці Сатаны нейкая другая падстава, другая метамарфоза, то месца і характар супрацьстаяння ад гэтага не мяняюцца: яны не маглі не варагаваць паміж сабой — Дыяніс і Хрыстос.**

**Дыяніс — бурэнне, рух, змаганне ўсяго з усім, нічым не ўтаймаваны вэрхал волі да жыцця, вечнае вяртанне і кругаварот аднаўлення.**

**Хрыстос — аскеза, статыка, змірэнне ўсяго з усім, воля да смерці і паступовае знікненне (перацяканне) чалавечага з трывалай плоскасці рэальнага ў трымценне ірэальнага.**

**Дыяніс — жыццё смерці.**

**Хрыстос — смерць жыцця.**

**Дыянісійства праз смерць звернутае ў жыццё, хрысціянства — праз жыццё ў смерць, і таму паміж імі немагчымы нейкі іншы лад, акрамя смяротнай варажнечы...**

**Ніцшэ лічыў сябе сярод першых і найбольш адданых вяроў Дыяніса і ненавідзеў хрысціянства, як толькі пераможаны здольны ненавідзець пераможцу.**





«Прысягаю гонарам, дружа,— адказаў Заратустра,— няма нічога такога, пра што ты кажаш: ні чорта няма, ні пекла. Твая душа памрэ раней за цела: не бойся нічога!»

Разбіты паглядзеў на яго з недаверам. «Калі ты кажаш праўду, дык, пакідаючы жыццё, я нічога не трачу. Я не больш, чым жывёла, якую пугай і голадам навучылі скакаць».

«О, не,— сказаў Заратустра,— з небяспекі ты зрабіў сабе прафесію, а за гэта нельга пагарджаць табою. І вось прафесія твая навяла цябе на пагібель. За гэта я сам пахаваю цябе».

На гэтыя словы скакун ужо не сказаў нічога; ён толькі варухнуў рукою, як бы шукаючы рукі Заратустры, каб падзякаваць яму.

7

Тым часам звечарэла, і рынкавы пляц агарнула цемра; ужо разышоўся натоўп, бо нават цікаўнасць і страх стамляюцца. А Заратустра ўсё сядзеў на зямлі каля мёртвага, заглыбленага ў свае думкі, так што забыўся нават пра час. Нарэшце набегла ноч, і халодны вецер пачаў даймаць самотніка. Тады Заратустра ўстаў і сказаў свайму сэрцу:

«Праўда, добрыя ловы былі ў Заратустры сёння! Ніводнага чалавека не ўлавіў ён, вось толькі мёртвага.

Жудаснае жыццё ў чалавека, і як заўсёды — без сэнсу: на долю яму выпадае блазенства.

Я хачу вучыць людзей сэнсу жыцця: сэнс ёсць Звышчалавек, маланка з чорнай хмары-чалавека.

Але яшчэ я далёкі ад іх, і думка мая іхняга глузду не дастае. У людзей я яшчэ нешта сярэдняе паміж дурнем і трупам.

Цёмная ноч, цёмныя дарогі ў Заратустры. Хадзем, астылы і нерухомы таварышу мой! Я занясу цябе туды, дзе сам і пахаваю».

8

Сказаўшы гэта сэрцу свайму, Заратустра ўзвалок труп на плечы і выправіўся ў дарогу. Але не паспеў ён прайсці і сотні крокаў, як да яго нехта падкраўся і зашаптаў на вуха — вай, гэта быў блазен з вежы. «Ідзі з гэтага горада, о Заратустра,—

**гутны інтэлект найперш бярэ пад увагу розум, то мусім пагадзіцца, што гэта была сапраўды неардынарная жанчына.**

**Натуральна, нічога ў Ніцшэ з Лу Саломэ «не атрымалася», і наўрад ці маюць рацыю тыя, хто ў гэтым абвінавачваюць сястру Ніцшэ, Лу Саломэ ці Пауля Рэ (тады сябра Ніцшэ). Жанаты Ніцшэ — аксюмарон, ён мог выдумляць побач з сабой жанчыну і рабіць нейкія захады, каб паспрабаваць пазбавіцца адзіноты, аднак калі б справа з кімсьці насампраўдзе зладзілася, ён, пэўна, уцёк бы ад нявесты ў апошні дзень перад шлюбам, як ад Рэгіны Ольсэн уцёк Сёрэн Кіркегар...**

**Цікава, што Ніцшэ «сваталі» і да Наталі Герцэн, аб чым ён паведаміў сваёй сястры ў адным з лістоў: «Мяне пераконваюць тут у адносінах да Наталі Герцэн... Але і ёй трыццаць гадоў, было б лепей, каб яна была на год дванаццаць маладзейшай. А ўвогуле мне пасуе яе характар і розум».**

**Тэма «Ніцшэ і жанчыны» набывае трагедыйную «пікантнасць» у звязку з даволі распаўсюджаным меркаваннем, што прычынай ягонага вар'яцтва сталася хвароба на пранцы. Але яшчэ пры «жыцці» Ніцшэ гэтая версія абвяргалася ці бралася пад сумненне шэрагам знакамітых медыкаў. Доктар Гільдэбрант: «Няма і следа доказу таго, што Ніцшэ ў 1866 годзе захварэў на пранцы». Д-р**

**Але апошняе патрабуе ўдакладнення: нянавісць Ніцшэ ўзнікла не з самога факта перамогі хрысціянства над дыянісійствам — у аснове гэтага пачуцця была крыўда на тое, што перамог слабейшы (Хрыстос) і перамог жыццё не звышжыццём, а нежытвом, супрацьпаставіўшы волі да жыцця волю да смерці.**

**Хрысціянства для Ніцшэ — «самая вострая форма варожасці з рэальнасцю», і што яшчэ горш — яно абсалютная формула décadence ("волі да змарнення"). А Хрыстос, прынамсі такі, якім ён паўстае ў Святым Дабравесці,— ідэал дэкадэнта.**

**Запрапанаваўшы чалавецтву ўмярцвіць плоць, змірыцца з ліхам, ухваліць пакорлівую кволасць насуперак сіле, а любоў да ворага — насуперак змаганню з ворагам,— Хрыстос «перасунуў стрэлкі», і цягнік быцця збочыў са скразной дарогі вечнага вяртання у эсхаталагічны тупік. Таму для Ніцшэ «Бог», «мараль», «дух», «ідэаль» — гэта падманная атрыбутыка, якую хрысціянства ("апошняя лагічная выснова іудаізму") напрацавала дзеля адной мэты: паступова абязволіць чалавека і неўпрыкмет згарнуць жыццё ў нішто — у нежытва.**

**Зразумеўшы хрысціянства, як суцэльны décadence, як найвялікшую пагрозу жыццю, Ніцшэ, пад сцягам Дыяніса, выправіўся ў вялікае рушэнне супраць усяго, што было пазначана крыжовым знакам смерці. Арсенал зброі ў яго быў дастаткова багатым: хрысціянскаму Богу смерці ён супрацьпаставіў бога жыцця Дыяніса, Хрысту — Заратустру, маралі — імаралізм, міру — вайну, чалавекабогу — звышчалавека, пакоры — волю да ўлады, апакаліпсісу — вечнае вяртанне...**

**Так, у Ніцшэ было даволі зброі, каб змагацца, і нават даволі — каб перамагчы. Але што ён мог сказаць людзям, жыццю**

Г.Эмаюэль: «З цяперашняга стану клінічнай псіхіятрыі вядомыя нам факты з гісторыі хваробы Ніцшэ недастатковыя для таго, каб рабіць станоўчыя высновы да дыягназу paralysis progressiva». Д-р О.Бінсвангер: «Дадзеныя анамнеза, датычныя хваробы Фрыдрыха Ніцшэ, настолькі няпоўныя і абарваныя, што канчатковая выснова аб энталогіі ягонай хваробы не ўяўляецца магчымай».

Да гэтых меркаванняў спецыялістаў згадаем яшчэ смерць бацькі Фрыдрыха Ніцшэ, які таксама пакутаваў ад боляў у галаве і апошні год пражыў, ужо страціўшы свядомасць.

Ніцшэ не аднойчы пісаў (і не толькі ў лістах) пра бацькаву хваробу і смерць. Ён ведаў, якая яму дасталася спадчына, толькі не даваў веры свайму веданню.

Аднак лёс на кані не аб'едзеш.Памёр Фрыдрых Ніцшэ апоўдні 25 жніўня 1900 года.

Падрыхтаваў
Валянцін АКУДОВІЧ.

казаў ён,— надта многія тут зненавідзелі цябе. Ненавідзяць і добрыя, і праведныя ды называюць цябе сваім ворагам і ненавіснікам; ненавідзяць вернікі, кажучы, што небяспечны ты людству. Шчасце тваё, што з цябе пасмяяліся: і сапраўды, гаварыў ты, як блазен. Шчасце тваё, што звязаўся ты з гэтым падлам: прынізіўшыся так, ты ўратаваў сягоння сябе. Але ідзі ўпрочкі з гэтага горада, а то заўтра я пераскочу цераз цябе — жывы цераз мёртвага». І сказаўшы гэта, знік блазен, а Заратустра пайшоў далей па цёмных вуліцах.

Каля гарадское брамы сустрэліся яму далакопы; яны асвятлілі яму паходняю твар і, пазнаўшы Заратустру, доўга збыткавалі з яго: «Заратустра нясе мёртвага сабаку; брава, ён цяпер далакоп! Бо нашыя рукі занадта чыстыя на такое мяса. Ужо ці не мерыцца Заратустра адабраць кавалак у самога чорта? Ану ж бо! Смачнога абеду! Калі толькі чорт не лепшы злодзей, чым Заратустра,— ён украдзе абодвух і зжарэ!» — і далакопы шапталіся між сабою і рагаталі.

Заратустра адказваў на гэта маўчаннем, ідучы далей. Дзве гадзіны ішоў ён лясамі і балотамі і дзве гадзіны чуў, як вылі галодныя ваўкі; нарэшце голадам змогся і ён. Ён спыніўся каля нейкай адзінокай хаціны, у акне якое гарэла святло.

«Голад спрамог мяне, як разбойнік,— сказаў сам сабе Заратустра.— У лясах і на балотах ападае на мяне мой голад, сярод цёмнае ночы.

Дзіўны ў голаду нораў. Часта ён прыходзіць да мяне па абедзе, а сёння я цэлы дзень не ведаў яго: дзе ж ён забавіўся гэтак?»

Кажучы так, Заратустра пастукаўся ў дзверы. Адчыніў стары з ліхтаром і спытаўся: «Хто завітаў да мяне і парушыў мой кепскі сон?»

«Жывы і мёртвы,— сказаў Заратустра.— Дай мне паесці і напіцца; я ўдзень забыўся пра гэта. Той, хто корміць галоднага, спатольвае сваю душу: так кажа мудрасць».

Стары пайшоў, але адразу вярнуўся, несучы Заратустру хлеб і віно. «Благія тутэйшыя мясціны галодным,— сказаў ён,— таму і жыву тут. Чалавек і звер ідуць да мяне, да пустэльніка. Але ж гукні і спадарожніка свайго, ён згаладаўся не менш за цябе».

на другі дзень пасля перамогі акрамя таго, што казаў напярэдадні: «Я Анты-асёл par excellence, і дзякуючы гэтаму я сусветна-гістарычнае страшыдла, па-грэцку і не толькі па-грэцку, я Антыхрыст...»?

Праз узыходжанне татальнага нігілізму, праз нічым не стрыманае адмаўленне пануючай веры, ідэалогіі, маралі, эстэтыкі, палітыкі Ніцшэ ратаваў чалавека (чалавецтва) ад décadence, ад павольнага сыходжання з трываліпшчаў рэальнага свету ў натрызнены свет ідэалаў, ісцін, ідалаў.

Сапраўднае жыццё, натуральнае, быційнае — яно па той бок дабра і зла, а ўсё, што па гэты,— фікцыя, выдумка, хлусня, аблуда. Што як не фікцыя нейкі занябёсны Бог, а тым болей вера ў яго, што як не фікцыя ідэалы дабрыні, прыгажосці, любові, што як не фікцыя ісціна, прагрэс, эвалюцыя, а магчыма, і навука... Гэта ўсё толькі памыслена, прыдумана, уяўлена. Свет чалавека напампаваны думкамі-зданямі, словамі-фантомамі, ідэямі-прывідамі, за якімі не паўстае нічога аб'ектыўнага, рэальнага, наяўнага. Гэта не жыццё, а фантасмагорыя, якая засланяе ад чалавека сапраўднасць як яго, чалавека, так і ўвогуле існасці...

Абраўшы за мэту адлучыць чалавека ад хрысціянскага фіктыўна-прывіднага свету і вярнуць яго ў рэальны свет пары ранняга дыянісійства, калі жыццё рухалася лішкам волі да жыцця, а фармавалася воляй да панавання, Ніцшэ, магчыма, і наўмысна, прамінуў нават для сябе пытанне: калі свет Дыяніса з панаваннем рэальнасці рэальнага — жыццядайны, а свет Хрыста, напампаваны фікцыямі,— тупіковы, то з чаго гэта людзі ў сваю пару кінулі Дыяніса і рушылі за Хрыстом? На якое ліха яны адракліся ад таго, што ёсць, ад таго, што можна памацаць, пакласці сабе ў рот ці





Заратустра сказаў: «Было б цяжка яго ўгаварыць падзяліць са мной ежу, бо мёртвы мой спадарожнік».

«Што мне да таго,— буркнуў стары,— хто стукаецца да мяне ў дом, хай бярэ, што яму падаюць. Ежце і бывайце».

Пасля Заратустра ішоў яшчэ дзве гадзіны, даверыўшыся дарозе і зорнаму небу, бо прывык ён хадзіць поначы і любіў глядзець у твар усім, хто спіць. Але як пайшло на заранак, Заратустра апынуўся ў цёмнай нетры, і не было відаць ніякай дарогі. Тады паклаў ён мёртвага ў дупло дрэва,— каб убараніць яго ад ваўкоў,— а сам лёг на мох пад дрэвам. І адразу заснуў, стомлены целам, але непахісны душою.

9

Доўга спаў Заратустра, і не толькі зара, але і полудзень прайшліся па твары ягоным. Але нарэшце расплюшчыліся яго вочы: з подзівам глянуў Заратустра на лес, ахінуты глыбокаю цішынёю, са здзіўленнем зірнуў усярэдзіну сабе самому. Потым хуценька ўстаў, як марак, калі раптам убачыць зямлю, і ўзрадаваўся: бо адкрыў ён новую ісціну. І так сказаў свайму сэрцу:

«Святло сышло на мяне: мне патрэбны паслядоўцы, і жывыя, не мёртвыя паслядоўцы, не трупы, якіх я нясу, куды захачу.

Паслядоўцы жывыя патрэбныя мне; таму і пойдуць яны за мною туды, куды я захачу.

Святло сышло на мяне: не да народу прамаўляе Заратустра, а да паслядоўцаў! Не павінен Заратустра быць пастухом і сабакам статку!

Звесці многіх са статку — вось дзеля чаго я прыйшоў. Гневацца будуць на мяне народ і статак: разбойнікам назавуць пастухі Заратустру.

Я сказаў «пастухі», яны ж завуць сябе добрымі і справядлівымі. Пастухамі назваў іх я, а яны завуць сябе вернікамі правільнай веры.

Зірніце на гэтых добрых і справядлівых! Каго яны болей за ўсё ненавідзяць? Таго, хто разбівае скрыжалі іх каштоўнасцяў, хто разбурае і пераступае,— але ж ён і ёсць стваральнік.

Зірніце на вернікаў! Каго яны болей за ўсё ненавідзяць? Таго, хто разбівае скрыжалі іх каштоўнасцяў, хто разбурае і пераступае,— але ж ён і ёсць стваральнік.

Паслядоўцаў шукае стваральнік, а не трупы, не статкі, не вернікаў. Тых, што будуць ствараць разам з ім, шукае стваральнік: тых, што напішуць новыя каштоўнасці на новых скрыжалях.

Паслядоўцаў шукае стваральнік і тых, што сажнуць жніва разам з ім, бо ўсё ў іх паспела да жніва. Не хапае толькі сотні сярпоў; таму зрывае ён каласы і прыкра яму.

Паслядоўцаў шукае стваральнік такіх, што ўмеюць вастрыць сярпы — жняцы і бяседнікі за святочным сталом.

Тых, хто будзе ствараць разам з ім, хто будзе жаць разам з ім, субяседнікаў шукае Заратустра: што яму трупы і пастухі з іхнім быдлам!

за пазуху, і выправіліся ў дарогу да нечага, пра што ніхто не ведае: яно існуе сапраўды ці толькі трызніцца?

Не думаю, каб на гэтае пытанне і праз сто год пасля вайны Ніцшэ з Хрыстом нехта ведаў уцямны адказ. *Што* ў чалавеку запатрабавала «другой» рэальнасці, чаму не даволі яму было адной, гэтай, якая мелася ў наяўнасці *тут* і *цяпер*? Можа, якраз прычынай быў той самы «лішак жыцця», з патэнцыі ідэі якога Ніцшэ стварыў ужо сваю фікцыю — «звышчалавека»?..

А можа, гэта «воля да панавання» (на якую Ніцшэ абапіраўся, вызначаючы тое, што рухае жыццём) якраз і падштурхнула чалавека шукаць нейкі спосаб, каб займець уладу не толькі над жыццём, але і над смерцю?

Ва ўсялякім разе, з чаго б ні паходзіла гэтае памкненне да другой, ірэальнай рэальнасці, Ніцшэ, бадай, дарэмна таясаміў яго з хрысціянствам, дарэмна ганіў і кляў хрысціянства за тое, што яно падбухторвала людства скіравацца на аблудны шлях. Бо ў пазначаным сэнсе, скажам, спелы элінізм прынцыпова ўжо мала чым адрозніваецца ад спелага хрысціянства. Тое, што элінскія багі жылі не ў эмпірэях, а на вяршыні гары — гэта праблема працягласці, а не якасці. Зрэшты, Ніцшэ і сам ужо намацаў унутры элінізму нараджэнне décadence, звязаўшы гэты факт з філасофіяй Сакрата. Але калі б Ніцшэ быў зусім паслядоўным, то мусіў быў паставіць «межавым слупом» паміж дыянісійскім і дэкадэнцкім чалавекам нікога іншага як Апалона.

Ніцшэ, здаецца, і не заўважыў, што Апалон, які ў «Нараджэнні трагедыі з духу музыкі» ўзнік у якасці гарманізуючага Дыяніса раўнаважна,— адыгрываў тую самую ролю, што пазней — Хрыстос.

Не ў Хрысце, у Апалоне па-

А ты, першы мой паслядоўца, бывай! Добра схаваў я цябе ў дупле, надзейна схаваў ад ваўкоў.

Але расстаюся з табою, бо мой скончыўся час. Паміж дзвюма зоркамі адкрылася мне новая ісціна.

Не буду я ні пастухом, ні далакопам. І з народам ужо не гаварыцьму ніколі: апошні раз гаварыў я да мёртвага.

Са стваральнікамі, са жняцамі, з субяседнікамі хачу я з'яднацца: я пакажу ім вясёлку і ўсе ступені Звышчалавека.

Усім самотным сваю песню я буду спяваць: і тым, што самотныя ўдвух; і тым, што яшчэ маюць вушы, каб чуць нечуванне,— ім укладу я ў сэрца цяжар шчасця майго.

Я іду да сваёй мэты, я іду сваёю дарогаю; я пераскочу цераз марудлівых і нядбайных. Хай будзе мой шлях іхнім захадам!»

**10**

Так сказаў Заратустра свайму сэрцу, а сонца стаяла ў зеніце; і тут паглядзеў ён угору, бо пачуў над сабою пранозлівы птушыны крык. І што ж! Шырока кружляючы ў небе, лунаў арол і нёс змяю, але не так, як носяць здабычу: змяя абвівалася вакол яго шыі, нібы сяброўка.

«Гэта мае звяры! — сказаў Заратустра, рады ад шчырага сэрца.— Самая гордая жывёліна пад сонцам і самая мудрая жывёліна пад сонцам — выправіліся ў дарогу.

Яны хацелі даведацца, ці жывы яшчэ Заратустра. А праўда, ці жывы яшчэ я?

Мне небяспечней сярод людзей, чым сярод звяроў, небяспечнымі сцежкамі ходзіць Заратустра. Няхай жа вядуць мяне звяры мае!»

Сказаўшы гэта, згадаў ён словы святога старца ў лесе, уздыхнуў і прамовіў сэрцу свайму: «Я хацеў бы стаць разумнейшым! О, калі б я стаў такі ж мудры, як мая змяя!

Але я немагчымага прагну: прашу гордасць сваю, каб яна заўсёды ішла з маёй мудрасцю разам.

І калі мая мудрасць пакіне мяне — а яна так любіць мяне пакідаць,— хай тады ўжо і гордасць мая заадно з дурнотай адыдзе!»

Так пачаўся захад Заратустры.

**Пераклаў з нямецкай мовы**
**Васіль СЁМУХА.**

Пераклад зроблены з выдання: Nietzsche F. Also sprach Zaratustra: Ein Buch für Alle und Keinen.— Insel Verlag (Insel Taschenbuch 145).— 368 S.

**чатак décadence, Апалон, як форма гарманізацыі дыянісійскай адпрыроднай стыхіі, паўстаў з немагчымасці чалавека атаясаміцца з усёй жахлівай татальнасцю быцця. Апалон — гэта вылучэнне з нічым не ўтаймаванага вэрхала існага рафінаваных гармоніяй лакун. Апалон — праява не «лішка волі да жыцця», а недахопу гэтай волі, недастатковасці яе, немажлівасці далей трываць магутны націск несупыннай, усё праглынаючай дыянісійскай павадкі быцця. І таму мы, напэўна, маем рацыю, калі кажам, што інтэграл дэкадансу быў сфармуляваны ў Апалоне, а ў Хрысце ён толькі перамяніў эстэтычную парадыгму на маральную...**

**Хаця, магчыма, я і памыляюся, зважаючы, што Ніцшэ не прыкмеціў «дваістай» сутнасці Апалона. Прынамсі, у больш позніх ад «Нараджэння трагедыі...» творах ён не супрацьпастаўляў «чашы Грааля» «спарыш Дыяніс–Апалон» і як бы зусім забыўся на Апалона, трымаючыся адно Дыяніса. Праўда, падчас узнікае думка, што Ніцшэ толькі абапіраўся на Дыяніса, каб выглядаць вышэйшым, каб мець пад сабой нейкае апірышча ў мінулым, у традыцыі, каб не быць голым адмаўленнем дзеля адмаўлення. Здаецца, Дыяніс для Ніцшэ быў толькі канцэптуальнай метафарай і хіба што ідэя «волі да панавання» пачаткавалася ў дыянісійскім «лішку волі да жыцця». Бо ўжо ідэя «звышчалавека» не магла адсюль паўстаць, прынамсі, без ферменту звышідэалізму. А што да «вечнага вяртання», то тут, акрамя спарадзіраванага з прыроды кругавароту (усё паўтараецца з дакладнасцю да апошняй дробязі), бачна нават адмаўленне Дыяніса з ягоным «лішкам», які і робіць немагчымым «вечнае вяртанне», паколькі якраз гэты «лішак» разрывае круг і выштурхоўвае быццё ў наступныя прастору і час.**





# ВЯСЁЛЕНЬКАЯ НАВУКА

## *Урыўкі*

**Проза і паэзія.**— Трэба ж, аднак, зважаць на тое, што вялікія майстры прозы амаль заўсёды былі яшчэ і паэтамі, хай тое афіцыйна, хай употайкі, «камерна» самому сабе; а яно і праўда, толькі **перад абліччам паэзіі** пішацца добрая проза! Бо яна — гэта няспынная дзейсная вайна з паэзіяй: уся яе чароўнасць у тым, што паэзіі пастаянна пазбягаюць і супрацівяцца ёй; любая абстракцыя прагне быць перад ёю ялавай і прамаўляецца як бы пакеплівым голасам; любая сухасць і халаднасць павінна прывесці любасную багіню ў любасную роспач; часам бываюць набліжэнні, пагадненні, а тады зноў раптоўны адскок назад і высмейванне; часам падымаецца заслона і ўпускаецца яркае святло, тым часам як менавіта багіня цешыцца сваімі поцемкамі і глухімі фарбамі; часам у вас бяруць з языка слова і спяваюць яго на мелодыю, пры якой яна трымае далікатныя ручкі перад далікатнымі вушкамі — такім чынам, ёсць тысячы асалодаў вайны, уключаючы паражэнні, пра якія непаэты, так званыя празаікі, ведаць нічога не ведаюць — яны пішуць ды і гавораць толькі дрэнную прозу! **Вайна ёсць бацька ўсіх добрых рэчаў** і ёсць таксама бацька добрай прозы! — Чатырох было ў гэтым стагоддзі вельмі дзіўных і сапраўды паэтычных людзей, якія ўзвысіліся на майстэрстве прозы, для якіх, зрэшты, гэтае стагоддзе не было іхнім ад недахопу паэзіі, відаць. Не кажучы пра Гётэ, якога стагоддзе, спаганяючы сабе па дзяшоўцы, яго ж і вылучыла: дык я бачу толькі Джыакома Леапардзі, Праспэра Мэрымэ, Ральфа Вальда Эмерсана і Уолтэра Саваджа Ландэра, вартых называцца майстрамі прозы.

**Небяспека ў голасе.**— З вельмі зычным голасам у горле амаль немагчыма думаць пра тонкія рэчы.

**Дух і характар.**— Некаторыя дасягаюць сваёй вяршыні характарам, але іхні дух якраз не адпавядае гэтай вышыні,— а ў некаторых гэта наадварот.

**Ветлівы.**— «Ён такі ветлівы!» — «Так, але ў яго заўсёды пры сабе піражок цэрберу, і ён такі жудасны, што ў яго заўсёды пры сабе нехта іншы цэрберу,— і ты, і я; гэта ягоная «ветлівасць».

**Твор і мастак.**— Гэты мастак амбітны і нічога больш: зрэшты, ягоны твор толькі лінза, якую ён прапануе кожнаму, каб той падзівіўся на яго.

**Паходжанне «дабра» і «ліха».**— Паляпшэнне выдумляе толькі той, хто ўмее адчуць: «Гэта не добра».

**З раю.**— «Дабро і Ліха — гэта Божыя прымхі»,— сказала змяя.

**У Ніцшэ было даволі інтэлектуальнай адвагі, каб убачыць хрысціянства як нянавісць да цела, прыроды, рэальнасці (хрысціянства нават крыж, адвечны знак сонца, а значыць і жыцця, трансфармавала ў знак магілы, смерці), убачыць хрысціянства як сістэму адмыслова пераплеценых маральных хітрыкаў, якія неўпрыкмет марнуюць волю быць тут і цяпер чаканнем нейкай перспектывы там, у мроіве ірацыянальнага... І не толькі ўбачыць, але і паўстаць супраць блакітнага нежытва маральнасці, баронячы кавялом імаралізму зяленіва і пурпур жыцця.**

**Толькі ці не нагадвае нам Ніцшэ ў гэтым, на злом галавы, рушэнні другога вялікага ідэаліста — Дон Кіхота (натуральна — навыварат)?**

**Бо нават калі яно і сапраўды так: чалавек маральны, свет маральны — фікцыя, фантом, універсалія, пазбаўленая прычыны самой сябе ў адзінкавым, сінгулярным,— то што з гэтага вынікае? Анічога!**

**Жыццё чалавека яшчэ нечым, акрамя як ягонай прысутнасцю ў быцці, пакуль немагчыма вызначыць. І ўся розніца дыянісійскага ладу жыцця ад апаланічнага ці хрысціянскага ва ўскладненні формы гэтай прысутнасці «гульнёй» па так ці інакш сфармуляваных правілах, гульнёй у так ці інакш абазваныя фікцыі: і ні «звышчалавек», ні «вечнае вяртанне» не надаюць прысутнасці чалавека ў быцці якасна новага статусу...**

**Ніцшэ быў не толькі першым, хто ва ўсёй паўнаце ўбачыў сучасную эпоху, як гульню фікцый у фікцыі, але і *апошнім* ("чалавекам"), хто верыў, што недзе (у выпадку з самім Ніцшэ — па той бок дабра і зла) жыццё чалавека можа быць іншым, рэальным, тоесным само сабе, адным словам, не гульнёй у фікцыі, а *нечым*..**

**Дарэчы, сярод знакамітых**

**Што мы робім.**— Што мы робім, не будзе зразумета ніколі, а заўсёды толькі ўслаўлена і збэшчана.

**Апошні скепсіс.**— Што такое, зрэшты, чалавечая праўда? — Гэта толькі неабвержаныя аблуды чалавека.

**У што ты верыш?** — А вось у што: што вага ўсіх рэчаў павінна быць вызначана нанава.

**Што такое тваё сумленне?** — «Ты павінен стаць тым, кім ты ёсць».

**У чым табе найбольшая небяспека?** — У спагадзе.

**Што ты любіш у іншых?** — Свае надзеі.

**Каго ты лічыш благім?** — Таго, хто ўвесь час любіць сарамаціць.

**«Грунтоўныя».**— Маруды ў пазнанні лічаць, што марудлівасць належыць да пазнання.

**Што значыць жыць?** — Жыць — гэта значыць: увесь час штурхаць ад сябе нешта, што хоча памерці; жыць — гэта азначае: быць жорсткім і няўмольным да ўсяго, што ў нас слабне і старэе, і не толькі ў нас.

**Жыць** — гэта значыць, такім чынам: быць без піетэту да паміраючага, убогага і старога? Увесь час быць забойцам? — А сказаў жа стары Майсей: «Не забі!»

**Што іншыя ведаюць пра нас?** — Тое, што мы самі пра сябе ведаем і трымаем у памяці, не так вырашае шчасце нашага жыцця, як думаюць. Прыходзіць дзень, і на нас абвальваецца тое, што іншыя ведаюць пра нас (альбо думаюць, што ведаюць),— і тут мы выяўляем, што гэта больш моцнае. Лягчэй управіцца са сваім ліхім сумленнем, чым са сваёй ліхой рэпутацыяй.

**Умовы Бога.**— «Сам Бог не можа існаваць без мудрых людзей»,— сказаў Лютэр, і меў рацыю; але «Бог яшчэ менш можа існаваць без неразумных людзей»,— гэтага добры Лютэр не сказаў!

**Небяспечнае рашэнне.**— Хрысціянскае рашэнне бачыць свет брыдкім і дрэнным зрабіла свет брыдкім і дрэнным.

**Пытанне і адказ.**— Што пераймаюць сёння дзікія народы ад еўрапейцаў найперш? Віно і хрысціянства, еўрапейскія наркотыкі.— А ад чаго яны гінуць найперш? — Ад еўрапейскага наркатызму.

**Чаго нам бракуе.**— Мы любім вялікую прыроду і адкрылі яе: гэта таму, што ў нашых галовах няма вялікіх людзей. Наадварот у грэкаў: у іх адчуванне прыроды не такое, як у нас.

**Прыкрая ўласцівасць.**— Пранікаць ва ўсе з'явы глыбока — гэта прыкрая ўласцівасць: з ёю заўсёды занадта напружваеш вочы і ўрэшце абавязкова ўбачыш больш, чым хацелася.

**Усякай цноце свой час.**— Хто сёння непахісны, таму ягоная прыстойнасць часта прыносіць дакоры сумлення: бо непахіснасць — гэта цнота зусім іншага часу, чым прыстойнасць.

**Шукальнікі спакою.**— Я пазнаю духаў, якія шукаюць спакою, у многіх цёмных рэчах, якімі яны абстаўляюць сябе: хто хоча спаць, зацямняе свой пакой альбо зашываецца ў нару.— Намёк тым, якія не ведаюць, чаго яны, зрэшты, найболей шукаюць, а хацелі б ведаць!

---

ніцшэўскіх філасафем ("канцэптуальных метафар") — «звышчалавек», «вечнае вяртанне», «воля да панавання», «узыходжанне нігілізму» — амаль незаўважанай застаецца вось гэтая — «апошні чалавек». А між тым, менавіта ў «апошнім чалавеку» аналітыка Ніцшэ дасягнула скрані магчымага — «блізіцца час, калі чалавек ужо не зможа нарадзіць ніводнае зоркі».

XX стагоддзю засталося адно зафіксаваць сфармуляваны Ніцшэ канцавы характар гэтай сітуацыі быцця («Канец гісторыі» Фукуяма, «Канец новага часу» Гвардзіні, «канец чалавека» Фуко і г.д. і да т.п.).

«Што такое любоў? Што такое стварэнне? Што такое палкасць? Што такое зорка?» — так пытаецца апошні чалавек, міргаючы».

Праўда, сам Ніцшэ спадзяваўся, што «апошняга чалавека» можна пераадолець «звышчалавекам». Але ці не ад рэштказ рамантызму XIX стагоддзя гэтае спадзяванне? Бо нават калі пагадзіцца, што «звышчалавек» магчымы, то разам з тым давядзецца прызнаць (чаго Ніцшэ не захацеў зрабіць), што ён падзея адзінкавага ліку, якая прынцыпова, з прычыны сваёй прычыны, не можа пераходзіць у множны. Прысутнасць *другога* звышчалавека аўтаматычна адмаўляе аднаго з іх, альбо анігілюе абодвух.

Тое, чаго не хацеў ведаць Ніцшэ, калі не розумам, дык сэрцам прадчуваў людскі збой, да якога прамаўляў Заратустра.

«Дай нам гэтага апошняга чалавека, о Заратустра,— крычаў люд,— зрабі нас апошнімі людзьмі! На ліха нам твой Звышчалавек!»

Іншая рэч, што апошнімі людзьмі Заратустра іх таксама не мог зрабіць. Пачыналася нешта другое, што вельмі недакладна і гэтаксама невыразна паспрабуем абазначыць як час *структуры*. У гэтым новым





**Мізантропія і любоў.**— Толькі тады кажаш, што сыты людзьмі па горла, калі ўжо не можаш больш пераварваць іх, бо ўжо і жывот поўны. Мізантропія — вынік занадта палкай любові да людзей і «людаедства» — але хто ж паклікаў цябе глытаць людзей, як вустрыц, дарагі мой прынц Гамлет?

**Пра хворага.**— «Кепска яму!» — А чаго яму кепска? —«Ён пакутуе ад прагі да пахвалаў і не знаходзіць, чым наталіць яе».— Неверагодна! Увесь свет захапляецца ім, яго носяць не толькі на руках, але і на вуснах! — Так, але ў яго благі слых на пахвалу. Калі яго хваліць сябар, яму здаецца, быццам той хваліць сябе самога; хваліць вораг — яму здаецца, што таму хочацца, каб самога пахвалілі; калі нарэшце яго хваліць нехта іншы — а тых іншых не так ужо й шмат, такі бо ён славуты! — яго крыўдзіць, што яго не хочуць мець ні за сябра, ні за ворага; ён кажа: «Што мне з таго, калі хто перада мною строіць з сябе справядлівага!»

**Слава.**— Калі ўдзячнасць многіх да аднаго адкідае ўсякі сорам, тады пачынаецца слава.

**Быць глыбокім і глыбокім здавацца.**— Хто ведае глыбока, той імкнецца да яснасці; хто хацеў бы здавацца натоўпу глыбокім, той імкнецца да цьмянасці. Бо натоўп якраз тое і мае за глыбокае, чаго ён не можа разгледзець да дна: ён такі баязлівы і так не любіць лезці ў ваду.

**Думкі.**— Думкі — гэта цені нашых успрыманняў, яны заўсёды цямнейшыя, пусцейшыя, прымітыўнейшыя за ўспрыманні.

**Смех.**— Смяяцца — гэта: быць зларадным, але з добрым сумленнем.

**На самоце.**— Калі жывеш адзін, дык гаворыш не надта гучна, пішаш таксама не надта гучна: бо баішся гулкага водгаласу — крытыкі німфы Рэха.— І ўсе галасы гучаць інакш на самоце.

**Мысліцель.**— Ён мысліць: гэта значыць, што ўмее ўспрымаць рэчы прасцейшымі, чым яны ёсць.

**Супраць пэўнай абароны.**— Самы пэўны сродак пашкодзіць справе — гэта наўмысна бараніць яе памылковымі аргументамі.

**Hic niger est**[1]. — Звычайна ў яго няма ніякіх думак, але як выключэнне прыходзяць яму думкі благія.

**Ахвяра.**— Пра ахвяру і ахвяраванне ахвярныя думаюць інакш, чым ахвяравальнікі, але хто ж калі ахвярам даваў слова!

**Шанаванне.**— Бацькі і сыны шануюцца паміж сабою куды болей, чым маці і дочкі.

**Пераклаў з нямецкай Васіль СЁМУХА.**

З кнігі: Friedrich Nietzsche
Die fröhliche Wissenschaft ("La gaya scienza").
Reclam-Verlag, Leipzig, 1990.

[1]Ён ліхі чалавек (лац.).

---

часе чалавека як чалавека ўжо няма, а тое, што па старой звычцы мы называем чалавекам, ёсць толькі адным з неабходных, але, можа, і не самых галоўных кампанентаў звышскладана структураванага Нечага, сэнс і мэту чаго мы наўрад ці калі ўсвядомім.

«Мы прыдумалі шчасце»,— кажуць апошнія людзі, міргаючы».

У пэўным сэнсе Ніцшэ не мог не быць, бо напрыканцы XIX стагоддзя традыцыйная культура ўжо сфармавалася настолькі, што патрабавала сабе адпаведнай апазіцыі, каб да зморшчын высвятліць сваю сутнасць і тым самым выразна акрэсліць межы сваёй прысутнасці. Таму наўрад ці будзе перабольшваннем, калі мы скажам, што сама культура выклікала Ніцшэ, каб паглядзецца ў яго, як у люстэрка, якое ўсю праўду скажа.

З іншага боку, Ніцшэ мог і не быць персаніфікаваны ў адной асобе, ён мог паступова вымыкаць з самых розных інтэнцый, каб нейкім чынам аднойчы сфакусавацца ў пэўнай кропцы. За тое, што такі варыянт рыхтаваўся таксама, сведчыць творчы вопыт Дарвіна, Дастаеўскага, Маркса, Фрэйда, а раней — Шапэнгаўэра. Усе яны разам — Адзін Вялікі Ніцшэ, што, аднак, не адмаўляе самога Ніцшэ, як пякучага фокусу аналітыкі прамінулага і адначасна веступна буйнейшых інтэлектуальных праграм сучаснасці (экзістэнцыялізму, псіхааналізу, структуралізму, герменеўтыкі і да т.п.).

Недзе Ніцшэ напісаў: «Толькі паслязаўтра належыць мне». Але калі мы прыйдзем туды, у паслязаўтра, Ніцшэ там, пэўна, ужо не застанем. Хіба адно паглядзім на тое месца, адкуль ён выпаў да нас, як абломак будучыні. Магчыма, лішні там.

**Валянцін АКУДОВІЧ**

# ЯНО

# ЯК «БЕРАГЛІ» КУПАЛУ ЧАРВЯКОЎ І ГАЛАДЗЕД?

Слова «берaглі» бяру ў двукоссі, бо, па-першае, яно ў мяне пазычанае, і адразу прывяду — адкуль:

«Цяпер усім вядома, што Купалам і Коласам займаліся карныя органы, за іх упартае непаслушэнства хацелі расправіцца з імі, але да сваёй гібелі іх берaглі Чарвякоў і Галадзед» ("ЛіМ", 3.12.93).

На чым грунтуецца такое меркаванне?

Ды ні на чым. Адно — на безапеляцыйнай інтанацыі С.Грахоўскага: я — «сведка», я — «удзельнік» (маю права на «прыватызацыю» мінулага), калі ж які з «даследчыкаў» надумаецца параўнаць маю выснову з нейкай іншай, гэта будзе азначаць, што ён наважыўся «прынізіць, здрабніць, размяняць веліч, гонар, сумленне і чысціню Купалы».

Словам, калі хто не верыць мне, Грахоўскаму, той —«думзлачынца»? Але ж гэта мы «праходзілі» і па «Гісторыі КПСС», і па рамане Оруэла. Прывяду з апошняга: «Хто кантралюе мінуўшчыну — той кантралюе будучыню, хто кантралюе сучаснасць — той кантралюе мінуўшчыну», — гучаў партыйны лозунг».

Больш за сем дзесяцігоддзяў пражылі мы пад кантролем, верачы — «удзельнікам» і «сведкам».

«Думзлачынства» — пачынаецца з пытанняў.

Першае пытанне: дзе і ў чым Купала альбо Колас праявілі «ўпартае непаслушэнства» карным органам?

Здаецца, не было такога.

Мо яны не слухаліся Партыі і Урада? Але ж Чарвякоў і Галадзед былі вышэйшымі кіраўнікамі Партыі і Урада, дык ці не выходзіць, што Купала з Коласам не слухаліся іх?

Здаецца, слухаліся. Падпісаў у 1927 годзе Чарвякоў урадавую пастанову — «выбраць» кандыдатамі ў члены ЦВК БССР Луцэвіча І.Д., Міцкевіча К.М.,— абодва не адмовіліся. Падпісаў у 1928 годзе Галадзед урадавую пастанову на абодвух — «зацвердзіць правадзейнымі членамі Беларускай Акадэміі навук»,— таксама не адмовіліся. Падпісаў у 1929 годзе Чарвякоў урадавую пастанову перавесці іх абодвух з кандыдатаў ЦВК у члены ЦВК — таксама не адмовіліся. Падпісаў у 1935 годзе Галадзед урадавую пастанову «ўзнагародзіць народнага паэта рэспублікі т. Янку Купалу легкавым аўтамабілем (за «каштоўнасць яго апошніх твораў, у прыватнасці паэмы «Над ракой Арэсай») і ў тым самым годзе — пастанову «Аб прыняцці на ўтрыманне за кошт дзяржавы дома і аўтамашыны і аб пабудове дачы для народнага паэта Янкі Купалы»,— паспрабуй адмовіцца...

У чым жа праяўлялася з іх боку «ўпартае непаслушэнства»? Мо ў хваласпевах Сталіну (пры Берыі)? Альбо — Яжову (пры Яжове)?

Слава нашаму Ежову,<br>
З Ленінграда родам,<br>
Што расправіўся як следна<br>
З дыверсанцкім збродам!

І яшчэ пытанне: хто ж «бярог» Купалу з Коласам, калі не стала Чарвякова з Галадзедам? Мо — Панамарэнка? Але ж гэты міф разбураны вядомай публікацыяй ліста Панамарэнкі Сталіну, з якога вынікае, што Панамарэнка меры́ўся арыштаваць абодвух нашых песняроў — як «ворагаў народа». Мо «бярог» — Цанава?

Ці не самым важкім довадам у абарону версіі С.Грахоўскага мог стаць вядомы «перадсмяротны» ліст Купалы ад 20 лістапада 1930 г.— адрасаваны Старшыні ЦВК СССР і БССР т. А.Чарвякову. Аднак і тут — пытанне: кім быў для Купалы Чарвякоў, чаму ён напярэдадні замаху на сваё жыццё звярнуўся менавіта да яго?

«Таварыш старшыня!

Яшчэ раз, перад сьмерцю, заяўляю, што я ў ніякай контр-рэвалюцыйнай арганізацыі ня быў і ня зьбіраўся быць»...

Такі падкрэслена сухі і афіцыйны тон. Дальбог, не развітальны ліст, а быццам нейкі мемарандум...

Яшчэ раз учытайцеся ў пяць першых слоў: ***«Яшчэ раз, перад сьмерцю, заяўляю»***... Ці не вынікае з гэтых слоў, што гэта ўжо не першая Купалава заява Чарвякову, што ў Купалы з Чарвяковым напярэдадні былі ўжо нейкія няпростыя размовы вакол гэтага пытання і што паміж імі не было ні згоды, ні ўзаемаразумення?

На падставе дакументаў паспрабуем здагадацца пра характар тых размоў.

За месяц да Купалавага «харакіры» Чарвякову давялося двойчы выступаць на пленуме ЦК, які даваў партыйна-ідэалагічную раскрутку «справе СВБ».

«Таварышы,— так пачынаў ён першую прамову.— Даклады т. Гея і т. Рапапорта раскрылі перад намі сапраўдны твар беларускага нацыянал-дэмакратызму, які рыхтаваў на Беларусі кулацкую контр-рэволюцыю, які ўсю сваю працу тут накіроўваў на тое, каб ператварыць Беларусь савецкую, Беларусь соцыялістычную ў Беларусь буржуазна-дэмакратычную. Гэта контр-рэволюцыя, як відаць з агалошаных матэр'ялаў, не спынялася ні перад чым для дасягненьня сваёй мэты: усё было дазволена, усё прызнавалася магчымым. Мэта контр-рэволюцыі апраўдывала тыя сродкі, пры дапамозе якіх гэтая контр-рэволюцыя вяла працу: і правакацыі, і подкупы, у тым ці іншым выглядзе, і г.д. Куды гэта контр-рэволюцыя вяла? Яна вяла Савецкую Беларусь па шляху да інтэрвенцыі, да абдымкаў з польскім фашызмам, яна вяла да закабальваньня рабочай клясы, бядняцкіх і серадняцкіх мас сялянства, яна вяла да звароту сюды буржуазнага панаваньня».

Першую прамову Чарвякова члены пленума назвалі «парламенцкай», «дыпломатычнай», «хітрай», «ліцэмернай». На трынаццаці старонках стэнаграмы вы не знойдзеце, па сутнасці, ні слова звыш таго, аб чым паведаміў ва ўступным слове начальнік ДПУ таварыш Рапапорт. Той выкрываў партыйцаў за падтрымку «нашаніўства» — Чарвякоў туруе: «Мы бачым адну частку тых, якія сьвядома не будучы ніколі партыйцамі і не жадаючы быць партыйцамі, шлі ў партыю для таго, каб выкарыстаць партыю толькі на карысьць контр-рэволюцыі. Мы бачым другую частку тых, якія можа быць шчыра шлі ў партыю, але несьлі ў партыю сваю старую нацыянал-соцыялістычную «нашаніўскую» натуру і такім чынам, захоўваючы старыя сувязі і знаходзячыся пад уплывам свайго старога мінулага, яны цалкам знаходзіліся ў нацыянал-дэмакратычным балоце, з якога яны выходзілі, і працягвалі, будучы ў партыі, сваю нацыянал-дэмакратычную работу».

Рапапорт біў Тэрміналагічную камісію,— «где было принято решение о создании организации, было поручено ЛЕСИКУ, НЕКРАШЕВИЧУ и ЯНКЕ КУПАЛЕ в журнале «АДРАДЖЭНЬНЕ» написать в завуалированном виде программу «СОЮЗА»,— журнал этот вышел в свет и из'ят из обращения». І Чарвякоў ізноў туруе: «Паяўленьне такога часопісу, як «Адраджэньне» ў 1922 годзе, канфіскаванага з прычыны таго, што гэты часопіс аказаўся насычаным нацдэмаўскай ідэалёгіяй спачатку і да самага канца, а ў некаторых выпадках які заключаў у сабе прамую атаку на лінію партыі, на КП(б)Б».

Біў Рапапорт і па Акадэмічнай канферэнцыі: «Под видом Академической конференции была фактически созвана конференция национал-демократов и национал-фашистов — всех тех, которые не были на территории Советской Белоруссии, для того, чтобы оговорить, обменяться мнениями и координировать действия». Зноў Чарвякоў туруе: «Ну, такі яскравы прыклад, як Акадэмічная канферэнцыя, якая была зусім непрыкрытым выступленьнем беларускай контр-рэволюцыі, якую самі нацыянал-дэмакраты называюць эўрапейскім смотрам беларускіх нацыянал-дэмакратычных сіл».

І так уся прамова Чарвякова — ледзь не слова ў слова, след у след за Рапапортам: «Маючы ўсю гэту сыгналізацыю, т.т. на працягу доўгага часу мы адносіліся да паасобных такіх здарэньняў, як да паасобных эпізодаў, але ўсе гэтыя выпадкі ў сучасны момант у сьвеце вось тых матэр'ялаў, якія нам тут агаласіў т. Рапапорт, атрымалі зусім іншы характар: яны паказваюць нам, што ўсе гэтыя праявы ўваходзяць як нешта арганічна цэлае ў пэўную сыстэму дзеяньняў беларускай контр-рэволюцыі, якая па пэўнаму пляну арганізавана імкнулася ўплываць на нашу работу, на нашых працаўнікоў, на наш апарат і г.д. і г.д.».

Цікавы момант: Чарвякоў ужо, здаецца, ведаў, што справы Д.Ф.Прышчэпава, А.В.Баліцкага, А.Ф.Адамовіча і П.В.Ільючонка будуць аб'яднаныя ў асобную. Цытую Чарвякова: «Мне думаецца, што фізіяномія такіх асоб, як Прышчэпаў, Алесь Адамовіч, Ільлючонак, Баліцкі зьяўляецца для нас зусім яснай і тут, па-моему, двух думак быць не можа».

Рапапорт на пленуме яшчэ не аб'яднаў іх.

І яшчэ — пра што ў прамове Рапапорта не было, а ў Чарвякова вылілася ў цэлую старонку стэнаграмы — пра палітыку адносін да нацменшасцяў. Таварыш Чарвякоў адзначыў: «Праўда, нам мяшала шкодніцтва з боку нацыянал-дэмакратаў, але ня гледзячы на гэтае шкодніцтва, усё-ж такі мы маем вельмі значныя дасягненьні... За апошні час наглядаецца паслабленьне ўвагі гэтаму пытаньню, і тут не абыходзіцца без уплыву асобнага мясцовага вялікадзяржаўнага беларускага шавінізму».





Зразумела?

Чарвякоў працягвае тлумачыць:

«У сваім імкненьні стварыць сваю беларускую буржуазную дзяржаву, беларускі нацыянал-дэмакратызм імкнуўся да таго, каб спыніць тую работу, якую КПБ вядзе сярод нацменьшасьцяй».

Нарэшце, зразумела?

Але Чарвякоў працягвае тлумачыць:

«І вось, няўважлівыя адносіны да работы сярод нацменьшасьцяй ёсьць ні што іное, у некаторых выпадках, як уплыў гэтых праяў вялікадзяржаўнага нацыянал-дэмакратызму, які імкнецца да таго, каб падпарадкаваць слабейшыя нацыі».

Так доўга і таўталагічна альбо нерашуча (альбо каб надаць пытанню адпаведны статус) падбіраецца прамоўца да «становішча мястэчак», каб сказаць, што «гэтая работа за апошнія 1/2 года амаль спынілася», і раптам вынесці такую прапазіцыю: «Нам трэба гэтыя добрыя прыклады працы распаўсюджыць...» (А якія «прыклады» — сказаць альбо забыўся, альбо «пасаромеўся».—*Г.К.*).

Адразу пасля Чарвякова выступіць Рачыцкі, які скажа, што ягоную прамову зразумеў «как исключительно для стенограммы», а назаўтра Кофман (пасля перапынку) скажа: «Выступленьне ўчора т. Чарвякова было цалкам і поўнасьцю размазьнёй, а не выступленьнем», галасы яму ў падтрымку грымнуць: «Правільна», і Кофман прапануе: «Чарвякову трэба выйсьці і сказаць, як і ў чым ён павінен, Чарвякову трэба сказаць, што ён грэшан. І па ўсёй вераятнасьці Бюро ЦК таксама аднеслася вельмі мягка, калі выносіла той ці іншы арганізацыйны вывад у адносінах да т. Чарвякова».

Да «грахоў» і «вывадаў» мы вернемся ніжэй, як і было на пленуме: пра іх размова — у другой прамове Чарвякова, а пакуль што (пасля Кофмана) даецца слова Галадзеду, але папярэдне прыгадаем, як яго атэставаў у сваёй кнізе «Без эпітафіі» Эрнест Ялугін:

«Цвёрдакаменным бальшавікам, пісалі пра яго, праявіў сябе, калі стаў старшынёй тройкі па барацьбе з бандытызмам. Кулі для ворагаў пралетарыяту і бяднейшага сялянства не шкадаваў, руку меў цвёрдую».

Адразу папрасіўшы часу больш, чым па рэгламенце, ён выступаў, здаецца, болей за гадзіну (трыццацістаронкавая стэнаграма). Калі Чарвякоў стараўся ісці за Рапапортам, Галадзед, наадварот, адразу выставіў сябе (і партыю,— як член ЦК) наперадзе самога Рапапорта (і наперадзе самога ДПУ). Пачаў адразу з падвядзення вынікаў «арганізацыйнай і ідэалёгічнай барацьбы за ленінскае вырашэньне нацыянальнага пытаньня цэламу пэрыяду, цэламу паасобнаму этапу сыстэматычнай і разгорнутай арганізацыйнай і ідэалёгічнай барацьбы з нацыянал-дэмакратамі і нацыянал-апартуністамі, барацьбы, на якую мы змаглі на гэтым паасобным этапе ўзьняць усе зьвеньні нашай партыі і шырокія пралетарскія масы».

Галадзед рашуча павярнуў разгубленую «вінаватасць» членаў пленума (чаму недагледзелі, як такое сталася?) у рэчышча сістэматычнай барацьбы і перамог, якія папярэднічалі пленуму і без якіх ні Рапапорт, ні ДПУ не мелі б падасновы для сваёй работы. «Мы ўзьнялі», «мы моцна ўдарылі», «мы ўжо змаглі», «нам удалося»,— з дапамогай гэткага рэфрэну Галадзед выцягвае ЦК КП(б)Б з правалу, ставячы партыйную арганізацыю рэспублікі на ганаровы перамоганосны п'едэстал, і нават раскрыццё так званага «Саюза Вызваленьня Беларусі» ён не аддае ў заслугу цалкам ДПУ і толькі ДПУ, бо: «Завяршэньнем (менавіта «завяршэньнем».— *Г.К.*) гэтага асобнага этапу барацьбы за ленінскае вырашэньне на-

цыянальнага пытаньня зьяўляецца тое, што нашай партыі і нашым органам пралетарскай дыктатуры — ДПУ ўдалося раскрыць і ліквідаваць контр-рэвалюцыйную нацыянал-дэмакратычную арганізацыю «СВБ», якая ставіла сваёй мэтай зьвяржэньне пралетарскай дыктатуры, рэстаўрацыю капіталізму і ўстанаўленьне дыктатуры фашысцкай буржуазіі ў саюзе з капіталістычнымі дзяржавамі».

Калі дагэтуль Чарвякоў і ўсе прамоўцы крочылі за Рапапортам, дык пасля прамовы Галадзеда Рапапорту давядзецца крочыць след у след за Галадзедам. У сваім заключным слове ён зазначыць: «Я считаю, что те, которые умаляют значение партии в раскрытом нами деле, ошибаются, и весьма серьезно ошибаются. Как мы подошли к этому делу? Мы подошли на основе предыдущей тяжелой работы в борьбе с этими нацдемами, на основании большой проделанной партией работы по ликвидации прищеповщины, на основе раскрытых очень многих серьезных нитей партией в целом по прищеповщине, по наркомпросовской деятельности Балицкого. На основании этих материалов ГПУ подходило и подошло, в конце концов, к этому делу. Тот, кто берет и ставит нам все в заслугу, не оказывает пользы ни нам, ни партии. В этом деле мы шли по линии большой, проделанной работы партией».

І Галадзед, і Рапапорт, вядома, мелі рацыю.

З прамовы Галадзеда вынікае, што ад Чарвякова ён рашуча адмяжоўваецца, але гэтае адмежаванне робіцца ў яго з такімі «кругалямі» і ў такой «зашыфраванай» упакоўцы, што ўсім членам пленума ўсё ясна, але паміж гэтай ***яснасцю*** здагадак і ***наяўнасцю*** адмежавання пастаянна існуе ***«зазор»***, разлічаны на праваказыю: маўляў, хай лепей сам таварыш Чарвякоў прызнаецца дзе — пра яго, а дзе — не пра яго.

Прамоўца выкрывае кадравую тактыку нацдэмаў: «Ім патрэбны былі свае людзі ў шэрагі КП(б)Б. Гэта ім патрэбна было дзеля таго, каб заняць «сваімі людзьмі» больш адказныя пасты і падрыхтаваць адпаведны апарат для будучай БНР».

Пакуль што гэта — не пра Чарвякова? Але недзе блізка.

«Ім патрэбны былі «свае людзі» з нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіяй у нашых савецкіх установах і ў партыі, і наогул патрэбны былі кадры. Таму яны сур'ёзна займаліся і фарміраваньнем гэтых кадраў. Шляхі вырашэньня праблемы кадраў у іх былі розныя. Перш за ўсё яны пратасківалі на адказныя пасты... «сьвядомых беларусаў»... Адсюль і нараджэньне тэорыі і назвы «шчыры» ці «няшчыры», «сьвядомы» ці «несьвядомы» беларус».

Таксама — не пра Чарвякова? Пра Прышчэпава, пра Адамовіча, пра Жылуновіча, пра Ігнатоўскага? Але ж усе яны былі такія блізкія да Чарвякова...

«Беларусаў камуністых яны падзялялі на тры катэгорыі:

У першую катэгорыю яны адносілі ўсіх «сьвядомых» і «шчырых» беларусаў. У другую катэгорыю яны адносілі ўсіх тых беларусаў, якія нарадзіліся заходняй Магілёва і ў трэцюю катэгорыю адносілі тых, якія нарадзіліся ўсходняй Магілёва... Чаму іменна такая тэорыя ў іх панавала пры кваліфікацыі «беларускасьці»? Таму іменна, што яны, контр-рэвалюцыйныя дэмакраты, усю сваю палітыку арыентавалі на буржуазны Захад і на адрыў ад Масквы, і ўсё тое, што было бліжэй да буржуазнага Захаду, яны прыцягвалі бліжэй да сябе, а ўсё тое, што было бліжэй да Масквы, яны кампраментавалі (так у стэнаграме.— ***Г.К.***) і лічылі перашкодай ажыцьцяўленьня ім сваёй контр-рэвалюцыйнай палітыкі».





Уважлівыя вушы членаў пленума абавязкова мусілі ўлавіць такі нюанс: ва ўсёй прамове Чарвякова ані разу не ўсплыло імя Купалы, на якога Рапапорт паказваў як на аднаго з галоўных ідэолагаў «нацдэмаўшчыны», «нашаніўства». Галадзед «памылку» Чарвякова выправіў:

«Такая псіхалёгія ўжывалася і сярод адказных членаў партыі, яна займала значнае месца ў падыходзе да вызначэньня таго ці іншага працаўніка. Дзякуючы гэтаму шмат хто з такіх камуністых згодны былі паступіцца сваёй партыйнасьцю дзеля таго, каб атрымаць патэнт ад Янкі Купалы, ад Некрашэвіча, ад Лёсіка, Ластоўскага і інш. на назву «беларус»».

«Патэнтаваных» беларусаў-камуністаў Галадзед зноў падзяляе на тры групы: першая — удзельнікі нацдэмаўскай арганізацыі, другая — «гэта тыя, якія змыкаючыся з нацыянал-дэмакратызмам, ігралі на руку ім і зьяўляліся ў лепшым выпадку шырмай, за якой можна было разгарнуць сваю дзейнасьць нацыянал-дэмакратам, а ў горшым выпадку зьяўляліся простымі праваднікамі лініі контр-рэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму ўнутры партыі, унутры савецкіх установаў», і трэцяя — «якія ідэалёгічна падзялялі погляды нацдэмаў, будучы па сутнасьці значна бліжэй да нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі, чым да ідэалёгіі партыі і трымаўшыхся ў баку ад лініі партыі, накіраванай на барацьбу з нацыянал-дэмакратызмам і зусім не прымалі ўдзелу ў барацьбе з ім». Словам, Галадзед да трох лічыць умеў, але ў трох палітычных соснах пачынаў блукаць адразу, і таму ён перайшоў на «ілюстрацыі»:

«Для ілюстрацыі я раскажу адзін маленькі факт: на аднэй кватэры за чаркай гарэлкі, дзе прысутнічалі і члены партыі і беспартыйныя, была такая гутарка: «Галадзед нішто сабе парэнь, добры рабочы і працаваць умея, але калі ён будзе нас слухацца і па нашай указцы працаваць, то будзе старшынёй, я ня будзе слухацца, то мы яго скінем». З факта Галадзед рабіў выснову: камуністы не павінны змешвацца з інтэлігентамі, яны павінны дбаць пра вылучэнне на «культурны фронт» замены з асяроддзя «пралетарскага студэнцтва», і панесла Галадзеда, як таго анекдатычнага чапаеўца — «Гародамі, гародамі, і — да Катоўскага»: «...і з маладых навуковых працаўнікоў узяць цэлую групу пралетарыяў з заводу і, не адкладаючы ні на адзін дзень, пасадзіць іх у важнейшыя культурна-асьветныя і навуковыя ўстановы, як напрыклад, у Акадэмію навук у першую чаргу і, калі трэба, абвясьціць іх Акадэмікамі».

Голас падтрымаў прамоўцу: «Правільна! Трэба будзе — прафесарамі зробім».

Галадзед адчуў падтрымку: «Я-ж гавару, што трэба ўзяць пралетарыяў з заводу і паслаць у Акадэмію навук і даць некаторым з іх чын Акадэміка (ніхто не засмяяўся.— ***Г.К.***). Гэтую задачу — вылучэньня пралетарскіх кадраў на важнейшыя кіруючыя вучасткі культурнага фронту я лічу самай сур'ёзнай і самай безадкладнай, якую трэба ажыцьцявіць у бліжэйшы час. Калі мы кое чаго дабіліся ў высоўваньні рабочых на гаспадарчыя пасты і ў розныя савецкія ўстановы, то мы зусім амаль нічога не зрабілі да гэтага часу па пралетарызацыі нашых навуковых, дасьледчых і навучальных установаў».

Вось так. Здаецца, каментарыяў не трэба — сэнс прамовы самадастатковы.

Гэтак мысліў чалавек, які ўзначальваў Савет Народных Камісараў Беларускай ССР аж дзесяць год, быў «чл. ЦК», «чл. ЦВК» СССР — БССР і «чл. Прэзідыума ЦВК БССР» (цытую «Беларускую Савецкую Энцыклапедыю», т.3, с.301).

Дадам адно: калі ён заблудзіўся на тым пленуме ў трох соснах, голас з залы запытаўся: «Прозьвішчы?» (прадстаўнікоў трох груп нацдэмаў з партыйнымі

білетамі). Да першай групы ён аднёс «у першую чаргу Ільлючонка і Алеся Адамовіча». А прозвішчы з другой і трэцяй груп не захацеў назваць. Вычытваючы стэнаграму, дапісаў устаўку дробным бісерам, чарнілам: «Вы пытаецця прозьвішча двух апошніх груп? Прыдзя час назаву і прозьвішча, а зараз яшчэ крыху ранавата. Яны вельмі скора пачнуць каяцца публічна, таму я і не называю зараз прозьвішчаў, ім параілі самім сябе назваць. Ды кой-хто і на пленуме іх назваў».

Здаецца, гэтую дапіску Галадзед зрабіў пасля другога выступлення Чарвякова (бо яно было, па сутнасці, адзіным «пакаянным» выступленнем на тым пленуме).

У чым жа давялося Чарвякову каяцца?

Ён каяўся не ўпершыню:

«...я хацеў са ўсёй шчырасьцю сказаць Пленуму тое, што тыя мае памылкі, супраць якіх КП(б)Б правяла рашучую барацьбу (і зусім правільна), тыя мае права-апартуністычныя і нацыянал-апартуністычныя памылкі, якія, як мне здавалася, я з усёй шчырасьцю таксама прызнаў і супроць якіх лічыў і лічу патрэбным весьці самую рашучую барацьбу, гэтыя мае памылкі, зразумела, спрыялі таму, што контр-рэвалюцыйная арганізацыя, якая на працягу доўгага часу існавала ў БССР і вяла сваю контр-рэвалюцыйную працу, выкарыстоўваючы гэтыя мае памылкі і прыкрываючысь імі. Я ад гэтага адмовіцца зусім не хацеў і мне думалася, што і кожны з вас так мяне ўразумеў. На XIII зьезьдзе я аб гэтым указваў зусім ясна, я паказваў, што нац-дэмы імкнуліся зрабіць мяне сваім штандарам у барацьбе супроць партыі і дыктатуры пролетарыяту, залічыць мяне ў свае шэрагі, арыентуюцца на мяне ў сваёй барацьбе. Я, таварышы, на XIII зьезьдзе, праводзячы аналёгію таго, што выявіў працэс СВУ ("Саюза Вызвалення Україны".— *Г.К.*), з тымі аб'ектыўнымі фактамі, якія выявіліся да гэтага часу ва ўмовах БССР, ня ведаючы яшчэ аб існаваньні контр-рэвалюцыйнай арганізацыі «СВБ», адчуваў разам з тым, што нешта павінна існаваць, як кажуць, насілася ў паветры. Я паказваў, што не магло быць таго, каб усе тыя факты, якія намі ўжо былі да XIII зьезду выяўлены, былі выпадковымі. І вось на фоне ўсіх гэтых фактаў я тады з усёй вастратой паставіў пытаньне аб шкоднасьці маіх памылак, якія былі зроблены, супроць якіх ЦК зусім правільна ўзьняў рашучую жорсткую барацьбу, мабілізаваўшы на гэтую барацьбу ўсю КПБ, усю рабочую клясу.

Такім чынам, таварышы, па-мойму я не даю тут ніякіх падстаў дзеля таго, каб лічыць, нібы я хачу што-небудзь змазаць, прыкрыць і г.д. Я лічу, што КП(б)Б, Цэнтральны камітэт павінен на падставе гэтых рашучых лёгічных вывадаў, якія я сам раблю, зрабіць вынікі, адпаведныя з тымі памылкамі, з іх шкоднасьцю, аб якіх я сама паказваю».

Далей ідзе абзац, які чыясь рука падкрэсліла алоўкам:

***«Таварышы, зразумела, што мне павінна належыць пэўнае месца ў дапамозе ворганам ДПУ, кантрольнай камісіі ў справе выкрыцьця ўсёй карціны дзейнасьці контр-рэвалюцыйнай арганізацыі нац-дэмаў, а таксама тых партыйцаў, якія з імі зьвязаны, бо я тут працую бесперарыўна на працягу ўжо 11 год, займаючы адно з кіруючых месц у нашай*** (лінія алоўка тут спыняецца.— *Г.К.*) партыі і ў нашай савецкай сістэме. Апроч таго я па свайму мінуламу, па сваёй штодзённай дзейнасьці непасрэдна быў зьвязан з пэўным лікам тых асоб, якія ў сучасны момант сядзяць у падвалах ДПУ як удзельнікі шкодніцкай контр-рэвалюцыйнай арганізацыі».





Аловак паказаў галоўнае, чаго чакаў ад Чарвякова пленум: пакаяння мала — абяцай, што будзеш выкрываць нацдэмаў сам, што будзеш сам актыўна супрацоўнічаць у гэтай справе з партыяй і ДПУ. Ён — абяцае...

Пакаянні Чарвякова пачаліся не з XIII з'езда (май, 1930), а па крайнасці на шэсць-сем месяцаў раней, на Мінскім партактыве ў лістападзе 1929 г., але тое выступленне Чарвякова партактыў не задаволіла, пайшлі запіскі ды пытанні, 19 снежня бюро ЦК з прэзідыумам ЦКК абгаварылі ягоную пазіцыю і прынялі рашэнне ў чатырох параграфах. Параграф першы вінаваціў Чарвякова за «адсутнасьць актыўнага ўдзелу ў барацьбе з правым ухілам», за абарону шэрагу «няправільных праваўхілісцкіх установак». У другім параграфе прымалася да ведама заява Чарвякова, што ён «цалкам згодзен з вышэйадзначанай ацэнкай», разумее шкоднасць дапушчаных памылак, асуджае іх. Параграф трэці абавязваў Чарвякова падвергнуць сваю памылковую пазіцыю «прамой, рашучай, бальшавіцкай самакрытыцы». Чацвёртым пунктам прадугледжвалася выпрацоўка «падрабязнай палітычнай пастановы Бюро ЦК і прэзідыуму ЦКК КП(б)Б па гэтаму пытаньню». У рэдакцыйную камісію ўвайшлі сем чалавек, сярод якіх другім быў Галадзед (з астатніх назавем другога сакратара ЦК Івана Васілевіча і прэзідэнта Акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага). Праз тыдзень (27.12.29.) «Зьвязда» друкуе пакаянны артыкул Чарвякова, а ў перадавіцы, якую 26-га (за дзень да выхаду) зацвердзіў сакратарыят ЦК, артыкул Чарвякова разглядаўся як «бухарынскі», «нацдэмаўскі» і «рэвізіяніцкі». Чарвякоў аспрэчвае перадавіцу — звяртаецца ў ЦК ВКП(б): «Считаю своим правом, как член партии, настаивать на том, чтобы было организовано изучение выдвинутых против меня обвинений в целях опровержения тех, которые являются необоснованными».

Камісія прызнала ўсе абвінавачанні абгрунтаванымі, зрабіўшы дзве-тры «стылістычныя» папраўкі і адну «фактычную», і Чарвякоў на V пленуме ЦК КП(б)Б 8 студзеня 1930 г. прызнаўся вінаватым па ўсіх пунктах (іх было ўжо адзінаццаць!) і сваю заяву «адазваў».

Парадаксальна тое, што праз тры-чатыры месяцы па ўсіх тых пунктах будуць вінаваціць і сакратара ЦК Івана (Яся) Васілевіча, які на гэтым пленуме рабіў паведамленне па справе Чарвякова. Тыя самыя «злачынствы» будуць выстаўляцца і Усеваладу Ігнатоўскаму.

У стылі і падборы «пунктаў» адчуваецца рука «рашучая», якую меў «нішто сабе парэнь» Галадзед. Чаму зачытваць гэтае паведамленне даручылі Васілевічу? Па-першае, на гэтым пленуме ўжо не было былога першага сакратара ЦК Гамарніка (яго адклікалі ў Маскву), а новы першы Гей якраз павінен быў заняць сваю пасаду, так што ўсе паведамленні даручаліся другому, Васілевічу, які ўжо, мусіць, адчуваў, што дні ягоныя канчаюцца, бо Гей прыехаў у адным вагоне з Рапапортам, а калі Масква адразу пасылае ў Мінск дзве новыя мятлы, чакай, што з дня на дзень пачнецца генеральная прыборка. Тое самае, вядома, прадчуваў і Чарвякоў. А Ігнатоўскі? Што мог адчуваць ён, ставячы свой подпіс пад прысудам Чарвякову? Ці прадбачыў ён, што праз якія дзевяць месяцаў навіснуць тыя ж хмары ўжо над ім, а Чарвякоў будзе шукаць, як адхрысціцца ад «нацдэма» Ігнатоўскага, каб толькі ўратаваць сябе? У Чарвякова гэта выглядала так:

«Таварышы, як выявілася ў сучасны момант, Ігнатоўскі адыгрываў у партыі двайную ролю. З аднаго боку ён, будучы ў партыі, здавалася, ставіў усе пытаньні, як павінен ставіць партыец, слабы партыец, які памыляецца, які просіць дапамогі, якому цяжка працаваць самому, арыентавацца і разьбірацца самому, які знаходзіцца пад уплывам акаляючых яго інтэлігентаў, барахтаецца сярод іх і

г.д. А з другога боку ён другую руку сваю працягваў гэтым самым нацыянал-дэмакратам, контр-рэвалюцыянерам, прычым у такіх формах, аб сутнасьці якіх двух суджэньняў быць ня можа — пры яўках, пры паролях і г.д.»

Так ім даводзілася ратаваць сябе, паводле прынцыпу «перш ты мяне — перш я цябе».

Чытаючы пра Ігнатоўскага ў прамовах Галадзеда—Чарвякова, недзе пачынаеш думаць: ці не з гэтай сітуацыі канструяваў канфлікт Карнейчыка з Лютынскім Крапіва — у «Канцы дружбы»?

Чарвякоў: «Таварышы, тут Гніляковіч паставіў пытаньне аб тым, што Чарвякоў, маючы блізкія адносіны да Ігнатоўскага, ня мог ня ведаць аб той контр-рэвалюцыйнай працы, што робіцца навокал Ігнатоўскага і разам з Ігнатоўскім. Ясна, каб Чарвякоў ведаў аб гэтым, гэта была б адна справа. Але я Ігнатоўскага бачыў такім, якім Ігнатоўскі прышоў да нас у партыю. Ігнатоўскі прышоў да нас у партыю ў 1920 г. непасрэдна пасьля польскай акупацыі, заявіўшы, што ён прызнае шлях дыктатуры пролетарыяту, прызнае комуністычную партыю авангардам рабочае клясы ў барацьбе за соцыялізм. Мы Ігнатоўскага правяралі. Ён быў уведзены ў рэвалюцыйны камітэт. У якасьці члена гэтага рэвалюцыйнага камітэту Ігнатоўскі прымаў удзел у вырашэньні цэлага шэрагу важнейшых палітычных пытаньняў, пытаньняў барацьбы супроць контр-рэволюцыі, белагвардзейшчыны, калі рэвалюцыйнаму камітэту прыходзілася разглядаць усе пытаньні аб расстрэлах і г.д. Інтэлігенцкая натура Ігнатоўскага вельмі часта праяўлялася ў гэтых пытаньнях, аднак мы настойліва дамагаліся, каб Ігнатоўскі на гэтых справах загартаваўся, каб ён даказваў, што ён шчыра прымае дыктатуру пролетарыяту, ня толькі як магчымасьць працаваць на адказнай пасадзе, але з усімі цяжкімі трагічнымі бакамі гэтай дыктатуры пролетарыяту ў момант рашучай грамадзянскай вайны. Мы Ігнатоўскага не паслалі адразу на навуковую працу, нягледзячы на тое, што ён ужо ў той час лічыўся чым-то накшталт прафэсара, мы яго паслалі ў НКЗем, дзе ён барахтаўся як мыш у вадзе, нічога не разумеючы ў гэтых справах, але якога мы хацелі там праверыць, дзеля таго, каб ён на цяжкасьцях працы ў НКЗеме ў той час хоць крыху пераварыўся, пераварыўся з таго эсэраўскага духу, з якім ён да нас прышоў».

Пакуль што Чарвякоў гаворыць «пад Карнейчыка»? А ў Ігнатоўскім пазнаюцца рысы сцэнічнай біяграфіі Лютынскага —падполле ў белапольскай акупацыі і наркамзем?..

Аднак сапраўдны «прататып» Карнейчыка — не Чарвякоў, а Галадзед, бо Чарвякоў таксама — «напалоўлютынскі»:

«Таварышы! Я тут зусім не хачу адмовіцца ад таго, што мае права-опортуністычныя, нацыянал-опортуністычныя ўстаноўкі, асуджаныя КП(б)Б, яны аб'ектыўна, а можа быць і суб'ектыўна ў шмат выпадках набліжалі мяне з Ігнатоўскім, таксама як і адкрылі да мяне Ігнатоўскаму дарогу, і магчыма таксама тое, відаць, яно так і было, што вось гэтая, так сказаць, памылковасьць маіх паасобных пазыцый, установак, збліжаўшая мяне з Ігнатоўскім, яна ў шмат выпадках утварала такое становішча, што я ў той час, калі мне трэба было больш рашуча выступаць супроць паасобных няправільных установак, прапаноў дзеяньняў Ігнатоўскага, гэтага не рабіў, прымірэнча адносіўся да шмат з іх і тым самым акрыляў, пакрываў Ігнатоўскага і тую работу, якую, як выявілася ў сучасны момант, ён вёў. Вось якая, мне здаецца, тут сувязь існавала.

Вось, таварышы, у чым мая віна, ад якой я зусім не хачу адмовіцца, але я бы хацеў, каб тут ня было такога ўраджаньня, што разам са здраднікамі партыі здраджваў партыі. Я памыляўся, мае памылкі служылі платформай для нацдэмаў, гэта праўда, але гэта, таварышы, было маёй памылкай, але гэта не было маім сьвядомым дзеяньнем».





Адмежаваўшыся ад Ігнатоўскага, ад Жылуновіча, ад Васілевіча, назваўшы іх «нацыяналістычнай шаціяй» (заўважым: іх тады яшчэ пакуль што не саджалі), Чарвякоў пачуў званок (рэгламент!) і вярнуўся да галоўнага: ***«Я мог бы, таварышы, тут многа яшчэ расказаць з пункту погляду таго, як тут арганізоўваліся гэтыя групы***, як распачыналіся гэтыя групы і г.д., аднак вось гэты званок старшыні мяне на гэтым пытаньні спыняе. Я думаю, што я змагу гэта зрабіць для ЦКК і для ГПУ, каб дапамагчы высьвятліць да канца ўсё тое балота, усю тую гніль, якая нас абкружала і ад якой нам трэба самым рашучым чынам ачысьціцца».

Чыясь рука алоўкам, які падкрэсліваў у чарвякоўскай стэнаграме першую ягоную заяву аб гатоўнасці на выкрыццё «усёй карціны дзейнасьці арганізацыі нацдэмаў» перад ЦКК і ДПУ, на гэты раз падкрэсліла адзін радок, і напісала збоку: ***«Посмотрим, как это он сделает»***. Напэўна, вынік быў задавальняючы. Праз 27 дзён Купала робіць «харакіры», напісаўшы Чарвякову: ***«Таварыш старшыня! Яшчэ раз, перад сьмерцю, заяўляю, што я ў ніякай контр-рэвалюцыйнай арганізацыі ня быў і ня зьбіраўся быць»***.

Дзе і ў якіх умовах, у якой высокай альбо не зусім высокай установе мусіў заяўляць Купала Чарвякову (ці — пры Чарвякове?) тое самае — раней?

У ЦКК яго, як беспартыйнага, наўрад ці запрашалі.

Застаецца ДПУ?

Той час пакінуў пагалоску, быццам да Купалы, калі ён ачомваўся ў бальніцы, завіталі Чарвякоў і Галадзед (паводле іншай версіі — нібыта Ігнатоўскі). Ці магло такое быць? Толькі — пад кантролем Рапапорта. А дзеля чаго?

Цытую дакумент, падпісаны намеснікам начальніка следчага аддзела УДБ НКУС БССР Завацкім (НАРБ ф.4, в.21, с.1394, л.121-122):

«В 1930 г. КУПАЛА был вызван в б. ПП ГПУ в Минске и собственноручно 15/Х-1930 г. написал показание, в котором свое участие в к-р нацдемовской организации и к-р нацдемовскую работу категорически отрицал. После чего, в боязни быть разоблаченным, у себя на квартире 20/XI-1930 г. сделал попытку на самоубийство, в результате перочинным ножиком нанес себе рану в живот, написал перед этим предсмертное письмо на имя б. Пред. ЦИК БССР Червякова, в котором также решительно отвергает свое участие в к-р нацдемовской организации и просит Червякова обеспечить после его смерти и попросить ГПУ, чтобы не таскали его так-же ни в чем невиноватую жену. После этого «самоубийственного» ранения пролежав несколько дней в больнице, КУПАЛА пришел в совершенно здоровое состояние и в связи с тем, что буржуазная пресса Польши подняла вопль о его самоубийстве, ***ему было предложено написать ответ фашистским клеветникам о том, что он жив и никогда самоубийством не кончал, что им и было сделано»***. (Падкрэслена мною.— *Г.К.*)

А праз каго і як «было предложено» — архіўны дакумент маўчыць...

Праз колькі дзён яму «было предложено» пакаяцца публічна,—«что им и было сделано».

Так «бераглі» Купалу Чарвякоў і Галадзед: рабі, як мы — так вымагае партыя.

**Георгій КОЛАС**

**КРЫНІЦА № 8**

**1994**

ШТОМЕСЯЧНЫ КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

Заснавальнікі:
СП Беларусі, калектыў рэдакцыі





Выдаецца на беларускай мове

Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца



Пішыце:
220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11

Звaніце:
366-071, 366-142



Падпісана да друку з арыгінал-макета 05. 09. 94. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера газетная. Ум.-друк.арк. 13,02. Ул.фарб.-адб. 14,35. Ул.выд.арк. 14`,52.
Тыраж 4000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 906.

Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва
«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.